Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Юрыя Тарэева:
на 1-й і 4-й стар.: «Каляды», каліграфія, 2013 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 354-80-91.

Здадзена ў набор 15.10.2019 г. Падпісана да друку 19.11.2019 г.
Фармат 70x108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў.



№6 (103)
/лістапад-снежань/ 2019

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Людка Сільнова



...Свет пачынаўся – праз слова,
Вібрацыю, гуку ўдар; з новага
Ладу – для новай прасторы;
З Боскай дзяржавы пакоры...

# Выйсці вонкі

## *У ШАПІК ПА ГАЗЕТУ*

Што выкінуць смецце,
Што схадзіць па газету –
Дарога адна:
Тапаніміка гэткая

Двара і будынкаў
У цэнтры квартала.
З пад'езда!.. – Куды ты? –
Сусед пераняў мяне.

– Да сметніцы, – я
Двухсэнсоўна сказала
І вочы (дзве ночы ў бяссонні!)
Схавала.

Да ссунутых разам
Смеццевых бакаў...
З грашыма ў кішэньцы
Па прэсу да шапіка...

Што выкінуць смецце,
Што схадзіць па газету –
Дарога адна мне
Зімою і летам.

Ну, па газету –
Трохі даўжэйшая...
Лісь, лісь! – А ў паэтаў
Жыццё карацейшае.

За – іншых людзей,
За празаікаў нават...
Мой сон, ледзяней!
Завастрайся, мой навык!

Сусвет поўны слоў,
Незнішчальнага смецця.
Пакіне хай схоў
Найвастрэйшы-на-свеце!

### *УСПАМІН ПРА МОЛАДЗЕВАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ТУТЭЙШЫЯ"*

Як даўно было ўсё гэта,
Што – успомню! – нават міла:
Друкаваліся ў газетах
І старэйшым скублі крылы,

У паход ішлі "за дзецьмі" –
Каб "на матчынай вучылі",
Хутка ладзілі канцэрты,
Да дырэктараў хадзілі...

Вось і кніжкі прыляцелі
Гучным лідэрам у рукі.
А хто ціхенька сядзелі
За сталом – "драбок навукі"...

Дні прайшлі – і зніклі мары,
Слоўнік, пантэон і памяць,
Нашы песні пад гітару,
Нашых вершаў дробных замець...

У Цяпер дайшлі – без многіх:
Здрадзілі... або памерлі...
Стала вузкаю дарога,
Валасы бялей за перлы.

Домам целу ўся планета
Хутка стане, як магіла...
Так даўно было ўсё гэта,
Што – успомню! – нават міла:

“Тутэйшыя”...

## ДВОР З ВАКНА

У дрэвах – вецер! Быццам мора,
З лістоты мора за вакном...

І я гляджу скрозь сон на горад,
Як пасажыр, што на паром
Свой узышоў і ля парэнчаў
Стаіць. (Рукою на каўнер,
А паліто матляе вецер
І валасы ўзнімае ўверх...)
Дыск сонца ў небе ледзьве бачны
Ў суцэльнай ватнае смузе...

А ўнізе – тое ж, ды іначай:
Па лаўцы майскі хрушч паўзе...

І зносіць вецер брэх сабачы.
Напэўна, буры быць, бядзе.

## РАНЕТЫ З ТВАІХ САДОЎ

*(Нізка журботных вершаў)*

*Фёдару Ястрабу,*
*мастаку, педагогу, паэту*

***I***

Ты друкаваўся ў “Новым часе” –
Газеце, сэрцу блізкай, “наскай”!
Прыйшла бяда: у шэрым часе –
“Крык Мунка”! – тваё сэрца згасла.

Але, як яблыкі ранеты,
З тваіх садоў хрумсцяць санеты.

Бадай, у кожнага, хто трапіў
Па іх з кашом да “Галіяфаў”...

***II***

Іду па гарадскім прадмесці –
Па цёмных вулачках паэзіі.
“Ты абяцаў нам сноў і вершаў,
Карцін і думак самых лепшых...”

Рука сама тамок адкрыла
Тваіх санетаў: боль і сіла.
Вось што найперш я адчуваю,
Калі наўгад санет чытаю...

***III***

Да году год.
Ты ўжо не з намі.
Хто – ў творчай яме,
А хто ў краме.

Адзін – спазнаў
Жыцця сакрэты,
А іншы – не:
Грызе ранеты.

***IV***

Сумую... ўспамінаю – сёння! –
Цябе, тваіх санетаў сотні...

Плюс: не дасіся ты Паразе
Як не прысутны ў новым часе!

*13.10.2016*

## ***ВЯЧЭРНЯЯ РЭКАНСТРУКЦЫЯ***

Што байкеры – гусары нашых дзён
У ківерах жалезных, паўпразрыстых,
Давёў мне ясна байкераў разгон
Па вуліцы Харужай урачысты.

І гук іх матацыклаў маладых –
Каней бліскучабокіх! – рэзаў слых.
Успорваў адчуванняў мех тугі,
Як непрыяцелю даўней жывот – штыкі.

Пяхота, конніца – ўсё зблытала яна,
Культур інфармацыйная вайна.
Успомню: па мабільніку гаворыць
На відэа гаспітальер суровы.

Такой вось рэканструкцыя была,
Калі я пешкі са спектакля йшла.
Я йшла і сумных дзён таптала друз.
Павольна, нібы... ранены француз.

## БЕЛА-ЧОРНЫЯ ВЕРШЫ

*Углядаючыся ў рэпрадукцыю "Меланхоліі"*
*Альбрэхта Дзюрэра*

Свет пачынаўся – праз слова,
Вібрацыю, гуку ўдар; з новага
Ладу – для новай прасторы;
З Боскай дзяржавы пакоры.

Скончыцца свет – непакорай...
Здробненай, сыпкай прасторай...
Сметніка цішай старога...
Сном саслабелага Бога...

## ПРЫЛАДЫ ТРАДЫЦЫЙНАЙ ПРАЦЫ

*(Вячэрні экспромт)*

Ты, мая белая папера,
У што я верыла і веру...

І ты, кароткая асадка,
Якая пасты сінь адсаджвае,
У знакі ўсё ператварае,
Хвалюе, з пальцаў выпадае...

Як я люблю вас! Як я рада:
Яшчэ са мной мае прылады!
Прылады традыцыйнай працы
Пісьменніка і "папарацы"...

Хоць рэшту дзён не буду кволай,
Пакуль са мной ваш дух вясёлы!
Пакуль вас у руках трымаю,
Я ўсё – як ёсць! – на свеце маю.

### *НЯХАЙ САМО ЎСЁ РОБІЦЦА!*

Няхай само ўсё робіцца!
Збіраецца і коціцца,
Падскоквае і слізгае,
Агеньчыкамі бліскае...

Як тое кола дзедава,
Жалезам не адзетае,
Павольна з горкі коціцца,
Напраўленае хлопцамі...

### *ЖЫЦЦЁ ПА СОНЦЫ*

Жыццё маё – святочнае:
Жыву-пішу па Сонцы я.

Дзень большае, дзень меншае –
Ўсяму сваё, належнае.

За тыднем тыдзень, годам год.
За карагодам – карагод:

Там рукі – дакранаюцца,
І стужкі – заплятаюцца,

Арнаменты святочныя
Блішчаць-пераліваюцца...

### *ВЫЙСЦІ ВОНКІ*

Са свету маленькага –
Выйсці вонкі!
З пакета кватэркі,
З рыззя абалонкі!

У горад! Найлепей –
У Верхні, да Ратушы,
Дзе цырк, прадстаўленні
І музыка джазавая!

“Аркестр з Амерыкі” –
Вось будзе шоу! –
“Ваенна-паветраных
Сіл” адмысловых.

Газеты ж – з аб’яўкамі!
“От! За што плоціць!” –
Кусне ўзрост мой п’яўкаю...

Трэба выходзіць!

### *ВЕРШ, НАПІСАНЫ ПАДЧАС ПРАСАВАННЯ*

На маёй сарочцы – пчолка
Фарбаю адштампавана.
Як паэтка: у красоўках,
Да канца зашнураваных;
З ліхтаром у лапцы левай –
Рамантычным, быццам з казкі,
Гэткі домік-бельведэрык;
А сама ўся – густа ў паскі...

Так і я (ці гераіня
Маіх вершаў – мар без толку).
Вандраваць мне па краіне
Віртуальнай смешнай пчолкай.

### *ВАЙНА І МІР*

Хто будзе на мяне крычаць,
Таму – у пашчу воўка спаць!
Вісець над прорвай на сцябліне
Засохлай кветкі, вашу маць!

А хто ўсміхнецца мне здалёк,
Падорыць словаў васілёк,
У вочы з мірам зазірне –
Надоўга стане сябрам мне.

### *“ЗВАНОК СЯБРУ”*

Калі жыццё
Бярэ за жабры,
Маё жаданне –
“Званок сябру”.

Была такая
Ў тэлешоу
Магчымасць выйсця
Адмыслоўвага

Калісьці,
У маім юнацтве...
І “званок сябру” –
Не дзівацтва

Маё, а – успамін
І мара:
Што сябра – ёсць,
Адкажа ўдала.

Сваім адказам –
Уратуе
Мяне,
Нягодніцу дурную.

* * *

Я не валодаю нікім.
Як камень, а вакол – кругі,

Кругі па цёмнае вадзе...
Але сам камень, дзе ён, дзе?

Пайшоў уніз, на дно, ляжаць...
На дапамогу не пазваць,

Старэнькай, мне каго з людзей:
Сяброўак, мужа ці дзяцей.

Усіх іх знішчыла – яна,
Інфармацыйная вайна.

Усіх рассекла вастрыё
Мяча – “пакліканне маё”.

### *ФІЛАРМОНІЯ Ў ДВАРЫ*

Гудуць, як арфы, шклопакеты
Ў кватэры ноччу перад сном...
Жанчына ўстане. Паўадзетай
Зірне: “Што робіцца за шклом?”

У вершалінах над дваром
Бушуе вецер пракаветны...
Ліст праплывае за лістом,
Як з філармоніі білеты.

## ЖАНОЧАЯ СЛАБАСЦЬ

Нікога ты не хочаш бачыць – значыць
Табе няма каму за што аддзячыць;

Няма каму руку пацiснуць шчыра
Ці казырнуць, салдатам – камандзіру;

Няма куды, заплаканай, прысесці –
Ўсе жорсткія канапы! – распавесці
Сваю бяду, свой боль, паклаўшы голаў
На цёплае плячо найдарагога,

Сустрэтага нарэшце чалавека...
Сядзела б і сядзела б так паўвека,

Што засталіся мне, я спадзяюся,
Сплятаць карункі слоў у Беларусі.

## УСЁ РАЗБУРАЕЦЦА...

Усё так хутка
Разбураецца!
Нашмат хутчэй,
Чым аднаўляецца.

І нават казка –
Ўсім падказка! –
Падказкай болей
Не з’яўляецца.

Яе прыдумвае
Любая
Істота:
Немаўля, старая,

Што пальцамі
Клавіятуру –
Уяўную! –
Перабірае...

Мо перабольшванне
Ўсё гэта?
Але паэт –
Больш не адметны

Нічым такім,
Хоць нейкай тайнай...
Свет-квет
Кампутарызаваны.

### ЖЫЦЦЁ – ГЭТА НАША СТЫХІЯ

Жыццё – гэта наша стыхія
(“Як рана сардэчная ные!..”)

Жыццё – гэта наша радзіма:
Сад думак мы тут пасадзілі,

Хоць самі на выгляд – карэнне
Старое (“пад вішнямі ў пене

Суквецця ў вясновых, бялюткіх
Уверсе...”) Жыццё – гэта кут наш,

Дзе мы існуем, існавалі...
А смерць – нам чужынскія далі.

Не нашыя гэта мясціны.
(І нехта камеча прасціны

У бойцы за дні, за секунды
Жыцця... Напаўмокрай акулай,

Якую з вады жыццядайнай
Прынесла на бераг... Адчай яе

Мне гэтак – чорт! – перадаецца!..
Даволі ўяўляць! Ные сэрца.)

Жыццё маё, як ты мне міла!
Пазбыцца цябе – страчу сілы.

### ВАНДА

Гуляла Ванда ў вінаградным садзе,
Адзінарог ёй там сустрэўся белы –
І быццам сон прысніўся Вандзе смелы:
Адзінарог быў дзіўны ёй прыяцель.

Без слоў яго Дзяўчына разумела,
Яны хадзілі разам па сцяжынах –
І вінаград схіляўся на галінах,
І вера ў Бога напаўняла цела...

Гуляла Ванда ў вінаградным садзе.
Усё жыццё пасля саджала кветкі...
І за труной – ступалі муж і дзеткі,
І белы... конь? кульгаў, апошні ў радзе.

## *МІНІЯЦЮРЫ*

*(Нізка міні-вершаў без назваў)*

* * *

“Спалоханая,
Ды жыццё спазнала”, –
Сказала котка
Ля аўтавакзала.

* * *

Вучуся стрымліваць
Сябе я, бедная:
Нікому мая мудрасць
Не патрэбная.

* * *

Дрыжыць ля скроні
Пасма серабрыстая...
Не хоча быць з усімі,
Наравістая!

* * *

Ну, дзякуй Богу, гэты Дзень згасае!
На Захадзе, у яркіх маках Сонца
“Ад-бой!” маленькі прывідны Трубач
Нам музыкай знаёмай ціха грае...

*2019*

## *ЗАПАВОЛЕННЕ*

Менш есці стала, грэшная,
Старая – і паменшала.

Больш спаць сабе дазволіла –
Трывогу запаволіла,

Што ўшыркі разрасталася
У целе, і хісталася

Кроў тонкімі галінкамі
За рэбрамі, шклянымі як.

*2019*



проза

Андрэй Федарэнка



...жэтон на метро мог аказацца
больш даўгавечным за любую ўладу...

# Жэтон на метро

***Раман***

**Частка пятая**
**ЛЮ**

**XIV**

*Заканчэнне.*

*Пачатак у №5 (102) за 2019 г.*

Лю ніколі не сумнявалася ў сваім дары. Адчуваць яго яна пачала рана. Ёй не было яшчэ і чатырох, калі яна стамілася ад вечных сварак бацькоў і аднойчы пажадала, каб бацька знік. І яго не стала – з’ехаў. Пачалося іншае жыццё, ціхае, спакойнае. Яна запомніла тады, што жаданні могуць, калі моцна захацець, збывацца. У першым класе ў суседкі па парце прапаў мабільнік, яна чамусьці падумала на Лю і паскардзілася настаўніцы, а тая чамусьці паверыла ёй; былі ўгаворы прызнацца, быў нават нейкі агідны вобшук. Упершыню ў жыцці яна зазнала боль несправядлівасці. Смартфон неўзабаве

знайшоўся, ён і не прападаў, сяброўка забыла яго дома. Але было позна, Лю паспела загадаць жаданне. У выніку настаўніца разбіла акуляры, спіхнуўшы іх локцем са стала, а сяброўка перавялася ў іншую школу, а неўзабаве іх сям'я і зусім з'ехала ў Мінск. То быў нязначны, дзіцячы выпадак, несправядлівасць яшчэ не паспела пусціць карані, таму і кара была адпаведнай – маленькай. Аднак Лю запомніла і гэта.

У дзесяць гадоў па лініі "чарнобыльскага аздараўлення" яна ўпершыню патрапіла за мяжу, у Германію. Яна думала, што там жывуць зусім іншыя людзі, іншыя дзеці, якіясь бясполыя райскія істоты, якія толькі ўсміхаюцца, усе ад малога да вялікага ведаюць сваю прыгожую нямецкую мову, – як яна марыла яе вывучыць! Гаспадары аказаліся казахстанскімі немцамі, дома паміж сабой размаўлялі па-руску. Толькі іхні сын, ветлівы руды прышчаваты немчык (падлеткі ўсе прышчаватыя ў такім узросце, а нямецкія яшчэ і ўсе з рабаціністымі тварамі), неяк аж занадта ахвотна ўзяўся яе вучыць. На другі дзень ён павёў яе паказваць горад. Яны ішлі па вуліцы, яна паказвала на будынак, шыльду, дрэва, чалавека, машыну, пад ногі, а ён называў, як гэта па-нямецку. Па дарозе да іх далучаліся яшчэ дзеці, чамусьці ўсе хлопчыкі і ўсе з веласіпедамі. Ішлі, пакуль не апынуліся на ўскраіне, на нейкай пустцы сярод развалін і лопухаў. Ёй на імгненне падалося, што яна дома. Такая самая бітая цэгла, глог, чартапалох, шыпшына, пустыя пляшкі і акуркі ў пажухлай траве, выбухі рознакаляровых мух з-пад ног. Тут, у гэтым глухім месцы, хлопчыкі раптам абступілі яе ўсе разам і, як па камандзе, замоўклі. Яна нарэшце заўважыла іх прагныя позіркі, учула небяспеку ў гартанных незразумелых словах. Гаспадарскі сын, чырванеючы, пераклаў, што хочуць яны ад яе фота, усяго толькі зняць яе на мабільнікі, і што згодныя нават заплаціць за гэта. Яна не столькі спалохалася, колькі адчула ледзь не да слёз расчараванне. Усё так проста, раю не было. Словы чужой прыгожай мовы, аказваецца, маглі абазначаць тыя самыя, што і дома, саромныя, непрыстойныя рэчы. Яны стаялі і моўчкі разглядалі яе, пакуль чужы дарослы голас ззаду не гаркнуў: "Вас іст дас?!" Усе кінуліся ўрассыпную, акрамя яе, і высокі стары немец, падобны да іхняга школьнага вахцёра, нават у такім жа сінім, з бліскучымі гузікамі, форменным касцюме і ў такіх самых тупаносых літых чаравіках, павёў яе, моцна трымаючы за руку, і па дарозе ўсё выгаворваў, выгаворваў нешта. Яна пакорліва прывяла яго дамоў, дзе да яго далучыліся гаспадар з гаспадыняй; цяпер яны ўсе ўтрох называлі яе "распустай", папракалі, што яна не цэніць таго незямнога шчасця, якое ёй выпала, а прывезла сюды "свае гідкія звычкі", пагражалі расказаць яе кургатарам, – а неўзабаве ў двор прыцёгся са знявечаным веласіпедам, кульгаючы, увесь у сіняках, драпінах, у слязах і смаркачах іхні сынок.

Праз два гады было другое замежжа, Італія. На гэты раз яе пасялілі ў прыватным доме. Тут хоць нешта падобнае было на "аздараўленне", такое, якім яны, беларускія "чарнобыльскія" дзеці, яго ўяўлялі: падарункі, крамы, сонца, мора. Але яна ўжо не бачыла ва ўсім гэтым раю, як ні напружвала вочы. Ёй здавалася, што ўсё такое самае, як тут, можна зрабіць і ў сябе дома, абы грошы. У дворыку, па ўсім перыметры *patio*, раслі ружы і вінаград. Даглядаць іх прыходзіў стары садоўнік у шортах і ў паласатай майцы, гарбаты, з доўгім вострым носам, Пінокія на пенсіі. Пару разоў з ім сутыкнуўшыся, яна ўбачыла, што ён пазірае на яе таксама, як і нямецкія хлопчыкі, прагна і ліпка, нават сліна цякла па ніжняй губе. Яна не стала

чакаць, калі яе зноў пачнуць вінаваціць у распусце, і назаўтра ўдзень, у самы санцапёк, стары садоўнік грымнуўся тварам уніз, падмяўшы сабой ружы і вінаградную лазу, а неўзабаве ляжаў у чаканні “хуткай дапамогі” на тапчане ў кутку *la terrazza*. Яго яшчэ больш завостраны нос тырчаў у неба з нямым дакорам, у чорных паўднёвых вачах застыла скруха. Вось тады яна зразумела, і сама паверыла ў свой дар, хай і нядобры – прыносіць людзям няшчасце.

Гэта так яе напалохала, што дома яна расказала пра ўсё матулі. Тая толькі пасмяялася. “Ды ў кожнага чалавека кожны дзень ведаеш колькі такіх выпадкаў? Сёння ў краме на касе мяне аблічылі, касірка пайшла перапраўляраць і паслізнулася на мокрай падлозе – а калі б упала?” Але дачка ўжо ведала, што можа ўплываць на людзей, што яны ў яе ўладзе.

У чатырнаццаць гадоў яна зразумела, што яе абаяльнасць, якую зайздросныя сяброўкі называлі проста “вядзьмарства”, у яе ўяўнай даступнасці. Дзіцячы тварык, ямачкі на шчочках, уменне чырванець, любімае слова “лёгка”, акуляры з мінусавымі лінзамі – як яна ненавідзела іх спачатку і як хутка зразумела, што і мінус іх можна ператварыць у плюс: яны рабілі яе яшчэ больш безабароннай і, адпаведна, прыцягальнай. Ёй пасавала роля сціплай сарамлівай дзяўчынкі (тое, што па-ўкраінску “скромниця”), яна выдатна ўмела гуляць у нявіннасць, какетнічаць, страляць вочкамі, апускаць іх; пры патрэбе слёзы лёгка закіпалі на яе пушыстых вейках, і гэтак сама лёгка праз імгненне ўсмешка асвятляла яе наіўныя зялёныя блізарукія вочы, а дзіцячыя свежыя вусны, здавалася, заўсёды гатовы былі пацягнуцца да пацалунка. У такі момант любы мужчына, гледзячы на яе, не сумняваўся, што вось яна ўся перад табою, бяры і рабі з ёю, што хочаш.

Тады ж у яе з’явіўся сябар. З блізкага Ельска, старэйшы на дзесяць гадоў. Некалі вучыўся ў Мінску, кінуў вучобу, цяпер нідзе не працаваў, жыў з таго, што вазілі з бацькам у Мінск на продаж, гледзячы па сезону, то гуркі, то бульбу, то цыбулю, то клубніцы, то грыбы. Дарослы хлопец, сапраўдны мужчына, быў ён адначасова цынік, рамантык і авантурыст – хаця б таму, што не пабаяўся звязацца з ёю; да таго гэта быў першы ў жыцці чалавек, які яе ўважліва выслухаў, не перабіваў, не смяяўся, падтакваў і, як ёй падалося, паверыў ёй. І яна растала, паплыла і амаль закахалася. Калі ён прапанаваў: “У мяне ёсць машына, праўда, дабітая, але нас вытрымае, давай паедзем проста гуляць, вандраваць, паглядзім свет, людзей, я даўно так марыў”, – яна з радасцю на гэтую лалітаўскую авантуру згадзілася (кніжка была да таго часу прагна праглынутая). І былі два вар’яцкія тыдні: начоўкі ў матэлях, каўчсёрфінгам у чужых кватэрах, у машыне, каля вогнішча, у палатцы, пакуль не апынуліся ў Латвіі, адкуль – экстрадыцыя і вяртанне дамоў; маці тады крычала: я страціла дачку! – але, па шчырасці, яна яе хутчэй набыла. Лю змянілася, прыцішэла, нават паспрабавала лепш вучыцца, але зусім не йшла ў яе вучоба; напрыклад, замежныя мовы даваліся з цяжкасцю, затое беларуская – лёгка, і калі маці з часам памаленьку пачала далучаць яе да газеты, у яе выявіліся яшчэ і рэдактарска-карэктарскія здольнасці. У яе быў густ, ці, хутчэй, нюх. Не ведаючы ніводнага правіла, яна тым не менш адгадвала самае дакладнае напісанне слова. Можа, ад таго, што многа чытала.

Так прайшлі тры гады, за якія адбыліся вялікія змены. Да здзіўлення дачкі, у маці з’явіўся мужчына, яна вось-вось павінна была выйсці замуж.

Ні яна сама, ні яе будучы чалавек не хавалі, што амаль дарослая дачка ім замінае. Яна ведала, што калі цяпер паўторыць свой лалітаўскі подзвіг і з'едзе з кім-небудзь куды-небудзь, увогуле знікне з вачэй – і маці, і патэнцыяльны айчым будуць толькі радыя. Усё часцей маці заводзіла з ёй такія размовы: "Вось ты ўжо і дарослая. І што думаеш рабіць? Кім хочаш быць?"

– Нікім, – адказвала шчыра Лю.

– Павінна ж ты хоць аб нечым марыць!

– Ні аб чым.

– Ну, які ў цябе талент?

– Рэдкі, – пасміхнуўшыся, адказвала Лю.

– Менавіта?

– Я ўмею чакаць.

– О, дарагая, чакаць – самае цяжкае. Ясна, што што перакладчыцай, сцюардэсай, спявачкай, бізнес-вумэн, мадэллю ты наўрад ці хочаш. Нават сацыяльныя сеткі цябе мала цікавяць, толькі кнігі. Як ты думаеш жыць у цяперашнім свеце?

– Лёгка.

– Гэта цяпер лёгка, пакуль абаяльнасць. Але нішто так хутка не знікае, як абаяльнасць. Гора ты маё. Куды мне цябе падзець? Можа, на журфак хочаш? Я магла б узяць ад газеты накіраванне. Грошы на платнае дастанем.

– Ад яго я нічога не вазьму.

– Усё гонар, – уздыхала маці. – Табе здаецца, што *ён* не любіць цябе, яму здаецца, што ты не любіш *яго*, а мне паміж вамі што – разарвацца?

– Не бойцеся. Калі вам трэба мяне сплавіць – я тут не затрымаюся.

– Ніхто цябе не сплаўляе.

А вясной, у сакавіку 2017 года, у мястэчку зноў узнік сябар. Тады, пасля вандроўкі, яго ўратавала тое, што ён Лю пальцам не крануў і другім не даў. Усе гэтыя тры гады ён не абазваўся, не падаў ні знаку, ні разу не пазваніў, не напісаў смс, – і вось паўстаў перад ёю: без машыны, пацёрты жыццём, але нейкі яшчэ больш мужны. Яны сустрэліся ў бары на плошчы, увечары. За вакном стаяла сакавіцкая адліга, сонца зайшло, а святло засталося. На пытанне "дзе быў?" сябар неахвотна адказаў:

– Так, грошы зарабляў, сёе-тое, дробная кантрабанда. Рэйды ва Украіну і назад. У мяне там усе сябры, машына з украінскімі нумарамі, украінскі пашпарт.

Але яна бачыла, што ён не дагаворвае. Яна была ўпэўнена, што ён удзельнічаў ва ўкраінскай вайне. Калі да іх століка ззаду падышоў шафёр-дальнабойшчык і звярнуўся па-ўкраінску, у сябра тарганулася правая рука да кішэні. Лю нават падалося, што яна заўважыла нейкую рэч, падобную на пісталет. Сябар сказаў, што цяпер "залёг на дно", зноў займаецца праверaным заняткам – ездзяць з бацькам у Мінск прадаваць што папала: ад картопляў да самагонкі.

– А што далей?

– Я вольны казак, у мяне заўсёды Украіна пад бокам.

– Вазьмі мяне з сабою! – ледзь не ўзмалілася яна. – Хоць куды-небудзь, абы разам.

– Тое не хутка будзе. З год, хоць з паўгода трэба адляжацца.

– Шкада.

– А што здарылася?

– Нічога, – яна закусіла губку. – Проста не магу больш тут, ды і не хачу. Няма дзе дзецца пасля школы.

– А паступаць не хочаш? Як усе?

– Я не люблю вучыцца. Я не набяру іхніх ідыёцкіх балаў.

– Ну хоць мінімум набярэш, ты ж разумная дзяўчынка. А то я б памог. Грошы ў мяне ёсць. Не хопіць балаў на бюджэт – пойдзеш на платнае. Я аплачу.

– Я не люблю вучыцца.

– Можа, і правільна, – сказаў ён разважліва, нібыта ўхвальна. Але яна заўважыла, як яго вочы заблішчэлі знаёмым авантурны бляскам. Ён нешта абдумваў і матаў на вус. – Мо ты для іншага створана, не для вучобы. Ды і што такое цяперашняя вучоба? Наўрад ці рамантыка, сяброўства, песні каля вогнішча пад гітару. Цяпер гэта тое, што і паўсюль, тая самая барацьба за існаванне, разборкі, спаборніцтва: хто багацейшы, хто бяднейшы, у каго якія бацькі, хто паспяховы, хто няўдачнік. Дык ці не працей адразу ўключыцца ў гэтую барацьбу? Без аднаго лішняга звяна. Нават калі дапусціць, што ты паступіш, адвучышся і вернешся назад, напрыклад, у раёнку, і станеш, як твая маці. Хочаш быць як маці?

– Не, не хачу, – усміхнулася яна.

І ён таксама ўсміхнуўся ў адказ.

– Ты пахарашэла. А цікава, ты па-ранейшаму можаш уплываць на людзей?

– Не ведаю, не спрабавала.

– Ну што ж. Калі ты так настроена – хоць куды, – ён зрабіў выгляд, што задумаўся. – А ці не паспрабаваць такі варыянт? Ты ж ведаеш, я год грыз граніт навукі, таму такі разумны; дык вось: мы з бацькам часта ездзім у Мінск, – і што ты думаеш, аднойчы каля “Еўраопта” налятаем на майго старога выкладчыка, нашага зямляка з-пад Ельска, па-ўкраінску любіць пагаварыць. Ён пазнаў мяне, я яго, узрадваліся, разгаварыліся. З таго часу возім яму на заказ сала, памідоры салёныя, калі самагонку жытнюю; ён даўно на пенсіі, жыве адзін, жонка памерла, сын загінуў – разбіўся на матацыкле, дачка замужам у Францыі. А гэтай зімою пачаў мне скардзіцца, маўляў, жыву адзін у харомах, нікому не патрэбны, аж сумна, каб хоць хто, хоць якая аферыстка знайшлася. Я адразу пра цябе падумаў. З таго часу як ні прыязджаем, ён усё дапытваецца: знайшоў мне кватарантку?

– І?

– Табе засталося дацярпець да канца школы і выбрацца ў Мінск. Будзеш вучыцца і жыць у нашага дзеда.

Ён не здагадаўся ў гэты момант паглядзець на яе, але калі б зрабіў гэта, убачыў бы – ад дабрыні яе не засталося і следу. На яе тварыку была разгубленасць, крыўда, нават гнеў.

– Гэта ўсё, што ты можаш прапанаваць?

Яго жыццё ўяўлялася ёй поўным небяспекі, геройства, рызыкоўнай крымінальна-прыцягальнай рамантыкі, і калі б ён павёў яе з сабою, яна кінула б усё і пайшла. А ён прапаноўвае ёй такое! Яна бачыла яго навылёт. Ведаючы, што яна прыносіць няшчасці, ён па сутнасці штурхаў яе на забойства, прытым сам застаючыся чыстым.

– Я толькі на такое здатная?

– Лю, не дык не – няма праблемы.

– Як гэта брыдка, нізка.

– Лю, проста кватараваць – і ўсё. Адзінокі дзед жыве. У цябе б не балела галава, што рабіць пасля школы, і мне было б дзе прыткнуцца ў Мінску. Але не хочаш – не трэба.

Больш ён да гэтай тэмы не вяртаўся. Толькі пры развітанні сказаў, марудна прыкурваючы цыгарэту:

– Усё ж падумай. Нам наканавана быць разам. Я цябе знайду, дзе б ты ні была.

Страшна, але разам з тым соладка было чуць гэта. Ён па-ранейшаму быў адзіны, хто хоць так ці інакш цікавіўся яе лёсам. У той жа вечар да яе ў пакой зайшла маці. Лю ляжала на канапе на спіне з кніжкаю ў руцэ. Яна зняла акуляры і пацерла пальцам стомленыя вочы. Ведаючы напярод, пра што маці збіраецца казаць, апярэдзіла яе, каб толькі адчапіцца:

– Добра. Я буду паступаць на журфак. Можаш браць ад газеты накіраванне. Дакументы самі збяруцца. Пашпарт, атэстат, фота, меддаведка, характарыстыка. Заява на месцы.

– А ты здасі ЦТ? Ты нічога не вучыла.

– Лёгка.

– А ты ведаеш, што на журфак мала сертыфікатаў ЦТ, там творчы конкурс у два этапы і ўнутраныя экзамены?

– Здам як-небудзь.

– І ўсё ж? Калі не дабярэш балаў?

– Пайду на філфак. У любым выпадку сюды не вярнуся.

У вачах у маці загарэлася надзея. Такой самастойнай, разважлівай яна дачку першы раз бачыла.

– А жыць дзе? – прытворна пачала бедаваць яна. – І, як назло, у людзей хоць хто, а тут нікога, нічога, ні блата, ні свата.

– Чаму? А Свянцецкія? У Мінску. Вось, піша мне, заве, – Лю паказала тэлефон. – Яна таксама будзе паступаць. Паеду да яе. Хоць бы ў разведку.

Гэта толькі што прыйшло Лю ў галаву, і яна сама падзівілася, як усё складна атрымліваецца. З Свянцецкай, той самай сяброўкай-аднакласніцай, што некалі забыла дома смартфон і наябеднічала на Лю, а потым пераехала з сям'ёй у Мінск, яны сапраўды зрэдку перапісваліся ў сацсетках. Але, канечне, не настолькі яны былі блізкія, каб сяброўка згадзілася прыняць няпрошаную кватарантку.

– У іх пажыву, – зноў махнула яна тэлефонам. – Я ўжо дамовілася, яны згодныя. Прынамсі, на час экзаменаў. Будзем рыхтавацца разам.

– Адна справа тэлефон, другая жывы чалавек.

– Не выганяць жа яны. Некалі была лепшая сяброўка. А выганяць – ну што за праблема, знайду кватэру.

– Паспрабуй, донечка, а раптам?

Гэтыя надзея і радасць, што засвяціліся на матчыным твары, вырашылі ўсё. Лю загарнула кончык старонкі, адклала кнігу, выйшла на балкон. Вецер пах вясной. На ліпе набрыньвалі пупышкі. Уверсе ў кроне спрабаваў голас шпак, пасвістваў і замаўкаў, нібы сам да сябе прыслухоўваўся. Лю набрала сябра.

– Я згодная.

– Я не сумняваўся. Малайчынка. Правільна. Будзь смялейшаю – і ўсё ў нас атрымаецца!

## XV

Сяк-так, цераз пень-калоду Лю скончыла школу, перажыла ўсю гэтую каламуць з апошнім званоком, выпускнымі; у чэрвені з горам папалам, на аўтапілоце, на інтуіцыі і начытанасці метадам тыка здала ЦТ, самым ніжнім балам зачапіўшыся за неабходны для паступлення мінімум. Пра бюджэт нельга было і марыць, асабліва ўлічваючы яшчэ і ўнутраныя журфакаўскія экзамены – сачыненне, вусны тэст, творчы конкурс. Але гэта было ўжо няважна. На самой справе яна не думала ні пра якія экзамены, ні пра знешнія, ні пра ўнутраныя, а думала, як яна будзе жыць у чужога чалавека, як будзе прыходзіць да іх вечарамі, а можа, днямі, сябар, і як яны будуць чакаць, пакуль натуральным чынам вызваліцца кватэра.

Яшчэ раней яна скантактавалася з Свянцецкай, і тая, хоць з вялікай неахвотай, але згадзіліся прыняць яе на адзін-два дні: "Ну... можна... не ведаю... калі не прыедуць госці..."

Сямнаццатага ліпеня быў набыты білет (акурат тады, калі на плошчы заглядзеўся на яе лысы дзядзька каля джыпа), пасля чаго яны з сябрам адправіліся на возера, купацца і загараць, і заадно абгаварыць яшчэ раз дэталі.

"Галоўнае, зачапіцца хоць на гэтыя пару дзён, – пераконваў сябар. – У панядзелак, максімум аўторак я прыеду, пазнаёмлю вас, і ўсё будзе цудоўна. Адразу ў лоб нельга, каб ён не насцярожыўся, трэба сказаць, што жыла ў сяброўкі, так і так, умовы невыносныя".

Калі вярталіся з возера, гадзін у пяць вечара, з пагорка ўбачылі, як унізе па насыпной дарозе марудна праехаў знаёмы джып. Сябар задуменна правёў яго позіркам, выплюнуў травінку, якую жаваў, спыніўся, чакаючы, пакуль параўнаецца з ім Лю.

– Багаценькі, – паўтарыў ён тое і з той самай інтанацыяй, што і ў абед на плошчы. – Тачка крутая. Эх, мне б такую! – зайздросцячы чалавеку ў джыпе, ён нават не падазраваў, што ў гэты самы момант чалавек у джыпе безнадзейна зайздросціць яму з яго веласіпедам. – Ну што ў ім такога? Нічога. Чым ён лепшы за мяне? Нічым. Жыве, відаць, таксама не ў панельным доме. Нябось, асабняк, віла. Эх, якія асабнякі я бачыў у Крыме! А за мяжой! Ды і ў нас ёсць. – Ён не першы раз расказваў пра крутыя "тачкі" і багатыя вілы, і заўсёды з яго аповедаў атрымлівалася, што іх уладальнікі горшыя за яго, а жывуць лепш.

Вузкая, закрытая травой сцежка вяла праз яшчэ не скошаны луг. Трава стракатала аб спіцы. Моцна, як перад дажджом, пахлі лугавыя кветкі. Ад зямлі патыхала цяплом не менш, чым зверху ад сонца. Сябар сцягнуў майку і накінуў на руль. У яго быў бронзавы ад загару торс, з белымі палоскамі шрамаў і чырвонымі плямкамі ад укусаў сляпнёў. Жывот упалы, у квадраціках мускулаў. На шырокай грудзіне крыжам кучараваліся валасы. На адным плячы наколка трызубца, на другім "Пагоня", пад сэрцам – расплывісты, са слядамі вытраўлення, але выразны чорна-блакітна-чырвоны сцяг Данецкай Народнай Рэспублікі.

– А някепска было б раскруціць яго. Ты заўважыла, як ён на цябе глядзеў? Ім усё можна. Надакучыла жонка – памяняў на дзяўчынку.

– Перастань.

– Абаяльная ты. Таму і здаешся яшчэ больш даступнаю, чым ты ёсць. Паехала б з ім?

– Лёгка... Глядзі!

У небе зніадкуль узнікла кропка, пачала павялічвацца, пакуль не ператварылася ў коршака. Распасцёршы крылы, ён закружыў над лугам, спускаючыся ўсё ніжэй і ніжэй. Птушкі імгненна заціхлі і прыбіліся да зямлі, да травы.

– Нядобры знак, – сцепанула Лю худзенькім плячом.

– Глупства. Містыка. Ну, не будзь такой. Можна падумаць, я цябе на Галгофу пасылаю.

– Горш. Я сама нясу іншым Галгофу. Нібы ты не ведаеш, што дзе я, там няшчасце.

– Зноў містыка, – паморшчыўся ён. – У мяне дык усё наадварот: колькі цябе ведаю, я з табой шчаслівы. – Ён хацеў пакласці руку ёй на плячо, яна вылузнулася. – Лю, мне не падабаецца твой настрой. Ці ты перадумала?

І на возеры, і цяпер сябар, выдатна ведаючы, што білет ужо куплены і ляжыць у кішэні, усё перапытваў: “не перадумала?”, “не пабаішся?”, чым толькі злаваў яе. Нібыта ў яе быў выбар.

Паказалася мястэчка з воданапорнай вежай, знаёмыя белыя двухпавярховыя катэджы са спадарожнікавымі антэнамі, з чырвонай і чорнай гонтай дахаў. Лю азірнулася, каб запомніць гэтую сцежачку ў лузе, захаваць у памяці луг з кветкамі, матылямі і пчоламі, неба з коршакам, заадно прабегла ў думках гэтай сцежачкай назад і нібы ўбачыла само возера, адчула цёплую, мяккую ваду, пагладзіла прыбярэжны пясок, шапаткі чарот, куст ракітніку – і ўсё гэта такое кранальнае, паслухмянае, безабароннае раптам злілося ў адзін невыказна мілы, пяшчотны малюнак і пацягнулася ёй услед, каб развітацца.

Неўзабаве ступілі на крайнюю вуліцу Пачаўся вузкі, выкладзены пліткай тратуар, па якім тут так рэдка хадзілі, што са швоў паміж пліткамі лез малады трыпутнік. Лю заявіла, што хоча есці. Яны пайшлі да цэнтра. На плошчы, як заўсёды, стаялі фуры. Каля рэстарана пад вечар столікаў паболела. Мужчыны-дальнабойшчыкі гаварылі па-ўкраінску і па-руску. Лю з сябрам знайшлося месца каля невялікага дэкаратыўнага плеценага плоціка. Адразу за ім яшчэ адну невысокую агароджу стваралі падстрыжаныя кусцікі з белымі кветкамі, падобныя на язмін, толькі драбнейшыя, якія цвітуць з вясны па познюю восень, ледзь не да снегу, а потым і зімой стаяць абсыпаныя белымі клейкімі ягадамі; снежнаягаднік, ці як яны называюцца. Афіцыянт прынёс сябру порцыю тэкілы, а Лю – марожанае, сок, капучына ў пластыкоўцы, чызбургер – заціснуты паміж падрумяненых палавінак булачак жоўты сыр з дзіркамі.

– Я пакіну ў вас тут дзе веласіпед, – сказаў сябар афіцыянту. – Заеду аўтастопам.

– Без праблем. Лю, можна на хвілінку? – Яны адышлі да плоціка, за кусты гэтага снежнаягадніку. Афіцыянт мысам чаравіка пастукаў у плоцік. – Я выпадкова пачуў... Гэты лысы з тваім будучым айчымам пра цябе гаварылі. Паказваў тваё фота на планшэце.

– Уяўляю, што яны нагаварылі.

– Ты карыстаешся поспехам, – і, азірнуўшыся на сябра, які піў тэкілу, спытаў: – Лю, нам з табой зусім нічога... не можна?

– Усё можна ў межах чалавечага жыцця. Як кажа мой будучы айчым.

І раптам ёй так стала прыемна, радасна невядома ад чаго. Як бы адчуванне, што хутка павінна здарыцца нешта харошае. Калі чакаць і верыць, дык яно часам і харошае здараецца. Яна вярнулася за столік. Сябар насыпаў на палец

солі, выпіў тэкілы, злізаў соль і пасмактаў лімонную дольку. Тады толькі заўважыў яе павесялеласць. Шкадаванне, ці пяшчота, ці пачуццё брата да сястры, ці што там у ім варухнулася. Ён паклаў сваю лапу на яе далоньку.

– Лю, скажы, – ён узяў нейкі задушэўны тон. – Як цябе адпускаюць адну, у вялікі горад, да чужых людзей?

– Лёгка.

– Ты так ні разу і не расказала, што ў цябе дома.

– Нічога добрага. Мяне па сутнасці выганяюць. А каб маглі, дык зжылі б са свету.

– Ты не перабольшваеш? – сябар адразу зразумеў, што яны гэта адзін Асавец. – На выгляд ён звычайны башкавіты нармальны дзядзька...

– Больш чым нармальны. Ён святы. Я ўпэўнена, што ён ні разу не парушыў ніводнага з дзесяці запаветаў. Калі-небудзь я думаю, хай бы ён быў лепш цынікам, як ты, чым святым апосталам з прынцыпамі. Прынцыпы ў яго. Горш няма за маралістаў і прынцыповых. Ён не жыве, а як бы выконвае працу, нарыхтоўвае не толькі бярвенні ў лесе, а і назапашвае добрыя справы. Нібыта ў яго не адно жыццё, а адзінаццаць, як класаў у школе, і для таго, каб перайсці ў наступны клас, яму трэба здаць характарыстыку і атэстат за папярэдні.

– А ты яго ўсур'ёз не любіш, – заўважыў сябар.

– За што мне яго любіць? Ён уварваўся ў нашае жыццё, усё перавярнуў дагары дном. Тое, што ён, гэты прынц на шэрым уазіку, да нельга вульгарны, гэтага толькі такая, як мая маці, можа не заўважаць. Але калі б толькі вульгарны! Ён хітры, з задняй думкай, і самае галоўнае – жорсткі. Я не магу пакуль гэтага даказаць, я проста адчуваю. Не ведаю, што ён задумаў, што яму ад нас трэба, што ён можа з гэтай сітуацыі вывудзіць, але здагадваюся, што тут нешта цёмнае!

– Лю, – сказаў сябар. – Ведаеш, мы з ім крыху знаёмыя. Ён не такі ўжо монстр. Вялікую справу падняў з нуля. І да цябе добра ставіцца – нічога кепскага не казаў. Ну, прынцыповы, ну, мараліст, дык на тое філосаф.

– Не ведаю, які з яго філосаф, я дапускаю нават, што ён здольны кахаць, па-свойму, канечне, і разам з тым дакладна ведаю, што ён няпросты, непрадказальны, нешта задумаў, штосьці вычэквае – і мне проста шкада маці. Яна такога не заслугоўвае.

– Можа, мне з ім па-мужчынску пагаварыць?

– Сядзі. Я ўжо ведаю, які ты памагаты. Я сама пастаўлю яго на месца, – сказала яна нядобра, помсліва. – Хоць бы дзеля таго, каб маці пабачыла, хто ён ёсць.

– Што ты прыдумала? – занепакоіўся сябар. – Лю, прашу, не рабі гэтага. У нас усё так добра складваецца.

– Не бойся. Я не зварухну нават пальцам, але з ім разбяруся. Не для сябе – дзеля маці. Пакуль яна пад яго ўплывам, як пад гіпнозам, ён для яе “ідэал мужчыны”... Вось, паглядзі, мне ехаць заўтра, а ніводнага званка...

Сонца хавалася за дахі. Цені ад столікаў выцягваліся. Пахла кавай і свежым разліўным півам. Над столікамі ляталі восы. Сябар, апусціўшы галаву, задумліва пазіраў на шчыльна сціснутыя дзявочыя ногі з белымі каленямі ніжэй чырвонай спаднічкі.

– Лю, ты ніколі не расказвала пра сваю маці. Можа, будучая мая цешча, а я нічога пра яе не ведаю.

– Ды што расказваць? Яна некалі прыехала сюды з Віцебшчыны...

## Частка шостая
## МІХАЙЛОЎСКАЯ

### XVI

Лена Міхайлоўская некалі прыехала сюды са сваёй Віцебшчыны па размеркаванні пасля індустрыяльна-тэхналагічнага каледжа, калі ёй ледзь споўнілася васямнаццаць, уладкавалася ў раённую газету тэхрэдам, папрацавала месяц і выйшла замуж за першага, хто прапанаваў, – за прыезджага ўкраінскага хлопца з не зусім украінскім прозвішчам Каралёў (потым ён прызнаўся, што саромеецца свайго "расійскага" прозвішча, раіўся з ёю, ці не памяняць яго на Караленка або ўзяць жончынае і пісацца Міхайлоўскі). Прыгожы, са смаляной чупрынай, з тонкімі, уніз апушчанымі вусікамі, падобны, як многія паўднёвыя славяне, да турка. Працаваў на іхняй чыгуначнай станцыі, а жыў у Оўручы, на Жытоміршчыне – тады яшчэ не было ніякіх межаў. Дабіраўся кожны дзень туды і назад электрычкай. Не сказаць, каб Лена яго так ужо кахала. Хутчэй гэта быў своеасаблівы шлюб па разліку. Ён быў сірата, гадаваўся ў бабулі, бацькоў не памятаў, сям'і не ведаў, мала ўяўляў, якой яна павінна быць, значыць, не будзе свякрухі, радні, ніхто не будзе камандаваць і ўпікаць і сам не будзе дужа пераборлівы.

Вяселле згулялі ў пачатку красавіка, а ўжо ў траўні яна ўбачыла, што за падарунак ёй дастаўся. Каралёву прырода ў адным месцы дала, у другім – адняла. Ён пакутаваў на рэўнасць так, як іншыя на запоі. Гэта была менавіта хвароба, паталогія, бо ўзнікала абсалютна на голым месцы, без аніякай прычыны. Галоўнае, ён катэгарычна не хацеў жонку слухаць, у прамым сэнсе затыкаў пальцамі вушы, калі бедная Лена спрабавала даказаць не даказаць, а хаця б уставіць слова апраўдання. "Назаві мне хоць адну жонку, якая б не здраджвала". Ён з такой безапеляцыйнасцю, з такой тупой упэўненасцю гэта сцвярджаў, што ў Лены апускаліся рукі. Так, яна да замужжа не была феяю. Можа, таму і пасяшалася замуж. Але і тое, што ёй выпала, было ўжо занадта. Падазрэнні, бяссонныя ночы, бясконцыя сваркі, пагрозы кінуць яе, з'ехаць ва Украіну, у Оўруч, дзе ў яго, бачыце, застаўся надзейны сябар і адданая нявеста – першае каханне, якая чакае яго, "якая не роўня некаторым". Іншая скончыла б гэты кашмар за пяць хвілін – выгнала б такога, парвала б з ім, развялася. Але ў Лены быў адзін істотны недахоп – яна была добрая. Пакутуючы ад уласнай бязвольнасці, яна прасіла прабачэння, сама не ведаючы за што, і прасіла яго застацца, сама не ведаючы, навошта. Нічога не змянілася і тады, калі нарадзілася дачушка; наадварот, стала яшчэ горш, бо Каралёў не надта верыў, што гэта яго дзіця. Яна ўзіралася ў яго перакошаны ад пакуты, па-сапраўднаму няшчасны твар і бачыла, што нават ад той сімпатыі, якая некалі ў яе да яго была, нічога не засталося. У такія хвіліны яна ледзь стрымлівала шалёнае біццё сэрца. Яна ўяўляла, як помсціць яму адзіным даступным ёй спосабам, менавіта – здраджвае яму з кім папала. Калі чалавека па сто разоў на дні запэўніваць, што ён злодзей, і не даваць магчымасці апраўдацца, не выключана, што калі-небудзь яму сапраўды захочацца ўкрасці – хоць будзе за што цярпець. У такім разбэрсаным настроі, з такімі пачуццямі і думкамі яна паехала ў Мінск на чарговыя курсы падвышэння кваліфікацыі (Каралёў, прыціскаючы да сябе дачуш-

ку, казаў з’едліва: “Што нашай маме яшчэ падвышаць, яна даўно ў такіх справах прафесар”) і патрапіла на літаратурную вечарыну, дзе выступаў Рак, якога яна ледзь не з дзяцінства ведала па зборніках паэзіі, нават школьніцай была завочна закаханая ў яго. Іншыя яго калегі-выступоўцы чыталі вершы-агіткі пра палітыку, мову, радзіму; калі б тое самае зрабіў Рак, яна і не заўважыла б. Але ён, вядома, быў арыгінальны; ціхім голасам прачытаў адзін-адзіны верш, затое які! Кожнае слова біла прама ў сэрца, і яно адгукалася салодкім рэхам і запамінала ўсё з першага разу. “Палю чарнавікі. Навошта свету знаць, што закрэсліў я ў жыцці сваім. Гарацъ чарнавікі. Душы сакрэты віюцца знічкамі, дымком сівым. Гарацъ чарнавікі. І ў іх свячэнні і думкі, і трывогі – заадно. І рынуцца ў душу, глыбей, на дно абвугленыя прысвячэнні”.

Яна стаяла ў чарзе і, гледзячы, як ён прыгожым почыркам падпісвае кнігі, як хутка і спрытна ходзіць яго рука, ёй хацелася пралезці пад гэтую руку і, выгінаючы спіну, мурлыкаць ад задавальнення. Потым, калі гулялі па горадзе, яна ўсё чакала, што зараз яны прыйдуць у шыкоўныя апартаменты, дом з камінам, вялізным кабінетам, кніжнымі паліцамі да столі, і як яна змяце пыл, накіне фартух і пазавіхаецца на кухні за плітою, а затым і ў ложку пакажа сябе, – але ён маўчаў. Яна была непрыемна ўражана, і толькі тады супакоілася, калі ён прызнаўся, што ў яго проста няма кватэры, а жыве ў сябра. І быў замест апартаментаў вечар, бэз, чаромха... Калі яна вярнулася дамоў, убачыла абрыдлага мужа, пачула яго папрокі, яна зразумела, што больш не будзе апраўдвацца. Ды цяпер ужо і не было як. Яе маўчанне толькі падлівала вады на яго млын.

Нейкі час яны яшчэ жылі разам, калі гэта можна назваць жыццём. Каралёў не сунімаўся, нават пачаў прыводзіць у выкананне свае пагрозы кінуць яе: з’язджаў некуды на тыдзень, на месяц, бывала, што і на тры месяцы – і неадменна вяртаўся, прывозіў грошы, прасіў прабачэння, “я аднапюб”, “не магу без цябе”, і яна, кленучы сябе, прымала яго, ведаючы, што хутка паўторацца сцэны рэўнасці. Яны паўтараліся. Усё ішло як па зачараваным безнадзейным коле. Здавалася, ніколі не будзе гэтаму канца. Неяк пасля чарговай сцэны яна, сябе не помнячы, нагаварыла яму вельмі жорсткіх слоў; ён, як звычайна, моўчкі сабраў рэчы і з’ехаў. Праз нейкі час яна атрымала ад яго пісьмо з Украіны. “Ты дабілася свайго... праз твой невыносны характар... не шукай... прабач... некалі кахаў”.

Яна была ўпэўненая, што дзе б ён ні быў і з кім бы ні быў, неўзабаве ён аб’явіцца, хаця б успомніўшы пра дачку, і са страхам чакала гэтага. Але ён не з’явіўся ні праз месяц, ні праз год. Яна яшчэ доўга не верыла свайму шчасцю. Настолькі была радая таму, што цяпер вольная, так баялася, што ён вернецца, што ёй у галаву не прыйшло яго шукаць, каб, напрыклад, справіць аліменты. Ёй не трэба было ад яго нічога, абы не бачыць яго.

Неўзабаве яна ацаніла выгоды свайго новага становішча. На яе кінутую сталі звяртаць больш увагі, чым калі яна была незамужняй. Ёй было ўсяго дваццаць чатыры гады, і яна не збіралася рабіцца саламянай удавою. Проста цяпер яна стала вучоная, прынамсі, не збіралася мяняць быка на індыка, не кідалася замуж за першага, хто пазаве. Чакала, чакала – і дачакалася. Звалі яго Вадзім Асавец. Ён з’явіўся ў мястэчку некалькі гадоў назад. На голым, лічы, месцы стварыў дрэваапрацоўчы камбінат і хутка давёў яго да ладу. Аднойчы прынёс у газету экалагічную нататку – пра тое, як хутка і нерацыянальна высякаецца лес у раёне. Яны пазнаёміліся.

Пачалі сустракацца. Ён быў на пятнаццаць гадоў старэйшы: ёй трыццаць два, яму – сорак сем. Але выглядаў ён маладзей. Можа, таму, што яна так доўга чакала, той, каго яна ўрэшце дачакалася, падаўся ёй эталонам мужчыны. Яна не бачыла ў ім недахопаў, а адны толькі вартасці. Тое, пра што яе дачка Лю казала свайму сябру іранічна, – пра "святасць" Асаўца, яна ўспрыняла б усур'ёз. Пры кожнай сустрэчы, кожнай размове яна пазнавала яго ўсё больш. Ён падабаўся ёй і знешнасцю – ваенная выпраўка, дужы, заўсёды паголены, і біяграфіяй – разведзены, у Мінску кватэра (на ўсялякі выпадак), і характарам – сур'ёзны, шчыры, прыстойны, і паводзінамі – па-старамоднаму шляхетны, з называннем яе на "вы" і з цалаваннем ручкі, і шчодрасцю – грошай не лічыць, кветкі, рэстаран, дарагія падарункі. Але самае галоўнае, яна з ціхай радасцю пераконвалася, што і яна яму падабаецца. Так яно прыйшло, позняе каханне, поўнае, узаемнае, аб якім марaць.

– Я ведаю, – сказаў ён аднойчы, – пра мяне кажуць, што я зануда, не разумею гумару.

– Не з гумарам жыць, а з добрым чалавекам, – хутка ўставіла Лена.

– Абсалютна правільна. Цалкам падтрымліваю такое ваша стаўленне да жыцця. А што да гумару – адзін, усяго адзін раз у жыцці я паспрабаваў пажартаваць.

Ён расказаў, як некалі іх адпраўлялі ў камандзіроўку ў Віцебск, па вядомай справе зніклай школьніцы; быў вечар, яшчэ чатыры гадзіны чакалі на мінскім вакзале, а ўночы далі адбой. Ён прыехаў дамоў і, не звяртаючы ўвагі на разбуджаную жонку, "з мэтай насмяшыць яе", пайшоў шнырыць па кватэры: шафы, балкон, ванны пакой. Перапалоханая жонка сачыла за ім. "Ты што?!" – "А раптам у цябе палюбоўнік?" Яна прастагнала і падняла ў столь вочы: "Якое ты палена! І дзе ён можа быць?"– "Вы, жанчыны, іх паўсюль хаваеце". – "Якое ты дрымучае бервяно! Табе не з людзьмі, а ў лесе з дрэвамі трэба жыць!"

– Пазней, калі мы па яе ініцыятыве развяліся – праўда, дзеці да таго часу выраслі, я зразумеў прычыну яе крыўды і гневу. У яе на гэтай ролі – палюбоўніка – быў не адзін і нават не два чалавекі. Вось так я няўдала, на сваю галаву пажартаваў.

– Бедны вы, – шчыра шкадавала яна, не бачачы ў гэтай гісторыі ні пошласці, ні анекдатычнасці, і легкадумна не праводзячы паралеляў з першым мужам.

– Затое мой крах на сямейным фронце і няўдачы на кар'ернай лесвіцы, – жаваў ён мачалку, – зрабілі з мяне філосафа. Мяне сапраўды пацягнула да адзіноты, да лесу, ці не так?

Ён пачаў бываць у яе ў гасцях. Абедаў, вячэраў. З'явіліся баршчы і адпрасаваныя і адбеленыя храбусткія кашулі. Часта затрымліваўся каля кніжнай паліцы, прачытваў адзін-два абзацы; загортваючы кнігу, казаў з уздыхам: "Усё гэта чыстая праўда. Так і ёсць у жыцці".

– Чытаю я, канечне, менш, чым нашая прыўкрасная Лю, але стараюся не адстаць. Мне няма розніцы што чытаць, навуковую літаратуру, вершы, прозу, абы жыццё героя ў кнізе было падобнае на маё. А аўтараў не запамінаю ніколі. Якая розніца, хто аўтар, праўда?

Яна была б зусім шчаслівая, каб не дзве праблемкі. Першая – што фармальна яна замужам. Гэта ўвесь час нявыцягнутай стрэмкай вярэдзіла душу. Яна не ведала, як пра такое сказаць, і ці трэба казаць. Першы муж

так выматаў яе, што цяпер яна баялася наступіць на тыя самыя граблі. Яна разумела, што другога разу проста не вытрымае. Але і цягнуць да апошняга, да таго, напрыклад, моманту, калі Асавец зробіць прапанову, было і непрыгожа, і небяспечна. Атрымаецца, што яна проста паставіць каханага чалавека перад фактам. Трэба рабіць гэта раней. І яна адважылася. Стаяла бабіна лета. Цвілі па другім разе каштаны. З сумнай усмешкай, якая азначала: усё магло б быць цудоўна, каб не... – яна расказала пра Каралёва, паказала яго адзінае пісьмо.

– Не забывайце, хто я, дзе я працаваў, – выслухаўшы, не зводзячы з яе вачэй, сказаў Асавец. – Гэта такая драбяза, што і гаварыць не варта. У мяне ёсць знаёмы, акурат па гэтай лініі. – Адразу ж пры ёй дазваніўся, патлумачыў у трубку: – Жанчына хоча замуж за прыстойнага чалавека, а пячатка ў пашпарце гэтаму перашкаджае. Той? – той алкаголік знік кудысьці. Так-так, так-так.

Пагаварыўшы, з задаволенай усмешкай (мужчына ўзяўся за справу – мужчына выканаў) расклаў усё па пунктах. Першае – падаць у суд заяву аб разводзе, месцам пражывання адказчыка назваць свой адрас, туды ж суд будзе слаць павесткі, “распішацеся за яго ў павестках, а суд вынесе вердыкт у адсутнасць адказчыка”.

– І ніякіх сведкаў, толькі вы і суддзя. Затым ідзеце ў ЗАГС і атрымліваеце пасведчанне аб разводзе.

– І ўсё? – спытала яна, не верачы, як за пяць хвілін можна вырашыць тое, што здавалася ёй невырашальным, на што яна не магла адважыцца трынаццаць гадоў. – А калі ён вернецца?

– Ён вернецца не да роднай жонкі, а да чужой. Ці не так?

Аднак для перастрахоўкі, каб нішто не нашкодзіла іх будучаму шчасцю, яшчэ параіўся з сябрам-юрыстам, мала таго, нават прывёз яго сюды, у мястэчка, і той, сумленны, уедлівы чалавек, грунтоўна ўваходзіў у курс справы, доўга, падрабязна распытваў Лену, калупаўся ў дакументах, усё ўдакладняючы, і нарэшце даў цвёрдую гарантыю, што непрыемных сюрпрызаў не будзе ні ў якім выпадку. Заставалася яшчэ праблемка: што рабіць з Лю? Дачка чамусьці адразу незалюбіла Асаўца. Як толькі ён заяўляўся, яна моўчкі апраналася і выходзіла. Акрамя таго Лю, сама таго не жадаючы, з’яўлялася перашкодай да афіцыйнага заключэння шлюбу. Пакуль яна тут, ні Лена да Асаўца не магла перайсці, ні Асавец да яе.

– Я ведаю, чым такое сумеснае жыццё канчаецца, – сказаў ён з уласцівай яму праматою, калі ў чарговы раз прыйшоў у госці. – Я прытрымліваюся той думкі, што не павінна дзяўчынка-падлетак жыць разам з дарослым мужчынам.

Лена сядзела за сталом, ён стаяў каля кніжных паліц. Дзверы ў даччын пакой былі расчынены; відзён быў засланы пледам край канапы з кінутымі на яе джынсамі, каля канапы стаялі, міла касалапячы (насы разам, пяты асобна), красоўкі, побач валялася на падлозе чамусьці толькі адна беленькая шкарпэтачка.

– Іншы прыхаваў бы гэта факт. Але я не з такіх. У мяне прынцыпы.

Калі яна такая, як вынікае з вашых слоў, з такімі звычкамі, схільнасцямі, паводзінамі (раней Лена неасцярожна расказала яму пра ельскага сябра і двухтыднёвыя прыгоды дачкі) – дык што, калі, дапусцім, яна ў мяне закахаецца? Я сябе ведаю, я не паддамся спакусе (казаў усё роўна

наадварот, чым Літаву). А вось за яе... Калі яна пачне са мной фліртаваць – мне давядзецца расказаць вам. Вы наўрад ці адчуеце да яе прыхільнасць. Дык навошта выпрабоўваць лёс?

Яго шчырасць абяззбройвала. Лена, у думках з ім цалкам згаджаючыся, усё ж паспрабавала абараніць дачку, пачала пераконваць, што то быў пераломны ўзрост, які яна даўно перарасла.

– Яна ўвогуле не такая, чым я ў яе гады, у яе няма сяброўак, яна несучасная, не тырчыць у кампутары, нават у сацсетках не любіць калупацца, толькі старамодна чытае – так што ніякага флірту не будзе.

Але ён быў непахісны.

– Хай канчае школу, і – павінна пакінуць нас. Я нават вымушаны паставіць умову: або я, або яна. Так будзе лепш для ўсіх. Нічога не павінна азмрочыць будучага нашага шчасця.

– Але куды ёй?

– Хай паступае.

– Яна не паступіць з такімі баламі. У лепшым выпадку на платнае, – намякала Лена.

Ён скурпулёзна, па пунктах растлумачыў і гэта. Сказаў, што яму, канечне, няцяжка яе забяспечыць, у яго ёсць грошы, прычым уладкаваць яе нават не ў Беларусі, а ў Лондане, у Кембрыджы, напрыклад; але, па-першае, у яго прынцыпы, а “прынцыпы – самае галоўнае ў жыцці, ці не так?”, – па-другое, ён перакананы, што першыя крокі маладыя людзі абавязкова павінны рабіць самі, толькі тады ўзрасце цана іх. Сваім сынам ён таксама па першым часе не памагаў ні аднаму, ні другому, і цяпер яны яму бясконца ўдзячныя. Ён называў гэта “прышчэпкай ад жыцця”.

– У Еўропе, у Амерыцы даўно так робяць, каб не псаваць дзяцей. Бо інакш у гэтае жыццё можна так і не ўліцца. Я сам рабіў першыя крокі ў невядомай дагэтуль справе, а ўявіце, калі б мой сваяк, які-небудзь багаты брат, памог мне набыць лесапільню, паднёс на сподачку – хіба б я цаніў свой поспех так, як цяпер, калі ўсё зроблена ўласнымі рукамі і ўласным розумам?

Ён памаўчаў, гледзячы ў адну кропку.

– Але ў нашым выпадку я згодзен зрабіць выключэнне з правілаў і адступіць ад прынцыпаў. Я дам грошы.

– Я ўжо гаварыла з ёю. Ад вас яна катэгарычна не возьме. Ганарыстая, не ведаю, адкуль гэты гонар.

– Тады я перадам праз вас.

– Яна спытае, адкуль яны ў мяне.

Было тое зімою, а ўвесну, акурат пасля аб’яўлення ў мястэчку ельскага сябра, раптам усё само сабой пачало зрушвацца з мёртвай кропкі. Лю ўзялася за розум, пачала варушыцца, рыхтавалася да іспытаў і ЦТ, збірала дакументы, спісалася з сяброўкай. Лена сачыла за гэтым і трымала Асаўца ў курсе. “Не веру, што з гэтага нешта атрымаецца. З такой вучобай яна на бюджэт не паступіць. Праз дзень, самае большае праз тыдзень зноў будзе тут”. Тады Асавец сказаў:

– Вось што. Хай едзе. А каб не вярнулася, мы перастрахуемся. Калі вы не супраць. Ні ад вас, ні ад мяне яна грошы не возьме. А ад чужога чалавека? Калі ён гэта адпаведным чынам абставіць? Дапусцім, скажа, што ў яе талент, што ён згодны аплаціць авансам яе вучобу, з прыцэлам на тое, што ў будучым яе чакаюць кар’ера мадэлі, кастынг, кінапробы і ўся

іншая таму падобная каламуць. І хай яна спакойна вучыцца, а ён нібыта яе апякае. Насамрэч плаціць буду я. Ад такога яна возьме?

Лена ў адказ толькі развяла рукамі.

– Але дзе такога знайсці? – спытала яна.

– Я тут на днях па лясных справах пазнаёміўся з адным, з Мінска. Так сабе чалавек – несур'ёзны, памешаны на творчасці, але, здаецца, не злы. Можна яго падключыць. Ён мне абавязаны. Я яму ўжо намякнуў. Калі ён захоча з вамі пагаварыць, вы не будзеце супраць? Усё ж такі я разумею пачуццё маці да роднай крывінкі...

– Што трэба рабіць?

– Проста скажыце, напрыклад, што самі шукаеце, у чые б добрыя рукі яе перадаць; скажыце нават, што не ведаеце, як ад яе пазбавіцца. І наша Лю будзе ўладкавана, і нам нішто не азмрочыць будучага шчасця. Ці не так?

Разумны, мілы, дальнабачны Асавец! Усё абдумаў, не пашкадаваў часу, нават сам падабраў для яе неабходныя словы. За такой спінаю Лена магла ні пра што не дбаць.

## XVII

І вось сёння, пасля знаёмства і гутаркі з Літавым, і гэтая справа амаль вырашылася. Усё адно Лене было крыху не па сабе. Чужыя людзі ўмешваюцца, хай і блізкія сябры яе каханага, а яна, маці, як бы збоку.

Дома яна першай справаю пайшла ў залу да кніжных паліц. Вяртаючыся са зборнікам “Чаромхавага чаду” ў руцэ, у калідоры пакруцілася, як школьніца, перад люстрам. “Якая я яшчэ прыгожая!” Блізарука ўглядзеўшыся, заўважыла прышчык на носе – чырвоная, як уколатая іголкаю кропка з мікраскапічнай бела-жоўтай саспелай “дзюбкаю”. Успомніла дзіцяча-падлеткавую прыкмету: закахаўся нехта. У пакоі ўключыла ноўтбук, пакуль ён загружаўся, выпіла каньяку, падняла нож, які выпаў з рукі, калі рэзала лімон, пастукала ім па краі драўлянага століка: “не хадзі сюды, не хадзі сюды, не хадзі сюды”. Набрала ў інтэрнэце “Тэлефонны даведнік па прозвішчах Беларусі”, выпісала нумар.

Сядзела, патроху піла каньяк, гартала чамусьці ззаду напярод “Чаромхавы чад”, зноў выпівала для смеласці, бралася за тэлефон – і адкладвала трубку. Выходзіла на балкон. Іх вялізная ліпа, што расла каля пад'езда, закрывала сваім ценем увесь двухпавярховы дом; цяпер, пад вечар, дрэва гуло, у кроне шчыравала цэлая інтэрнацыянальная кампанія насякомых: пчолы, мухі, мошкі, мурашкі – усё зляталася, спаўзалася на мядовы пах кветак, а ўнізе пад ліпаю за столікам гудзела другая кампанія, мужчынская, віно-даміно; і суседка-татарка з акна першага паверха крычала мужу: “Супакой сваіх сяброў! Інакш я выйду і іх супакою!”

Час бег. Яна трохі прыбралася ў кватэры, збольшага нагатавала-нарыхтавала, зноў прысела, зноў піла па глытку каньяк і ўсё не адважвалася пазваніць.

У паўдзясятага вечара сябар правёў Лю да дома і пайшоў на трасу – аўтастопам дабірацца да Ельска. Перад тым, як зайсці ў пад'езд, яна пастаяла пад ліпай. Яшчэ не сцямнела, а раса ўжо ўпала, і моцна павастрэлі пахі: не жнівеньскія, канечне, але блізка да таго. Пахла ліпа, раса, трава, нават пясок пах, як пахне ён пасля першых кропляў летняга дажджу. Лю зайшла ў кватэру, асцярожна зачыніўшы дзверы, убачыла на столі-

ку пачатую пляшку каньяку, разгорнутую кнігу вершаў, пачула з залы голас маці па тэлефоне. Маці стаяла – у адной руцэ тэлефон, другая з закасаным рукавом і сагнутая ў локці, нібы яна толькі што здавала кроў з вены. Лю пачула:

– ...Цяперашні свет... баюся за яе... прападзе, столькі спакусаў... яна думае, пакуль маладая... а маладосць праходзіць хутка... не атрымаецца – не трэба...

Маці прыціснула палец да вуснаў, маўляў, не перашкаджай, важная размова. Лю прайшла на кухню, наліла ў талерку халоднага баршчу са шчаўя, накрышыла зялёнай цыбулі, дадала палову варанага яйка, сталовую лыжку густой смятаны, размяшала і, не зважаючы, што халаднік быў крыху перасолены, са скібай чорнага хлеба выхлебтала ўсё за некалькі хвілін – здаровая галодная дзяўчынка. Маці ўвайшла з кніжкай у руцэ і са збянтэжаным выглядам.

– Ведаеш, донечка, мне тут нечакана пазванілі... Даўні знаёмы з Мінска. Паэт. Я табе расказвала. Уяўляеш, сам пазваніў! Якое супадзенне. Ён адзін жыве. Калі даведаўся, што ты паступаеш, пачаў напрошвацца, каб табе памагчы. Я падумала – адно другому не зашкодзіць.

– Мне не трэба нічыёй дапамогі. А што гэта тырчыць з кнігі?

Маці дастала візітоўку Літава:

– Цікавіліся табою. Адзін на джыпе. Як па мне – вельмі прыстойны чалавек...

– Такі лысы, стары, непрыгожы?

– Наадварот: элегантны, маладжавы, сімпатычны. Да таго ж ветлівы, нават сціплы. Ён бачыў цябе на плошчы, сказаў, што ты падобна на яго жонку ў маладосці. У яго да цябе важная прапанова. Нешта звязанае са здымкамі фільма, нібыта хоча запрасіць цябе на кастынг, прынамсі, я так зразумела. Уяўляеш, ён нават згодны аплаціць тваю вучобу, калі ты не пройдзеш на бюджэт! Ды зараз ён сам прыйдзе, пазнаёміцеся, ён усё раскажа.

– Вось бачыш, – сказала Лю, выціраючы сурвэткай пунсовыя вусны. – А ты казала, чакаць – самае цяжкае. Чакаць – самае лёгкае і надзейнае. То не было нікога, а цяпер і паэт, і рэжысёр. Аднак дзе ж ён, твой Літаў?

## XVIII

А Літаў у гэты час пад'язджаў да Мінска – і ўсё было роўна наадварот, чым раніцай. Чым бліжэй ён пад'язджаў, тым часцей лавіў сябе на тым, што яму хочацца, каб машына ехала не так хутка (а шафёр гнаў яе), ці ўвогуле зламалася або патрапіла ў аварыю, невялічкую, канечне, так, "пацалавацца" злёгку, каб потым доўга стаяць, чакаць, даішнікі, разборкі.

Ён матляў галавой, каб далёка не заходзіць, глядзеў на мільгаючы за вакном лес, на загараджальныя сеткі, ад якіх стракацела ў вачах, і раптам адпусціў уяўленне, і пайшло яно працаваць, не пытаючы ў яго дазволу: вось ён ідзе следам па сцежцы ў бур'яне за жонкай, разам з ёй піхае незачыненыя дзверы ў бункер, з заміраннем сэрца, як малое дзіця адчыняе дзверы ў пакой, куды яго раней не пускалі, пераступае ганак, пачынае спускацца – і смачнае цмоканне за спінаю; уявіў усё гэта – і ўпершыню не сціснулася страхам сэрца, не адчуўся брыдкі холад у жываце і пустата пад нагамі; больш за тое – упершыню ўяўленне павяло яго далей за лесвіцу, якая вядзе ў бункер, і ён дабраўся да вянкоў з чорнымі стужкамі,

курганка магільнай зямлі, жалобных прамоў, стукання-звякання лыжак і відэльцаў на памінках. І гэтая дзяўчынка, яе трывожныя, цнатлівыя сваёй белатой ногі, чырвоная спаднічка, акуляры. Яна нібы ўвесь час прысутнічала нябачна, і была нейкая сувязь паміж ёю і знікненнем жонкі.

– Ты не вельмі спяшаўся, – такімі словамі сустрэла яго Ірма, калі пад'ехалі, і ён бягом убег у дом. Яна сядзела жывая-здаровая, у халаце, на нагах хатнія пантофлі з кутасамі. Адставіўшы пальчык, яна проста сядзела і піла гарбату. Літаў апусціўся на нізкі шырокі падаконнік.

– Як табе не сорамна, – выдыхнуў ён з дакорам, тушачы агонь у вачах. – Я ўвесь перакалаціўся. Думаў, ты зайшла ў бункер. Як можна так палохаць? У мяне цяжкая была паездка, а тут яшчэ... А калі б сапраўды зайшла? Мала што магло здарыцца. Ад панікі, ад страху – разрыў сэрца, страта прытомнасці...

– Клапатлівы ты мой, – здзекліва-іранічна, непадобна на яе ранейшы тон, працягнула яна.

– Тым больш у нядзелю такі важны вечар, нам трэба быць гатовымі...

Яна выйшла. Літаў дапіў рэшткі гарбаты з яе кубка. Рукі ў яго падрыгвалі, калі ён набіраў Самусенку.

– Вось і настаў ваш час "ікс". Ідзіце да нашага паэта, запрашайце яго, скажыце, што яго чакае сюрпрыз... Як з'ездзіў? Незвычайна! Якую палескую кветку бачыў! І так падобная на маю Ірму ў маладосці... Чыстая, у вачах – бяздоннасць, вечнасць... Для чаго такія нараджаюцца? Мабыць, каб уратаваць свет...

– Ах, альтруіст мой, – пачулася за яго спінай з той жа іранічнай з'едлівасцю. – Вось так заўсёды, усё для іншых, нічога для сябе.

Ірма стаяла ў дзвярах. Яна паспела пераапрануцца. На ёй была чорная са стразамі сукенка, адно плячо голае, другое закрытае – як рымская тога; туфлікі, падфарбаваныя вусны, завушніцы.

– Я проста рады, што страхі мае не апраўдаліся... Куды ты?

– Ты запрашаеш сяброў на раут без маёй згоды, у цябе ёсць справы, пра якія я не ведаю – чаму ў мяне не можа быць сваіх спраў? – павярнулася і выйшла.

Хвілін праз сорак яна пад'ехала да дванаццаціпавярховага дома. Вольнага месца не было, давялося заехаць на тратуар левай палавінай машыны. Выйшла, каб бачыць дзверы пад'езда, над якімі лямпачка асвятляла лупатае вока відэакамеры, прымацаванай збоку, пад надпісам сінім па белым: "Вядзецца відэаздымка!" Яна не спяшалася. Дастала з сумачкі цыгарэты, некалькі разоў зацягнулася, кінула акурак у траву на газон. Нарэшце з пад'езда паказалася прыгорбленая постаць Самусенкі. Як толькі ён завярнуў за вугал, дастала тэлефон. Неўзабаве спусціўся Рак, у джынсах, у сланцах на босую ногу і ў кашулі, якую ён сцягваў на грудзях і на хаду зашпільваў, падыходзячы да машыны. Ірма ступіла з паўзмроку яму насустрач.

– Дзякую, што выйшлі. Будзем знаёмы, Ірма. Мы ніколі не сустракаліся, але я ведаю вас. Завочна, канечне. Апошнім часам многа чую пра вас, чытала вашыя вершы, акрамя таго ведаю, як вы пералапачваеце рукапісы майго бяздарнага мужа. Ён лічыць мяне недалёкай, якая нават не цікавіцца інтэрнэтам, не разбіраецца ў літаратуры, але гэта не так. У літаратуры і ў кампутары я разбіраюся лепш за яго.

– Слухаю вас, – строгім, тым самым рэдакцыйным голасам, якім ад-

казваў па тэлефоне, прамовіў Рак, хаця ўся сярэдзіна ў яго па-здрадніцку трымцела.

– Прабачце, што патурбавала ў позні час. Не магла раней, чакала, пакуль пойдзе ад вас гэты стары. Не верце яму. Мой муж аблытаў яго павуціннем, цалкам падпарадкаваў сваёй волі. Давайце сядзем у машыну.

Рак паслухмяна залез. У салоне пахла парфумай.

– Слухаю вас.

– Я тут зусім адна. Мне няма да каго прытуліцца – чужыя людзі, чужая краіна. Уся надзея толькі на вас. Абяцайце мне памагчы.

– Калі гэта ў маіх сілах.

– Я цярпела, колькі магла, але больш не магу, не магу! Мой муж... Не ведаю, што ён задумаў, але мне страшна. Мяне акружае нейкая нядобрая атмасфера, нада мной згушчаюцца хмары, і ўсяго толькі справа часу, калі адбудзецца непапраўнае.

– Слухаю вас, – заклініла Рака на гэтым слуханні.

– Мой муж – ненармальны, памешаны чалавек, маньяк. Ён не можа доўга быць з адной жанчынай. Я здагадваюся, што ён мяне проста разлюбіў і хоча замяніць іншай, маладзейшай. У мяне ёсць усе падставы так думаць. Я была ўжо ў падобнай сітуацыі, толькі ў іншай ролі. У Латвіі. Там усё пачыналася цюцелька ў цюцельку, як і тут, – і там Літаў кінуўся вучыць мову, чытаў Яна Райніса, “убіраў у сябе, – як ён кажа, – чужую культуру”, знаёміўся і ўваходзіў у давер мясцовай эліце, а насамрэч – падшукваў, падбіраў для нечага людзей. Мне было тады васямнаццаць, яго ранейшай жонцы, як і мне цяпер, каля дваццаці пяці. І ён мне казаў: “ах, як ты падобная на маю жонку ў маладосці!” Скончылася тым, яго жонка знікла пры загадкавых абставінах, а я заняла яе месца.

– Усё гэта настолькі... неверагодна...

– Яшчэ як верагодна. Усё ідзе як пад капірку. Зноў на яго накатвае, як некалі ў Латвіі, зноў ён пасвіствае, задумваецца, шукае для нечага людзей, гаворыць толькі на тэму забойстваў, смяротных пакаранняў, пра нейкі востраў... Ён вам казаў пра востраў? Няма сумнення: ён шукае паўтору, каб здзейсніць тое самае, што ў Латвіі. Я знікну, а маё месца зойме чарговая “Ірма”. Перад тым, як ехаць сюды, я выпадкова падслухала яго размову па тэлефоне з вашым сябрам, гэтым старым Самусенкам. Ён ужо знайшоў мне замену, маладую дзяўчыну, і цяпер я павінна паўтарыць лёс ягонай жонкі.

– Чакайце – ёсць жа ўрэшце міліцыя, паліцыя...

– За прадчуванне не заводзяць крымінальную справу. Ды і ён абвядзе вакол пальца любую паліцыю. Вы не ўяўляеце, які ён хітры, як усё прадумвае.

Памаўчалі. У маўчанні Рак дыхаў шумна. Ён адчуваў, як праступае пад пахамі пот.

– Але нашто такія складанасці? Так адкрыта? Падрыхтоўка, збор людзей, усё навідавоку... Калі б я, дапусцім, выношваў злачынства, я рабіў бы гэта ў такой тайне, што...

– У тым і справа, што вы нармальны, а ён – не. Логіка яго перакручаная, казуістычная, ён адкрыта ўцягвае масу людзей – калі гэта спрацоўвала раней, і паспяхова спрацавала, дык нашто яму адмаўляцца ад праверанага спосабу? Ён знарок робіць гэта пры максімальнай колькасці сведкаў, адданых яму сяброў, аўтарытэтных людзей, у тым ліку і вас.

– А сэнс?

– Калі са мной нешта здарыцца, не будзеце ж вы сведчыць супраць яго.

– Ну, дапусцім. Спланаваць – так. Але як гэта можна ажыццявіць?

– Куча варыянтаў. Любы няшчасны выпадак. Тое, што я не ўмею плаваць, баюся вышыні – у нас ёсць балкон, з якога падаў рабочы, тое, што я кепска ваджу машыну, што ў мяне клаўстрафобія. Чаго варты хоць бы гэты ідыёцкі бункер у закінутым садзе. Ён кажа, што рыхтуе яго пад музей. Але дасюль там няма ніводнага экспанату. А сёння з бункерам ужо была рэпетыцыя. Ён знарок пакінуў дзверы адчыненымі, а як іх адчыніць з сярэдзіны, ведае толькі ён. Уяўляеце, калі б зайшла туды? Я б з вамі цяпер не размаўляла.

– Прабачце, але ў мяне не ўкладваецца ў галаве. Я не магу ўявіць разумнага, інтэлігентнага, багатага, творчага чалавека ў якасці...

– Дык слухайце ж! Неяк ён адкрыўся мне, што ёсць у яго брат, вялікі чыноўнік, які яго прыцясняе, што нібыта мы жывем на яго грошы, выконваем яго капрызы, куды ён скажа, туды едзем. Літаў тады кінуў слова, што пара б ужо вырвацца з яго надта моцных абдымкаў. Потым той чалавек нібыта эміграваў ва Украіну – гэта было зімой, а ў пачатку вясны ў цэнтры Кіева – забойства важнага чыноўніка. Супадзенне дзіўнае, згадзіцеся. Канечне, цяпер Літаў усяляк адпіраецца, а з іншага боку – у яго развязаны рукі, нічога яго больш не стрымлівае... выйдзем, калі ласка, я курыць хачу.

Выйшлі з машыны ў цёплую лагодную знаёмую ноч.

– Скажыце... чаму б вам проста не развесціся?

– Вы наіўны чалавек. Няўжо вы думаеце, то ён так проста мяне адпусціць? Я – адзіная сведка. Калі-небудзь я магу і перастаць маўчаць. Ды і як жыць з чалавекам, які ведае тваю нядобрую тайну? Ён зробіць усё, каб як мага хутчэй прыбраць мяне са сваёй дарогі і са свайго жыцця.

Рак набраў у грудзі паветра разам з чужым цыгарэтным дымам і пастараўся, каб прагучала як мага больш цвёрда:

– Але чаму вы выбралі мяне?

– Вы – чысты сумленны чалавек. Ні ў чым не замешаны. Да таго ж я не зусім латышка, я – латгалка, у мяне беларуская кроў, мы з вамі амаль радня. Калі са мной штосьці здарыцца...

– Дзякую за давер, – перабіў Рак, – але я – самы няўдалы выбар. Я ўсяго толькі слабы паэт, зусім непрактычны ў рэальным жыцці, некампанейскі, эгаістычны, некамунікабельны, цікаўлюся толькі літаратурай...

– Вы не проста паэт, – перабіла ўжо яна. – Вы – таленавіты паэт. У вас назіральнасць, вы ўмееце сплятаць словы ў сказы так, што вам верыш. Паслязаўтра вы будзеце на рауце. Дайце мне слова, што будзеце запамінаць усё-ўсё, кожную дэтальку, любую драбязу. Гэтым вы зможаце калі не папярэдзіць няшчасце, дык – нават калі са мной нешта здарыцца – вашы каштоўныя назіранні памогуць устанавіць ісціну і пакараць вінаватага. Абяцайце мне гэта!

Амаль супакоеная, перакінуўшы свае праблемы на чужога чалавека, яна села ў машыну і паехала, а бедны паэт стаяў, не ведаючы што і думаць. Свяціла поўня, гарэў ліхтар, і ашалелыя ад летняй ночы конікі трашчалі звонка, як цыкады на поўдні

## Частка сёмая
## РАУТ

### XIX

У нядзелю ў сем вечара таксоўка прывезла Рака да сядзібы Літавых. Гаспадары сустракалі яго каля варот; Літаў быў у белым, Ірма ў чорным, якое пасавала ёй, як і большасці жанчын чамусьці да твару колер жалобы. Рак прыехаў сюды поўны рашучасці, з цвёрдым намерам высветліць, што тут адбываецца. Пасля візіту Ірмы ён да паўночы не спаў, думаў і нарэшце вырашыў, што вінавата ва ўсім багацце, яно разбэшчвае, робячы людзей ненармальнымі. Ён чакаў, што на гэтым рауце і госці, і тым больш гаспадары будуць заціснутыя, напружаныя або наадварот – узвінчаныя; яму здавалася, само паветра тут будзе насычана падазрэннямі, недаказамі, што бледная напалоханая Ірма будзе падаваць яму знакі, а Літаў – хітрыць, адводзіць вочы, выкручвацца. Усё аказалася не так. Абсалютна натуральна яны паводзілі сябе; на твары Ірмы не было ні разгубленасці, ні страху – хутчэй цікавасць; што да Літава, той хоць і быў неяк падазрона мітуслівы, і ўсміхаўся крыху нацягнута і ад таго як бы цераз сілу, але гэта магло сысці за звычайнае хваляванне гаспадара, які прымае гасцей і хоча, каб усё прайшло як след.

– Вось госць жаданы, даўно, даўно чаканы! Я ў цябе, дарагая, украду яго на гадзінку. – Літаў падхапіў Рака пад руку. – Скажыце, вы ўжо чыталі новы нашумелы раман?..

Так, трымаючы пад руку, ён павёў Рака дарожкай, на якую звісалі белыя і барвовыя ружы, да ганка. Ірма ішла следам. Падняліся па прыступках у дом, знаёмы Раку па расказах Самусенкі. Пакуль праходзілі па вялікай доўгай гасцёўні, Рак краем вока паспяваў ухапіць карціны на сценах; многа было мэблі: крэслы, пуфы, атаманкі, але ўсё размешчана так, каб не замінала свабодна рухацца. Насустрач ім з-за часопіснага століка, заваленага ілюстраванымі альбомамі, падняліся каржакаваты мажны мужчына з вяночкам сівых валасоў вакол лысіны, і поўная, невялічкага росту бялявая кабета: кучаравыя светлыя валасы, вочы сінія, вусны тонкія – немка не немка, а можа, полька.

– Пазнаёмцеся, Хрысціян Андрэевіч Шнэйдар, амаль наш сямейны доктар, лечыць маіх малых, працуе ў ваенным шпіталі. У дзевяностыя паехаў на гістарычную радзіму, у Германію, але хутка вярнуўся, незадаволены тамашняй сістэмай навучання. Жонка яго, Ванда Вацлаваўна, пашпартыстка...

– Аддзел рэгістрацыі віз, – весела дакончыла за Літава кабета. І ў яе незабудкава-сініх вачах, і на дабрадушным, але ўважлівым твары доктара Рак прачытаў тую самую, што і ў Ірмы, цікавасць да сябе – не цікавасць людзей, якія пабачылі жывога паэта (каго цяпер здзівіш паэтам?), – яны разглядалі яго, як нейкую рэдкую заморскую жывёлінку ў заапарку. Літаў тым часам дастаў з шафы прадаўгаватую вузкую кардонную скрыначку, падобную на стары школьны пенал, і працягнуў Раку. Той запытальна падняў вочы.

– А вы адчыніце. Маленькі сувенір, для паўнаты калекцыі.

У скрыначцы, шчыльна адзін да аднаго прыціснутыя, стаялі вертыкальна сем жэтонаў на метро. Рак высыпаў іх на далонь.

– Дзе вы дасталі?

– Даў абвесткі на “Куфры” і на “Ау”.

– Навошта, гэта ж грошы, лішнія вам клопаты, – прамармытаў Рак, запіхваючы падарунак ў кішэню.

– Якая драбяза. Прашу за мною.

Ірма засталася з гасцямі, а Літаў з Ракам прайшлі навылет гасцёўню і выйшлі на тэрасу з другога боку. З-за пагорка, на якім стаяў дом, касыя промні сонца асвятлялі роўна палавіну двара і сада. Рак зноў падзівіўся, як дакладна стары ўсё апісваў: пагорак, дом, балкон, дворык. Ад дома ўніз разбягаліся дарожкі, высыпаныя аранжавым гравіем. На падстрыжаным ідэальна газоне каля сажалкі ў ценю вербаў бялелі столікі, каля якіх завіхаліся некалькі чалавек.

– Мы вырашылі арганізаваць наша маленькае свята на свежым паветры, – казаў, азіраючыся на госця, Літаў. – Думаю, так будзе зручна: барбекю, ды і проста прайсці па садзе.

Спусціліся па драўляных, у зямлі, прыступках; калі праходзілі берагам сажалкі, Рак заўважыў на паверхні некалькі чырвоных і жоўтых галаватых дэкаратыўных рыбін.

– ...Не паверыце, але форма стала мае важнае значэнне, – штохвілінна азіраючыся, не сціхаў Літаў. Ён хваляваўся, цяпер Рак бачыў гэта. – Каб застолле атрымалася прыемнай падзеяй, а не простай вячэрай, лепш адмовіцца ад ідэі прамавугольнага стала... лепшы стол не прамавугольны, які надта афіцыйна-строгі, і не круглы, нязручны для бяседы, а авальнай формы... Яшчэ папрашу звярнуць увагу на абслугу: для маленькіх кампаній трэба адзін кухар, адзін афіцыянт-адэпт – паводле правілаў невялікага раута...

Спусціліся яшчэ ніжэй, у сад, паказаўся бункер, таксама знаёмы Раку з апісанняў Самусенкі. Не даходзячы, аднак, да яго, звярнулі да невялікай альтанкі ў зацішным кутку двара. Перад ёй была пляцоўка для барбекю з грылем, каменны агмень з паглыбленнем для вогнішча, стаялі дзве скураныя, пульхныя, бы надзьмутыя паветрам, канапкі.

– Прашу, сядайце – зручная мяккая мэбля памагае расслабіцца і дае цудоўны адпачынак, – не сціхаў Літаў. – Нават у прахалодны вечар тут цёпла ад жывога агню, а дах над галавой не толькі аб’ядвае сяброў, але і ўратуе ад непагадзі і спёкі. Не ведаю, як вы, а я дык вельмі люблю гэтае месца!

Слухаючы яго балбатню, Рак спачатку адчуваў нейкае неўразуменне, потым здзіўленне, потым неспакой – як бы ён нешта забыў і ніяк не можа ўспомніць, і хочацца аглядаць сябе, лапаць па кішэнях, шукаць непарадак у адзенні. Апамятаўся ён, калі Літаў асцярожна крануў яго калена, патрабуючы ўвагі.

– ...Мястэчка, патрыярхальнае, ціхае, кот, сабака, пеўні... А людзі! Галоўнае, людзі! – Літаў памаўчаў крыху і прамовіў урачыста: – Дык вось – нават там у вас знайшліся чытачы! Лепш сказаць, чытачкі. На жаль, не ўдалося толкам пагаварыць, я толькі і паспеў пахваліцца сяброўствам з вамі, паказаў вашу кніжку...

– Ах, вунь як. Цяпер зразумела. А я падумаў...

– Што вы падумалі?

– Яна пазваніла мне адразу ў той вечар. Я падумаў, сама ўспомніла.

– Вы ведалі яе?

– Некалі даўно. Як яна жыве?

– А вось, паглядзіце.

У руцэ ў Літава з'явіўся планшэт, і ён пачаў гладзіць пальцам манітор, пракручваючы здымкі. Мільганула атуленая кустоўем рака, высокі рабы хлопец у майцы з "Пагоняю", дзяўчынка ў акулярах, у чырвонай спаднічцы, падобная на маладую Ірму. Літаў паказваў, а сам уважліва сачыў за тварам Рака.

– Што з вамі? Чаму вы такі бледны?

– Амаль не спаў ноч.

– Вось і мая Ірма. Поўня, а можа магнітыя буры.

– Мабыць, буры.

Літаў азірнуўся, памаўчаў і нарэшце загаварыў нармальным голасам, без свайго крыўляння:

– Я ведаю, вы сустракаліся з Ірмаю. Бедная жанчына! Мне не зусім прыемна такое казаць, у мяне разрываецца ад жалю сэрца, але я вымушаны быць з ёю строгім, нават жорсткім, каб не даць волю шкадаванню. Справа ў тым, што яна... не зусім здаровая. Ад рэўнасці ў чалавека часам могуць узнікнуць сур'ёзныя праблемы з псіхікай. Толькі ц-с-с! Між намі. Я проста збіраю матэрыялы, падбіраю людзей для сваёй новай мастацкай рэчы, а яна немавед што забрала сабе ў галаву. То – нібыта ў мяне нейкі высокапастаўлены брат і я нібыта вінаваты ў яго ліквідацыі, то – нібы я збіраюся яе мяняць на маладзейшую... Я знарок папрасіў вас раней прыехаць. Я вам раскажу ўсё, а вы ўжо самі зробіце выснову.

Рак аслабіў гальштук, расшпіліў верхні гузік у сарочкі, вызваліўшы востры кадык на худой шыі.

– Гэтай зімой мне давялося з'ездзіць у Варшаву – па лясных справах, наконт паточаных караедам дрэў, і заадно для вырашэння сваіх банкаўскіх замарочак. У банку сказалі, што калі разбяруцца – паведамяць. Мяне не ўзрадвала гэта, надта былі патрэбны грошы, таму вярнуўся з Варшавы з пустымі рукамі і не ў настроі, а тут яшчэ пад гарачую руку жонка. Я, каб яна адчапілася, экспромтам, на хаду выдумаў міфічнага брата – і сам не рад быў, бо потым колькі ні даказваў, што гэта выдумка, яна не верыла. А ў канцы сакавіка прыйшло з банка чаканае паведамленне, я ўскрыкнуў ад радасці, Ірма пачула, супаставіла з тым ідыёцкім забойствам у Кіеве палітыка... Вось так як яно было насамрэч. Праўда, у той вечар, калі яна вярнулася ад вас, я, здаецца, змог пераканаць яе, што ніякага брата не існуе, як і ўсё астатняе – мае выдумкі, што я проста ўвесь у працэсе стварэння мастацкага твора... Яна паверыла, прынамсі, зрабіла выгляд, што паверыла. Але хто ведае, што ў гэтай хворай беднай галаве?

Пачуліся крокі. Ірма хутка падыходзіла да альтанкі.

– Мужчынам нягожа так доўга сакрэтнічаць. Нашаму паэту сумна з табой, яго трэба яшчэ пазнаёміць...

Сваімі худымі, нечакана моцнымі, як жалезнымі, пальцамі сціскаючы за локаць, яна павяла Рака да сталоў, дзе ўжо збіраліся людзі. Рак яшчэ аддалёк пазнаў голас Самусенкі.

– Ну што, пераканаліся? – ціха спытала Ірма. – Не верце нікому. Слухайце і запамінайце. Вы абяцалі.

Рак на хаду зняў гальштук і запіхнуў у кішэню, у кампанію да пенала з жэтонамі. У гэты момант Літаў дагнаў іх, зноў падхапіў Рака пад руку і падвёў да высокага, як асвер, сухапарага, як піка, чалавека спартыўнага

целаскладу, у чорных джынсах, у белай кашулі са стаячым каўнерыкам. Чалавек гэты, трымаючы ў руцэ фужэр з вінам, уперыўся ў Рака немігаючымі вачыма. Калі Літаў пазнаёміў: "Віктар Рак – літаратар, Асавец – лесапрадпрымальнік", – ён загаварыў бубнявым голасам, паказаўшы роўныя, але крышку падпсаваныя тытунём зубы:

– Літаратура – тое, без чаго не абысціся.

– Не думаю, – даволі непрыязна сказаў Рак. Усё жыццё ён ацэньваў іншых мужчын па адным няхітрым крытэрыі: могуць яны падабацца жанчынам, ці не, і калі бачыў, што не падабаюцца, адразу адчуваў сімпатыю да такога чалавека; калі ж разумеў (невядома якім чынам), што падабаюцца, – імгненна праводзіў віртуальную мяжу паміж ім і сабою, насцярожваўся, натапырваўся, зацінаўся – а насамрэч проста зайздросціў. Асавец быў з тых, што жанчынам падабаюцца.

– Не думаю, – паўтарыў Рак. – Літаратура перажывае не лепшыя часы.

– Колькі яна існуе, столькі ж пісьменнікі сцвярджаюць пра неспрыяльныя для яе часы. Я ж лічу так: калі б адны людзі не цікавіліся, напрыклад, паэзіяй і не гатовыя былі плаціць за кніжкі грошы – другія людзі іх бы проста не пісалі. Правільна?

Рак усё гэткім жа непрыязным тонам адказаў, што ён ведае практычна кожнага са сваіх чытачоў, можа пералічыць іх ледзь не па імёнах, напярод адгадвае іх рэакцыю – "Вось і атрымліваецца, што пішаш як бы на заказ".

– Гэта ў вас прамаўляе сціпласць. Нават у цяперашнія часы, нават сярэднім пісьменнікам быць так ганарова, так прыемна! Гэта доля абраных. Я ўжо не кажу, што кожны пісьменнік, вялікім ці малым ён сябе лічыць, не ведае сваіх магчымасцяў і аднойчы, сам аб тым не здагадваючыся, можа такое напісаць!..

## XX

Вербы сваімі вузкімі, як у аліўкавых дрэў, частымі лісткамі давалі прыемны цень. Лісткі ледзь варушыліся, і на зямлі, на траве, на стале, на тварах гасцей гулялі плямкі святла. Побач з вялікім агульным сталом прыткнуўся яшчэ адзін, меншы, з мяснымі закускамі і гароднінай, каб кожны мог бачыць і заказваць, што яму падабаецца. Гаспадар з гаспадыняй селі пасярэдзіне *tête à tête*, справа ад Ірмы – Рак, леваруч – доктар Шнэйдар з жонкаю, затым Асавец; паміж Ракам і Літавым – дзед Самусенка. Цэнтральнае месца стала займаў сервіз з шкла, срэбра і парцаляны, афармлены кветкамі, садавіной і ярка-зялёнай свежай лістотай.

"Сюрту дэ табль", – шапнуў Раку Самусенка, які, пабываўшы ў Парыжы, лічыў сябе спецыялістам у французскім этыкеце.

Абрус і сурвэткі былі снежнай белаты (заўсёды баішся, каб што не к*а*пнула, не пралілося). Стаячыя сурвэткі нагадвалі востраверхую тыяру Папы Рымскага. Шкло і крышталь блішчэлі; кожная дэталь на стале – з густам, нічога груваcткага, няўклюднага, што перашкаджала б гасцям бачыць адно аднаго ці замінала б вачам або бяседзе. Празрыстыя сподачкі з жэле, з сырам, шкляныя талерачкі з саленнямі, вазачкі з салатаю былі расстаўлены ў паўторнай чарговасці. Перад кожным – талерка, відэлец, нож, лыжка; чатыры фужэры рознага калібру і пяты – для вады; сальнічка з лыжачкай і талерка з французскай булкай.

На першае быў суп, не наварысты, каб не перабіць апетыт перад іншымі

стравамі. Афіцыянт-адэпт у белых пальчатках з накінутай на руку сурвэткай падыходзіў па чарзе да кожнага і пачціва схіляўся, аб нечым пытаючы. Рак заўважыў (нібы выконваючы дадзенае Ірме слова нічога не прапускаць), якія чыстыя і мяккія ў яго туфлі. Калі ён дабраўся да Рака і ціха спытаў, якому віну, беламу ці чырвонаму, ён аддае перавагу, Рак папрасіў чырвонае, потым белае, а затым, асмялеўшы, сказаў: херас. Віно было пасля супу. Затым на талерцы з паловай варанага яйка і растопленым маслам падалі нарэзаную рыбу, за ёй – закускі ў выглядзе мясных і грыбных паштэтаў; кактэйль-салат з крэветкамі, свежай зелянінай і цытрусавымі, вяндліна з сырам, аліўкамі і арэхамі, канапкі з сёмгаю, салата з ананасамі, валаваны з чырвонай ікрой, рулецікі з цукіні і рызотаю, следам – смажанае мяса, гарнір для якога падавалі асобна на вялікім сподзе, каб госць змог выбраць колькі захоча. Пад стук нажоў і відэльцаў Рак сядзеў, не могучы ап'янець і расслабіцца нават пасля моцнага херасу. Побач Самусенка еў многа і ў ахвоту, да віна не дакранаўся, а піў залацістае віскі маленькімі, 1/3 *drink*, глыткамі. Заняты сваімі назіраннямі, Рак не адразу ўцяміў, што Літаў ужо нешта кажа, а ўсе, хоць і працягваюць адначасова выпіваць і закусваць, слухаюць.

– ...Што такое феномен сацыяльных сетак? – гаварыў Літаў. Вочы ў яго і праўда свяціліся нейкім маніякальным бляскам. – Гэта магчымасць рэалізаваць творчы патэнцыял, закладзены ў кожным ад нараджэння. Паглядзіце, колькі з'явілася ў адначас паэтаў, празаікаў, рэжысёраў, блогераў – яны ж адначасова гледачы, і чытачы, і слухачы; значыць, была такая цяга да творчасці і раней, проста не было магчымасці рэалізавацца. Адзін на тысячу, можа, прабіваўся. А цяпер плаціну прарвала, і аказалася, што кожны ў той ці іншай ступені творчы чалавек, асабліва ў нас у Беларусі...

У доктара Шнэйдара піскнуў мабільнік, і Літава аж перасмыкнула – яшчэ перад тым, як сесці за стол, ён мякка, але настойліва папрасіў адключыць гук у тэлефонах.

– Сябры мае. Я планаваў сабраць вас на прэзентацыю сваёй гістарычнай кнігі. Але, калі быць да канца шчырым, як мне тут некаторыя сказалі, яна не такая геніяльная, як мне здавалася. Я астыў да яе. Рэальнае кіно! Вось за чым будучыня. Дзеля гэтага я вас шукаў, падбіраў і нарэшце сабраў. Коратка для тых, хто не ведае... Зрэшты, каб не чытаць лекцый за нашым утульным сталом, папрашу раздаць тэкст.

Адэпт-афіцыянт імкліва і нячутна пранёсся і перад кожным паклаў аркушык паперы. Рак узяў свой і прачытаў:

"Рэальнае кіно (РК) – абсалютная адсутнасць сцэнарыя. Сцэнарый і рэальнасць несумяшчальныя. Прычым РК не копія рэальнасці. Да пачатку здымкаў выбіраецца толькі месца...

...ніякіх маральных абмежаванняў для аўтара ў працэсе здымак. Акрамя юрыдычных. Для аб'ектаў і герояў дапускаюцца ўсе, што толькі існуюць, тэхналагічныя метады: звычайная камера, кінаназіранне, прыхаваныя здымкі і інш. Этычныя пытанні вырашаюцца не на здымках, а ў працэсе мантажу фільма...

...якасць здымкаў не мае значэння: выява другасная – рэальнасць першасная. Кінастужку, студыйны гук і святло, ракурс і кампазіцыю можна ігнараваць дзеля магчымасці фіксацыі рэальных падзей...

...ніякай інсцэніроўкі і рэканструкцыі – аўтар можа правакаваць герояў на любыя дзеянні і сам можа быць актыўным удзельнікам...

...ніякіх абмежаванняў у працягласці фільма, ажно да бясконцай прамой трансляцыі...

...адмова ад паняцця тэрміна “канец фільма”. Ніякі фільм не можа быць завершаным, бо рэальнасць бясконцая. У выніку аўтар у любы момант можа ствараць новыя версіі фільма і працягваць здымкі пасля публічнага паказу...”

– Усе азнаёміўся? Вось аб чым я даўно марыў – зняць такі фільм. У Латвіі не атрымалася, а тут атрымаецца. Гэта і ёсць мая ідэя-фікс. Беларусь – краіна творчых людзей, таму і наш фільм будзе пра творчасць. Фінансавае забеспячэнне бяру на сябе. Я хачу сабраць разам прадстаўнікоў беларускамоўнай інтэлігенцыі. Я спыніўся на вас, бо ў вас ва ўсіх натуральная жывая мова, выдатнае яе адчуванне. І вось беларускамоўныя людзі проста ходзяць, пішуць, спрачаюцца, ядуць, ходзяць у прыбіральню, прымаюць душ, сядзяць за кампутарам... Ім нічога не трэба будзе рабіць, проста жыць, як у рэальным жыцці.

– Баюся памыліцца, – сказаў Асавец, – аднак, па-мойму, у гэтым накірунку сёе-тое зроблена. Такіх фільмаў процьма. “Дом-2”, напрыклад. Ці не так?

– Гледзячы як падаць. Прыкладны сцэнар мною ўжо распрацаваны. Героі – звычайныя людзі, выбраліся на пікнік, сядзяць каля ракі, натуральна – размаўляюць па-беларуску.

Тут пачынае накрапваць спачатку дробны грыбны дожджык, які не сціхае, а толькі ўзмацняецца, і вось ужо – стыхійнае бедства, патоп, людзі адрэзаныя вадой, на востраве, без сувязі, без усведамлення, што адбываецца. Тут чарада няшчасных выпадкаў... героі адзін за адным знікаюць, і становіцца зразумела, што гэта не няшчасныя выпадкі, а ўсё прадумана. Яны як павукі ў слоіку адзін аднога з’ядаюць... нарэшце застаецца адзін, самы хітры, але патоп змывае ўвесь востраў разам з уцалелым шчасліўцам, па прынцыпе – прыйшоў ляснік і адным махам з усімі разабараўся. Гэтым я хачу сказаць, што супраць прыроднай стыхіі бяссільныя ўсе хітрыкі чалавечага розуму, – патлумачыў Літаў.

– Баюся памыліцца, – зноў азваўся Асавец, – але нешта падобнае ўжо было, з дзесяццю негрыцянятамі, напрыклад.

– Я не настойваю. У мяне толькі ідэя, каб вас завесці. А сюжэт можам прыдумаць разам. Тым больш сярод нас сапраўдныя спецыялісты, людзі, абазнаныя ў творчасці.

– Што за тэма! – усклікнула Ірма. – Забойствы, злачынствы... Як пашла. Чаму нельга нешта лірычнае, светлае? Я ўвогуле не магу ўявіць абставін, пры якіх можна было б пазбавіць чалавека жыцця, нават у кіно.

– Ты камара не заб’еш, – усміхнуўся Літаў.

– А мне падабаецца, – сказаў доктар Шнэйдар. – Трэба злачынства. Мала таго – максімальна праўдападобнае. Раз ужо рэальнае кіно. Аднак я не зусім згодзен з падборам персаналу. Трэба хоць бы пачатковыя навыкі, інакш мы такога наламаем...

– Не, мілыя: менавіта прафесіяналізм, вопыт артыста будзе скоўваць. А трэба поўнае зліццё, каб ні цені сумнення: калі паэт – дык сапраўдны паэт, доктар падобны на доктара, а лесапрамыславік каб мог адрозніць асіну ад ліпы.

– А што, мога буты! – шаптаў Раку Самусенка, штурхаючы яго пад локаць. – Можа атрымацца. У нашых смеласці менш. Вунь Мулявін –

прыйшоў збоку і зрабіў. Можа, і гэтаму ўдасца ўзняць нашае занядбанае кіно на належную вышыню, – і ад гэтых яго слоў у Рака чамусьці ўсплыло ў памяці, што Мулявін звычайнае беларускае слова “чырвоная” вымаўляў праз два, нават праз тры “н”, і не паспеў ён гэта ўспомніць, як у яго само сабой зазвінела ў галаве: “Чырвон-н-ная ружа, не стой пры дарозе, чырвон-н-ная ружа, хто йдзе, той ламае-е!”

## XXI

Каля дзесяці вечара, калі сонца зусім села за пагорак, вада ў сажалцы пацямнела і адтуль пацягнула свежасцю, а лісткі вербаў зашумелі без ветру, госці перайшлі ў веранду, дзе іх чакаў столік з дэсертам. Стаяла пераднагное сутонне, амаль прыцемкі. У двары на пляцоўцы перад уваходам цьмяна свяціліся круглымі шарамі ліхтары. Кусты і дрэвы за імі выглядалі фантастычнымі прывідамі. Веранда ўся, акрамя дзвярэй і вокан, спавіта была плюшчом, таму ўсярэдзіне было прахалодна і паўзмрочна. Ірма запаліла свечкі. Іх мяккае святло (“карыснае для вачэй”, патлумачыў Літаў) адразу ўтварыла нейкую ізаляваную ўтульнасць, нешта англійскае з’явілася ў гэтым – вось калі госці збіраюцца на загараднай віле ці ў старым замку, адрэзаныя бурай ці залевай ад свету, лорды, лэдзі, абслуга, незаконна народжаныя дзеці, атрута, таямнічае забойства, інтрыгі, стары дварэцкі, які ў пэўны момант нагадвае забойцу, маладому лорду, што ён – сведка, усё ведае, усё бачыў, але згодны маўчаць за пэўны ганарар, які спатрэбіцца яму на спакойную старасць, а ўнукам – на вучобу ў Кембрыджы.

Кава і лікёр у тонкіх высокіх кілішках падаваліся разам з десертам: кандытарская выпечка, марозіва, асвяжальныя сарбеты. Асавец папрасіў дазволу закурыць. Раку таксама нясцерпна хацелася, але ён цярпеў, бо намерыўся кінуць гэтую дрэнь. Ад авальнага стала пад вербамі разам з сабой сюды прынеслі і тэму: злачынствы, забойствы, няшчасныя выпадкі. Загаварылі пра вечнае: ці бываюць сітуацыі, пры якіх можна, нават патрэбна пазбавіць чалавека жыцця? І ці можна такое апраўдаць? Гэтая тэма пацягнула за сабой яшчэ адну, таксама як свет старую – ці магчыма ідэальнае забойства? Успомнілі Калоева – яго помсту швейцарскаму дыспетчару. Прыгадалі Троцкага і Кенэдзі. Перабралі ад Джахара Дудаева з Гамсахурдзіяй да беглых алігархаў у асабняках з аховаю ў Англіі. Вырашылі: пры жаданні забіць чалавека заўсёды было лягчэй лёгкага, у любой кропцы зямнога шара і ў любы час сутак, “ці не так?”

– Наша шчасце, – сціпла ўмяшалася Ванда Вацлаваўна, – што людзі калі і жадаюць зла бліжняму, дык часцей за ўсё ў думках. Інакш усе даўно проста перабілі б адно аднаго.

– І ўсё ж, – сказаў Літаў, – ці магчыма ідэальнае злачынства? У дадзеным выпадку ідэальнае забойства?

– Немагчыма, – сказаў Асавец. – Няма ідэальных. Чым больш яно нібыта ідэальнае, тым прасцей яго раскрыць. Правільна?

– Ідэальнае забойства магчыма, – сказаў доктар Шнайдэр, асцярожна лыжачкай зачэрпваючы марозіва з крэманкі, – калі ахвяра сама падстаўляе галаву пад абух. Або калі ўсё падагнана пад як мага больш праўдападобны няшчасны выпадак. Ідэальныя злачынствы таму так і называюцца, што застаюцца тайнай, мы пра іх проста не ведаем.

– Мяне заўсёды цікавіла, – не ўнімаўся Літаў, – ці мог бы чалавек

забіць пры поўным алібі, пры абсалютнай гарантыі, што нічога яму за гэта не будзе?

Ірма пад сталом дакранулася туфлікам да нагі Рака.

– Поўнае беспакаранне! – гучна паўтарыў падпіты чырванатвары Самусенка. – Калі б надарылася такая магчымасць, не ведаю, асабіста я аднаго-двух прыкончыў бы! Але што потым? Смяротнае пакаранне або пажыццёвае зняволенне.

Ірма, грэбліва крывячы вусны, сказала:

– Фу, зноў забойствы, злачынствы!.. Такое варварства ў наш час. Доктар, хоць вы мяне падтрымайце.

– І рад бы – ды не магу, – развёў рукі Шнэйдар. – Я за смяротнае пакаранне.

– Ну-у. І неарыгінальна, і нечакана ад вас, гуманіста.

– Чаму – у смяротным пакаранні, я лічу, больш гуманізму, чым гнаіць няшчасных да канца жыцця. Іншая справа – выканаўца. Як гэта потым насіць у сабе?

– А між тым сярод нас жывуць людзі, якія прыводзяць у выкананне смяротныя прысуды...

Перакінуліся ўжо на гэтую таямнічую тэму. Як гэтыя выканаўцы ходзяць, ездзяць разам з людзьмі, як іх дзеці, жонкі? “А вы думаеце, жонкі ў курсе?” – “Упэўнены, што не; думаюць – так, у нейкай установе паперкі перабіраюць, у кампутарах пасьянс раскладваюць, у танчыкі рэжуцца, крыптавалютамі цікавяцца і ўвогуле яны вегетарыянцы, любяць класічную музыку, сабак і дзяцей”. – “Менавіта! я чуў, яны сентыментальныя, лірычныя, нават умеюць чырванець і плакаць”.

– А вы заўважылі, – усклікнуў Літаў, якога надзвычай натхняла гэтая тэма, – заўважылі, што мы ў гэты вось момант ужо калектыўна ствараем наш будучы сцэнарый! Цяпер яго можна толькі падмацаваць крымінальнымі гісторыямі, і мы прыдзем да таго, аб чым я здагадваўся.

Прапаную кожнаму расказаць якую-небудзь сваю гісторыю. Хто першы?

Літаў звяртаўся да ўсіх, але Раку падалося, што найбольш да яго аднаго. Ён сядзеў, не падымаючы галавы, толькі перасыпаў з далоні ў далонь жэтоны (ён і сам не заўважыў, калі дастаў іх з кішэні) з выглядам гульца ў казіно, якому толькі што замест чырвонага, на які былі пастаўлены ўсе грошы, выпала зэро.

– Тады хто? Доктар? Калі ласка.

– Усё маё свядомае, можна сказаць, жыццё, – пачаў Шнэйдар, – я меў заклятага сябра, свайго калегу-доктара. Прозвішча называць не буду, яно даволі вядомае. Гэты чалавек паскудзіў мне чым толькі мог. Са студэнцкіх гадоў – мы разам вучыліся – падстаўляў падножкі, пісаў кляўзы; пазней, калі лёс звёў нас на адной кафедры і мы практыкавалі ў адной бальніцы, калі – усё бывае! – пад маім скальпелем паміраў чалавек, я не ведаў, куды дзецца ад праверак, мяне вымучвалі разборкамі аж да пракуратуры ўключна. Неяк на Новы год мне выпала дзяжурства. І вось у аддзяленне чэрапна-мазгавых траўмаў паступае пасля аварыі...

– Аварыі, – паўтарыў, гледзячы перад сабой у сцяну, па якой кідаліся язычкі ад свечак, Самусенка.

– Разбіўся на машыне. Ён не мог гаварыць, але і не маўчаў, і што сама больш мяне ўразіла, гэта гукі, якія ён выдаваў: ён гучна, па-авечы мэкаў і бляяў на ўсё аддзяленне. Хацелася заціснуць вушы і ўцякаць. І вось калі

я ў аперацыйнай калупаўся ў яго галаве, выбіраў з мозга асколкі чэрапа, і ён ляжаў перада мною, такі безаабаронны, распластаны, а ў вушах стаяла яго авечае мэканне, я раптам так пашкадаваў яго, як нікога ў жыцці не шкадаваў.

– І ў вас зусім не ўзнікла думкі?.. Адзін рух скальпелем...

– Ну што вы. Помсціць і караць – не наша прэрагатыва, на гэта ёсць вышнія сілы, людзям яны такога не даручаюць. Я іншае хацеў сказаць. Я б арганізоўваў рэгулярныя экскурсіі ў бальніцы, каб людзі разумнелі і цанілі жыццё. Бо людзі часта лічаць сябе няшчаснымі толькі таму, што не ведаюць, якія яны шчаслівыя.

– Дзякую, цудоўна. Гэтую гісторыю можна выкарыстаць. А зараз хто – паэт? Не? Тады чалавек, які больш за нас усіх, разам узятых, у гэтым плавае, прафесіянал... Прашу.

– У нашых мясцінах, – занудным, крыху ў нос голасам пачаў Асавец, не міргаючы вачыма, – гэта каля Ельска, – для тых, хто не ведае, мы з шаноўным Анатолем Фядосавічам Самусенкам, як высветлілася, землякі, вельмі, вельмі прыемна! – гадоў дзесяць назад адбыўся незвычайны выпадак. Многа пра яго пісалі, калі хто не верыць – і цяпер можна адшукаць у інтэрнэце. Бацька з сынам, зацятыя браканьеры, на паляванні забілі лесніка. Не куляй, а жорстка, дзіка – прыкладамі, "затаўклі", як кажуць мясцовыя. І прыдумалі вось што – вывезці ў прыцемках цела на шашу, падалей, і кінуць, нібыта збіла яго машына. Дачакаліся вечара, паклалі цела ў багажнік, павезлі ў бок Нароўлі, ляснымі дарогамі. І тут на выездзе на шашу, на ўзлеску – даішнік з матацыклам...

– Матацыклам, – адгукнуўся зусім прыгнечаны Самусенка.

– Як ён адзін заехаў у лес, чаму спыніў незнаёмую машыну ў прыцемках, сярод дрэў і кустоў – нічым іншым нельга вытлумачыць, як тым, што лёс у яго быў такі. Бацька з сынам пераглянуліся, зноў-такі прыкл*а*дамі, як ім падалося, забілі, няшчаснага даішніка, выцягнулі з багажніка цела лесніка, з кабуры даішніка пісталет, сын стрэліў у леснікоў труп, а бацька ўклаў пісталет у нерухомую мёртвую руку даішніка. І пакінулі на ўзлессі бездыханныя целы. Разбірайцеся, як яно было, хто на каго напаў і хто ў каго страляў. Даішніка неўзабаве свае знайшлі, ён выжыў, толькі калі апрытомнеў, нічога не мог сказаць – страціў памяць. У руцэ пісталет, побач труп. Мала хто сумняваўся, што ён забойца. Была цэлая гісторыя. Разблыталі ўсё з дапамогай балістычнай экспертызы, якая паказала, што стрэл быў у мёртвае цела, да таго ж страляў ляўша – з левай рукі ўваход кулі іншы. Заставалася толькі праверыць усіх леварукіх браканьераў – ці не так? Я гэтым хачу сказаць, – закончыў Асавец, – што забіць кожны можа, а вось дзе схаваць цела? Вялікая зямля, а не схаваеш.

– Ну, вы пад усё падводзіце філасофскую аснову, – сказаў Літаў.

Тут усе, акрамя Рака, захваляваліся, ажывіліся, пачалі даваць уяўным забойцам парады, як трэба было б лепш зрабіць. "Прыпяць блізка..." – "Так, спіхнуць у раку, і хай бы несла ва Украіну, а там шукайце. Ідэальна атрымалася б".

– Хто далей? Можа, нарэшце, наш шаноўны паэт?

Рак адчуў, як сціскаецца нешта ў грудзях, не хапае паветра, хоць не было на ім гальштука, збіваецца дыханне, кружыцца галава. "Што гэта?! Дзе я?! Што ім трэба?!" – стукала ў яго скронях. "Нашто яны сабраліся тут? Чаму яны так пазіраюць на мяне?!"

– Мая чарга, – заявіла Ірма. – Пра ідэальнае забойства.

– Лепш не трэба, – крыва ўсміхнуўся Літаў. – Ты не зможаш. Не думаю, каб было камусьці цікава.

– Цяпер модна ўцякаць у Кіеў і там прасіць палітычнага прытулку. І вось, дапусцім, якогась важнага чыноўніка, дзяржаўнага мужа камусьці кроў з носу закарцела прыбраць. Што робіцца? Напрыклад, знаходзіцца кілер – чалавек з Беларусі. Ён спакойна пераходзіць украінскую мяжу, на машыне з украінскімі нумарамі за гадзіну заязджае ў Кіеў, у цэнтры горада робіць сваю справу, за гадзіну вяртаецца назад, у другую краіну – шукайце. Тым больш нікому і ў галаву не прыходзіць, што тут звычайныя сямейныя разборкі, бо ўсе разглядаюць палітычныя матывы, шукаюць фанатыка-нацыяналіста... Ды і такія рэчы цяпер хутка забываюцца, сенсацыя толькі да абеду, у лепшым выпадку дні на тры, а далей перабіваецца іншай сенсацыяй.

– Не, тут палітыка, – замармытаў Літаў. – Я рашуча бракую гэта!

– Хіба не можа такога быць? У кагосьці жалезнае алібі.

– Не, з гэтага нічога не возьмеш... Так, фантазіі, выдумкі, мары... Хто далей? Ніхто? Тады я з вашага дазволу. Таксама вядомы выпадак. На тэму падмены. Жонка з мужам паехалі на міжземнаморскі курорт, а там яго чакала маладзейшая, загрыміраваная пад жонку. Яна за мяжу патрапіла праз Украіну пад чужым прозвішчам, нідзе не засвяціўшыся. Неўзабаве паплылі на катамаране з жонкаю да блізкіх астраўкоў, вярнуліся назад, і ніхто не звярнуў увагі, што жонка за пару гадзін памаладзела на пару дзясяткаў гадоў. А дома, пасля адпачынку, муж коратка аб’явіў сябрам-знаёмым, што яна зрабіла пластыку. Пагубіла, як часта бывае, драбяза, тое, што ён падазрона часта на людзях збіваўся і называў жонку новым іменем... А тут яшчэ знайшлі аб’едзеную крабамі тапеліцу, супаставілі...

– Не сумняваюся – табе такія гісторыі павінны падабацца, – заўважыла Ірма.

Усталявалася маўчанне. Усе сціхлі, уперыліся вачыма ў Рака, нібыта іх расказы былі толькі падрыхтоўкай да таго, што ён скажа. Рак упарта маўчаў.

– Хто наступны? Вы, Зося Вацлаваўна?

Жонка доктара, міла, самую крышку шапялявячы, сказала:

– Са мной нічога такога не здаралася. Руцінная праца, пашпартны стол. Але ў студэнцкія часы ўсё ж быў адзін выпадак. Тым больш калі гаворка ідзе пра востраў – можа, згадзіцца? Неяк выехалі мы вялікай кампаніяй, дзяўчаты і хлопцы, у вандроўку на Браслаўшчыну. Там, калі хто не ведае, цэлы ланцужок вялікіх і малых астравоў і астраўкоў, некаторыя бязлюдныя, некаторыя з рыбакамі. І вось я з адным маладым чалавекам, дарэчы, тым самым Хрысціянавым сябрам-зайздроснікам, – а трэба сказаць, мой Хрысціян неверагодна раўнівы, – вось з ім мы паплылі на байдарцы, і тут, як часта бывае ў азёрнай старане, за хвіліну з маленькай хмаркі ўтварылася на паўнеба чарноцце, падняўся вецер, паляцелі маланкі, забухаў гром, усчалася залева. На наша шчасце байдарка перакулілася каля астраўка, на які мы выплылі, а там недалёка ад берага паміж дрэў закінуты будан. Канец света, цемра, трашчаць і гнуцца дрэвы, маланкі, з неба сцяной вада! – а нам цёпла і суха, і нават утульна. Мы ні аб чым не гаварылі, проста сядзелі і радаваліся, што жывыя. Як усё раптоўна пачалося, так і скончылася. Праз гадзіну ўжо свяціла сонца. Мы выбраліся на свет белы і ўбачылі, што да

вострава нясецца Хрысціян на маторнай лодцы. Каля берага саскочыў у ваду, зачапіўся за нейкія донкі, пачаў выдзіраць з нагі кручкі, кроў сочыцца... Што тут пачалося! Хрысціян быў упэўнены, што мы знарок спланавалі, каб пабыць гадзінку адным. Мы даказваем, мы апраўдваемся, ён ужо амаль верыць... І тут з будана паказваецца ўскудлачаны рыбак. Ён увесь час быў з намі, толькі баяўся абзывацца, сядзеў цішком у цёмным кутку.

Доктар Шнэйдар прыўзняўся і пацалаваў жонцы руку:

– Твае гісторыі заўсёды нічым не канчаюцца. А дзе абяцаны крымінал?

– А калі б рыбак пачаў шантажыраваць? – збянтэжана апраўдвалася Зося Вацлаваўна. – Напрыклад, захацеў бы грошай, бо інакш раскажа майму жаніху, што ў шалашы сёе-тое адбылося?

– Вельмі павучальная гісторыя, – падвёў рысу Літаў. – Усё тайнае рана ці позна стане яўным, а калі душа чыстая, няма чаго баяцца.

– То быў першы і, на шчасце, адзіны "крымінальны" выпадак у маім жыцці.

Галасы даносіліся да Рака як праз шкло. Ён быў бледны і зусім цвярозы. Ён ужо ўсё разумеў. Ён цвёрда ведаў, што ўсе гэтыя людзі заадно і тут змова, што ніхто ніякага кіно здымаць не збіраецца, што ўсё спектакль, хлусня. Ён ужо не сумняваўся, што нездарма паўгода назад пачаў хадзіць да яго Самусенка, не проста так узнік Літаў з сваёй рэдактурай, зусім не выпадковы быў званок Лены Міхайлоўскай, і пазаўчарашні прыход Ірмы, і сённяшні раут, і гэтыя гісторыі – усё было некім загадзя прадумана, спланавана, адрэжысіравана, і самае галоўнае – усё гэта дзеля яго аднаго, беднага Рака. З неверагоднай, выпуклай яснасцю яму раптам убачылася падабенства гэтых людзей да шахматных фігур: белы Літаў і чорная Ірма – кароль з каралевай, прыземістая квадратная ладдзя – Самусенка, сутулы конь – доктар Шнэйдар, яго жонка – актыўная крайняя пешка, сухапары даўгалыгі Асавец – баявы афіцэр; і ўсе яны наступаюць, заганяюць яго – адзінокага, без войска караля – у кут, абступаюць, заціскаюць, аблытваюць хітраспляценнем прыхаваных ходаў, пешачных выпадаў, перамяшчэннямі коней, дыяганалямі афіцэраў-сланоў, – а таму, калі ў верандзе з'явіўся рабы кірпаты хлопец у шортах і ў белай майцы з "Пагоняй" (як высветлілася, сын Шнэйдараў) і пачаў паказваць з фотаапарата здымкі – чамусьці толькі аднаму Раку: мільганула рака, паром, тая самая дзяўчынка, што і ў Літава на планшэце, – у Рака памуцілася ў вачах. Не магло быць сумнення, што гэта працяг разбуральнай атакі на яго, што ішло нарошчванне сіл, іх узмацненне, падрыхтоўка да стадыі эндшпіля, і не хапала толькі двух-трох апошніх ходаў, каб змясці яго з дошкі на падлогу, знішчыць, пагубіць.

Аднаго ён толькі не разумеў – навошта? Якая ў іх мэта? Што можна з яго ўзяць? Каму ён мог перайсці дарогу – слабы, бяскрыўдны, беларускамоўны паэт?!

## XXII

У той жа дзень, пасля абеду, Лю выехала маршруткаю з мястэчка. Ужо ў Мазыры пачаліся прыгоды. Нейкая бабуля даручыла ёй дзяцей, хлопчыка і дзяўчынку, каб яна прыглядала за імі да Парычаў, дзе іх сустрэнуць. Яна нават крыху заганарылася. У маршрутцы поўна дарослых, а такую справу даручаюць ёй. Значыць, яе абаяльнасць па-ранейшаму выклікае давер. Дзеці памясціліся абое на адно сядзенне побач з ёю і адразу ж прыліплі

тварамі да вакна, плюшчылі аб шыбку насы; іх цікавіла сіняе неба, белыя аблокі на ім, зялёныя купкі дрэў уздоўж шашы, жоўтае поле, якое пачалі жаць, і камбайны пакідалі за сабой салому ў вялізных скрутках-цюках; да таго ж яшчэ і кіроўца патрапіўся аматар прыроды – калі дагналі бусла, які спакойна ішоў па ўзбочыне, ён прыпыніўся і паехаў марудна побач, каб даць пасажырам магчымасць паглядзець і сфоткаць яго. У Парычах дзяцей забралі маладыя маці з бацькам, дзякавалі ёй, далі груш. На вызваленае месца сеў высокі хлопец з кірпатым носам, з рабаціннем на твары, у чорнай майцы з “Пагоняю”. Яна, як і ўсім мужчынам, машынальна ўсміхнулася яму, а ён пачырванеў, калі ногі іх выпадкова судакрануліся. Лю бачыла, як ён збіраецца з духам, хоча і не можа вымучыць тыя некалькі патрэбных для знаёмства слоў. Але не спяшалася яму памагаць. Справа была ў “Пагоні”. Яна нічога не мела супраць гэтага гістарычнага сімвалу, але яе заўсёды не тое што насцярожвала, а проста адштурхоўвала любая рэч, якая робіцца ў вузкім коле абраных, амаль падпольна, непазбежна ператвараючыся ў секту. Для таго, каб любіць родную мову, зусім неабавязкова збірацца разам. Яна дастала і ўсунула ў вушы навушнікі. У Бабруйску дзед з палачкай з задняга сядзення папрасіў: “Унучка, купі мне чыпсаў і піва”. Яна крыху збянтэжылася і перапытала: “Чыпсаў і піва?” – і адразу ж дзве думкі: першая – ёй не дадуць, а другая – гэты дзед нагадаў ёй мэту яе паездкі. Не паспела яна разабрацца ў гэтым, як хлопец прыйшоў на дапамогу. “Давайце я куплю”. Яна выйшла разам з ім.

– Табе без пашпарта могуць не даць, – прыхільна сказаў ён.

– Так, мне не даюць ні піва, ні цыгарэт. А адкуль вы ведаеце?

– Я пра цябе многа чаго ведаю.

– Адкуль?

Ён паказаў смартфон.

– У мяне стаіць *FindFace*. Можна знайсці любога чалавека па фотцы. Пры той умове, канечне, што ён зарэгістраваны ў сацсетках.

– І гэта законна? А калі чалавек не хоча, каб яго такім чынам знаходзілі? Не думаю, што гэтая праграма доўга праіснуе. Хутчэй за ўсё яе забароняць.

– Ты да каго едзеш? – змяніў ён тэму.

Гэтае простае пытанне паставіла яе ў тупік. Упершыню яна зразумела, у якія ўмовы патрапляе ад самага пачатку свайго дарослага жыцця. Да яе раптам дайшло, што ў свеце няма ніводнага чалавека, якому яна магла б вось так адразу, не схлусіўшы, шчыра сказаць, куды менавіта едзе.

– Вучыцца?

– Не, не вучыцца, – гледзячы праз акуляры яму ў вочы, сказала яна. – Бачыце, тут такая справа. Мая маці сабралася замуж. За майго будучага айчыма. А я блытаюся ў іх пад нагамі. Яны не ведаюць, куды мяне сплавіць. І вось мой сябар, старэйшы, ці то бандыт, ці то кілер, ва Украіне ваяваў, ён прыдумаў такую штуку. У Мінску жыве дзед, у чатырох пакоях, вось я да яго і еду. Потым з сябрам будзем чакаць, калі ён натуральным чынам вызваліць кватэру. А не атрымаецца – ёсць яшчэ адзін, вельмі багаты чалавек, праўда, жанаты, але кажа, што я падобная на яго жонку, дык вось я яе яму замяню пры выпадку.

Ён нічога не зразумеў.

– Жартую, – сказала яна. – Я еду да знаёмых, сапраўды буду вучыцца на журфаку. Акрамя таго ў мяне ёсць бацька, праўда, жыве асобна, але гэта нічога не значыць, я спадзяюся, што калі-небудзь ён вернецца.

У маршрутцы, калі хлопец панёс дзеду піва, яна хутка глянула ў смартфоне, хто заходзіў на яе старонку, і калі ён вярнуўся, спытала:

– Вы немец?

– Беларускі.

– Не казахстанскі? Не хочаце павучыць мяне нямецкай мове?

І замоўкла. Ён яшчэ паспрабаваў зацікавіць яе расповедамі пра паромы, але ёй стала невыносна сумна з ім, і яна адгарадзілася ад яго навушнікамі. У Мінск прыехалі каля сямі вечара. Нешта не тое пачалося адразу на вакзале. Тэлефон Свянцецкай не адказваў. Яна тралейбусам паехала да іх. Добра, сумка на калёсіках не замінала, была лёгкая і зручная. Пастаяла каля дзвярэй, націскаючы на званок. Нікога не было дома, ці проста не не хацелі адчыняць. А калі яна выйшла з пад’езда і пайшла па сцежцы дворыка, коцячы за сабой сумку, і азірнулася, ёй падалося, што ў вакне, побач з вазонамі на падаконніку, тырчаць два жаночыя твары – як тыя дзеці ў маршрутцы, прыліплі насамі да шыбіны. Ёй стала сорамна за іх і адразу за тым – чамусьці весела. Яна ўявіла, як праз год яна пад’едзе да гэтага дома ў машыне Літава, разадзетая мінская лэдзі, і сяброўка сама выбежыць з пад’езда і будзе ўпрошваць, ледзь не на каленях стоячы, каб яна зайшла хоць на хвілінку і тым ашчаслівіла іх. А пакуль прысела на лаўку каля дзіцячай пляцоўкі.

Дворык быў пусты. Дзве бярозы, рабіна. Арэлі. Пясочніца з чырвоным вядзерцам. Заваёва правінцыялкаю Мінска. Куды падацца? Крыўда была яшчэ і ў тым, што яна па-сапраўднаму любіла Мінск, не за хвалёную чысціню – не такі ўжо ён і чысты, а за тое, што тут у людзей добрыя твары. Адчуванне, нібы зноў патрапіла за мяжу. Няўжо такія добрыя людзі не пацiснуцца ўсяго на аднаго чалавечка? – кожны раз думала яна.

Трэба было нешта рабіць. Яна перабрала спіс кантактаў у смартфоне. Хацела пазваніць маці, успомніла радасць на яе твары і перадумала. Набраць сябра і даведацца адрас дзеда? Ці пазваніць... Літаву? – усміхнуўшыся, падумала яна. Яна дастала з заплечніка кнігу “Чаромхавы чад”, дзе ляжала візітоўка Літава. Паглядзела на партрэт аўтара. А можа?..

Калі позна, за дванаццаць ночы, да дома пад’ехала таксоўка і з яе выбраўся Рак, у святле фараў ён убачыў на лаўцы каля пад’езда дзяўчынку, якая неяк уладкавалася паміж заплечнікам і сумкай і, відаць, драмала. Яна закрыла далонню вочы. Пазяхнуўшы, устала з лавачкі – і Рак пазнаў тую самую дзяўчынку, якую ўвесь вечар паказвалі яму.

– А я вас чакаю, – паўсонна, мякка прамурлыкала яна. – Я вас ведаю. Вы – той самы славуты паэт, – махнула перад яго носам кніжкаю. – Я зусім выпадкова апынулася ў вашым двары і падумала, што гэта знак... я набірала вас і ў кватэру званіла таксама...

Самусенка, які ехаў разам з Ракам, бо ім было па дарозе, і які стаў міжвольным сведкам, таксама вылез з машыны, прыгледзеўся і сказаў не так Раку, як самому сабе:

– Дык ты не маніў пра дачку? Рэспект і павага!

Лю кінула на яго хуткі пагляд. “Яшчэ адзін”, – падумала яна.

– Эх, мне б такую кватарантку!

Рак між тым стаяў ні жывы, ні мёртвы. Ён не сумняваўся, што з’яўленне дзяўчынкі – працяг атакі на яго, чарговы ход, можа быць, адзін з апошніх – калі прахадная пешка вось-вось дасягне апошняй клеткі і ператворыцца ў каралеву.

– Мне няма куды ісці, – сказала яна, звяртаючыся да іх абодвух. – Не, мне ёсць дзе спыніцца, ёсць сваякі, знаёмыя... Мне ўсяго на адну ноч...

– Дык да мяне! – сказаў стары. – Сто метраў адсюль. Вунь цераз вуліцу!

Але тут Рак апамятаўся. Такі шанц ён не павінен выпускаць. Рашуча ўзяў яе за руку:

– У мяне ёсць месца.

У адказ яна зусім па-свойску пацягнулася, абхапіла мяккімі рукамі і пацалавала яго цёплымі вуснамі.

– А то б да мяне, – сказаў Самусенка з надзеяй. – У любы час дня і ночы. Ласкава просымо.

У светлым ліфце Рак разгледзеў яе як след. Яму падалося, што час перанёсся назад і перад ім Лена Міхайлоўская, толькі яшчэ больш памаладзелая. Яны зайшлі ў кватэру. Ён зашчоўкнуў верхні замок, зачыніў на тры павароты ніжні, паклаў у кішэню ключ і павярнуўся да нязванай госці.

## Частка восьмая

## ГРЫНЕВІЧ

### XXIII

Роўна праз тыдзень каля цаглянага дванаццаціпавярховага дома спынілася машына. З яе выйшаў чалавек – сярэдняга веку, сярэдняга росту, звычайнай знешнасці, у джынсах, кашулі, красоўках. Сівыя, жорсткія з адлівам кароткія валасы. Белыя сухія вусы. Вочы – вадзяністыя, жалудовага колеру, прыгожыя і разам з тым непрыемна пільныя: у такія доўга не паглядзіш, калі сумленне нячыстае. Ён закінуў на плячо лямку рукзака і, ледзь накульгваючы, падаўся да пад'езда. Было каля васьмі вечара. Каля дзвярэй стаяў грузавік-фургон. Дзверы былі адчынены і падпёрты цаглінаю. Нехта пераязджаў ці ўсяляўся. Грузчыкі культурна занялі толькі грузавы ліфт, пасажырскі быў вольны. Чалавек падняўся на шосты паверх, дзверы ліфта расчыніліся, і ён нос у нос сутыкнуўся з мужчынам у шортах, у белай сарочцы навыпуск. Каржакаваты, медзведзяваты. Твар непаголены, пакамечаны.

– А я вас бачыў з лоджыі, – сказаў ён, стараючыся ўсміхацца ўсмешкай прыветнага гаспадара, але вочы – пукатыя, як у рака, змучаныя бяссонніцай, выдавалі яго трывогу. – Цёмна-сіняе пежо, так? Будзем знаёмы. Віктар Рак – псеўданім.

Рука ў яго нечакана аказалася моцнай, учэпістай. Чалавек з рукзаком на плячы рассунуў ва ўсмешцы свае белыя вусы.

– Раман Грыневіч, сапраўднае прозвішча. Дык вось вы які. Я вас інакшым уяўляў. А вы проста мацак. – Грыневіч працягваў уважліва яго разглядаць. – Акрамя таго, у вас моцныя нервы і жалезная вытрымка. Патрапіць у такую сітуацыю! Любы на вашым месцы Мінск перавярнуў бы.

– Гэта здаецца, паверце! Каб не званок ад вас... Не перадаць, як я ўдзячны, што вы пазванілі і прыехалі. Я быў у адчаі.

– Не хвалюйцеся. Я ўпэўнены – нічога страшнага пакуль не здарылася.

– Веру. Вы адным выглядам унушаеце супакой. Дарэчы, а вось вас я прыблізна такім і ўяўляў. Нават здагадваўся, што вы накульгваеце.

– Чаму?

– Вы, калі мне пазванілі, спыталі, ці працуе ліфт. З нагой гэта, выбачаюся, па службе?

– Не, на паляванні. Спатыкнуўся. Аднак – мы так і будзем стаяць каля ліфта?

– Ой, што ж я... ад радасці зусім... праходзьце! Вы мой збавіцель, выратавальнік, – па дарозе ад ліфта да кватэры ўзбуджана казаў Рак. – Проста гара з плеч... А я месца сабе не знаходжу, галава кругам, упершыню з такім сутыкаюся, – усё гаварыў, прапускаючы госця ў кватэру і заходзячы следам. – Сюды, калі ласка... у мяне вялікая лоджыя, у цёплую пару года лішні пакой...

У кватэры, калі прайшлі на і праўда шырокую лоджыю і селі: госць у крэсла, гаспадар – у другое насупраць, перад столікам, на якім была падрыхтаваная закуска: вяндліна, лустачкі белага хлеба, чорная ікра ў сярэбранай вазачцы, белы і жоўты сыр, бутэлька віна і сярод гэтай сервіроўкі даволі нечакана – звычайная вясковая на дзвесці пяцьдзясят грамаў гранёная шклянка.

– У знак падзякі, што прыехалі...

Грыневіч з цікавасцю аглядаўся.

– Гарбата, кава? – спытаў Рак. – Мацнейшае не прапаноўваю, вы за рулём.

Грыневіч дастаў з заплечніка тэрмас.

– У мяне ўсё маё з сабой – зёлкі, адвар.

– Тады, з вашага дазволу, – Рак хутка наліў паўшклянкі віна, выпіў і разваліўся ў крэсле. – Прашу прабачэння, – сказаў ён, выдыхнуўшы, – што так разглядаю вас – ні разу ў жыцці не бачыў жывога прыватнага дэтэктыва.

– Ну, які я прыватны дэтэктыў. Хутчэй – сямейны псіхолаг. У нас у Беларусі і тэрміну такога няма. У сваіх аб'явах мы даем расплывістыя фармулёўкі кшталту: спецыяліст па выяўленні і вывучэнні прычын і ўмоў узнікнення канфліктных сітуацый... Дарэчы, вось дакумент, каб не...

Рак узяў паперчыну з вадзянымі знакамі і з пячаткай унізе, прачытаў: “Пасведчанне дзяржаўнай рэгістрацыі на правядзенне расследванняў і забеспячэнне бяспекі, аказанне інфармацыйных паслуг сацыяльнай скіраванасці”.

– Сапраўды, сухавата, – сказаў ён, вяртаючы паперу. – А вось мне, як і большасці звычайных людзей, пры слове “дэтэктыў” уяўляецца суб'ект у доўгім плашчы, у капелюшы, цёмных акулярах, з люлькай ці з цыгарэтай у зубах, пісталетам за поясам, з пашпартамі ўсіх краін свету ў кішэні – і абавязкова з якой-небудзь дзіўнай звычкай.

– І цяпер вы расчараваліся? – дагаварыў з усмешкай Грыневіч. – Так, літаратурна-кінематаграфічны вобраз дэтэктыва далёкі ад арыгінала. Часы Мэгрэ, Каломба, Холмса і Пуаро ў адным флаконе, на жаль, даўно прайшлі.

– Аднак я проста ўпэўнены, што нават і без арэолу кніжнай рамантыкі вашая праца цікавая і захапляльная.

– Я б не сказаў. Звычайная. Усё празаічна.

І Грыневіч цярпліва патлумачыў, што займаюцца яны выяўленнем фактаў здрады мужа жонцы і наадварот, правяраюць алібі, шукаюць украдзеныя аўто, аказваюць садзеянне ў праверцы біяграфічных і пашпартных дадзеных; хто ў пошуках інфармацыі маніторыць сацыяльныя сеткі і інтэрнэт, хто пасылае афіцыйныя запыты ў дзяржорганы, а львіная доля працы – “у полі”, банальна сачыць за аб'ектам і фіксаваць яго сустрэчы –

прычым яны абмежаваныя ў выбары сродкаў, ніякіх там “жучкоў” і маячкоў, ніякіх узломаў сацыяльных сетак і паштовых скрынак. Яны не могуць праслухоўваць тэлефонныя размовы па сотавай сувязі – на гэта трэба адпаведныя санкцыі. І права на нашэнне зброі ў іх няма.

– Наша зброя – фотаапарат і дыктафон. Ды і то: здымаць і запісваць можна толькі са згоды “аб’екта”.

Рак спытаў, ці праўда, што да іх на працу бяруць толькі былых супрацоўнікаў праваахоўчых органаў. Грыневіч адказаў, што асабіста ён – былы следчы, падпалкоўнік, але з ім у камандзе працуюць і юрысты, і эканамісты, і псіхолагі; так што каб быць добрым дэтэктывам, неабавязкова мець паношаны кіцель у гардэробе, галоўнае быць лёгкім на пад’ём, ведаць законы, хутка арыентавацца ў сітуацыі, быць прыемным суразмоўцам і валодаць акторскім талентам.

– Нават так?

Грыневіч ветліва пачакаў, ці будуць яшчэ пытанні, і калі яны не прагучалі, зрабіўся сур’ёзным.

– Аднак да справы. Вы сказалі па тэлефоне, што патрапілі ў неверагодную сітуацыю...

– Горш не прыдумаеш! Усе зніклі, хто быў са мной. Раптоўна, у адзін міг, з суботы па сёння. Усе тэлефоны маўчаць. Я проста апынуўся ў нейкай дурной пустаце; адчуваю, што адзін не змагу разабрацца, і калі тэрмінова не падзялюся з кім-небудзь, у мяне проста здадуць нервы, разнясе галаву... Але з кім? не з міліцыяй жа!

– Вам не пазайздросціш. Зрэшты, як і мне. Я ведаю пра гэта яшчэ менш, чым вы. Тыдзень назад да мяне звярнулася Ірма Айгараўна. Была надта ўстрывожаная, напалоханая, гаварыла загадкамі, блытана; папярэдзіла, што яны з мужам пакуль не грамадзяне Беларусі, яна не можа звярнуцца ў афіцыйныя органы, да таго ж усё ў яе на ўзроўні здагадак, прадчуванняў; сказала, што яе муж замешаны ў нейкім палітычным забойстве, ледзь не міжнародным, што яе жыццю пагражае небяспека; расказвала пра нейкага выкладчыка, нейкага доктара, пра нейкі бункер, пра тое, што нібыта муж хоча памяняць яе на маладзейшую. Наказала, калі з ёю што здарыцца, мець сувязь толькі з вамі, верыць толькі вам і звязвацца з вамі, і што вы ўсё растлумачыце. Калі яе тэлефон перастаў адказваць, я і набраў вас.

– Мы абодва ведаем няшмат.

– Тут яшчэ такая справа... Я меў неасцярожнасць узяць задатак, даволі значную па тутэйшых мерках суму. Цяпер справа гонару давесці ўсё да канца. З вашай дапамогай, канечне. Дзве галавы лепш чым адна, удвух мы гэты рэбус разгадаем.

– Я да вашых паслуг. Што вас цікавіць?

– Усё. – Грыневіч дастаў дыктафон. – Я хачу, каб вы расказалі мне ўсё, што здарылася перад гэтым масавым знікненнем. Як вы выйшлі на Літавых, колькі было людзей, пра што гаварылі... І як мага больш падрабязна.

Тут Рак пасміхнуўся неяк урачыста, задаволены, што можа памагчы чалавеку.

– Можна спрасціць задачу, – сказаў ён. – Хачу прапанаваць вам нешта больш грунтоўнае. Наша будучая гутарка ўжо запісана. Вось тут, у ноўтбуку.

Жалудовыя вочы Грыневіча бліснулі прагнай радасцю.

– Вы жартуеце?

– Нікольні.

– Неверагодна! Я так і ведаў, што будзе нешта незвычайнае! Як прыемна мець з вамі справу! Цяпер разумею, чаму яна звярнулася менавіта да вас. Можна глянуць?

– Для таго пісалася.

Рак уключыў ноўтбук, адкрыў файл. Грыневіч упіўся вачамі ў манітор.

– Як мне пашанцавала з вамі! Прызнаюся, не чакаў, нават падумаць пра такое не мог!

– Не расчаруйцеся.

Грыневіч хутка гартаў тэкст мышшу.

– Ды многа, ды падрабязна, ды з апісаннямі, дыялогамі... Калі ж вы паспелі?

– А я пачаў рабіць запісы яшчэ зімой, як толькі пачаў хадзіць да мяне Самусенка. А за апошні тыдзень проста звёў у адно. Крышку не скончыў...

– Я маю на ўвазе, як вам увогуле гэта прыйшло ў галаву?

– Прадчуванне. Здагадваўся, што рана ці позна знойдзецца чалавек, якога гэта можа зацікавіць. І вось, спадзяюся, мая сціплая спроба паможа...

– Як спроба? – адарваўся ад манітора Грыневіч. – Наколькі я ведаю, вы і без таго творчы чалавек, даволі вядомы паэт.

– Менавіта паэт! Але ў прозе дэбютант. Даўно збіраўся паспрабаваць сілы ў гэтым жанры. Бачыце, мы, паэты, мала запатрабаваны – ну, падумаеш, напісаў пра траўку-кветачкі, у лепшым выпадку гэта можа паўплываць на настрой. А тут такая нагода – жывы рэальны сюжэт! Грэх было не пакарыстацца. Да таго ж веданне, што цябе будуць чытаць не на канапе, не ў метро па рыдэры, не крытыкі, якія па службе чытаць абавязаны, а людзі, якія не прапусцяць ніводнай дэталькі!

– Аднак як вы пісалі?

– З натуры. Амаль усіх герояў я ведаю, бачыў, размаўляў з імі, так што з партрэтамі, характарыстыкамі, рэплікамі праблем не было. Прозвішчы сапраўдныя, выпадкі ўзяты з іх уласных расказаў. Да ўсяго астатняга дапаў інтуіцыяй.

– Дык інтуіцыя і ёсць самае галоўнае! Але ж гэта неверагодна цяжка.

– Не паверыце – лягчэй, чым пратакол. Я спрабаваў пісаць суха, дакументальна – нічога не атрымалася. Давялося ажыўляць герояў у меру сваіх здольнасцей...

Грыневіч адначасова слухаў і чытаў. Колца мышы так і бегала пад яго ўказальным пальцам.

– Гэта што ж, атрымліваецца як бы... дэтэктыў?

– Не думаю. Хаця ў цэлым вы маеце рацыю. У следчага і ў аўтара дэтэктываў адна задача – з дэталяў сабраць агульнае. Але, па-першае, у маім тэксце невядомы не толькі злачынца, а і ахвяра, па-другое – я многа думаў і прыйшоў да высновы, што дэтэктыў – стары добры традыцыйны класічны дэтэктыў, дзе ўсё пабудавана на хітрым злачынстве і непазбежным пакаранні, немагчымы ў нашых цяперашніх варунках. У лепшым выпадку ён будзе ўспрыняты як парадокс, у горшым – як нацягнутасць.

– Патлумачце, калі ласка.

– У нас настолькі малаверагодны – не крыўдуйце! – справядлівы следчы, яшчэ менш – непадкупны незалежны суд, што чытач міжволі будзе на баку злачынцы. Уменне выкруціцца, выслізнуць, абысці закон у нас хутчэй будзе лічыцца подзвігам, чым злачынствам.

Грыневіч тым часам паспеў прагартаць тэкст да канца і вярнуцца ў пачатак.

– А ведаеце, – сказаў ён задумліва, – вы падказалі мне адну цікавую рэч. Вось не магу зразумець – можа вы растлумачыце? – як, калі, чаму так атрымалася, што ў нас пісьменнікі з самых паважаных у грамадстве людзей ператварыліся ў ледзь не самых пагарджаных? Чаму іх так шпыняе ўласная дзяржава?

Рак пацiснуў плячамі.

– Не думаю, каб пісьменнікі надта з-за гэтага перажывалі.

– Не скажыце. Быць запатрабаваным сваёй дзяржавай, сваім народам – што можа быць лепш?

– Нешта не разумею я вас.

– Калі б мая воля, я паставіў бы таленавітых пісьменнікаў на афіцыйную службу дзяржаве. Я б даручаў ім самыя заблытаныя, даўнія, глухія справы, даваў бы ў іх распараджэнні ўсе матэрыялы – і хай бы яны пісалі на аснове гэтага мастацкі твор! І такім чынам, ажыўляючы людзей, абставіны, сітуацыю, праз дэталі выводзілі б на разгадку. Не атрымаецца – нічога страшнага, затое калі атрымаецца!..

– У вашай задумцы ёсць істотны мінус, – заўважыў Рак – Дзе такіх знайсці? Далёка не кожны захоча пісаць на замову.

– А вось я ўпэўнены, што кожны творца аб такім можа толькі марыць. Увесьчасная запатрабаванасць, імгненны плён, практычная аддача; у яго не будзе балець галава пра грошы, перад ім больш не стане пытанне: для каго я пішу? – бо кожнае яго слова будзе разглядацца ўдзячнымі чытачамі пад лупу.

– Ды яшчэ на такія тэмы...

– Добра. Тады як вам такая тэма? Вы ведаеце, колькі людзей знікае штогод у адной толькі Беларусі?

– Паняцця не маю.

– Каля дванаццаці тысяч чалавек! Афіцыйна. Уяўляеце, колькі неафіцыйна?

– І дзе яны дзяюцца?

– Па-рознаму. Часцей за ўсё з’язджаюць у іншы горад, парваўшы ўсе кантакты са сваякамі і знаёмымі. Бывае, выкрадаюць у рабства і ўтрымліваюць сілаю, бывае, што робяцца ахвярамі злачынства, бывае, хтосьці проста пайшоў у лес і загінуў там. Нярэдка чалавека, напрыклад, збівае машына, і ён страчвае памяць.

– І што?

– А тое, што на сёння ў Беларусі ў вышуку каля двух з паловай тысяч чалавек. Некаторыя зніклі пяць, дзесяць і нават дваццаць гадоў назад. Хутчэй за ўсё многія з гэтага спісу ўжо нежывыя. Але пакуль цела не знойдзена, справу закрываць нельга, і іх шукаюць. Самымі рознымі спосабамі. У тым ліку пры дапамозе тэлепатаў, парапсіхолагаў, экстрасенсаў. Вам даводзілася бачыць па тэлевізары, як цэлы штат прафесіяналаў, сівыя следчыя ў мундзірах, пакорліва прызнаюцца ва ўласным бяссіллі і аддаюцца на волю стопрацэнтных шарлатанаў? Я дык не магу без сораму глядзець, як розныя прайдзісветы водзяць рукамі над свечкаю ці над люстраным шарам, а ў саміх вочы скошаныя ад страху, што іх вось-вось выкрыюць, – але чаму разумныя людзі цягнуцца да іх, выдатна ведаючы,

што гэта нахабы, клікушы і бессаромнікі? Бо яны абяцаюць! І такой драбязы, аказваецца, дастаткова. Цяперашняму чалавеку многа не трэба: добрае слова, падтрымка, абяцанне на хэпі-энд.

Асабіста я ўсё жыццё стаўлюся да эзатэрыкі з агідаю, ніколі ні ў якую замагільную, незямную звышсілу катэгарычна не веру – а вось у творчасць веру. Толькі яна бачыцца мне самай вышняй праявай неспазнанага. Дык вось, вяртаючыся да ідэі – я б заказваў пісьменнікам творы, якія давалі б сваякам зніклых надзею! І яны за адно гэта будуць плаціць любыя грошы. Гэта ж залатое дно!

– Дно – так, але ці залатое? – пасміхнуўся Рак.

– Вы мне паверце. Я ўжо бачу, што ў вас атрымалася б. Вы проста чытаеце чужыя думкі, у прыватнасці мае. Менавіта такімі словамі я і хацеў, каб пачыналася: “У пятніцу ўвечары сямнаццатага ліпеня...”

–Не-не! – усклікнуў Рак. – Калі ласка, не трэба пры мне! Я не змагу... З гадамі так і не прывык... Давайце я выйду, а вы маякніце мне на тэлефон, калі дачытаеце.

– Дзякую за давер.

– Каму ж давяраць, як не вам?

## XXIV

Чародка маладых ясеняў, на адных гірлянды сямян, якія аж гнуць галінкі, на другіх – ніводнага. Манчжурскі арэх – перыстыя, як у рабіны, лісткі, толькі разоў у пяць большыя. Нагрэтая за дзень драўляная нефарбаваная лавачка. Верхавы вецер варушыць лісце бяроз і вербаў. Але асабліва рытмічны шум у асін. Калі заплюшчыць вочы – ілюзія шуму мора. Лес, дрэвы і ёсць кампенсацыя нам за адсутнасць мора.

Неба выпуклае, як кропля, усярэдзіне сіняя, па баках светлая. Некалі трэба было даказваць, што зямля круглая, гэта ж так відавочна. Аблокі марудна па плывуць небе, як ільдзіны па блакітнай вадзе. Дзве жаўтлявыя івалгі ў кроне асіны над галавой спяваюць адна адной, ці то спаборнічаюць, якая лепш.

Жыць ахвота! Вось і будзеш жыць – кветкаю, коранем бярозы, травой, пяском, воблакам. Калі пашэнціць, івалгай. А вось жыць адным днём – сумніўная сентэнцыя. Ніколі не разумеў, чаму людзі ўладкоўваюцца ў жыцці так усур’ёз і надоўга, калі не назаўсёды, а цяпер разумею: правільна робяць. Паўнату жыцця толькі тады і пачынаеш адчуваць, калі ззаду вечнасць і наперадзе вечнасць. Па вялікім рахунку чалавеку ўвогуле нічога не пагражае, яму абсалютна няма чаго баяцца. Некалі так страшна было пакідаць матчына ўлонне – і што? Набыў новае, зямное ўлонне, куды большы свет, дзе аказалася так добра, што ўжо ў сваю чаргу не хочацца пакідаць яго.

Дзіўна, што нас палохае будучая смерць, але не палохае мінулая. Нас жа не было раней, да нараджэння, мы ўжо як мінімум адзін раз былі мёртвыя. Колькі часу? Столькі, колькі нас не будзе – вечнасць. Цэлую вечнасць мы былі мёртвыя. Значыць, мы ўжо адзін раз прайшлі бясконцасць і ўваскрэслі з яе.

Я не вельмі перажываў, калі мяне не было, я нават не магу сказаць, колькі мяне не было, і гэта наўрад ці ад таго, што чалавечы розум не ў сілах ахапіць бясконцасць; хутчэй ад таго, што бясконцасць – круглая.

Акрамя часу (а смерць усяго толькі адсутнасць часу), які існуе рэальна і з'яўляецца ўласна жыццём, ёсць яшчэ цыкл; толькі гэтыя дзве несумненныя ісціны мы можам назіраць і адчуваць – цыкл і час. Вечар, ноч, раніца, дзень; восень, зіма, вясна, лета – і так па крузе. Мы ведаем, што ўвосень усё засынае, а вясной абуджаецца. І толькі ў чалавечага жыцця чамусьці толькі тры часткі, яно абрываецца на зіме, што само па сабе абсурд, бо цыкл не з трох, а з чатырох частак. Мы пакорліва развітваемся з гэтым светам зімой, без надзеі абудзіцца ўвесну – чаму? Калі ўсё цыклічна? Бо з таго свету ніхто не вяртаўся? Дык, можа, рана яшчэ? Можа – *пакуль* не вяртаўся?

У якой мы, цяперашняе чалавецтва, фазе? На якой стадыі? Хутчэй за ўсё ў самым зародку, у стадыі немаўляці, якое ледзь навучылася лепятаць – у фазе ранняй раніцы, самага пачатку вясны, а наперадзе яшчэ цэлы дзень-лета, вечар-восень, ноч-зіма – а там, глядзіш, памалу пачнуць вяртацца. Так – памяць будзе сцёртая, але ж хоць нешта застанецца, хоць у снах; і ў якім-небудзь сто квадрыльёнаў дзве тысячы сямнаццатым годзе будзе не разумець чалавек, што за дзіўны сон яму прысніўся: нейкая старадаўняя лаўка, нейкі шум над галавой, падобны да марскога, – што б гэта значыла?

Я несумненна ведаю, што ўва мне, як і ў кожным чалавеку, ёсць нешта незалежнае ад часу і матэрыі. Яно нерухомае, статычнае – субстанцыя.

Мне ўвогуле здаецца, што ад свайго стварэння на зямлі жывуць адныя і тыя ж людзі, якія толькі мяняюць целы, як змяіныя скуркі, ды яшчэ ў іх сціраецца памяць пра ранейшыя жыцці. Цела нараджаецца, расце, як грыб з зямлі, дасягае субстанцыі жыцця, параўноўваецца з ёю, старэе, знікае, зноў нараджаецца і зноў дарастае да гэтай субстанцыі, а яна так і застаецца непарушнай, непадуладнай часу і прасторы, і вось ужо бачыш, што толькі адна яна і ёсць, і яна "ўжо ява, не здань, што сном несмяротнасці мучыць стагоддзі"...

– Прачыталі?

У лоджыі сінела вечаровае сутонне. Грыневіч стаяў каля стала, на якім свяціўся манітор ноўтбука. Рак сядзеў у кутку ў крэсле перад столікам з закускамі.

– Ну... Ну... У мяне няма слоў. Дайце паціснуць руку!

– Што вы...

– Цудоўна! Я ў захапленні. Калі б быў у капелюшы, я б зняў яго перад вамі...

– Лішняе...

– Праўда – як фільм паглядзеў! І па часе столькі ж.

– Дзякую, канечне, але...

– Выдатна. Я проста ўражаны. Дазвольце зрабіць вам камплімент. Вы ўвесь час пішаце, што вы слабы, тонкі, ранімы, пяшчотны, аднак у рэальнасці выглядаеце молада, падцягнута, гэтакім мацаком.

– Не, тут памылка, паверце! Знешнасць заўсёды падманлівая, асабліва ў творчых людзей. Часта бывае – хадзіў такі чырванашчокі здаровы дуб, залазіш раніцаю ў інтэрнэт, а ён ужо на чорным фоне...

– Ну што вы так адразу. Да гэтага, спадзяюся, яшчэ не хутка. А ў цэлым я ў захапленні... Як я зайздросціў заўсёды творчым людзям. Мне заўсёды здавалася, што ў іх улада над людзьмі і над часам...

– Не трэба, я гэтага не люблю... Я сціплы пісьменнік, задаволены тым, што маю...

Яшчэ нейкі час працягваўся гэты абмен кампліментамі з аднаго боку і какецтвам – з другога; Грыневіч непамерна хваліў, Рак чырванеў ад задавальнення і разам з тым прагна лавіў кожнае слова. Нарэшце пахвальба і какецтва дасягнулі, ідучы па ўзрастаючай, свайго піку, захапленне Грыневіча пайшло на спад і пакрысе перацякло ў практычнае рэчышча. У голасе з’явіліся хоць і яшчэ пачцівыя, але ўжо прафесійныя, следчыцкія ноткі.

– Што ж. Вам удалося дзе лепш, дзе горш з кавалачкаў мазаікі, з чужых расказаў і ўласных домыслаў стварыць даволі выразную карціну. Аднак сёмы раздзел абрываецца...

– Так. Не паспеў дапісаць, – і Рак сцісла паўтарыў тое, што расказаў Грыневічу па тэлефоне. Калі гэтая дзяўчынка, Лю, апынулася ў яго, выпіла кавы, яму ўдалося разгаварыць яе, ды яна і сама, на шчасце, была не з маўклівых і распавяла яму ўсё: пра свой “вядзьмарскі” дар, пра сябра, пра адзінокага прафесара, пра маці і зніклага бацьку, пра тое, як яна выпадкова падслухала кавалачак яго, Рака, тэлефоннай размовы з маці, пра маршрутку і пра Свянцецкіх. Дзяўчынка пераначавала ў яго, а раніцай у панядзелак, пакуль ён спаў, ціха выслізнула, пакінуўшы пасля сябе толькі незасланы ложак, нявымыты посуд, кубак з-пад кавы на кухні ды запацелае люстра ў ванным пакоі.

– Далей вы ведаеце. Не толькі яна – усе зніклі! Я хадзіў да Самусенкі, на таксоўцы ездзіў да Літава, набіраў Міхайлоўскую – усё з тым жа вынікам, нікога, нічога.

– Зразумела. І што вы думаеце наконт гэтага?

Рак адказаў: “Чаго я толькі не думаў!” Яшчэ адразу, пачынаючы з візітаў Самусенкі, яго насцярожыла гэтая загадкавасць, таямнічасць, нейкая гульня вакол яго; потым ён быў збіты з толку Літавымі, асабліва Ірмай, паверыў, што ёй пагражае небяспека – і хто б не паверыў? З вясны Літаў змяніўся, а што адбылося вясной? – забойства высокага чыноўніка ў Кіеве. Цяпер нішто не перашкаджала яму пазбавіцца ад жонкі – і як ад непажаданай сведкі, і заадно сапраўды памяняць яе на маладзейшую. У Ірмы з шафёрам у сваю чаргу магла быць нейкая свая змова супраць Літава, каб апярэдзіць яго: брата ў яго больш няма, ніхто не заступіцца. Калі ўзнікла Лю з ельскім сябрам, можна было падумаць, што небяспека пагражае ўжо Самусенку...

– А далей у мяне адзін варыянт пачаў змяняцца другім. А што, калі Літаў ведаў Лю раней? З Латвіі? Памятаеце эпізод яе двухтыднёвай адсутнасці? Тады ён павінен ведаць і яе сябра. Яны маглі дамовіцца, Літаў мог чакаць, пакуль яна вырасце, і тады з яе падабенствам яны маглі прыдумаць што заўгодна. Акрамя таго, разважаў я, сябар цалкам верагодна мог аказацца тым самым кілерам, які лёгка перасякае мяжу, робіць сваю справу ў Кіеве і вяртаецца назад. Памятаеце паездкі Літава ў мястэчка і пошукі патрэбных людзей?

Грыневіч моўчкі ківаў са спагадай і разуменнем.

– І толькі на рауце да мяне дайшло! Я зразумеў, што яны ўсе заадно, што яны ўсе знаёмыя між сабой, я ўбачыў, што апынуўся ў цэнтры, усё круціцца вакол мяне, што мяне аблытваюць, уцягваюць некуды... Але куды і нашто?! Адзінае тлумачэнне, аб чым і папярэджвала Ірма: мяне трымаюць у якасці сведкі. Калі сапраўды рыхтуецца нешта – злачынства, забойства –

дык каб падпусціць паболей туману і тым самым яшчэ больш заблытаць. А цяпер я адмаўляюся хоць што разумець, у мяне галава кругам...

За ўвесь час Грыневіч не вымавіў ні слова і невядома аб чым думаў. А калі Рак скончыў і развёў рукі, усім выглядам паказваючы, што нічога не разумее, Грыневіч закрактаў, паварушыўся так, што крэсла зарыпела пад ім, падняўся, хруснуў пальцамі і павёў такую размову:

– Адразу хачу вас супакоіць. Нічога не здарылася. Пакуль не здарылася. Усе жывыя-здаровыя. Літаў з жонкаю ў Латвіі, у Юрмале, як і кожны год яны туды ездзяць, Лю дома, гуляе па палях са сваім сябрам, Лена Міхайлоўская з Асаўцом рыхтуюцца да вяселля; Самусенка – у Ельску на малой радзіме, Шнэйдары, як і планавалі, адбылі ў Германію ў адпачынак...

– Як? Але чаму ніхто не адказвае?!

– Я папрасіў.

– Вы?!

– Думаю, хопіць нам, дарослым людзям, марочыць адзін аднаго. Давайце адкрываць карты. Цяпер, пасля вашай бліскучай аповесці, можна. Я і ёсць той рэжысёр, пра якога вы здагадваліся. Я гатовы каяцца перад вамі, сто разоў, а то і больш, прасіць прабачэння за свой эксперымент, за тое, што вас у нейкім сэнсе выкарысталі... Але той бліскучы вынік, які гэты эксперымент прынёс, хоць крыху змякчае як маю віну, так і ўсіх дзейсных асоб. Хай кампенсацыяй вам будзе тое захапленне, якое я перад вамі адчуваю. Я проста ўражаны! У нас таксама ёсць пераапрананні, розныя падсадныя-падстаўныя, фальсіфікацыі, містыфікацыі, але гэта адзіны вядомы мне ў крыміналістыцы выпадак, калі мастацкі твор можа памагчы раскрыць даўняе, заблытанае, “глухое” злачынства! Ірацыянальным шляхам дабіцца рацыянальнага!

– Нічога ён не раскрывае, – перабіў панура Рак.

– Неверагодна! – не слухаў Грыневіч. – Не разумею, як чалавек практычна на пустым месцы, можна сказаць, з завязанымі вачыма, ідзе навобмацак – і не памыляецца!

Грыневіч сам нібы намацаў нейкую патаемную кнопку пад назвай “самалюбства” і ў патрэбны момант, як толькі Рак пачынаў крыўдаваць, націскаў на яе – пачынаў яго хваліць. І Рак астываў.

– Усё ж я патрабую тлумачэння, – прымірэнча сказаў ён. – Які сэнс у гэтым?

– Сэнс у тым, што мяне мала цікавяць сямейныя праблемы бяскрыўднага графамана Літава, у якога, дарэчы, з гэтым усё ў парадку – ён без памяці закаханы ў сваю Ірму, у сваіх дзяцей; не цікавяць ні яго браты – як сапраўдныя, так і выдуманыя, ні самотны інтэлігент Самусенка, ні Лю з сябрам, які, дарэчы, сціплы, ціхі, у акулярах студэнт-завочнік, не цікавіць Асавец з яго нібыта праблемамі наконт будучай падчаркі... Усё гэта пусканне пылу ў вочы, дымавая завеса.

– Тады што вас цікавіць?

– Больш рэальны выпадак, – Грыневіч вытрымаў паўзу. – Першы муж нашай агульнай знаёмай Лены Міхайлоўскай, Каралёў Віктар.

– Вы хочаце сказаць...

– Хачу сказаць, што ёсць падазрэнне, а пасля вашай аповесці – можна яе так называць? – ужо і ўпэўненасць, што Каралёў не знік, не з’ехаў, ён загінуў. І не ад няшчаснага выпадку, а гвалтоўнай смерцю.

– Пры чым тут я?

– Вы унікум, творчы чалавек. Я вырашыў заінтрыгаваць вас, зацікавіць, паспрабаваць стварыць вакол вас атмасферу тайнаў, інтрыг, загадак, крыміналу, разыграць заблытаную сітуацыю, у якой часцей мільгалі б словы: злачынства, знікненне, забойства, каб прымусіць вас прыняць у гэтым удзел, вобразна кажучы, увесці вас у транс – ведаеце, вось як медыумаў уводзяць... І спадзявацца на вашу творчую інтуіцыю, на тое, што вы – не, не напішаце, пра гэта і марыць нельга было, а хаця б зацікавіцеся і, магчыма, інтуіцыяй выведзеце на падказку. Што і адбылося.

– Чаму вы не звярнуліся да мяне адразу?

– У тым і рэч! Не можна было адразу. Трэба было, каб вы самі не ведалі. Зададзенасць магла б сапсаваць вам нос, збіць чуццё...

– І потым, тут яўная несуразмернасць. Ці варта скура вырабу? Вы разыгралі цэлы спекталь, уцягнулі масу людзей... Навошта такія складанасці? Каб прыкурыць цыгарэту, вы падпалілі АЗС!

– Гэта так здаецца. Насамрэч было зусім няцяжка. Я ўсяго толькі папрасіў Літава праз Самусенку выйсці на вас, Лену Міхайлоўскую – пазваніць вам, Ірму Айгараўну – разыграць увечары драматычную сцэнку, а потым даў наказ сабрацца ўсім на рауце і расказаць кожнаму па гісторыі. Самае цяжкае было ўгаварыць Лю прыехаць да вас на ноч, але я так расхваліў вас, так доказна растлумачыў, што вы – каштоўны медыум, які паможа ў важнейшай справе, што яна перш зацікавілася, а потым і згадзілася; плюс у яе быў свой інтарэс – яна спадзявалася, што вы сапраўды паможаце ёй з творчым конкурсам. Вось і ўсё. А вы ўжо самі нафантазіравалі, разгарнулі цэлае палатно... І зрабілі гэта на ўзроўні, – хутка дадаў Грыневіч. – Так дасканала апісалі падзеі, рэчы, людзей!

Кнопка пад назвай “самалюбства” надзейна працавала.

– Ну што ж, – і на гэты раз астыў Рак. – Мне, канечне, не зусім прыемна, што мяне выкарысталі ў нейкіх сваіх мэтах, без майго ж дазволу... Але ўсё ж з вашага боку гэта творчы падыход, а я нічога ў свеце так высока не стаўлю, як творчасць. У гэтым я ваш аднадумца. Дзеля справы чаму б не паслужыць. Але мне ўсё адно здаецца, што вы дарэмна трацілі час. У чым вынік? Дзе плён?

– Тут. – Грыневіч паказаў на ноўтбук. – Тут ёсць і ахвяра, і злачынца. Калі я ехаў да вас, я не ведаў амаль нічога. Цяпер я ведаю амаль усё.

– Вось як. Зрэшты, пачакаце. Давайце адразу высветлім – можа, вы мяне падазраеце?

– Якія падазрэнні! – усклікнуў Грыневіч, нават прыклаў да грудзей рукі.

– Дзякаваць богу. А то было б надта прымітыўна, банальна, заезджана – калі аўтар, пішучы, сам сябе выкрывае. Тым больш у наш час, час фэйкаў, фоташопаў-фотажабаў, калі дастаткова толькі захацець, толькі паказаць пальцам – і самаму святому чалавеку цяжка адмыцца. Я гатовы вас слухаць. Вечар цёплы, лагодны, мяккі. Тут утульна, камароў мала. Я не за рулём, у мяне і правоў няма, затое херас ёсць – крымскі. Ведаеце, можа, гэта не патрыятычна пасля Украіны, але люблю крымскі больш нават за іспанскі.

– Дзе вы дастаеце?

– То сябры прывозяць, а то ёсць крама “Крымскія віны”. Вось жа – я ўважліва слухаю. Што ж я такога напісаў? Што менавіта раскрыў, сам аб тым не здагадваючыся?

## Частка дзявятая
## ЖЭТОН НА МЕТРО

### XXV

За вакном сцямнела. Рак пстрыкнуў выключальнікам, загарэлася лямпачка пад абшытай вагонкаю столлю. Круг святла падаў на стол, а куток, дзе сядзеў Рак, быў у паўзмроку. Аднекуль узяўся камар і зазвінеў у цішыні, пакуль Рак не прыбіў яго. Грыневіч адпіў зёлак з тэрмашклянкі, асцярожна пакашляў, прачышчаючы горла, і пачаў, то ў ноўтбук, то з-пад ілба на Рака пазіраючы:

– Забыў сказаць, зусім вылецела з галавы, што наш паўлегальны прыватны вышук, акрамя ўсяго іншага, спецыялізуецца на пошуках зніклых людзей. Больш за тое – гэта наша асноўная сфера дзейнасці. Таму калі да мяне звярнуўся былы калега і сябар, крыштальнай душы чалавек Асавец, маўляў, так і так, муж з’ехаў трынаццаць гадоў назад, кінуў жонку і дачку і не аб’яўляецца, я навучыў яго, як вырашыць справу з разводам і дзяжурна спытаў, ці падавала яна ў вышук? Не, аказваецца. Ёй хапіла пісьма. А на аліменты? Не. У тым не было нічога дзіўнага. Скандалы, рэўнасць, сцэны, папрокі, адсутнасць месяцамі – тут вы дакладна апісалі: Міхайлоўская не любіла Каралёва і была шчаслівая, калі ад яго пазбавілася. Не гэта мяне насцярожыла, і нават не тое, што за столькі часу чалавек прыслаў адно-адзінае пісьмо, а тое, як мог бацька за трынаццаць гадоў ні разу не адведаць родную дачку? Следчая інтуіцыя, вопыт, прадчуванне, нюх паляўнічага – словам, усё падказвала: нешта тут не так. Я з дзяцінства люблю розныя тайны, загадкі, недаказанасці...

– Гэта я заўважыў, – уставіў Рак, які слухаў і маленькімі глыткамі піў херас.

– ...адсюль і такая прафесія. Я адчуваў, што натрапіў на след. Тут, ведаеце, нічога не зробіш – калі што ўлезе ў галаву, пакуль не разблытаю, не будзе жыцця. І я пачаў цікавіцца гэтай гісторыяй. Прыехаў у мястэчка – дарэчы, дзякую, што займеў гонар быць у двух радках згаданы ў вашым творы! – папрасіў тое нямногае, што засталося пасля Каралёва: дакументы, фотакарткі, пасведчанне аб шлюбе. Пісьмо ў канверце. Пісьмо як пісьмо: “Ты дабілася свайго... праз твой невыносны характар... не шукай... прабач... некалі кахаў”. Усё б нічога, каб яно не ляжала ў кнізе, вось гэтай.

Грыневіч разгарнуў “Чаромхавы чад”.

– Кніга як кніга, падпісана, як звычайна аўтары падпісваюць іх на сваіх вечарынах і прэзентацыях. Аднак я – не ведаю чаму, не змог не звярнуць увагу, што ў вас з Каралёвым падобныя почыркі. Почыркі падобныя, а атрамант – розны. І тут яшчэ нічога такога: звычайнае супадзенне. Я па службе крыху знаёмы з графалогіяй, – хачу вам прызнацца, вельмі недакладная навука: у мяне ў самога ў залежнасці ад настрою ў адным слове бываюць абсалютна розныя напісанні адной і той жа літары, – і тым не менш, не крыўдуйце, я аддаваў пісьмо і кнігу на экспертызу, якая заключыла: почыркі розныя.

– Інакш і быць не магло, – азваўся з кутка Рак.

– Аднак гэта навяло мяне на думку, а што, калі ўсё ж пісьмо напісана не Каралёвым, а іншым чалавекам? Што, калі няшчасны раўнівец Каралёў паехаў, ды так нікуды і не даехаў? А можа, увогуле нікуды не ездзіў, ні ў

якую Украіну? Ускладнялася тым, што напачатку Лена Міхайлоўская зусім не гарэла жаданнем памагаць мне. Яно і зразумела: нашто ёй узбуджаць рэўнасць яшчэ ў адным? Яна хацела забыць, вытравіць, выкрасліць гэта з біяграфіі. Не раз я даваў сабе слова кінуць усё. Але гісторыя ўжо захапіла мяне, не адпускала, зноў і зноў я да яе вяртаўся. Да таго ж афіцыйна ніхто ёю не цікавіўся, значыць, я мог займацца гэтым у сваё задавальненне, у вольны час. Зноў і зноў пачыналіся роздумы, прыкідкі. Калі ўсё так, як я мяркую, калі Каралёў не з'ехаў, а стаў чыёйсьці ахвярай – дык чыёй? Сабутэльнікі ці рабаўнікі не падрабляюць почыркі, ды не так ужо Каралёў і піў. Хутчэй за ўсё гэта чалавек неардынарны, хітры, разумны, з фантазіяй, з выдумкай...

– Добра, што я вас адразу перапытаў. І што была экспертыза. А то можна было падумаць, што вы мяне падазраеце.

– ...гэткі свайго роду "творца". А чым можна ўзяць творчага чалавека? Правільна – таксама творчасцю. Выбіць клін клінам. Трэба было знайсці іншага творчага чалавека. Так я спыніў свой выбар на вас, адзіным вядомым мне, ды і то завочна, пісьменніку. Я стаў самым адданым вашым прыхільнікам. Я прачытаў пра вас усё, што толькі мог знайсці ў інтэрнэце і ў бібліятэцы, спрабуючы пазнаць ваш характар, хоць збольшага разабрацца, што вы за чалавек. А тут, на маё шчасце, як знарок – яго вялікасць выпадак: Асавец расказаў, што пазнаёміўся з штатным супрацоўнікам "Руслесу" Літавым, які жыве ў Беларусі два ці тры гады, памешаны на творчасці; а затым надзвычай дарэчы падвярнуўся Самусенка. Я зразумеў, што вось ён – знак, вось ён – шанц. Далей усё неяк само сабой пачало складвацца так, што лепш не прыдумаеш: з Ірмаю, з Літавым, з яго нібыта ўсемагутным братам, нібыта шматлікімі жонкамі, шафёрам, доктарам... Самае цікавае, што мне нікога не давялося асабліва ўгаворваць – усе, у тым ліку і Міхайлоўская, і Лю, ахвотна згадзіліся паўдзельнічаць у гэтай задумцы. Яны ўсе паверылі... і ахвотна з энтузіязмам згадзіліся прыняць удзел у гэтым.

Рак маўчаў і піў херас.

– Як толькі Літаў пабываў у вас, а потым расказаў пра сустрэчу – вось тут мяне і асяніла! Я зразумеў, што на правільным шляху. Я іншымі вачыма на ўсё зірнуў. Мне стала лягчэй. Усё ў галаве пачало пераварочвацца і наноў укладвацца. Астатняе вы ведаеце: Ірма, раут, Лю... Пасля раута я счакаў тыдзень, вытрымаў тыдзень, потым набраў вас. І тут такі падарунак – ваша аповесць...

– Я столькі чую пра гэтую аповесць! – нецярпліва ўсклікнуў Рак. – Скажыце нарэшце, што вы там вычыталі?

– Канечне, гэта ўсяго толькі версія, лёгкі эскіз, пункцір... Я магу памыляцца ў дэталях... Але ў цэлым вось што мы маем. Міхайлоўская часта ездзіла ў Мінск. Як вы далікатна заўважылі, яна не была феяю. Дапусцім, у Мінску яна, акрамя вас, яшчэ з кімсьці сустракалася. Пра гэта стала вядома Каралёву. Хутчэй за ўсё ён нават даведаўся, хто яго шчаслівы супернік – назавем яго так – і дзе ён жыве: сама Міхайлоўская ў запале магла сказаць. І вось пасля чарговага скандалу, у пачатку верасня 2004 года, Каралёў, як неаднойчы да гэтага рабіў, купляе білет ва Украіну да Оўруча. Але ў апошні момант раздумвае і перасаджваецца ў дызель, які вязе яго на Калінкавічы, адкуль лёгка патрапіць у Мінск. Я раздабыў і вывучыў тагачасны расклад руху цягнікоў: дызель Славечна – Калінка-

вічы і пасажырскі цягнік Баранавічы – Жытомір праязджалі мястэчка ў адзін час. Не будзем забываць, Каралёў – чыгуначнік, таму ведаў гэтыя расклады як свае пяць пальцаў. Аднак галоўнае тут, што ў яго кішэні ляжыць білет ва Украіну, а ён як ні ў чым не бывала выходзіць на мінскім вакзале. Дапусцім, з вакзала ён едзе да шчаслівага суперніка і застае яго дома. Каралёў чалавек гарачы, неўтаймаваны, як усе раўніўцы, на ўзводзе, можа і выпіўшы. Адбываецца размова на падвышаных танах, з якой можа высветліцца, што пра яго візіт сюды ніхто не ведае. Пакрысе размова перарастае ў пагрозы, пагрозы – у дзеянне. Цалкам можа быць, што шчаслівы супернік, абараняючыся, не разлічыў сілы, стукнуў ці штурхнуў Каралёва, але, як часта бывае пры такіх няшчасных выпадках, дастаткова чалавеку няўдала ўпасці, каб пацэліць скроняй у край стала ці патыліцай аб падлогу, каб усё закончылася трагічна. Само сабою афект, шок. Разам з тым у такія хвіліны мозг пачынае працаваць як ніколі востра. Ліхаманкава абчышчаюцца кішэні. Там пісьмо, там блакнот, там пашпарт з прапіскаю, а галоўнае – білет! Цяпер было вядома, куды ён накіроўваўся. План саспеў імгнення. Ніхто не ведае, што Каралёў у Мінску. Калі ў яго білет у Оўруч, дык туды яго і трэба даставіць; чалавек збіраўся ва Украіну – і заехаў ва Украіну, а калі там знік, можа і загінуў, дык і шукайце яго там! Не забудзем, што тады мяжа з Украінай была вельмі ўмоўная. Дапусцім, пад акном машына. Але аднаму, як ні круці, не справіцца, ды яшчэ калі, напрыклад, шосты паверх. Тут дарэчы падварочваецца сусед, які-небудзь наркаман-байкер. Памагае ў ліфце, памагае ў машыне. Вечар, хутчэй за ўсё нават ноч. Шанцавала ім неверагодна. Ніхто іх не спыніў. Даехалі да да Жалоні, а там развілка, а там – крыж пад ручнікамі. Гэта была бліскучая ідэя – схаваць цела на тэрыторыі іншай дзяржавы, ды яшчэ ў такім месцы, якое лічыцца сакральным! На другі дзень заставалася пазбавіцца ад машыны – на ёй маглі быць сляды, яшчэ праз тыдзень – ад адзінага сведкі, які вельмі падазрона разбіваецца на байку ад нібыта перадазіроўкі, а яшчэ праз тыдзень з Украіны прыходзіць Міхайлоўскай пісьмо, напісанае падобным да яе мужа почыркам...

На Рака страшна было глядзець. Вочы запаленыя, твар белы ад сашчэпленых моцна зубоў. З-пад расшпіленай да грудзей сарочкі выбіваліся курчавыя валасы.

– Хвілінку, – выціснуў ён. – Хто ж ён, гэты... супернік?

– Як хто?! – аж адкінуўся ў крэсле ад здзіўлення Грыневіч. – Вы! Вы, і ніхто больш.

Рак устаў, хутка падышоў да століка і грукнуў кулаком так, што ноўтбук падскочыў і дзынкнула лыжачка ад кавы аб сподак.

– Я папрашу! – крыкнуў ён здушана, затым вярнуўся назад і зноў сеў у крэсла. – Прабачце, у мяне слабыя нервы... Я не спаў, перажываў, многа думаў. Можа быць я няправільна вас зразумеў ці не дачуў: вы перад гэтым сказалі, што не падазраеце мяне...

– Я не дагаварыў. Гэта калі я ішоў да вас, былі падазрэнні. Цяпер гэта факт, аксіёма, стопрацэнтная ўпэўненасць. Сядзіце, калі ласка! Я не люблю, калі перада мною стаяць.

Гэты выкід энергіі, выпусканне пары, груканне па стале памаглі Раку – нібы нейкі нарыў прарваўся. Ён узяў сябе ў рукі.

– Я з самага пачатку западозрыў, што вы ненармальны, – сказаў ён. – Кідацца такімі абвінавачваннямі мне, заслужанаму, не самаму апошняму...

Гэта ўжо, ведаеце, пераходзіць усе... Не падумайце, што я спалохаўся або разгубіўся. Выгнаць вас ці выклікаць міліцыю я паспею. У мяне толькі адно пытанне: нашто вы цягнулі столькі часу? Трэба было адразу мяне арыштоўваць, і ўсё.

– Ды ў тым і справа! Я, калі збіраўся да вас, сам амаль нічога не ведаў! Ні ў чым не быў упэўнены, ні на што не разлічваў, сумняваўся да апошняга.

Самае большае, на што спадзяваўся, – на вусную гутарку. Скажу больш – я ішоў сюды з надзеяй, хоць і слабай, што ўсё высветліцца і вы будзеце невінаваты. Я прагнуў апраўдаць вас.

– Што вам ад мяне трэба?

– Прызнання. Я хачу, каб вы прызналіся ў забойстве ўкраінца Каралёва Віктара. Прызнання вуснага, бо пісьмовае ўжо ёсць. Ваша аповесць практычна яўка з павіннай.

– Ніякая не яўка, – агрызнуўся Рак.

– Ну як жа. З першага абзаца, нават сказа, тут пакінута столькі слядоў, знакаў, расстаўлена столькі маякоў! Трэба толькі ісці па іх ад аднаго да другога...

– Лухта! Нічога падобнага. Тут вывярана кожнае слова.

– Глядзіце самі. Першы абзац, нават першы сказ. Шосты паверх – значыць, выплывае ліфт. Стаяў *Volkswagen Passat* – але я, калі прыпаркоўваўся, ніякай старой машыны не бачыў, значыць, яна ў вас некалі была. Радня ва Украіне ў Енакіева – значыць, вы маглі паслаць адтуль пісьмо нібыта ад Каралёва. Кніга санетаў “Рушнікі на крыжах” – значыць, вы цікавіліся гэтым пытаннем і выдатна ведаеце, што крыжы – святое для палешукоў, ніхто ніколі не стане яго чапаць, бурыць, капаць пад ім...

Грыневіч заглянуў у паперку:

– Сусед-наркаман, сын Самусенкі, падазрона разбіваецца, як вы пішаце, на Галавасека, а гэта – адзінаццатага верасня, значыць, роўна праз тыдзень пасля знікнення Каралёва. Далей – вы выдатна апісваеце мястэчка, але дзесяцігадовай даўнасці! Пішаце пра вяз, а ад яго даўно толькі пень, згадваеце помнік Леніну, а яго гадоў дзесяць назад як забралі на рэстаўрацыю, так і не вярнулі. Вы апісваеце будынкі, якіх ужо няма, павароткі, якія даўно спрамленыя, апісваеце крыж, дзе мадзяры ў вайну пастралялі людзей, але цяпер, пасля дэмаркацыі, ён на ўкраінскай тэрыторыі!

– І што?

– Значыць, вы былі там роўна дзесяць гадоў назад, менавіта тады, калі загадкава знік Каралёў.

– З такім жа поспехам можна забіць у Гугл ключавыя словы, табе і выскачыць усё на гэтую тэму. Вы проста ведалі, што шукаць, таму і знаходзілі...

– Я ўжо маўчу пра мноства іншых дэталяў, якія вы шчодра рассыпалі на кожнай старонцы. Іх, праўда, да справы не падшыеш...

– Напрыклад?

– Напрыклад, чаму вы ўпадаеце ў ступар ад Кейстутаў, Ягайлаў, Вазаў, Сфорцаў? Ці не таму, што некаторыя з іх былі каралямі? І гэта нагадвала вам іншага Караля-Каралёва? Я ўжо маўчу, што гістарычная назва Ельска, бліз якога ўсё адбываецца, – Каралін...

– Выдатна. Апладзірую. Так можна ўзяць любы рэкламны буклет і даказаць, што яго складальнік – маньяк. Як дэтэктыў вы мяне расчаравалі. Але як чытач вы сапраўды ідэальны.

– Дзякую.

– А вы не дапускаеце, што Каралёў, ну, не ведаю, жывы і здаровы? А калі ў мяне і машыны ніколі не было? А калі ў Самусенкі адна дачка, і тая ў Парыжы?

– Я ж таксама не сядзеў склаўшы рукі. Я пасылаў запыты ў Оўруч і Жытомір, я нават ездзіў туды – у мяне там поўна знаёмых. Паднялі дакументы – так, жыў Каралёў, паехаў у Беларусь, ажаніўся з беларускаю, а назад не вяртаўся. Канцы губляюцца тут. Так што з бедным Каралёвым усё зразумела: і жыў грэшна, і памёр смешна, як кажуць у нашым мудрым народзе. Тое самае з машынай – не склала цяжкасці даведацца, што была яна ў вас, і згарэла ў пачатку верасня, роўна на другі дзень пасля знікнення Каралёва; як сказана ў вашай заяве, "хуліганы спалілі".

Праўда – я нічога не ведаў пра Юру Самусенку, і мне наўрад ці ўдасца даказаць вашую прамую віну ў яго смерці. Думаю, ён пачаў вас шантажыраваць, вы накачалі яго наркотыкамі, ён сеў на байк і загінуў. Я ўжо навучыўся разблытваць вашыя сляды, разумець вашае мысленне, чытаць між радкоў і адгадваць падтэкст. Нездарма на першых старонках вы згадваеце, што былі хворыя ў вас бацькі. Можна дапусціць, што вы набывалі для іх у аптэцы лекі, у тым ліку і наркатычныя. Пры дапамозе нашага добрага знаёмага доктара Шнэйдара я паспрабую разабрацца і з гэтым.

– Вашай упартасці можна пазайздросціць, – з крывой усмешкай прамовіў Рак. – Пакуль я гуляў, вы, канечне, скапіравалі тэкст – і што? Вы з ім збіраецеся ісці ў суд? Калі адкінуць пахвальны намер дабіцца справядлівасці, што ў вас ёсць? Мастацкі твор! Ды любы, нават наш суд падыме на смех чалавека, які прынясе яму ў якасці доказу аповесць, ды яшчэ па-беларуску!

– Памыляецеся. Не мастацкі твор, а высновы, зробленыя з мастацкага твора. І ў суд я прыду не з тэкстам. Я ўжо казаў, што ў мяне паўсюль сябры, а ва Украіне больш чым дзе. З іх дапамогай я даб'юся дазволу на эксгумацыю. І калі я пачну капаць, у пераносным і ў прамым сэнсе, і пад крыжам з ручніком знайду цела, пры ім абавязкова знойдуцца ўлікі, якія пакажуць, што ахвяра была ў Мінску...

– Жэтончык на мінскае метро? – падказаў Рак.

– Ну, жэтона пры ім дакладна не будзе. Вось гэтага, – сказаў Грыневіч, выцягваючы з кішэні жэтон за шаўковую нітку, – з выявай плошчы Якуба Коласа на рэверсе. Прашу прабачэння, што ўзяў без дазволу... З жэтона ўсё і пачалося. Ён мяне і вывеў. Вы сказалі Літаву, што гэта калекцыйны жэтон, такіх толькі восем і выпускаліся яны толькі адзін раз, да дваццацігоддзя мінскага метро, і адразу ж – што трымаеце яго як памяць пра дзяўчыну. Але ў аповесці вы сустракаліся з Міхайлоўскай у двухтысячным годзе, а дваццацігоддзе метро было ў дзве тысячы чацвёртым! Акурат у год знікнення Каралёва! Так у мяне адкрыліся вочы. Я зразумеў, што ён быў у Мінску, быў у вас, і шукаць яго сляды трэба тут. Тое, што ніякі вы не калекцыянер, даказвае і тое, што вы пасля раута нават не забралі – пакінулі на стале падораныя вам сем жэтонаў. Значыць, вам важны толькі гэты адзін. Які дастаўся вам, калі вы абчышчалі кішэні Каралёва.

Рак хацеў усміхацца, але дрыготкія вусны выдавалі яго.

– Нашто б я трымаў такую небяспечную ўліку... Я б даўно пазбавіўся ад яе...

– У крыміналістыцы ёсць тэрмін – сентыментальнасць злачынцы. Пакінуць сабе якуюсьці рэч, своеасаблівы амулет, які б вярэдзіў памяць і адначова надаваў змрочнага гонару: ах, які я спрытны, хітры, разумны! – здзейсніў злачынства, падчысціў сляды, а вось напамін пра яго – перад усіхнімі вачамі!

## XXVI

Раптам шчоўкнула нешта, трэснула, настаў змрок, толькі бляклае святло з двара ды ад манітора ноўтбука.

– Што такое?– усклікнуў, усхапіўшыся Грыневіч. – Што гэта?!

– Лямпачка перагарэла.

– Не падыходзьце!

– Тады самі ўключыце настольную.

Грыневіч уключыў – і ўсё памянялася. Калі гарэла вялікае святло, ён, блізарука прыгоблены за столікам перад ноўтбукам, здаваўся меншым, а Рак у кутку ў крэсле – большым; цяпер, калі ўключылася настольная лямпа, Грыневіч як бы падрос, а Рак наадварот – скурчыўся і паменшаў. Ён яўна пачынаў здавацца. Чырвоны твар, пот, беганне вачамі. У дрыготкіх пальцах ён нервова круціў карабок запалак. Ад яго бравады нічога не засталося.

– Вы так і не спыталі, – сказаў Грыневіч, – як я мог, падазраючы вас, дапусціць да вас Лю?

– Дык цяпер пытаю, – сіпла азваўся Рак.

– Па-першае, я быў усю ноч побач. Потым – трывожная кнопка, аўтадазвон, усё такое... Ад чаго мне цяпер сорамна.

– Чаму? – з цікавасцю падняў галаву Рак.

– Вядома, я і раней здагадваўся, што вы з Міхайлоўскай не проста выпадковыя знаёмыя. Акрамя таго падазрона было, што Лю так лёгка згадзілася. Усе сумненні зніклі, як толькі я пачаў чытаць аповесць. Я разумею ваша жаданне вывесці сябе гэткім мачо, суперменам... Але пры ўсё павазе да вашых мінулых заслуг, не ў крыўду сказана, – каб так, у першы ж вечар, на лавачцы... Я не ўпэўнены, што гэтая рамантычная лавачка ўвогуле існавала. Як не магу паверыць, што ў вас не было кватэры, а нават калі і не было, дык у Мінску з вашымі сябрамі не праблема яе знайсці. Вы былі знаёмыя з Міхайлоўскай раней. І хутчэй за ўсё яна ездзіла ў Мінск ні на якія курсы, а да вас.

– І што з таго?

– А тое, што пад вершам “Чаромхавы чад” указана не дата вашай нібыта першай і апошняй сустрэчы, як вы запэўніваеце ў аповесці, а дата напісання верша! Які напісаны пазней, значна пазней за цвіценне чаромхі – скажам, месяцаў на дзевяць пазней. Як вы ні блыталіся ў аповесці з гадамі Лю, не цяжка падлічыць, што ёй не сямнаццаць, а васямнаццаць, а калі яшчэ мець на ўвазе, што яна Віктараўна, а вы з Каралёвым цёзкі... Няма ніякага сумнення – вы, і ніхто больш, бацька Лю!

– Гэта сакрэт Полішынеля, – Рак паспрабаваў вымучыць з сябе нейкае падабенства ўсмешкі. – Я асабліва і не хаваў...

– Як не хавалі? – строга падняў на яго вочы Грыневіч. – А тэлефонны званок у самым пачатку? Праўда, далей вы далі маху: калі Лю падслухоўвае кавалачак тэлефоннай размовы ў шостай частцы, там крыху іншыя

словы, чым у вашай перадачы напачатку, там праскоквае: “не атрымаецца – нічога страшнага”. Думаю, Міхайлоўская званіла вам з мэтай папярэдзіць, сказаць, што вамі зацікавіліся, ну і акрамя таго сапраўды папрасіць дапамогі пры здачы творчага конкурсу, бо рэдактарская справа – ваша прамая спецыяльнасць.

– Я думаў, гэта само сабой зразумела...

– Тады зусім іншая карціна, тады ўсё выцягваецца ў лагічны ланцуг, тады зразумела, з-за чаго былі паміж Міхайлоўскай і Каралёвым праблемы, скандалы, сваркі і рэўнасць; зразумела таксама, што менавіта магла сказаць Лена ў запале Каралёву. Калі ён даведаўся, што дачка не яго, ды даведаўся, чыя яна – больш яго нічога не трымала, і ён выправіўся на разборкі з шчаслівым супернікам.

– Вы многа ведаеце.

– Многа, але не ўсё. Пра некаторыя рэчы я магу толькі здагадвацца. Напрыклад, чаму вы не ажаніліся з Міхайлоўскай, якая да гэтага часу кахае вас – бо, як пафасна вы пішаце, літаратура, творчая незалежнасць для вас важней за ўсё на свеце. Магу здагадвацца, адкуль абыякавасць Лены да Каралёва, не спагнанне з яго аліментаў – бо вы, сапраўдны бацька, памагалі ёй матэрыяльна. Здагадваюся, што вы, і ніхто іншы, ездзіў з дачкой у Прыбалтыку, калі ёй было трынаццаць, гэта вы выслухоўвалі яе замежныя прыгоды і фантазіі (уся ў бацьку!) – у вас ёсць цыкл вершаў “Вентспілскія рыбакі”, “Аб чым маўчыш, Яніс Яўнсудрабінь”... Здагадваюся таксама, – Грыневіч кінуў хуткі позірк, Рак механічна сцягнуў на грудзях сарочку, з-пад якой курчавіліся валасы, – што гэта вы, а ніякі не сябар, вярталіся з Лю полем з возера ў мястэчка...

– Ад вас нічога не схаваеш.

– Парадокс у тым, што і Міхайлоўская, і Лю, і ўсе, хто прымаў у гэтым удзел, уключаючы Асаўца, і цяпер у шчаслівым няведанні адносна вас. Яны шчыра вераць, што вы добры маг, чарадзей, які паможа адшукаць сапраўднага злачынцу. Я не жорсткі, і прызнаюся: самая непрыемная мая місія будзе аб’явіць ім, хто вы на самой справе.

Рак падняў галаву. Ноткі, ці, лепш сказаць, рэшткі гонару прарэзаліся ў яго голасе:

– І ў чым тады ваша заслуга? Калі я сам сабе выкапаў яму сваёй аповесцю? Вы толькі вывудзілі ўсё гатовае. Гэтак любы б змог.

– Нашто ж вы пісалі? – лагічна заўважыў Грыневіч. – Не трэба было пісаць.

– Менавіта! – ухапіўся Рак за саламіну. – Калі чалавек вінаваты, хіба ён так будзе падстаўляцца? Ён зашпіліцца на ўсе гузікі, залезе ў ракавіну і ніхто за кіламетр да яго не наблізіцца!

– Не абавязкова. Злодзей часта гучней за ўсіх крычыць “лаві злодзея”. Калі ён разумны і хітры, ён, наадварот, пастараецца скарыстацца магчымасцю самому прыняць удзел у расследаванні, каб ведаць, на якой яно стадыі, звядзе ўсё да балбатні, несур’ёзнасці, буфанады – каб заблытаць сляды.

– Толькі не я. Я напісаў бы інакш, знайшоў бы іншую тэму...

– Самаўпэўненасць вас і пагубіла. Вы не сумняваліся ў сваёй сіле, пісалі, будучы ўпэўненым, што ніхто не разблытае, што як бы супраць вас ні гулялі, вы ўсё адно пераможаце.

Рак ламаў у пальцах адну за адной запалкі.

– Што вы мне параіце? – спытаў ён ціха.

– Тое, што і заўсёды раіцца ў такіх выпадках – прызнанне. Яно ў вас у прынцыпе ёсць, застаецца аформіць яго афіцыйна. І тады вам усе прэферэнцыі: супрацоўніцтва са следствам, даўнасць тэрміну, афект, той важнейшы факт, што без вас не раскрылася б (пра аповесць я згодны прамаўчаць). Тым больш які вы забойца – так, няшчасны выпадак, неабходная абарона. Мажа, я старамодны, але я нават у наш час веру, што злачынства і талент несумяшчальныя; я проста ўпэўнены, што вы рана ці позна самі прызналіся б, і без мяне.

– А другі варыянт?

– Ваша ўпартасць і маўчанне. Тады я вымушаны буду даць гэтай гісторыі самую шырокую агалоску. Вы не ўлічылі, што я – не з дзяржаўных органаў, мне зусім неабавязкова трымаць дэталі следства ў тайне. А значыць, я магу выкласці ўсё ў адкрыты доступ, ды намякнуць, хто падазраваны, ды са сваімі каментарамі... І калі пойдзе грамадскі розгалас, калі вашай гісторыяй зацікавіцца сапраўднае афіцыйнае следства, калі на маім месцы апынецца і, закасаўшы рукавы, возьмецца за справу тупы выканаўца – вам не пазайздросціш. Вы, канечне, наўрад ці ведаеце, што генетычная экспертыза чалавечых парэшткаў ніколі не дае стопрацэнтовай гарантыі. А гэта значыць, што пры жаданні практычна любое цела, знойдзенае пад любым крыжам, можна павесіць на любога чалавека, і даказаць нешта пасля такой аповесці будзе ой як нялёгка. Але нават калі дакажацца, вашае жыццё за гэты часператворыцца ў пекла. Я ўжо маўчу пра рэпутацыю, кар'еру, добрае імя! Усё будзе выпэцкана, паламана, знішчана.

– Нашто вам гэта?

– Дзіўнае пытанне! Спытайце ў доктара Шнэйдара, нашто ён выразае ракавыя пухліны. Бо я сумленны чалавек, афіцэр, грамадзянін. Бо гэта мой доўг. Бо злачынца павінен сядзець у турме, а не атрымліваць асалоду ад жыцця. Бо я абсалютна не згодзен з вашай тырадай пра несумленнага следчага і несправядлівы суд, я лічу, што ўсё роўна наадварот – следчыя ў нас сумленныя, а суд незалежны і непадкупны.

– Што ж... Я не чакаў, што вы справіцеся. Я вас недаацаніў. Аддаю вам належнае. Вы годны супернік...

Рак падняўся

– Не падыходзьце! – усклікнуў Грыневіч, апусціў руку ў заплечнік і назад не выцягнуў. – Не трэба набліжацца! Дарэчы, ледзь не забыў – можа, вы хочаце мяне заваліць, як няшчаснага Каралёва, і вывезці на маёй машыне да якога-небудзь крыжа ці проста скінуць у раку? Адразу папярэджваю – я супраць. Дзясятак чалавек у гэты момант ведаюць, дзе я і з кім.

– Чакайце!..

– Не трэба мяне праводзіць, я ведаю дарогу. Да сустрэчы, спадзяюся, да хуткай.

– Ды паслухайце, упарты вы чалавек!..

Але гэты дзівак не стаў нават слухаць: ці то быў настолькі ўпэўнены ў непарушнасці сваёй версіі, ці сапраўды проста спалохаўся – уночы, адзін на адзін з забойцам; заспяшаўся, замітусіўся і, нягледзячы на хворую нагу, так хутка выскачыў з кватэры, што нават дзверы за ім не стукнулі, – знік, растаў у паветры, як і не было яго. Рак не паспеў нічога сказаць. А ў яго на канец была падрыхтавана цэлая прамова, у якой ён збіраўся

і прызнацца, і пакаяцца. Калі паўгода назад яму патэлефанавала Лю і папярэдзіла, што ім пачалі цікавіцца, ён уразіўся, як гэта супала з яго намерам паспрабаваць свае сілы ў прозе.

“Уяўляеш: гэты мамін новы, гэты Асавец, здагадваецца, што маці не забыла цябе, кахае па-ранейшаму, і месца не знаходзіць ад рэўнасці. Мала ёй было аднаго такога. Ён яшчэ горшы за бяспутнага Каралёва. Як яна будзе з ім жыць? Ён яе даканае сваім занудствам, падазронасцю, упіканнямі – кшталту ашчасліціў яе. А яшчэ, здаецца, ён усур'ёз забраў сабе ў галаву, што шалапутны Каралёў не з'ехаў, а з ім здарылася няшчасце, яго забілі; ды яшчэ падключыў свайго сябра з Мінска, такога ж, як сам, які ўсё вынюхвае, выпытвае – як на допыце або на дэтэктары хлусні. Са мной таксама паспрабаваў, але ты ж ведаеш, на мне дзе сядзеш, там і злезеш. Ён цябе падазрае, гэта проста дзіка! Ён бачыў падпісаную табой кніжку, у якой ляжала пісьмо. Вакол гэтай кніжкі ўсё і круціцца. Так што будзь асцярожны”.

“Цяпер разумею, – усміхнуўся ён, – чаму ўсе так вакол мяне забегалі, пачалі абходжваць, апрацоўваць з усіх бакоў. Дарэчы, а дзе бяспутны Каралёў?”

“Якая розніца? Маці ён не піша, а мне было пару вестак, апошняя па і-мэйле, на Новы год. Хваліўся, што ваяваў на баку ДНР, потым на баку ЗСУ, цяпер жыве ў Мадрыдзе, кветкамі гандлюе, возіць з Эквадора на самалёце. А – яшчэ падзяліўся радасцю, што збылася яго мара: нарэшце памяняў рускі канчатак прозвішча на ўкраінскі. Нібы мне гэта так важна ведаць!”

“І ты не сказала ім пра пісьмо?

“Я яго адразу ж выдаліла”.

“І маці не ведае?”

“Нашто мне яе лішні раз расстройваць. Дык што, паможаш? Прыдумай што-небудзь, ты ж пісьменнік. Ты можаш паставіць на месца гэтага надзьмутага зануду, каб ён прыцішэў? Каб маці пабачыла яго сапраўднае аблічча?”

“Трэба падумаць”, – сказаў ён.

Тым жа вечарам ён пакалупаўся ў кампутары, шукаючы, што важнага адбывалася ў Мінску за апошнія 10-15 гадоў; прапусціў палітыку, усе гэтыя нейкія некуды выбары, нейкія рэферэндумы пра нейкае пажыццёвае кіраванне – усё было да моташнасці нецікавае, а самае галоўнае – да імгнення часовае. Зацікавіла яго толькі такая інфармацыя: “На заўвагу калекцыянерам! У продаж паступілі сто тысяч юбілейных жэтонаў... ад звычайных адрозніваюцца выявай адной з васьмі станцый метро, уведзеных у эксплуатацыю ў 1984 годзе... каштуюць юбілейныя жэтоны столькі ж, колькі звычайныя...” Вось гэта было ўжо нешта. Жэтон на метро мог аказацца больш даўгавечным за любую ўладу. Ужо разумеючы, што знайшоў, што хацеў, адчуваючы прыемны сверб творчасці, у той жа вечар даў на “Куфры” абвестку, а ў абед наступнага дня сустрэўся з сухенькім мінскім дзядком-інтэлігентам, канечне ж, з бародкай і ў акулярах, змоўніцкі выгляд якога надаваў гэтай аперацыі куплі-продажу звычайнага жэтона амаль крымінальную таямнічасць.

Прыманка была знойдзена. Ён пазваніў Лю і папрасіў прывезці яго падпісаную кнігу і пісьмо Каралёва, пажадана з канвертам.

“Што ты прыдумаў?”

“Адну гісторыю”.

“І яна паможа табе даказаць сваю невінаватасць?”

“Наадварот, – усміхнуўшыся, адказаў ён. – Я не збіраюся нічога даказваць і ні ў чым апраўдвацца. Я сам працягну рукі, каб іх звязалі”.

“Як гэта?”

“Часта на паляванні звер, ліса ці кабан, не кажучы пра зайца, уцякаючы ад сабакі, з усіх сіл ляціць уперад, каб адарвацца як мага далей, затым рэзка разварочваецца і бяжыць па сваім следзе насустрач сабаку, пасля чаго робіць саскок. Зразумела, сабака ідзе па тым следзе, які мацней пахне, пасля, канечне, вяртаецца і знаходзіць развілку, але час страчаны. Я паспрабую здвоіць след, сам пабягу насустрач”.

“Глядзі не пападзіся”.

Ён узяў з запасу чысты экземпляр зборніка “Чаромхавы чад”, зрабіў такі самы, як і на старой кнізе, надпіс – больш-менш почыркам Каралёва, не надта пільнуючыся дакладнасці, і аддаў Лю. Атрымалася, што пісьмо было сапраўднае, а яго ўласная кніга з подпісам – падробка.

“Цяпер пастаў кніжку з пісьмом на паліцу”.

“І ўсё?” – недаверліва спытала яна.

“Усё. Калі гэты Пінкертон сапраўды такі настырны і ўедлівы, як ты расказваеш, калі ён не ведае пра і-мэйл, калі ў ім ёсць сапраўдная творчая жылка – ён заўважыць падабенства почыркаў, супаставіць даты і пападзецца”.

“А калі не?”

“Тады ён не варты, каб яму давалі ўвагу”.

“Скажы, а на маці ніяк гэта не адаб’ецца, такія махінацыі?” – спытала яна.

Ён насупіўся:

“Маці другім разам хай лепш выбірае сваіх мужчын”.

“Нічога гэтага не было б, калі б ты жыў з намі. Як можна жыць адной літаратурай? Памяняць родных людзей на асадку, ноўтбук і кавалак сшытай паперы – кнігу?”

“Ну-ну, – яшчэ больш насупіўся ён. – Мы неаднойчы на гэтую тэму гаварылі, яна не абмяркоўваецца”.

Вось што прыблізна падрыхтаваў на канец Рак, у гэтым хацеў прызнацца і за гэта збіраўся папрасіць прабачэння, бо мэта ў Грыневіча пры ўсім пры тым была высакародная – устанаўленне справядлівасці, у той час як у яго, Рака, сумніўная – розыгрыш, гульня, падман.

Напісаць аповесць яму было няцяжка. Пікантнасць была яшчэ і ў тым, што Грыневіч, сам паляўнічы, папаўся, пабег па тым следзе, які мацней пахне. Шкада яго, канечне, але раз такі гарачы, нецярплівы – хай, будзе навука: не ўсяму ж сказанаму і напісанаму трэба верыць. Ды і не гэта было галоўнае. Справа не ў педантычным, уедлівым, упартым і ўпёртым, але наіўным і па-міліцэйску праставатым Грыневічы, які, плетучы павуцінне, растаўляючы сілкі, сам у іх ублытаўся – зразумела, што з гэтым хутка разбяруцца, як высветляць і тое, што юбілейныя жэтоны выпускаліся не да дваццацігоддзя, а да трыццацігоддзя метро, а не разбяруцца, тым лепш: сваёй няўрымслівай дзейнасцю Грыневіч толькі створыць вакол гісторыі ажыятаж, а аповесць атрымае бясплатную рэкламу, прычым скандальную, а значыць, самую надзейную.

Цяпер гэта было няважна. А важна, што ён выканаў абяцанне, дадзенае

дачцэ. Яго дэбют, яго першы блін не атрымаўся комам. Яму паверылі. Ён дабіўся свайго (і цяпер з усмешкай падумаў, што ў свеце толькі дзве сапраўдныя непрыемнасці: першая – не дабіцца чаго хацеў, другая – дабіцца чаго хацеў).

Тэма жэтона была выкарыстана. Больш яна яго не цікавіла. Ён развітваўся са сваімі героямі, але ведаў, што нікуды яны ад яго не дзенуцца. Ён ужо адчуваў поўную сваю ўладу над імі. Пішучы, забаўляючыся, гуляючы сам з сабою ў шахматы, ён навучыўся ажыўляць людзей, мог па першым жаданні адпраўляць іх у нябыт і гэтак сама лёгка вяртаць назад. Гэта было так нова, цікава, незвычайна, захапляльна – улада творцы над сваімі героямі! Больш за тое – нешта падказвала яму, што гэта і ёсць адзіная ў свеце сапраўдная ўлада, хаця б таму, што яна самадастатковая, ёй нічога не пагражае: ні выбары, ні рэферэндумы, ні путчы з рэвалюцыямі, яе ніхто ніколі ні пры якіх абставінах не адбярэ, ды і прэтэндаваць на яе наўрад ці будзе.

Спаць не хацелася. Ён зграб са стала жэтон на шнурку, падышоў да вакна, шырэй расчыніў створкі. Ноч – цёплая, летняя, ліпеньская ўлілася разам з пахамі і гукамі. Знізу ліхтар падсвечваў ярка-зялёную, аж да салатавай, лістоту дрэваў. Зверху зоры сеялі сваё падманнае святло. Ён размахнуўся, зашпурнуў у цемру жэтон, дачакаўся, пакуль ён прашамаціць у лістоце і ціха шпокне, затым стаяў, поўны адчування гэтай раней няведамай улады, прагна дыхаў, глядзеў угору – і яму здавалася, што дом разам з лоджыяй і з ім плыве, як касмічны карабель, падымаючыся ўсё вышэй, усё далей у гэтае глыбокае, мяккае, высланае зорамі аксамітна-чорнае неба.

*2019 г.*

Леанід Галубовіч



...вечнасць –
гэта калі памерлае
застаецца *жывым*...

# Знакі жыцця

## *КРАІНА ЖЫЦЦЯ*

чаму ў цябе так мала сыноў
краіна
і столькі пасынкаў
і ўся ты быццам ява са сноў
з в*і*дзежам веж і пал*а*цыкаў

нібы адзінай крыві не цячэ
тваёй дняпроўскай аортаю
і дзе такую знайсці яшчэ
пр*ы*відную і несмяротную

*25 жніўня 2018*

## *ДАРАВАННЕ ЖЫЦЦЯ*

З’явіўся аднойчы
Госпадзь і сказаў:

– Вось – жыццё тваё.
Скончыцца –
прыйдзеш за іншым.

– А як жа смерць,
Госпадзе?!
– Толькі праз смерць
і прыходзяць да іншага...

*10 чэрвеня 2019*

### *ВЫМЯРЭННЕ ЖЫЦЦЯ*

*жыццё вечнае* – даводзілі мне святары
*а тваё – ўсё наперадзе* – мама казала
*пражывеш колькі здолееш* – сцвярджаў бацька
*як адзін дзень* – выдыхнула бабуля
*імгненне* – паправіла смерць

*8 верасня 2018*

### *ТВОРЦА ЖЫЦЦЯ*

музыку ветру ніхто не ствараў
не маляваў карціну квяцістага лугу
паэму зорнага неба ніхто не пісаў

і няўвідны нам Той
Хто ляпіў нас з гліны
і ўдасканальваў з рабра

усё што пазначана аўтарствам
пазбаўлена нерукатворнасці

*19 кастрычніка 2018*

### *САРДЭЧНАСЦЬ ЖЫЦЦЯ*

*памяці кардыёхірурга Я.*

у людскія сэрцы ўваходзіў лязом
і выходзіў ніткаю Арыядны

а ў сябе не пусціў нікога
быццам быў бессардэчным

*22 кастрычніка 2018*

## *КАХАННЕ ЖЫЦЦЯ*

*жанчыне з мары*

Калі шаптаў, што я цябе люблю –
найперш хацеў, каб ты мяне любіла,
бы ліўня – што натольвае зямлю
сасмяглую –
і прагла, і прасіла...

Каб вось цяпер, жыцця напрыканцы,
крах вызнаўшы сваіх зямных жаданняў,
пачуцця шэсць маіх, нібы сляпцы,
брылі за сёмым да свайго скanання...

А ты?! Што ж – ты?! Куды прапала ты,
самотнага жыцця майго патрэба?
Зірну назад – там далягляд пусты,
наперад гляну – там адное неба...

*3 лютага 2019*

## *ЛІТАРАТУРА ЖЫЦЦЯ*

мы пішам
камянямі на камянях

на магільных
плітах
наш летапіс

*24 верасня 2018*

## *МОВА ЖЫЦЦЯ*

мова наша знямелая
*языком* зашчэмленая

апошнія словы яе
*хаваюцца* ў дамавінах

*9 лістапада 2018*

## *САМАГУБСТВА ЖЫЦЦЯ*

*светлай памяці Я. Янішчыц, І. Рубіна,*
*В. Сахарчука, Ю. Гуменюка, І. Канановіча*

я думаю
кожны

сабраўшы волю ў кулак
можа скочыць з даху
выпіць атруту
альбо засіліцца
ці заснуць
папярэдне ўключыўшы
чатыры газавыя канфоркі
я думаю
на гэта можа рашыцца кожны
з тых
хто хоча сысці
спадзяючыся *застацца*

*4 студзеня 2018*

## *СТОМА ЖЫЦЦЯ*

Хавалі Лёню Дайнеку,
а Тэкля, ўнучка яго,
тупала гулка па плітах
у рытуальнай зале,
біянтэжыла ўсіх ужалобленых,
дзеда спрабуючы дабудзіцца,
а ён не зважаў на стук,
спаў беспрабудна,
як пасля катаржнай працы –
ну хоць ты плач! –
і Тэкля заплакала...

*30 жніўня 2019*

## *ПАКАРАННЕ ЖЫЦЦЁМ*

Кожны думае
што Бог высіцца
менавіта над ім
за ім сочыць
яго папярэджвае
накіроўвае
і карае

А Бог схіляецца
над усімі
ні за кім канкрэтна
не сочыць
нікога не папярэджвае

не накіроўвае
карае ўсіх –
адных жыццём
другіх смерцю

*22 студзеня 2019*

## *ЭПІЛОГ ЖЫЦЦЯ*

памёршы
назаўжды
становішся да вечнасці датычным

*30 жніўня 2018*

## *ВЕЧНАСЦЬ ЖЫЦЦЯ*

вечнасць –
гэта калі памерлае
застаецца *жывым*

*7 студзеня 2019*



Леанід Дранько-Майсюк



...самы выдатны мастацкі твор
не сцісне так моцна сэрца,
як непрыдуманы чалавечы боль...

# Старонкі з "Памятнай кніжкі"

*19 чэрвеня 2019 г., серада.*

У Маскве спёка, ад гарачыні добра хавацца ў музейнай прахалодзе.

З Вольгай і яе сяброўкай Раяй я прыйшоў на Крымскі Вал, 10 (Новая Трацякоўка) – тут на некалькіх паверхах выстаўлены творы Ільі Рэпіна.

Дарэчы, калі ты пенсіянер (з Расіі ці краінаў СНД), то за адзін квіток плаціш палову кошту – усяго 300 расійскіх рублёў – грошы, за якія можна купіць тры порцыі марозіва.

А што да жывапісу Рэпіна, то (калі казаць коратка) ён пераважна, як моцная навальніца...

Марудна прайшоўшы некалькі залаў, я ўбачыў прыкрую сцэну – нейкай старой жанчыне зрабілася млосна (на жаль, музейная прахалода не вывела вулічную духату, якая назапасілася ў крыві пажылога чалавека!) – жанчына ўпала і ўвярэдзіла руку.

Няшчаснай дапамагалі ўжо два лекары з "хуткай дапамогі" – яны зрабілі ўкол.

Побач, ніякавата пераступаючы з нагі на нагу, хісталіся афіцэры – адзін з паліцыі, другі з міністэрства па надзвычайных здарэннях.

А нябога мучылася, ёй вельмі балела; шкада было яе, – праходзячы далей, я прагнуў, каб хутчэй падзейнічаў укол.

Пакутліва прыхінуўшыся да сцяны, жанчына напаўляжала якраз паміж карцінамі "Араты. Леў Мікалаевіч Талстой на раллі" (1887 г.) і "Л.М. Талстой працуе ў пакоі пад скляпеннямі" (1891 г.).

У гэты момант не хацелася ніякіх параўнанняў, абагульненняў, але раптам падумалася: самы выдатны мастацкі твор не сцісне так моцна сэрца, як непрыдуманы чалавечы боль.

*20 чэрвеня 2019 г., чацвер.*

***1.***

Учора, калі мы з Вольгай чакалі Раю, паўз ганак Новай Трацякоўкі прайшла дзяўчына, ці, калі яна замужняя, то маладзіца – падзертыя джынсы-шорты, праз якія свяціліся карункі бялізны; кашулька толькі на грудзях і зусім адкрытая на спіне; чэраўца, лыткі, сцёгны, карак, плечы ўсыпаны татуіроўкамі-наколкамі; вушы заткнуты радыёнавушнікамі, а з носа, як засохлыя соплікі, тырчалі дзве драцінінкі...

Пра апошняе я падумаў: паэты ўслаўлялі жаночыя ўпрыгожанні – пярсцёнкі, бранзалеты, ланцужкі, каралі, завушніцы; лёгка было паэтам услаўляць пералічанае, бо пярсцёнкі і бранзалеты – на руках, ланцужкі і каралі – на шыі, завушніцы...

Дарэчы, пры гэтым прыгожым слове сам па сабе згадваецца (ну, проста не можа не згадацца!) верш Максіма Танка "Завушніцы", пératвораны У. Мулявіным у аднайменную знакамітую песню.

Дык вось (паўтаруся), лёгка было паэтам услаўляць усе гэтыя пярсцёнкі і завушніцы, але як апець дрот, які неахайна вылазіць з носа?

Зрэшты, знойдзецца геній – апяе!

Ідучы, дзяўчына-маладзіца закурыла, і я ўспомніў:

Ой, трымайце, упаду!
Што за неспадзеўка?
Дзеўкі кураць на хаду –
Дым над кожнай дзеўкай...

Што зробіш, цыгарэта абавязковы атрыбут ці не кожнай феміністкі, а закурыць на хаду – асаблівы шык!

Я не зацікавіўся б убачанай асобай, бо такіх (у дзіравых нагавіцах і з дротам у носе) і ў Маскве, і ў Менску, і скрозь вялікае мноства.

Яны здаецца, не вераць свайму прыроднаму хараству і закрытым элегантным сукенкам, таму псуюць уласную прыгажосць незразумелым адзеннем, няскладнымі на сваім целе малюнкамі; шкодзяць сабе часам зусім недарэчнымі паводзінамі; пра нязграбную іхнюю мову пакуль змоўчу.

Так, я магу паверыць: яны працуюць, чужы хлеб не ядуць, іхняя работа патрэбна людзям; так, яны, магчыма, лагодныя і чулыя; дома глядзяць і мужа, і дзяцей, шануюць сваіх бацькоў, самі мыюць і посуд, і вокны, і падлогу; самі прасуюць кашулі і гузікі да іх прышываюць; гатуюць і снеданне, і вячэру...

Але я шкадую: чамусьці амаль кожная такая "модніца" не хоча выглядаць

і паводзіць сябе так, як Бог ёй даў ад нараджэння; не жадае заставацца адметнай, вонкава не падобнай на іншых – наадварот, самохаць лезе ў чараду аднолькавых у дзіравых джынсах лялек.

На жаль, слухаецца пустога правіла: калі ўсе на вуліцы агалілі жываты, то і я агалю; калі ўсе абсыпаліся татуіроўкамі, то і я абсыплюся...

І яшчэ заўважу: калі, скажам, яна фатаграфуецца, то абавязкова адстаўляе ўбок ножку!

Чаму?

А таму што ўсе так робяць...

Аднак жа вярнуся да таго, што дзяўчына-маладзіца, не спыняючыся, закурыла, бо з гэтага й пачалося тое цікавае, што й прыцягнула маю ўвагу да яе персоны.

Выцягваючы з задняй кішэні сваіх задужа кароткіх портачак цыгарэты, яна не пачула (вушы заткнутыя ж!), як з той жа кішэні выпала, пластмасава лёпнулася на бетонны дол нейкая яе бліскучая рэч...

Калі я падышоў і падняў згубленае ёю, то ў душы ахнуў – гэта быў набор (візітоўніца?!) адмыслова складзеных магнітных картак, самых розных; пэўна ж, і банкаўскія сярод іх залацелі...

Дзяўчына між тым, сінеючы наколкамі, адышлася ад гэтага месца крокаў ужо на трыццаць.

Я крыкнуў раз-другі – яна не пачула, таму й мусіў быў бегчы за ёй...

О, як яна мне шчыра дзякавала!

О, як яна мне ўсміхалася – чыста, разгублена, шчаслівa, па-дзіцячы, і мне здалося, што гэтак жа па-дзіцячы ўсміхаліся й два дроцікі з яе пракуранага носіка...

А набор магнітных картак тым часам яна засунула ў тую ж самую заднюю кішэню, дзе былі цыгарэты...

***2.***

Учора, калі паглядзелі творы Ільі Рэпіна, Рая павяла нас да адноўленага храма Хрыста Збаўцы, каб паказаць рэльефныя фігуры, якія зрабіў для гэтай святыні яе муж скульптар Ігар Казлоў.

Мы йшлі па Крымскай, а тады па Якіманскай набярэжнай і праз Патрыярхаў мост падступілі да храма, на месцы якога яшчэ нядаўна балотнеў басейн.

Ігар Казлоў аднавіў на новаўзведзеных мурах чатыры кампазіцыі пластычнага аздаблення, у тым ліку і бронзавую постаць прарока Майсея – маштаб ягонай працы ўражвае, выдатнае выкананне таксама.

На ліфце падняліся на галерэю, па якой можна прайсці вакол цэнтральнага купала, любуючыся Масквой, аднак асабліва я і не любаваўся – ці вышыня была не тая, ці сонца надта сляпіла; словам, краявіды з усіх бакоў мелі для мяне даволі посную глыбіню...

Па Валхонцы спусціліся на Махавую і развіталіся з Раяй ля станцыі метро Баравіцкая...

Седзячы ў вагоне, я складаў у думках, нібыта баладу, апавяданне на сучасную балючую тэму, бо раптам з падслуханага адкрылася мне, нават моцна тузанула рыса новага жыцця – колішнія паны бралі ў Еўропу слуг; сённяшнія паны, выбіраючыся на адпачынак, скажам, у тую ж затупаную Барселону, бяруць замест слуг сваіх матак.

Прычына вядомая: слугу трэба плаціць, матцы – не; усе тры тыдні

адпачынку ў арандаванай прыморскай хатцы шчаслівая (!) старая будзе гатаваць дочачцы, зяцю і ўнуку сняданні, полудні, падвячоркі і вячэры.

Так, шчаслівая, бо ажно тры тыдні будзе бачыцца з унукам, няхай сабе й за мяжой, бо дома чамусьці тое ёй забаронена, – такі ўжо ўсталяваўся парадак сямейны.

*3.*

Сёння зранку (20-га чысла) у краме “Ростань” (“Перекресток”), што ў Ясенева, купіў за 29.90 літр пітной вады, бо спякотны дзень, які ўжо выкругляўся наперадзе, нібыта шапнуў мне па-сяброўску: сонца будзе смажыць усё наўкол, таму піць давядзецца шмат...

З Вольгай сустрэўся на станцыі метро “Сухараўская” і, з адчуваннем сваёй напаўзабытай студэнцкай радасці, якая імгненна вяртаецца ў маю кроў, калі апынаюся ў Маскве, я йшоў па вуліцы Срэценка, дыхаў празрыстымі гістарычнымі назвамі бясконцых завулкаў, цешыўся, што назвы гэтыя вярнуліся, а Вольга (сапраўдная масквічка!) глядзела на мяне з паблажлівасцю, і паблажлівасць яе ўзмацнялася, калі я спыняўся ля чарговай шыльдачкі (напрыклад, “Пушкароў завулак”) і рабіў здымак.

У свае літінстытуцкія гады я, можна сказаць, не ўбачыў, праўдзівей – не адчуў маскоўскага хараства, успрымаў Маскву проста як жыллёвую прастору; а да ўсяго яшчэ гэтае хараство было прыглушана і часткова знішчана, і толькі сёння белакаменная радуе адноўленай прыгажосцю.

Масква часоў майго студэнцтва – места выбоістых тратуараў, цьмяных пад’ездаў, закінутых цэркваў, скамунізаваных назваў, двух-трох гатункаў каўбасы, якую зацятыя пакупнікі расхоплівалі за паўгадзіны.

Так, з харчамі тады была нявыкрутка.

Памятаю, як у снежні 1980-га Люда, Вользіна старэйшая сястра, папрасіла мяне здабыць у Елісееўскім гастраноме замарожаную курыцу.

Ужо з тыдзень як у гастраномы савецкай сталіцы не завозілі кураціну, а ў гэтай знакамітай краме яе ўсё ж прадавалі.

Мае заняткі ў Літаратурным інстытуце скончыліся а другой гадзіне, па Цвярскім бульвары я прасунуўся да помніка Пушкіну і заняў чаргу ў Елісееўскі – так, людзей тоўпілася ў гэтую краму столькі, што чаргу трэ было займаць ажно ля помніка Пушкіну!

Удосталь дыхаючы пераднавагоднім паветрам, я гібеў у самым хвасце, а хвост на ўсю сваю даўжыню быў не проста доўгі – велізарны!

Ён то стаяў, а то, здавалася, ляжаў, як паваленая вежа Эйфеля; хвост, выгінаючыся, рухаўся і не рухаўся, круціўся і не круціўся; часам, зноў жа здавалася, што хвост прыпадымаўся, і нехта, нібыта лішні, скочваўся ўбок, аднак жа не, ніхто не скочваўся, чаргу не пакідаў – усе пільнаваліся пакупніцкае долі моўчкі і цярпліва, ні на што не наракалі, і я таксама...

Праз чатыры гадзіны, ужо змеркла нават, я нарэшце ўшыўся ў Елісееўскі і ўзяў – колькі давалі – ажно дзве куры!

Здаецца, жаданага тавару хапіла тады ўсім, бо сапраўды сюды, у Елісееўскі, курэй (дарэчы, французскіх!) падвозілі і падвозілі; бліскаючы фарамі па Казіцкім завулку, прадуктовыя машыны падрульвалі ў гастраномны двор бесперапынна.

Цікава нават і сёння мне, што куры былі французскія, а бульба, да слова сказаць, кубінская.

Не здзіўляйцеся – тады ў Маскве прадавалі чырвоную кубінскую бульбу, – сок з яе, калі ababраць, цадзіўся чырвоны...

Але ў тыя часы – о, асалода! – Масква з’яўлялася горадам паэзіі і шанаваных яе творцаў.

Сённяшняя ж Масква, як тая бядулеўская кабыла, – і гладкая, і дагледжаная, пазбаўлена доўгіх, нават нядоўгіх чэргаў; яна з вясёлкавай лускою банкаўскага капіталу і бліскучымі купаламі сабораў, бляскам лімузінаў і вітрын; у кожным крамным халадзільніку мае ці не больш за паўсотню гатункаў усялякага мяснога – бяры колькі хочаш, толькі б, як той казаў, грошы...

Але сённяшняя Масква – прастора, з якой знікла (ці памылюся?!) вершаванае гучанне; зрэшты, а хіба з менскае прасторы яно не знікла?

Таму разумны на такое скажа: “І тады было добра, і сённека – няблага...”

І сапраўды ж няблага, бо пакуль мы глядзелі на Вуспенскую царкву, нам ля помніка Надзеі Крупскай, што на Срэценскім бульвары, ветлівы кухар спёк два млінцы, падсаладзіў іх малінавым сочывам, і, падсілкаваўшыся, далей мы пайшлі, зусім не пакрыўджаныя на жыццё, па вуліцы Вялікая Лубянка.

А сонца нас не пакідала, мы шукалі і лёгка знаходзілі зручны цень, на хвіліну якую хаваліся ад дзённай спякоты і, як бесклапотныя дачнікі, якія далёка адышліся ад сваёй утульнай дачнай хаціны, часта пілі ваду, а паўз нас, жвава ціснучы на педалі арандаваных ровараў, ва ўсе бакі лёталі заклапочаныя хлопцы з Усходу (кіргізы, таджыкі, узбекі).

Яны як тыя рыкшы, толькі не пасажыраў развозілі, а на патрэбныя ім адрасы дастаўлялі рэстаранную ежу, упакаваную ў вялікія ярка-жоўтыя ранцы-заплечнікі.

Работа ў працавітых юнакоў, скажу проста, – не дзеля таго, каб ім зайздросціць...

А ў нас, ці не летуценных вандроўнікаў, свой клопат...

Каб мы беглі, то можна было б акрэсліць, што беглі мы ўлукаткі, але мы, стрыманыя пенсіянеры, не беглі, а йшлі так, як нам ішлося – найбольш у пошуку надзейнага ценю; разумны вызначыў бы: мы рухаліся па ўсім полі і назад.

З Лубянскага праезду завярнулі на Мясніцкую, прыстоілі каля шэзлонгавага помніка Ле Карбюзье, паблізу Фралова завулка пасядзелі на ўсё тым жа Срэценскім бульвары, а тады ад помніка інжынеру Шухаву па Уланскім завулку наблізіліся да царквы святога Мікалая Мірлікійскага, што ў Дзербянёве.

Крыху пазней нам адкрыўся мемарыял ахвярам палітычных рэпрэсій “Сцяна смутку”, на якім сярод іншых надпісаў цямнеў і надпіс па-беларуску – “Памятай!”

З Садова-Спаскай зноў патрапілі на Мясніцкую, якая, дарэчы, пад саветамі іменавалася вуліцай Кірава.

– У іх Мясніцкая, а ў нас Мяснікова! – сумна пажартавала Вольга.

А я тым часам думаў: Масква, як яе да вайны і па вайне ні разбуралі, усё-ткі поўнаму разбурэнню не паддалася, аднак жа, здаецца, пакорліва паддаецца іншай небяспецы – тысячам і тысячам аўто, якія ў спёку стаяць з незаглушанымі рухавікамі.

Я не кажу пра машыны (а іх проста неверагодная колькасць), якія ў руху, няхай сабе едуць...

У аўто ж, якія стаяць, адпачываюць, некага чакаюць кручаныя паны і

недапанкі; яны прагнуць утульнасці, ім патрэбны ўключаныя кандыцыянеры, таму рухавікі іхніх аўтамабіляў гудуць бесперастанку; пра маскоўскае паветра, каб яно было чыстым, кручаныя ані дбаюць; заглушыць матор і пасядзець у цяньку на лаўцы – не здагадваюцца...

Вада наша нарэшце выйшла, і ў Крывакаленным завулку ў кавярні “З’ем слана” мы выпілі настой з шыпшыны за 239 рублёў, а тады спусціліся ў рэстаран “Пятровіч” – там нас чакала Люда са сваімі.

*21 чэрвеня 2019 г., пятніца.*

Вада, вада – і гэты маскоўскі дзень звыкла пачынаецца з купляння вады...

Каб хто ў час майго дзяцінства загаварыў уголас, што некалі за ваду трэба будзе плаціць грошы, то з такой навіны доўга стаяў бы вялікі смех!

Я гадаваўся ў Давыд-Гарадку на вуліцы “Кода́к”, блізка ад якое цёк шпаркі Вірок, трохі далей Саманюкоў Роў, Сешка і Гарынь; дый Прыпяць недалёка разляглася.

Скрозь, куды ні ступі – ручаіны, крыніцы, сажалкі ці стаўкі, даўнія рэчышчы, якія называліся старыка́мі, і проста ямы з вадою – былыя глінішчы.

У “Кодаку” стаяла студня, вада ў якой была такая смачная, што па яе (браць на чай!) прыходзілі нават з далёкіх вуліц...

Згадваю ўсё гэта і самому сабе прамаўляю з уздыхам: яшчэ шалёна віравала й тая  вада, якая па зіме затапляла гароды і ўкочвалася няпрошаная ў хаты, а калі не ўкочвалася, то стоена дыхала, як той Дох, пад дубовымі падвалінамі; варта было па-дзіцячы падскочыць і гупнуць ў падлогу, як праз вузкія шчыліны паміж дошак выбіваліся наверх тванiстыя цуркі ледзяной жыжы...

Некранутае вадзяное царства існавала да меліярацыі...

Цяперака ж ні стаўкоў, ні ручаінаў, а Гарынь наогул – калека, яна не тое што агароды вясной не залівае, нават ужо не можа дапяць да Прыпяці, яе вусце (сёлета расказваў мне Мікалай Бразоўскі) засыпана зыбуном, а ў самім Давыд-Гарадку і навокал павысыхалі калодзежы...

Купляючы маскоўскую ваду, у думках, як вар’ят, кажу колішнім меліяратарам: “Вы зрабілі тое, што не трэ было рабіць...”

І сённяшнім блазнам (яны – тыя ж меліяратары!) таксама кажу: “Робіце тое, што не трэба...”

Удачлівым і заўсёды ўсмешлівым блазнам-безрабоцькам я не спачуваю, спачуваю хлопцам з Усходу (кіргізам, таджыкам, узбекам), яны штодня пры цяжкой рабоце, іхнія арандаваныя ровары і вялізныя цяжкія ранцы-заплечнікі бачныя ў маскоўскай прасторы здалёку.

Вось яны ад станцыі метро “Курская” праляцелі, круцячы педалі, па шумнай вуліцы Земляны Вал і зніклі за рогам больш зацішнай Пакроўкі.

Вось бачу іх, стомленых, ля помніка Чарнышэўскаму, як і на стыку Армянскага завулка і Марасейкі ля нашага пасольства...

А сёння мы з Вольгаю таксама ж рухаліся па ўсім полі і назад, мы кружылі прываблівымі завулкамі – па-іншаму па Маскве, здаецца, хадзіць і нельга.

Скажам, Салянка нас вывела на Яузскі бульвар, далей па Петрапаўлаўскім дасягнулі Хітроўкі і паўз царкву Трох святыцеляў па Падкапаеўскім і Каўпачным завулках выплылі ўсё на тую ж Пакроўку, і зноў убачылі хлопцаў-мусульман, якія развозілі ежу...

Так, ходзячы, я і ўцішыў сваю злосць і на колішніх людцаў, якія знішчылі прыроду, і на сённяшніх лайдакоў, якія ператвараюць жыццё ў гульню, а Вольга, усё разумеючы, зноў жа глядзела на мяне паблажліва.

*22 чэрвеня 2019 г., субота.*

***1.***

Неяк лёгка думалася: набліжэнне чалавека да чалавека – з'ява зазвычай вонкавая; у душы людзі заўсёды аддалены адно ад аднаго, аднак жа, калі іхнія мэты і клопаты супадаюць, то на нейкі час (кожны пільнуючыся свайго!) людзі збліжаюцца, нават утвараюць сем'і.

А яшчэ думалася й гэтак: сёння амаль кожны, хто вырас на ўсім гатовым, – істота з амбіцыяй; амаль кожны, хто бацькоў сваіх ператварыў у слуг, прагне цараваць.

Ён кідае на падлогу смецце і не хоча падлогу падмятаць, бо выхаваны панам; яго не прымусіш фізічна працаваць.

Ён умее толькі адну работу – малоць языком, бо якраз і мае доўгі язык, і там, дзе, скажам, трэба палоць буракі, яго не ўбачыш...

Вінаваты бацькі, што выгадавалі такога вісуса?

Вінаваты сённяшні дзень?

Магчыма...

Наогул жа сённяшні дзень пераважна моліцца не богу штодзённай цяжкой працы, а богу штодзённага бесклапотнага адпачынку.

І вось паўз дом А. Ярмолава, што на Прачысценцы, прагрукацеў яскравы доказ гэтаму – маладзіца на самакаце!

Акрэслю яе коратка – еўраамка, бо, відавочна, яна зляпіла сябе паводле еўраамерыканскае модлы.

Дык вось, еўраамка не проста ехала-грукацела, правай рукой кіруючы самакатам, – а размаўляла па далькажыку (з вушэй у кішэню цягнуліся кармінавыя драты), пасмоктвала электронную цыгарку, адмысловым кранштэйнам прымацаваную да руля, выпускала з рота белаватую пару, у левай руцэ трымала закрыты пластмасавы кубачак з нейкім пітвом, якое пацягвала праз гнуткую саломінку (прынамсі, раз пацягнула пры мне!), і гэтаю ж рукой, не выпускаючы кубачак, млява папраўляла свае блакітна-чырвоныя валасы, і, дапамагаючы імкліваму самакатнаму руху, размашыста раз-пораз папіхалася нагой.

Мяне нават крыху захапіла, што ўсё гэта еўраамка рабіла адначасова!

Майстрыха якая!

І на нейкае імгненне зрабіўшыся лагодным, пяшчотна падумаў – яна: "... ўся сама – як сонца..."

Так, я не пазбегнуў празмернасці, перад самім сабою апраўдваючыся: "А што, ці не ўдалая Купалава жняя трапілася мне ў гэты маскоўскі дзень?!"

Аднак жа, трэба разумець, гэтая "жняя" далёка і назаўсёды адкінула ад сябе "...сярпочак зублены, сталёвы...", і ён, непатрэбны ёй, праз Барыкоўскі, здаецца, завулак, мусіць жа даляцеў ажно да Астожанкі!

Так, серп – вобраз цяжкой працы – шпурнуты, як непатрэбная рэч, і кабетка на самакаце – бачная праява рэчаіснасці, якая лясне з усёй гэтай парожняй прыгажосцю, сіліконам, электроннымі цыгарэтамі, пластмасавым пітвом і самакатамі!

Рэчаіснасць такая згіне, канча прападзе хоць бы з той простай прычыны, што лайдакоў большае, а працаўнікоў меншае...

Кінуты серп, вядома, не бумеранг, але ён вернецца.

Прыйдзе той цвярозы час, калі, як і сто гадоў назад, давядзецца здабываць хлеб сваімі рукамі.

Жыццё прымусіць і кожную такую еўраамку забыцца на самакатныя забаўкі і з вострым сярпом у жніўную пару на ўвесь мах рукі заняць сваю постаць...

*2.*

Мы йшлі ў Крываарбацкі завулак паглядзець на Дом архітэктара Мельнікава, і Вольга, нібыта працягваючы нашу даўнюю і, як паказала жыццё, бясконцую гаворку, пачатую ў Маскве яшчэ ў снежні 1979 года, стрымана прамовіла:

– Вельмі добра з беларускай мовай ніколі не будзе...

Акцэнт быў зроблены на прыслоўі “вельмі”.

– А як будзе? – гэтак жа спакойна пацікавіўся я.

– Заўсёды будзе проста добра...

Гэтым разам акцэнт упаў на прыслоўе “проста”.

Вольга ўмее палепшыць настрой.

А раз так, то мне трэ было шчасліва засмяяцца, і не толькі для самога сябе і Вольгі, а, здаецца, варта было справіць гучны рогат, каб яшчэ і нехта пачуў, што настрой мой палепшыўся, але, як уявілася мне ў гэты момант, нейкая незвычайная ціхасць плыла па арбацкіх закавулках, таму я стрымаўся, каб не парушыць яе.

Ціхасць гэтая (па адчуванні, вядома ж, ядвабная!) лагодна апавіла брамы, клямкі, краты, балясы, фіранкі, шыбы, вазоны, ліхтары і нават ровары...

Так, два разы, у Плотнікавым завулку і ў самім Крываарбацкім, нам трапіліся пакінутыя проста пасярэдзіне ходнікаў каляровыя, блакітна-ружовай расфарбоўкі, пракатныя веласіпеды.

Гэта ж, відаць, ужо мода пайшла такая, абумоўленая нейкай там сучаснай праграмнай усталяванасцю, прысы́рваць веласіпеды, ці тыя ж самыя самакаты, абы-дзе?!

Я ж наогул звык да таго, што ровар дбайна прыхіляецца да сцяны або да плота.

І тут набег успамін, яскравы давыд-гарадоцкі малюнак: я, малы, іду (не першы раз!) да Калабановай кузні, ля якое штовечара п’яна звініць на розныя лады закусачная “Блакітны Дунай”.

Маці звыкла загадвала мне забраць адтуль, каб не ўкралі, бацькаў ровар.

Маладыя цесляры, муляры, тынкоўшчыкі, бляхары пасля работы ў калгаснай будаўнічай брыгадзе ўчашчалі ў тую выпівальню, згрудзіўшы свае ровары па абодва бакі яе расхістаных дзвярэй.

Рулі, блотнікі, педалі, рамы, сёдлы, помпы, ланцугі, багажнікі з засунутымі ў іх гострымі сякерамі – цяжка разабраць, дзе чый веласіпед!

Аднак жа я хоць і малы, але цваны – з-пад чужых адразу выцягваў бацькаў чорны ровар і важна ехаў на ім дадому.

*3.*

Ці наўмысна тое раблю, ці вочы такія маю, а мо наогул, кажучы па давыдгарадоцку, не магу адрозніць ячнае ад пшанічнага – словам, амаль заўсёды на чарэшню кажу вішня.

Мусіць, гучанне (ві-шня!) мне падабаецца больш.

І так раблю, ужо можна пастанавіць, дзе б ні быў – і ў Менску на Камароўцы, і ў Маскве ля Дома архітэктара Мельнікава.

Дык вось, тут, у гэтым райскім, без машын, травяністым двары ля двукруглай пабудовы цудоўнага дойліда, убачыў дрэва, аздобленае густа чырвонымі каралінамі ягад і, вядома ж, назваў яго паводле свайго прызвычаення – вішняй.

– Гэта чарэшня, – лагодна папраўіла мяне Вольга...

На пакрытай гравіем дарожцы стаялі складныя драўляныя крэслы; гуў, але даволі ціха, матор помпы, і блакітная гумавая кішка, поўная вады, падрыгвала на доле, і на траву, на якую клаліся цені, шчодра сыпаўся вадзяны пыл.

Па двары заклапочана сюды-туды хадзілі тры музейныя прыслужнікі, а мы тым часам занялі пры століку два крэслы (прайшоўшы ўсю Астожанку і ўсю Прачысценку, нам, натомленым, хацелася пасядзець у зацішку), і раптоўны ветрык ахаладзіў нас добрай жменяй вадзянога пылу, – мы нават адсунуліся ўбок.

Тут жа, у двары, можна было вывучыць макет знакамітага Дома, а на спецыяльных дошках прачытаць кароткія паведамленні пра жыццё і творчасць архітэктара.

Божа мой, не адзін год я правёў у Маскве, шмат разоў абхадзіў усе гэтыя завулкі; у траўні 1978 года, адразу пасля салдацкай службы, два тыдні жыў у Стараканюшанным, а гэта ж на адзін крык, нават на адзін шэпт ад Крываарбацкага, аднак жа толькі сёння я ўбачыў гэты незвычайны будынак!

Дарэчы, Мельнікаў – прыклад разумнага творцы: прагнеш дасягнуць мэты, слухайся ўладу!

Марыш пабудаваць сваё – ствары спачатку саркафаг Леніна!

А між тым Дом гэты, па тынкоўцы якога паўзуць даўнія шчыліны, цяпер нібыта ў палоне, ён заціснуты іншымі мурамі.

Адметны ў архітэктуры, аднак жа празаічны ў сямейным бытаванні; як і мільёны іншых дамоў, на жаль, ён таксама ўзбагаціў чорную карціну сямейных сварак.

О, гэтае бясконцае змаганне за бацькоўскую спадчыну, калі нянавісць да брата душыць сястру, і наадварот – брат адчувае пачуццё моцнай варожасці да сястры.

У гэтым змаганні сканала не адна радзіна!

Мне стала на хвіліну прыкра ад такіх сумных разваг і, настройваючы сябе на іншае думанне, я моўчкі варушыў губамі, а Вольга падумала, што нешта несамавітае кажу самому сабе пра пісьменніцкі лёс, таму, калі мы ўжо выйшлі на маскарадную вуліцу Арбат, разважыла: каб займацца літаратурай, трэба быць моцным, не чакаць водгукаў і нічога не чакаць, а штодня пісаць, не забываючы, што літаратурай займацца заўсёды небяспечна, асабліва беларускай...

***4.***

Мы зайшлі ў Стараканюшанны...

Паўз драўляны ўзорысты церам Парахаўшчыкова падступілі да высокага, з адным пад'ездам будынка №30.

Тут на трэцім паверсе жыла мая літаратурная ахоўніца – пісьменніца Лідзія Абухава.

Яе двухпакаёвая пад нумарам 19 кватэрка заўсёды ўяўлялася мне ўтульным зацішкам, багатым на разнастайныя цікавыя выданні, здымкі, рукапісы, дэкаратыўнае пано, фікус, машынку *Rheinmetall*, карціну М. Шамякіна з пачварным вобразам бульбатага матадора...

Пра твор забароненага М. Шамякіна Л. Абухава прасіла нікому не расказваць, а машынку *Rheinmetall* неўзабаве мне падаравала.

Дарэчы, суседам пісьменніцы па доме быў вядомы актор Г. Віцын...

Дык вось, у Стараканюшанны заўсёды цягне мяне салодкае задаволенне тым, што наогул са мною сталася ў Маскве, як і тым, што жыллё Л. Абухавай – першы мой цёплы маскоўскі парог, які пераступіў я ў жніўні 1975-га...

Цяпер тут жывуць іншыя людзі.

Летась, у верасні, не маючы дамафоннага ключа, мне ўдалося (з другога разу!) прайсці ў пад'езд, аздоблены партрэтам Г. Віцына.

Утаймоўваючы дыханне, на трэцім паверсе націснуў гузік званка пад запаветным нумарам 19...

Растлумачыў сітуацыю, папрасіў зразумець мяне, пусціць хоць на адну хвіліну ў кватэру, каб крыху пабыць у дарагіх сэрцу сценах.

Не пусцілі...

Ні з чым выходзячы з пад'езда, я сумна падміргнуў назаўсёды застыгламу ўсмеху Г. Віцына, хоць так, але суцешыў сябе ў сваёй дробнай няўдачы...

Памятаючы пра леташні марны вынік, гэтым разам нават і не спрабаваў лавіць момант, каб ушыцца ў пад'езд – проста абышоў дом, паглядзеў на знаёмыя вокны, а яшчэ захацеў убачыць і блізкія адсюль вокны празаіка Юрыя Казакова, з якім Л. Абухава сябравала.

І вось, пакуль Вольга ў ценістым Стараканюшанным на блакітнай лавачцы гартала ў чытніку нейкі цікавы раман, я вярнуўся на прапаленую, як печ, вуліцу Арбат.

А сённяшні Арбат – праўдзівы цырк выстаўлення таго, у чым неабходнасць нязначная, прынамсі, мне дык і зусім непатрэбная; арбацкім выстаўлякам, як і зыбіцкім нашым, бракуе ўсё той жа сціпласці.

Усё, што на Арбаце робіцца-вычвараецца, падрабязна абгаворваць не буду, падам толькі адзін яскравы абразок – насупраць тэатра Вахтангава, дзе ўладарыць рэжысёр Тумінас, два закарэлыя, голыя па пояс піткі-безрабоцькі (гадоў ёлупам недзе па трыццаць) грэлі на бруку разбухлыя жываты.

Безрабоцькі гэтыя ляжалі, уваткнуўшы бліскуча-святочныя пысы ў адваротны бок самаробнага плаката: "На бухло!"

Побач касцянела скарбонка – ці не чарапашы панцыр пад попельніцу, нішкам вынесены пад крысом, пэўна, з нейкай камісійнай крамы.

Якой мяккай фарбай назваць убачанае?

Ужыву чужое мне слоўца: перформанс!

Тумінасу варта зацягнуць безрабоцькаў на сцэну, балазе, валачы зусім блізка, і пакінуць іх з такой зразумелай усім аб'явай "На бухло!" перад рампай, – яшчэ адзін спектакль атрымаецца ўмомант, бяры толькі добрыя грошы, кажучы па-іхняму, за крутое мастацтва...

А па ўсёй даўжыні Арбата татуяваная тоўшча крываўсмешлівых бяздумнікаў екатала-свіргатала-цюгакала-раўла-лямантавала...

Я прасунуўся ў бок Смаленскай плошчы і ўбачыў патрэбны мне мур з памятнай дошкай, на якой пад барэльефным партрэтам празаіка йшоў надпіс: "У гэтым доме з 1930 па 1964 год жыў пісьменнік Юры Казакоў".

Творца, які нарадзіўся ў Саюзе, адышоў у Саюзе, але якога не назавеш савецкім.

Я бачыў яго два разы ў 1982 годзе – да слова сказаць, у тым жа годзе ён і памёр.

Бачыў не на вуліцы ў руху, а ў памяшканні ў крэсле – у малой зале рэстарана ЦДЛ і ў сціплай сталоўцы пісьменніцкага дома творчасці "Перадзелкіна".

Яшчэ не стары, але з выгляду, як той сад, што ўжо асыпаў лісце, – у свае пяцьдзясят пяць выглядаў гадоў на дваццаць старэй, і прычына вонкавай старасці ягоным прыхільнікам была вядомая.

Ён заўсёды лез у бяду – гарэлку; заўсёды вельмі шмат піў, і ці не з п'янства пачаў слепнуць; за тоўстым шклом цяжкіх акуляраў, якія, можна было падумаць, ажно прыгіналі яго лысую галаву да стала, ледзьве ўгадваліся – былі як у сыроватцы! – слязістыя вочы.

Нехлямяжая пастава яркага празаіка нібыта гаварыла: каб лягчэй жыць, шмат што трэба забываць.

І ён багата што (і каго) забываў – родных, поспех, абрамцаўскую дачу, славу, пісьменніцтва, а ў апошнія гады жыцця, можна сказаць, плюнуў і на ўласную дзівосную прозу.

Мусіць жа, незадаволены Поль Сезан астрыўцом надламанага пэндзля гэтак дзёр у роспачы скончаныя палотны.

А мастаком Ю. Казакоў быў самым дасканалым; я, студэнт, чытаў ягоныя старонкі зачараванымі вачыма.

Асобна адзначу: пісьмом Ю. Казакова захапляліся і лепшыя нашы творцы Янка Брыль і Міхась Стральцоў.

Памятаю, калі першы раз я завітаў да М. Стральцова, то ў ягоных руках убачыў казакоўскую кнігу апавяданняў "Осень в дубовых лесах".

У Літаратурным жа інстытуце ягоную творчасць абагаўлялі, скрозь толькі й чулася, што яго кніжкі ў перакладах выходзяць то ў Італіі, то ва Францыі, што ён лаўрэат вядомай еўрапейскай прэміі, што яго імя ўвялі ў знакамітую замежную энцыклапедыю, што ён ездзіў у Парыж, што Я. Еўтушэнка прысвяціў яму верш, а А. Бітаў даў праехацца на сваім легкавіку і г.д.

А прафесар С. Джымбінаў, цікава апавядаючы пра песняра зімнай нарвежскай поўначы Кнута Гамсуна, побач з ім ставіў Ю. Казакова, як аўтара "Паўночнага дзённіка".

Л. Абухава называла Юру (для яе ён, вядома ж, быў проста Юрам) лепшым стылістам.

У студзені 1982 года Л. Абухава запрасіла мяне ў Перадзелкіна, і першае, што я пачуў з яе вуснаў, калі прыехаў:

– За нашым абедзенным сталом будзе Юра! – і тут жа папраўлілася, як для мяне, студэнта. – Юры Паўлавіч...

Тое маё наведванне славутага пісьменніцкага прыстанку запомнілася яшчэ й тым, што па дарозе ў сталоўку, у калідоры ля тэлевізара, я ўбачыў Таркоўскага, у самой сталоўцы Салаухіна, а калі мы селі за стол, то неўзабаве з'явіўся й Ю. Казакоў...

З'яўленне, вартае апісання, і пачну з абутку – Ю. Казакоў быў у тапках, тапцях, пантоплях, апорках, вятра́ках?!

Нават і цяпер не ведаю, як назваць ягоныя тадышнія ўшчэнт зношаныя безабцасныя хадакі!

На нагах жаўцелі вязаныя, дзіравыя на пятах шкарпэткі; зрэшты, не,

нават не шкарпэткі, а нешта блізкае да злінялых гетраў, якія нацягваюць на лыткі гульцы ў апуку.

Пісьменнік абкруціўся ў аблезлы, зашмальцаваны, невядома якога колеру і з нейкай незразумелай зашмаргай на пупе халат, а на грудзях, з-пад халата, заяўляла пра сябе выцвіла-бляшанай някідкай афарбоўкай сапсаваная праннем нацельная кашуля.

А сеў ён за стол так, як садзяцца на ровар – моцна хіснуўшыся; праўдзівей – не сеў, а прысеў, нібыта на адну хвіліну, як і не збіраўся есці; разносчыца прынесла і яму бульбяную поліўку, над якой падымалася пахкая пара, а ён і не паглядзеў на гарачую страву, закурыў, і разносчыца з вінаватай усмешкай папрасіла:

– Юры Паўлавіч, не курыце тут...

Тады ён пачаў вязацца слатою да Л. Абухавай, па-базарнаму развёў сваю музыку пра нешта (з часовым глытаннем слоў!) няўцямнае, а тады, гледзячы паверх акуляраў, загаварыў больш выразна – пра маладзіц, што ў маладзіцах яму падабаюцца вялікія цыцкі.

– Юра, не трэба лекцый па фізіялогіі!

Л. Абухава выкіроўвала яго на правільны застольны тон, і, каб хоць як дапамагчы ёй, я сказаў, што студэнты любяць яго, Юрыя Казакова, прозу.

– А вы хто? – павярнуў ён да мяне сваё падслепаватае арбацкае аблічча.

Калі даведаўся, што я завяршаю вучобу ў семінары паэзіі Літінстытута, адсек:

– Паэты больш не патрэбны...

І тут заўважу, – так яно само па сабе сюжэтна склалася! – што пасля гэтай літаратурнай гаворкі новая літаратурная гаворка адбылася ў мяне дні праз тры, пад Мазыром, калі я прыехаў у ЛТП да М. Стральцова.

Што даволі сімвалічна...

Сцэна ў пісьменніцкай сталоўцы згадалася, як прынята ў такіх выпадках лічыць, нібыта за адно імгненне, і зноў жа нібыта адно імгненне стаяў я на Арбаце перад барэльефным партрэтам Ю. Казакова.

Так, ён закінуў творчасць, як дрэнны гаспадар закідае гаспадарку, але самае жахлівае тое, што перад смерцю амаль аслеп ад алкаголю.

І апошняе набыло цяпер неверагоднае выяўленне!

Не ведаю, знарок (з намёкам на твор "Востраў скарбаў"), ці выпадкова, але ў доме, дзе жыў Ю. Казакоў, адкрылі бар "СЛЕПОЙ ПЬЮ"!

Мяне ўразіла, нават скаланула – вялікія чорныя літары над уваходам выяўна складаліся ў гэтую назву, а ўсярэдзіне бара, дарэчы, на фоне ўсмешлівага чалавечага шкілета (!), крывава-чырвоныя літары таксама выразна збегліся ў гэтае двухсэнсавае словазлучэнне – "СЛЕПОЙ ПЬЮ"!

І рэшта ўспаміну пра стваральніка "Паўночнага дзённіка"...

У кастрычніку 1986 года я заходзіў да В. Усцінава, які напісаў некалькі цёплых радкоў да маіх вершаў, надрукаваных у перакладзе Ю. Кабанкова ў маскоўскім часопісе "Дружба народов"[1].

В. Усцінаў жыў у 16-м доме на вуліцы Чайкоўскага, цяпер гэта Навінскі бульвар.

Я падняўся на патрэбны мне паверх і раптам на дзвярах, суседніх з усцінаўскімі, убачыў у сціплай асадцы партрэт Ю. Казакова.

Чакаючы мяне ў парозе сваёй кватэры, В. Усцінаў паказаў на партрэт і прамовіў:

– Улюбёнец лёсу!

---

[1] "Дружба народов" № 10, 1986 г., сс. 79, 80.

*23 чэрвеня 2019 г., нядзеля.*

***1.***

Летась, у верасні, мы пастаялі на Страсным бульвары ля помніка Твардоўскаму, Вольга там зрабіла мой здымак, з пастамента я спісаў у нататнік некалькі радкоў паэта, асноўная думка якіх: “...не отступая – быть самим собой...”, а сёння мы зноў апынуліся тут, на Страсным, паблізу Нарышкінскага праезду, і сёння я згадаў, як мой літінстытуцкі выкладчык Уладзімір Мількоў з адчуваннем урачыстасці аднойчы сказаў пра Твардоўскага:

– Ад яго пры сустрэчы заўсёды веяла фізічнай свежасцю!

Твардоўскі (майстар дакладных сказаў!) працавіта склаў пра вайну надзвычай таленавітую казку пад назваю “Васіль Цёркін”, якая спадабалася ўсім – і Сталіну, і людзям.

А другі мой выкладчык Ягор Ісаеў пра “Васіля Цёркіна” выказаўся так:

– У гэтай кнізе пра страшнае гаворыцца весела...

Неаднойчы седзячы ля тэлевізара, слухаў я “Васіля Цёркіна” ў выкананні рэжысёра Нарштэйна, пісьменніка Зміцера Быкава, а часцей у майстэрскім чытанні артыстаў Табакова, Смехава, Ніканенкі, – яны дэкламавалі доўгія разделы з паэмы...

Доўгае ў Твардоўскага – не пустое, кожная страфа мае самавіты змест, гэтаксама ж, напрыклад, як і ў творчасці Высоцкага, – доўгія песенныя балады спевака вельмі важкія!

Дарэчы, помнік Высоцкаму тут жа – толькі з таго боку Страснога, які бліжэй да Пятроўскага бульвара.

Нейкая ёсць у гэтым сімволіка, што помнікі ім паставілі амаль побач, – творцы ўсё ж народныя!

Здаецца, невыпадкова й тое, што ў снежні 1971-га Высоцкі прынёс у ЦДЛ вянок на апошняе развітанне з Твардоўскім...

А я маю сямейны ўспамін пра аўтара “Васіля Цёркіна”.

22 красавіка 1967 года мой бацька, настроены чаркай на святочны лад, прывёў да нас у хату галодных двух маладых вайскоўцаў, і ў аднаго з іх, сяржанта Крауса, было вершаванае выданне Твардоўскага.

Стаяла якраз цёплая вясна, сонца залівала хату, і найбольш яго было ў бляшаным вядры з вадой, на чырвонай падлозе і на пабеленай негабляванай столі, – і красавіцкая зіхатлівасць такая толькі спрыяла бацькаваму ўзнятаму настрою.

Ён шчодра накарміў нечаканых гасцей і расказаў ім, як ставіў суседу на змураваную адрыну кроквы, і я (тут выразна паказаў на мяне) яму дапамагаў, не толькі збіраў трэскі, а трымаў, каб роўна стаяла, кожную крокву, а яшчэ бацька павучальна паляпаў служак па сініх пагонах – маўляў, жыццё навучыць і вас, хлопцы, дзьмуць у чарэ́ціну, а тады па-гаспадарску загадаў сяржанту:

– Падары Лёніку кніжку!

Пад’еўшы хатняга (а бацька, не шкадуючы, наліў салдацікам гострых на смак разо́к!), сяржант асабліва і не ўпарціўся, зрабіў на форзацы памятны сціслы надпіс з чыслом (вось чаму я дакладна той дзень і запомніў!) і перадаў томік Твардоўскага мне.

– Чытай! – задаволены бацька паглядзеў на мяне, сціснуўшы бровы.

Наўздагад разгарнуўшы зборнік, я ўголас абвясціў:

В поле вьюга-завируха,
В трех верстах гудит война,
На печи в избе старуха,
Дед-хозяин у окна...

І вось гляджу сёння на помнік паэту і амаль замілавана (ці не па-старэчы ўжо?!) згадваю тую веснавую пару, калі, дзесяцігадовы, чытаў з падараванай у такі нечаканы спосаб ягонай кніжкі складнае і зразумелае: "...в поле вьюга-завируха..."

Так-так, менавіта "завіруха"!

Твардоўскі аздабляў свае творы беларускімі словамі, рабіў гэта вольна, нязмушана, з трывалым сялянскім густам, а яшчэ любіў нашы песні, спяваў іх, перакладаў нашых паэтаў, друкаваў у часопісе "Новый мир" і Максіма Танка, і Аркадзя Куляшова, і Янку Брыля.

Твардоўскі не хаваў, што ён – беларус...

Наогул жа імкнуўся да нашых творцаў, шчыра сябраваў з імі, шанаваў доўгую таварыскую гутарку асабліва за чаркай – скажам, любіў з Янкам Купалам пасядзець за бяседным сталом, і быў, дарэчы, з нашым песняром у адзін з апошніх ягоных вечароў у гасцініцы "Масква" – тады, у чэрвені 1942-га...

Паўз нас на канарэечным ровары ў бок Пятроўскай брамы праскочыў яшчэ адзін працавіты юнак з Усходу – развозчык вады.

Нібы жывы напамінак аб тым, што геніяльная казка пра вайну пачынаецца з гэтага неабходнага ўслаўлення: "...Лучше нет воды холодной, // Лишь вода была б вода..."

***2.***

Зноў жа адзначу адзначанае – у расійскай сталіцы вельмі шмат усходняй моладзі, якая не баіцца ніжэйшай працы, якая ўжо ці не лічыць сябе тутэйшай, маскоўскай, – і, трэба думаць, белакаменная без такіх рухавых спрытных юнакоў і дзяўчат як без рук!

Усе гэтыя дні, што б мы ні куплялі (скажам, піва ў крамцы, лекі ў аптэцы, ваду ў супермаркеце, сырнікі на Цвярской заставе) амаль скрозь нам сустракаліся яны – ветлыя, усмешлівыя, з уважнымі вачыма; іх абслуга цешыла душу, а яшчэ я адчуваў здавальненне, калі чытаў іхнія імёны на касавых талонах: Ільгама, Рустам, Разухан, Кадыр, Гульбасар, Гулсара, Зайнаб, Гулазім, Гулушат...

І прыемна было, напрыклад, у Ермалаеўскім завулку ля помніка Івану Крылову раптам убачыць усходнюю маладзіцу ў доўгай сукенцы пад шыю, бо хараство гэтай жанчыны выгодна вылучалася ў заходняй феміністкай куламесе наўмысна заголеных сцёгнаў, чэраваў, хрыбетнікаў, засмечаных каростаю наколак.

І зноў жа прыемна было ў чарнявай Надзірахан купіць марозіва паблізу Мікіцкае брамы.

І тут няхай разумны акрэсліць:

"Хлусня пануе скрозь, але найменш яе, здаецца, там, дзе працуюць такія людзі..."

Вось яны, абсівераныя і загарэлыя, старанна тынкуюць, а тады і фарбуюць муры ў Сандуноўскім і Званарскім завулках; робяць сваю работу не лянуючыся, без лішніх рухаў і не дзеля таго, каб жыць у раскошы, а каб мець хлеб, а часам каб задаволіць і навязаны ім вялізны фінансавы клопат.

У ядальні “Му-му” (Клімянтоўскі завулак, 10) мы з Вольгай выпадкова падслухалі блытанае апавяданне пра той клопат засмучанага юнака Эркіна.

Ягоныя суседзі па стале (мусіць жа, прыяцелі і, дарэчы, славяне) добра чутным шэптам, яшчэ да канца не ўцяміўшы, а што такога сталася, раз-поразу прыязна пыталіся: “...Эркін, дык табе патрэбны баксы?.. І колькі?.. Цябе шантажыруюць бандыты?.. А мо хопіць і нашых ста тысяч?...”

Робячы ад хвалявання доўгія паўзы, Эркін маркотна ўстанаўляў – маўляў, не, шантажу ніякага няма і гаворка тут не пра бандытаў, а сто тысяч вельмі ж малая сума...

Урэшце, калі крыху супакоіўся, расказаў, што не захацеў заставацца дома, як таго патрабавалі бацькі, таму атрымаў ад іх строгі наказ – раз ты такі непаслухмяны, то едзь, але мусіш прывезці дадому дзесяць мільёнаў расійскіх рублёў.

І вось за два гады, а чамусьці такі даволі кароткі тэрмін юнак сабе вызначыў, ён павінен зарабіць і даставіць у родны аул гэтыя грошы!

Выходзячы з Клімянтоўскага на Пятніцкую, мы з Вольгай сумна перамовіліся: хіба што хлопцу ў банк на працу неяк трэба ўшыцца, бо тынкаваннем і фарбаваннем згаданай сумы не здабудзеш!

*24 чэрвеня 2019 г., панядзелак.*

Пакінуўшы злева Румін завулак, па Яузскай вуліцы мы наблізіліся да кіно “Ілюзіён”, а недзе за гадзіну да гэтага, падняўшыся з метро, я ўпершыню ўбачыў тэатр на Таганцы.

Так, раней ля гэтага тэатра не быў – о, дзіва: толькі сёння ўгледзеў знакамітую будыніну...

Памятаю, як на мяжы сярэдзіны 1970 – пачатку 1980 гадоў ці не ўсе мае знаёмыя на якія толькі хітрыкі не пускаліся, каб займець таганкаўскі вельмі жаданы квіток на тую ці іншую пастаноўку (тады ў гэты прывідны тэатр было надзвычай цяжка патрапіць!), а я – далёкі ад фікуснай таганкаўскай эстэтыкі – пасмейваўся ў душы са сваіх знаёмых, бо не любіў, калі ў мастацтве шкарпэткі нацягваюць на чаравікі, калі талент жывіцца празмерным самавыстаўляннем.

Я любіў (і люблю!) мастацтва, сумежнае з далікатнасцю, таму ў тыя гады меў іншы кірунак, аддаваў перавагу тэатру на Малой Броннай, і з выбарам не памыліўся.

Дарэчы, і да сцэны на Малой Броннай звычайнаму гледачу цяжка было даступіцца, амаль немагчыма было ўшыцца ў глядзельную залу, бо і тут квіткі разляталіся ўмомант, ішлі нарасхват (і перш за ўсё на паказы А. Эфраса!), і каб убачыць, скажам, гогалеўскую “Жаніцьбу” ў апрацоўцы таго ж А. Эфраса, мой сябар па інтэрнацкім пакоі С. Казначэеў прапанаваў:

– Уладкуемся туды мыць падлогу!

Уладкаваліся...

Дык вось, то выпадкова, то па ўласнай здагадцы, а то дзякуючы слушнай парадзе мне тады шанцавала дакранацца да больш істотнай, чым таганкаўская, мастацкай сапраўднасці.

Сярод іншых літінстытуцкіх выхавальнікаў да гэтай сапраўднасці вёў і выкладчык кінамастацтва Л. З. Траўбэрг.

Ягоныя веды, адукацыя, красамоўства заўсёды прывабнівалі маю захопленую істоту яскравым перакананнем, якое выказаць можна прыкладна гэтак: самы лепшы вынік – той, калі нічога пасля работы не трэба рабіць!

Словам, з Траўбэргам ільга было размаўляць як з даўнім прыяцелем, у яго можна было пытацца аб тым, аб чым (ці аб кім) ты хацеў конча даведацца...

– Леанід Захаравіч, вы бачылі Ясеніна?

– Не паверыце, але бачыў...

– Калі і дзе?

– У снежні 1925 года ў Ленінградзе...

– І як ён выглядаў?

– Вельмі дрэнна...

Шкадаванне чулася ў адэскім вымаўленні Траўбэрга...

Аднойчы ён спытаўся ў аўдыторыі:

– Вы глядзелі фільм Акіры Курасавы “Сем самураяў”?

– Не! – за ўсіх адказаў студэнт В. Галантар.

– Тады я пазваню дырэктару “Ілюзіёна”. Заўтра якраз там будуць паказваць гэтую карціну...

Такім парадкам, у красавіку 1980 года, дзякуючы Траўбэргу, і я паглядзеў “Сем самураяў” вось у гэтым “Ілюзіёне”, да якога мы наблізіліся па Яузскай вуліцы...

А далей як у салодкім сне...

О, немагчыма абысціся без іх, звыклых вобразаў!

А калі немагчыма, то і няхай сабе будуць, таму – як у салодкім сне, не спыняючыся, па Салянцы і Забеліна мы трапілі ў сквер Мандэльштама, забруджаны, ажно ступіць, здавалася, не было куды, галубіным памётам.

У скверы якраз праходзіла экскурсія, і жанчына трамвайна-заклапочанага выгляду (экскурсаводка) выразна й каротка паведаміла, што Мандэльштам нарадзіўся ў Варшаве, вучыўся (тут зрабіла акцэнт: пакуль грошы былі!) у Сарбоне, сябраваў з Гумілёвым і Ахматавай, склаў супраць Сталіна верш (дастала з торбы жмут папер і прачытала некалькі радкоў з гэтага верша); удакладніла: за такі твор маглі фізічна знішчыць, аднак жа толькі выслалі ў Пермскі край, дзе паэт быў блізкі да самагубства; новую высылку адбываў у Варонежы, а ў 1938 годзе яго зноў забралі і давялі да згубы...

Усё та́к апавядала трамвайная жанчына, я не заўважыў ніводнай недакладнасці, толькі хіба адно – як толькі экскурсаводка згадвала імя паэта, то кожны раз называла яго МаМдэльштамам!

І гэтае, узаконенае ёю, “МаМдэльштам” прагучала на поўны голас разоў дваццаць.

Удзельнікі экскурсіі не запярэчылі супраць лішняй літары “м” у прозвішчы паэта, слухалі ўважліва, засталіся задаволеныя пачутым, а па завяршэнні бойкага вуснага апавядання амаль усе апусцілі ў торбу экскурсаводкі грошы, бо пачулі зразумелую просьбу-тлумачэнне: асігнавання дзяржаўнага няма, таму ад кожнага прымаецца любая сума!

Гледзячы ўслед экскурсійнаму гурту, які, гамонячы, спускаўся ўніз да Салянскага праезду і далей да храма Усіх Святых на Кулішках, я думаў пра Траўбэрга, чамусьці быў упэўнены, каб тады, у 1980-м, спытаўся ў яго: “А як выглядаў Мандэльштам?” – пачуў бы тое, што пачуў і пра Ясеніна:

– Вельмі дрэнна...

Алесь Камоцкі



...Ці ўспомняць іншыя часы
Пра крокі нашыя пасля?
Слядоў астылых галасы
Ці далятуць да іх здаля?..

# Крок насустрач празрыстым марам

* * *

Дзень прайшоў незаўважна
і скончыўся нечакана
Што было недасяжным
сталася наканаваным
тычыцца пераважна
літасці існавання

Цяжка не навучыцца
жыць у чужых парадках
робіцца простай звычкай
бачыць адны пачаткі
зладзіўшы годны выгляд
не шкадаваць працягі
тут прыхаваць агіду
там закапаць адвагу

Зыбкую раўнавагу
проста зусім не бачаць
моляцца ж бедалагі
каб не было іначай

Вольны ідзе на волю
кволае неба кліча
кожны прыдбае долю
кожны сваё залічыць
некаму трэба заўтра
некаму трэба болей
некаму чыстай праўды
некаму ўжо даволі
восень канчацца мусіць
сёлета не захоча

Раніцу дзень адпусціць
новая выйдзе з ночы

Вечарам будзе вечар
гэта здзівіць не можа
вечнасць пакуль што вечна
спіць у хвіліне кожнай.

* * *

Падарыў сусвет
свой чарговы дзень
таму, каму хацеў,
Паказаў шляхі
на ўсе бакі,
хто можа хай ідзе.
Ды сказаў не ўсім дзе чакае ноч,
ці ж трэба тое вам?
І спытаў – як тут? Хтосьці бачыць цуд?
Ці я застаўся сам?

Пачакаў сусвет,
покуль сподзеў быў,
на правільны адказ,
Ды паклікаў ноч,
што брыла наўзбоч,
засведчыць новы час.
Дзень застаўся там, дзе пачатак сноў
даў справам адпачыць,
Там дзе час цячэ нарадзіць яшчэ
для прышлага прычын.

* * *

Учора, калі быў я малады,
Па-іншаму рабіліся намёкі,
І ўсе, хто за тым часам быў навокал,
Патроху не зважалі на гады.

Ні рытм, ні тэмп не ведалі бяды,
Хапала фарбаў выдумцы і думцы,
Складаўся свет з дазволаў і прэзумпцый,
Ды не таго хацелася тады.

Але ж...
Заўсёды нам было куды ісці,
І час лічыць не мелася матыву.
За ўсё, што галава рабіла крыва,
Здзіўленнем удавалася плаціць.

Прыходзіў сэнс нясмела і часова,
Але нядоўгім быў ягоны век –
Галоўны вораг сэнсу, чалавек,
Штораз цынічна пераблытваў словы.

Цяпер не так, цяпер усё мудрэй –
Сівыя камяні жаданні імітуюць,
Згубі сваю душу – дадуць табе другую,
Бяры, насі і сам
яе чым хочаш грэй.

Разумных межаў более наўкол,
Але яны не хочуць нашай праўды,
Бо іхны сэнс – паўсюль змыкацца плаўна
І нараджаць патрэбу на дазвол.

Пытанне – што далей? – хаваецца ў мінуласць.
Цікавіць бальшыню – які чакаць канец?
І тая бальшыня нахабна спадзяецца –
Калі кульнецца сьвет, то іх не перакуліць.

Але ж настаўнік-час такі дае урок –
Забудзьцеся што вам расказвалі ў школе –
Аджыў сваё закон – жыццё ідзе па па коле,
Яно не першы крок ідзе ужо набок.

* * *

Пачатак у шматлікага адзін,
Непадуладны мерам і намерам.
Мы на яго звычайна не глядзім
Ды робім выгляд, што паціху верым.

Ці ж можа розум сутнасць асягнуць
Застаючыся голым і практычным?

Ці можа восень пачынаць вясну?

Ці можа цень смяяцца навучыцца?

* * *

Жыццё – гэта сёння.

Пра заўтра і ўчора
Мы марым,
    ці помнім
    усякіх гісторый.

Жыццё – гэта сёння.

Шлях памяці
    ў мары
Знаходзіць прычыну
Былому,
    якое
Маўчыць за плячыма.

Жыццё – гэта сёння.

А будучы дзень,
Перад тым, як настане,
Бязгучна шукае
Сваё апраўданне.

Жыццё – гэта сёння.

Не дзівіць наяўнасць
Бягучай хвіліны,
Што ўжо непапраўна
Сябе адхіліла.

Жыццё – гэта сёння.

Няўцямнаму заўтру
Ствараю прастору,
Як ветлівы аўтар
Нягегламу твору.

*

Не кожнаму вуху
Паслухаць няймецца
Пра тое, што выйдзе
На гэтае месца.

### ХВАРОБЕ

Слыхам, уздыхам, голасам
Кранаю начы валасы.
Ды бачу, як небам колішнім,
Напэўна лятуць галасы.

Абуджаны ранішняй смагаю,
Хачу развітацца з тугой...
І твар папсаваўшы адвагаю...
Жыццё падзяляю з табой!

### ПЕСЕНЬКА АЛЕСІ

Святам пахне утульны вечар,
І самота ў адпачынку.
Атачэннем дрыготкіх свечак
Марцыпанкі і мандарынкі.

Атачэнне дрыготкіх свечак –
Марцыпанкі і мандарынкі.

Так бязважка, так меладыйна
Мы знаходзім сабе прыгоды.
Цёплы вецер спявае дзіўна
І на вуліцу сны выводзіць.

Там бязважка, там меладыйна
Мы знаходзім сабе прыгоды.

Крок насустрач празрыстым марам
Варта скончыць павольным танцам.

Думкі цалкам належаць зараз
Мандарынкам і марцыпанкам.

Думкі цалкам належаць зараз
Мандарынкам і марцыпанкам.

Іншых сэнсаў няма наўкола,
Прыпыніцеся на хвілінку –
Бляскам золата вас натоляць
Марцыпанкі і мандарынкі.

Бляскам золата вас натоляць
Марцыпанкі і мандарынкі.

* * *

мне хочацца зразумелага
нязмушанага і рэальнага
і каб не глядзець напружана
на большасць інтэлектуальную

ні сутнае ні прычыннае
ніколі не мерыць коштамі
мне хочацца немагчымага
ад інтэлектуальнай большасці

* * *

Штораніцы становімся дурней,
Штодня хаваем сэнс за выраз твару,
Адносіны паробіўшы таварам,
І хочам, і не можам як даўней.

Брыдзём зігзагам, колам, паваротам,
Наўпростых рухаў ведаем не шмат.
Згубіўшы прыхаванае на потым,
Шукаем нерэальны шлях назад.

Чарговы дзень, губляючы пачатак,
Пакуль канца не ведае на смак,
І кожны пень сабе чакае сьвята,
Яно ізноў прыходзіць абы як.

Неразбярыхі быццам бы багата,
Ці ж зразумее ў выніку народ -

Даўней было, што брат ішоў на брата,
Цяпер, нарэшце, ўсё наадварот.

* * *

Мы ў досвітках першых спатканняў
Будзем марамі снедаць у снах,
І салодкім матывам чакання
Распачнём песню новага дня.

І ўзнімемся ў неба высока,
Свае сэрцы ад зор запаліць.
Спраўна спляжым аб глебу самоту,
Каб ачуць як душа не баліць.

Каб знайсці ахінуты туманам,
Поўны жарсці асенні букет,
Каб часова паверыць падманам,
А пасля зразумець гэты свет.

* * *

мой час спяшаецца насустрач
здзівіўшы ход тваіх хвілін
з незразумеласцю пачуццяў
памкненні нашыя дзяліць

каб непазбежнае тлумачыць
не варта думкі марнаваць
бо спадзяецца на ўдачу
мая сівая галава

не надта ўтульная эпоха
прасторы волі не стае
калі не мае чым палохаць
хаця б спакою не дае

* * *

Насустрач пралятаючым гадам
Душа свае рэзоны выкладае.
Жаданні разбіваючы аб далеч,
Ёй шлях свае памкненні не аддаў.

Рашучых крокаў ён не разумеў,
Чакаў цярпліва адпаведны момант,
Бо так хацеў радзей выводзіць з дому...
 А ў душы інакшы быў намер...

Зламаны лад звычайнага жыцця
Імклівы дзень за раніцу трымае,
І хоць душа на ўсё рэзоны мае,
Але не ёй здзіўляецца працяг.

* * *

Проста дзень не пачаўся,
Пакрыўдзіўшы ранак,
Каляндар паламаўшы.

Выглядае заганна
Напазбежнасць працягу
На шляху сапсаваным.

Тут мінуламу варта,
Прыхаваўшы усмешку,
Выдаць вынікі жартаў.

І усё будзе заўтра.

### ***ВАЙЦЮШКОЎСКІЯ* РЭФЛЕКСІІ***

За размовамі ў вечар летні
Ноч свае прыхавала сны,
А бяседа ішла без мэты
Ад штодзённае мітусні.

Перакрочыўшы хвалю часу,
Зразумеўшы усё прасцей,
З успамінаў сваіх уласных
Кожны выбраў што захацеў.

І шукаў сабе месца сподзеў,
І заблытваў свой шлях працяг,
Сум спыняўся на падыходзе,
Адбіваючыся ў вачах.

---

* Вайцюшкі – маётак пана Вайцюшкевіча.

* * *

Ідзе жыццё не па парадку
Сярод паблытаных шляхоў,
Мы час губляем на здагадкі
І памыляемся ізноў.

Не даўшы рады патлумачыць
Хто ад каго чаго хацеў,
Упарта не жадаем бачыць,
Як насамрэч усё працей.

Пара адвыкнуць не спыняцца,
Пара здзіўляцца простым рэчам,
Пара да цудаў спрычыняцца,
У існаванні чалавечым.

* * *

Шляхі змянялі марам адрасы,
Адлегласці нязмушана глытаючы,
Стараліся няўдалыя часы
Тлумачыць кепскай памяццю і далеччу.

Шляхі вялі дарогамі зямлі,
Хавалі далягляды у штодзённае,
Даўней мы іх любілі як маглі,
Далей, і сапраўды, не надта помнілі.

* * *

Ці ўспомняць іншыя часы
Пра крокі нашыя пасля?
Слядоў астылых галасы
Ці далятуць да іх здаля?

Уладзімір Ліпскі



...куды адплываюць
зямныя гады?..

# Цялец

***Урывак з рамана***

*Душу – людзям.*
*Жыццё – Айчыне і дому.*
*Сэрца – жанчыне.*
*Гонар – нікому.*

Беларуская прымаўка

Усё ўсчалося з таго, што ўзяў і нарадзіўся хлопчык. Доўга не думаючы, яго назвалі Юрачкам, бо свет убачыў на Святога Юр'я.

Маці хлопчыка Марыя сустракала свой сорак другі май. Бацька Сцяпан панаваў у Божым свеце пяцідзясяты май.

Юрачка стаўся шостым атожылкам у сям'і Марыі і Сцяпана. Старая Анэта, якая бабіла роды, як толькі абрэзала авечымі нажніцамі пупавіну, як толькі абцерла немаўля крамнай прасцінай, сунула яму ў кволую ручку

аловак, прыгаварыла: “Маем вылупіўся, дак от хай пра сваю жытку, пра сваё маянне на свеце і напіша. Хай нас усіх не забудзе згадаць!..” Баба Анэта, відаць, хацела бачыць свежанькага, цёпленькага хлопчыка светлым коннікам ў залатым шаломе вясновага Юр’я Святога.

Кожнае немаўля людзі адорваюць надзеяй. Дык гэтага жадала і мудрая, адзінокая Анэта, якая да з’яўлення Манінага і Сцёпавага Юрачкі страціла свайго мужа Самуся, сваіх сясцёр Раіну і Кацю, сваю дачку Таню.

Тым алоўкам, што баба Анэта сунула ў пяцярню Юрасіка, можна было б напісаць пра яе самую дужа шчымлівы раман. Але хлопчык вельмі павольна рос, а баба-павітуха вельмі хутка старэла. Ногі адмаўляліся хадзіць. Вочы пераставалі бачыць. Сэрца захлыналася ад стомы. Душу апякала крыўда: навошта ж яе лёс такі выкручасты, чаму ж хатку яе акружылі лужы слёз?

Тую хатку, з тонкіх, як жэрдкі, бярвенцаў, Юрасік запомніў. Яна стаяла насупраць іхняй хаты, зрубленай у чысты вугал са зламаным казырком. Юрачкава хата пазірала на хату бабы Анэты ажно трыма лупатымі вокнамі. Але ж яго цягнула са сваёй цяпліцы ў нізенькую, згорбленую хатку насупраць. Там заўсёды свяцілася адзінюсенькае акенца, а з коміна ішоў сівы дымок, як бы ў хатцы ніколі не маглі нагрэцца.

У Анэцінай хатцы жылі яе сіроткі-ўнукі Шурык і Надзька. А яшчэ ў іх жыла белая каза з барадой. І яна давала белае малако, зусім не такое, як каровіна, а густое, цягучае і вельмі ж сытнае. Юрасіку перападала таго казінага напою, абы толькі ён перабег вуліцу. Дык ён часта адольваў пясчаную вуліцу, як толькі навучыўся тэпаць.

Сядзяць на печы Шурык, Надзька, Юрасік, а баба Анэта слугуе ім. Налівае ў бляшаныя кубкі казінага малака, адрэзвае ад самапечанага бохана лусты ды ціха прыгаворвае, бы моліцца:

– Ешце, нябогі, дзякуйце Богу, што цёпленька ў хаце... Зайчык прыбягаў, нешта на нашым агародзе шукаў... Шукаў-шукаў, не знайшоў, у лес плачучы пайшоў...

Юрачку чамусьці запомнілася, што баба Анэта пры гэтым ціха плакала. Шурпатымі рукамі церла пачырванелыя вочы. Папраўляла клятчатую хустку, хавала пад яе белыя валасы, як бы не хацела, каб іх бачылі дзеці.

Пазней, калі пайшоў у школу Юрасік крыху даведаўся пра тое, чаму баба Анэта была маўклівa насупленая, як бы злосная, незадаволеная на ўсіх і ўсё. А як навяжа на галаву некалькі хустак, як апране замызганую кухвайку, возьме ў рукі сукаваты кіёк, дык няйначай Бабай Ягой здавалася. Але хлопчык не палохаўся, а шкадаваў, бо яна рэдка ўсміхалася.

Аднойчы бабу Анэту завезлі ў бальніцу. Юрасік з мамай хадзілі даіць белую казу, памагалі Шурыку і Надзьцы паліць у печы, варыць бульбу.

У хатцы віселі ў рамках фоткі. Мама неяк падвяла сынка да іх, перахрысцілася:

– От, Юрасік, усе етыя людцы ўжо на небе. Самусь, во еты з вусамі, пайшоў на фронт і не вярнуўся. Анэта пахаронку атрымала. Сёстры яе, Раіна і Каця, з голаду паўміралі ў вайну. Адна за адной... Таццяну, во з доўгай касой, прыгажуню пісаную, мамку Шурыка і Надзькі, дрэвам прыбіла... Паслалі пасля вайны на лесанарыхтоўкі. Валялі сасну, а ствол неяк крутануўся не туды... Дрэва падмяла Таццяну пад сябе... От баба Анэта і гадуе ўнукаў...

Ад мамінай споведзі Юрасік доўга не мог заснуць. Па небе плылі чорныя хмары, грымеў гром. І здавалася, дзядзька Самусь з вусамі стукае ў шыбы.

У водбліску маланак бачыліся цёмныя здані яблыняў, а яму мроілася, што цёткі Раіна і Каця, абвешаныя белымі торбамі, просяць кавалачак хлеба. Ды раптам зноў трашчыць на ўсё наваколле пярун і валяцца на яго і яблыкі, і дуб, што на агародзе, і ліпа, што каля брамы...

З той ночы, і па ўсім жыцці, Юрась, а пасля і Юрый Сцяпанавіч не-не дый крычыць ува сне. Сны розныя чапляюцца да яго, а відовішча адно і тое ж: нехта моцна грыміць, навальваецца на яго і хоча ўчапіцца ў коўдру.

А з бальніцы бабу Анэту тады прывезлі нежывой. Юрасік першы раз бачыў мерцвяка, але не палохаўся. Толькі вельмі-вельмі шкадаваў, што баба моцна спіць і не радуецца, колькі жоўтых астраў ляжыць у яе новай пасцелі. Буйныя кветкавыя кошыкі акружалі яе ад галавы да ног. Здаецца, усе кветкі з яе прывулічнага агародчыка самі перабеглі ў труну, каб ёй было ўтульней. Пад колер астраў свяцілася ўся баба Анэта. Утомлена спачывала.

Жоўтыя кветкі. Жоўты агеньчык свечкі. Жаўтлявыя рукі на грудзях і васковы твар бабы Анэты надоўга аселі ў памяці Юрасіка.

А яшчэ запомніў, як Шурыкаву і Надзькаву бабульку вынеслі на вуліцу. Асцярожна паставілі яе вузкі ложак на калёсы. І павезлі на белым кані ў той бок вёскі, дзе за блакітным льняным палеткам пачынаўся густы сасоннік.

Уся вёска пайшла за белым канём, за калёсамі з труной бабы Анэты. Толькі мама з Юрасікам засталіся сядзець на лавачцы каля яе хаткі.

– А куды павезлі бабку? – спытаў хлопчык.

– На неба, сынок...

– Што там будзе рабіць?

– Жыць будзе, сынок...

– Чаму ж не з усімі намі?

– Стамілася, сынок... Сэрцайка не вытрымала...

Тады Юрасік упершыню ў жыцці адчуў, што і ў яго ёсць сэрца. І яно стукаецца, б’ецца, вырываецца на волю, як тая ластавачка, якую аднойчы спаймаў бацька і даў патрымаць у руках.

***

Юрасёў кумір Уладзімір Караткевіч пісаў, што доўгія гады лёс дае звычайна дурням. Для чаго? Ды каб спаўна напіліся жыццёвага соку, набраліся розуму. А тады ўжо лёгка паміраць, бо ўсё ведаеш.

Пра гэта задумаўся Юрась Майскі, калі ўзяўся складваць кнігу свайго жыцця. Трэба ж апраўдаць давер зямной пакутніцы бабы Анэты, якая з надзеяй уклала яму ў ручку аловак, як толькі кугікнуў у бацькоўскай хаце.

Складна ўсё сплялося. Нарадзіўся ў маі, прозвішча – Майскі. Убачыў свет у Юр’еў дзень – завуць Юрачкам, Юрасём, Юрасікам, Юрам, Юранькам, Юрашкам, Юраном, Юрасам, Юрушам, Юрачам. А для палякаў ён – Jerzy, Ежы, бы для таго толькі і жыве, каб ежу здабываць ды спраўна жаваць.

Доўгія гады Юрась Майскі верыў, што ўсё падладзіла яму мама. І з месяцам народзінаў. І з днём святога Юр’я. Яна аднойчы нават прызналася:

– На Юр’я, сынок, у нашым Заброддзі выганялі худобу на пашу. Пакутны дзень для пастухоў. Каровы здзічэла лётаюць, рыкаюць. Ведама ж, усю зімачку стаялі ў хляве. Я вельмі не любіла ў гэты дзень бываць пастушкай. Таму ўзяла і нарадзіла цябе...

Юрась паверыў маме, бо пачуў ад яе такое, калі быў дужа малым. А малыя вераць мамам, хаця і не ведаюць, што менавіта яны засяваюць іх душы элітным зернем. Яно рунее, калосіцца, выспявае. Жні, спажывай умалотны мамін ураджай. Ды помні, ні на хвілю не забывай, хто выдаў табе квіток у зямны рай.

Пра маму Юрась пачаў даведвацца, як яе не стала. Ёй усё некалі было: то ўвіхаецца каля печы, то карову доіць, то свінням замешвае, то ў агародзе сядзіць, з зеллем ваюе. А найбольшая ваярка за шасцярых дзяцей. То мужа паўшчувае:

– Ты, Сцёпа, не так бы строга да іх...

То кожнаму з дзяцей наківае:

– Няможна так!.. Бацька лазінай укапне!.. Неслухаў і Божанька не любіць...

Зірне на покуць. Перахрысціцца перад маленькім Ісусам, які трымае ў правай руцэ крыж, перавязаны блакітнай стужкай, а левай горне да сябе паслухмянага баранчыка з анёльскім позіркам.

Мама ціха, клопатна жыла. Гэтак жа ціха і памерла, як бы заснула, стомленая і знясіленая. Толькі два словы прамовіла на развітанне:

– Дзеткі... Сцёпа...

Каля труны сабраўся ўвесь вывадак Майскіх: Сцяпан адразу ў сям'і не пан, асірацелыя дзеці, спалоханыя нявесткі, зяці, заплаканыя пятнаццаць унукаў.

Святая Марыя бытта спала, толькі васковы твар і рукі, складзеныя на грудзях, нагадвалі пра незваротны шлях, куды яна сабралася. Усіх прасіла перад канчынай:

– Толькі не плачце... Не румзайце... Буду заўсёды з вамі...

Юрась не паслухаўся мамы. Упершыню адчуў, што не проста яе сын, а часцінка яе цела, сэрца, душы. Яна ў сабе асцярожна вынасіла, беражліва выпеставала жывы чалавечы камячок ды майскім дзянёчкам пусціла ў свет новага Майскага. Студэнт журфака Юрась Майскі думаў пра гэта і абліваўся пякучымі слязьмі: “Залатая мая!.. Як жа без цябе?.. Адзавіся, мама!..”

Хата адгукнулася галосным плачам. Не плакаў толькі бацька. Трымаў свае мазольныя далоні на яе халодных руках, не зводзіў вачэй з сваёй Манькі. Яны ж толькі тыдзень назад згулялі залатое вяселле.

Калі ўсе вярнуліся з могілак, Юрась не пайшоў у хату, за жалобны стол. Яго знайшлі за бульбяным палеткам, у травяністай сцяжынцы каля маміных градаў. Ён ляжаў так, нібыта цалаваў маміны сляды, і не плакаў, а гулка, надрыўна рыдаў.

– Перастань, Юрась!.. Мужык ты ці не? – супакойваў яго старэйшы брат Мікола, а ў самога з вачэй сцякалі раўчукі слёз.

– Не вернеш, братачка, маці... Не падымеш... – суцяшаў Пятрусь, які вярнуўся з вайны інвалідам.

Тым днём у Юрася ўсхадзілася сэрца. Гатова было выскачыць з грудзей. Ратавалі мамінымі травамі, настоямі. Нехта раздабыў аптэчнай валяр'янкі.

А ноччу Юрась праваліўся ў сваё маленства. І нечакана (упершыню!) ўявіўся страшны міг вайны. Яны з мамай бягуць у загон жыта, які адразу пачынаўся за хатай. А над імі, нізка ў небе, здзічэла рыкае чорная карова. Нібыта яе нехта надзьмуў і запусціў увысь. Ногі растапыраныя, хвост угору. Так уявіўся малому самалёт, на якім бачны быў шырокі варожы крыж.

Юрасік не ведаў тады, чаму так трывожылася мама. Яна ўсё мацней, трывалей прыціскала яго да сябе, цяжка дыхала і раз за разам паўтарала: “Божа, міленькі, злітуйся, выратуй...”

Яна нястомна падмінала пад сябе цыбатыя сцяблiны жыта. Каласы, налітыя цяжкімі зярнятамі, білі яе па твары. Даставалася і Юрасю, а мама прасіла:

– Сыночак, цярпі... Ой, бяда!.. Божа родны, памілуй, не дай загінуць...

Сёння Юрасю адгукнулася маміна сэрца. Яно вухкала, стукала тады так, нібыта прабівала грудзі, праклёўвалася на волю. Тое маміна сэрца і сённяшняе яго – аднолькава збалелыя.

Юрасю не спалася. Выйшаў у двор. Бухнаты месяц пасылаў на зямлю млявае святло, бытта нагадваў, што ён уладар таемнага нябеснага царства. У ім раюють усе памерлыя зямляне. Ён для іх што сонца для жывых людзей. Такога задаваку Юрась ужо аднойчы бачыў. І запомніў навечна.

Было гэта мо ў чацвёртым класе. Ён чамусьці страшэнна захварэў. Ці то дужа астудзіўся пасля катання на горцы, ці то нагу вывіхнуў, а мо і трэшчыну ў костцы займеў, але ляжаў каля печы ў высокай гарачцы. Здавалася, свет перакуліўся, і ён ляцеў у ступе з мяцёлкай на вогненную лавіну. Калі вось-вось не ўцяпнуўся ў пякотнае вогніва, пачаў ад страху надрыўна клікаць падмогу:

– Мама!.. Матулька-а-а-а!..

У гэты міг адчаю – адкрыў вочы і ўбачыў маму. Яна хадзіла па пакоі белая, што снег, абедзвюма рукамі трымала галаву, бытта не давала ёй раскалоцца. Калі пачула Юрасёў покліч, мігам кінулася да яго:

– Сынок!.. Сынулька!.. Чым падмагчы?.. Глытні цёплае вадзічкі з малінай...

– Матулька!.. Гарыць усё... Лячу!..

– Мой любенькі, пацярпі... Бацька паляцеў па фельчара Дзенісенку...

Юрась цяжка ўздыхнуў. І перад тым, як зноў праваліцца ў вогненную бездань, убачыў у акне зыркую поўню. Месяц бытта падміргваў яму, заманьваў у сваё патаемнае царства...

Цяпер ад тых успамінаў маленства яшчэ болей закалола ў сэрцы. Юрась круціўся ў пасцелі, як уюн у таптусе. Мамы-ратавальніцы побач няма. Ніхто, так як мама, не паспачувае. Ніхто і нішто ў свеце не заменіць маму. Як жыць далей?..

Тымі асірацелымі днямі Юрась надумаўся напісаць кнігу “Кардыяграма майго сэрца”.

***

Забродцы, якім заўсёды не хапала рублікаў, казалі тым, хто фарсіў у ботах ды кажухах: “Ведай, панок, за грошы не ўсё купіш, вазьмі пад нос мой кукіш”. Па вёсцы хадзіла *складнаслоўка*:

– Цукру багата не еж, бо завядуцца пчолы там, дзе не трэба...

Так суцяшалі сябе вяскоўцы, перабіваючыся з хлеба на ваду, з расола на сыраквашу. Гэткія далікатэсы дужа рана пакаштаваў Юрась. Уявіце: у першую гадавіну яго жыцця пачалася страшная вайна, а ў тры гады, калі толькі навучыўся хадзіць, гаварыць, есці лыжкай, іх Заброддзе карнікі спалілі.

Хата Майскіх гарэла даўжэй за іншыя. Гаспадар Сцяпан бандарыў, цяслярыў, насцягваў у двор багата драўніны. А дроў у печ назапасіў на

дзве зімы наперад. Смалістым факелам палымнела дворышча, сядзіба шматдзетных Майскіх. У пякельным вогніве згарэла самаробная мэбля, саматканая вопратка, усе харчовыя прыпасы. І нават куплёны гадзіннік, у футарале пад колер арэхаў-лузанчыкаў.

Выскачылі з хат у чым стаялі. Партызанскі разведчык гойсаў на кані па вёсцы і крычаў:

– Ратуйцеся!.. Ідзе карны атрад!..

Рукой паказваў у бок урочышча Хаўруснае:

– Туды бяжыце!

Мама ўхапіла малога Юрасіка. Моцна прытуліла да грудзей і пабегла цераз жытні палетак, цераз сенажаць з лазовым кустоўем у Хаўруснае. Тады сынок і адчуў маміна сэрца.

Усе забродцы ляцелі ў лясную хованку, ды не ўсе дабеглі. Старому Леўку фашыст пусціў кулю ў спіну. Хворага Мікіценку з малым Ягоркам спалілі разам з хатай.

Адзін толькі бабыль Мішка, у якога не хапала клёпак у галаве, радаваўся і цешыўся:

– От хаця з нашымі хатамі пагараць усе клапы і прусакі, а ў хлявах і склепах – усе мышы-скрэбалкі.

На Хаўруснае ён прыбег з пеўнем, самым дарагім, што меў у сваім пустэльным двары.

– От хаця будзіць усіх будзе, – па-дурному рагатаў на ўвесь лес...

Але яго будзьку заставалася жыць некалькі гадзін. З перапалоху ці з дуру галаган ні з таго, ні з сяго, сярод белага дня, залопаў крыламі і загарлапаніў:

– Ку-ка-рэ-ку-у!..

Мужыкі тут жа адкруцілі яму галаву, а Мішку наківалі перад носам:

– Ты што, хочаш, каб немчура знайшла нашу схованку?.. Міталем наляцяць, падушаць усіх, як гнідаў...

Мішка, хаця і дурнаваты, зразумеў сваю асечку з пеўнем, а каб крыху апраўдацца, прапанаваў:

– Давайце зварым майго Пецю і дадзім паесці дзецям.

Так і зрабілі.

У вёску вяртацца рызыкоўна. Дый няма куды. На кожным дворышчы па кучы попелу ды там-сям стаяць абгарэлыя вушулы ад брамаў.

Вырашылі ладзіць за Пелямі, за балотам, хто што ўмеў, на што ў каго меліся сілы. Так на ўзгорку лесу, акружанага дрыгвой, з'явілася паселішча пагарэльцаў: шалашы, курані, зямлянкі.

Прышэльцы выгналі забродцаў у дзікую прыроду. Босых. Голых. Галодных. Па якой божай ці зямной маралі такое беззаконне над мірным людам? У чым іх віна? Хто даў права адным нішчыць другіх? Для чаго войны, калі ніхто ніколі нікога не заваяваў?

Над гэтым Юрась Майскі раздумваў, калі пісаў кнігу свайго жыцця пра кардыяграму сэрца.

Двух эпізодаў са свайго ваеннага маленства хапіла б на два раманы. І кожны выпадак закліньваў Юрасёва сэрца на шалёны рытм.

Юрасёк бачыў, як партызаны забівалі дзядзьку Аляксея.

У той дзень, калі карнікі палілі Заброддзе, Аляксей Заяц вырашыў не ўцякаць у лес. Цюкнула ў галаву абнадзейная думка: немцы таксама ж людзі, а што калі папрасіць іх, каб не палілі яго хату. Толькі збудаваўся.

Бярвенні золатам зіхацяць. Дах з белай дранкі. Вокны новенькія, з разнымі ліштвамі. Ці можна ўсё гэта паліць, нішчыць, а па-забродску – гробіць?

Аляксей прыадзеўся ва ўсё чысцейшае, пагаліўся, вынес бохан хлеба, сеў на лавачку і чакае няпрошаных гасцей. Калі тыя падышлі да хаты, гаспадар пакланіўся ім, прапанаваў хлеб і склаў абедзве рукі да грудзей.

– Паночкі, не паліце... У мяне дзеці... Жонка памерла... Дзе жыць?..

Пагергеталі. Бохан хлеба разламалі на кавалкі, праглынулі з рогатам. А потым адзін з іх, відаць, старэйшы па званні, паляпаў Аляксея па плячы:

– Гут, гут, фатэр... Ком, у балота, швайнэ!..

Адпусцілі Аляксея жывым, а хату спалілі.

Надвячоркам у лясное селішча забродцаў з'явіўся камандзір партызанскага атрада Смельчакоў, яго камісар Чарнухін, група байцоў са стрэльбамі.

– Хто сярод вас Аляксей Заяц?

– Я, – пакорна ступіў вясковец да абаронцаў.

– Ах ты, сука здрадніцкая, – накінуўся на яго камісар атрада. – Хлебам, соллю сустракаў карнікаў!..

– Адставіць самаразборку! – скамандаваў Смельчакоў, загадаў памочніку чытаць яго загад: "Смерць усім, хто ідзе на ліслівае пакаянне да ворага".

І на вачах усіх забродцаў, старых і дзяцей, партызаны расстралялі Аляксея Зайца. Мужчыны мужна маўчалі. Курцы скручвалі самакруткі. Жанчыны стрымана выціралі слёзы. Дзеці анямелі. Юрасік Майскі мала разумеў, што адбывалася, але ад стрэлаў затросся ўвесь, абшчаперыў маму за шыю і трымцеў, як асінавы ліст...

Пазней журналіст Юрый Майскі даведаўся, што тым днём, калі забілі дзядзьку Аляксея, забродцы схавалі ў сваіх куранях двух яго сыноў – Мікітку і Кольку. Назаўтра цётка Арына, суседка, вывела іх на дарогу, якая вяла ў Шацілкі, выказала ўсіхнюю просьбу:

– Кіруйце, хлопчыкі, у мястэчка. Там ёсць чыгунка, ходзяць розныя цягнікі. Чапляйцеся за любы. Едзьце ў свет, абы куды... Тут вам не жыць...

Цётка Арына пацалавала сіротак Мікітку, Кольку, змахнула з вачэй скупую слязу, параіла:

– Дзетачкі, толькі ідзіце ўздоўж дарогі, калі ўбачыце, не дай бог, чужынцаў, кідайцеся ў траву, хавайцеся ў кустоўі, у лесе...

Праз доўгія гады пасля вайны ў Заброддзе да Варкі Заяц прыйшло пісьмо з Аўстраліі. Браты пісалі ёй, што жывуць у сваіх дамах, пажаніліся, пыталіся, чым ёй падсабіць.

Сельсавет і раённыя гэбісты па-свойму чыталі пісьмо з далёкай, заакіянскай краіны. Выклікалі Варку на допыт. Яна перад паездкай у раён развіталася з усімі забродцамі, узяла на ўсялякі выпадак бохан хлеба і брусок сала. Але праз дзень вярнулася ў Заброддзе, і яе болей ніхто не чапаў.

Юрась Майскі папрасіў у Варкі адрас братоў. Задумаў калі-небудзь пабываць у Аўстраліі, знайсці сваіх аднавяскоўцаў, пра ўсё-ўсё распытаць. Ды перадаць ім, што цяпер забродцы хваляцца кожнаму стрэчнаму: "А нашы людзі жывуць паўсюль, нават у Аўстраліі!.."

Другі эпізод з ваеннага маленства зніатаваны з самім Юрасём. Пра далёкае, дужа страшнае здарэнне. Даведаўся, калі асірацеў, калі амаль усе "ваенныя" людзі перасяліліся на могілкі. Неяк зайшоў на скупы агеньчык у хату да франтавой удавы Марфы Глінскай. Яна адкрыла тайну:

– У вайну, Юрасік, хто бедаваў, хто кукаваў, а ты, мой хлопчык, любіў гуляць у вайну. У цябе быў саматробны хамат, так ты называў сваю зброю. Арэхавы дручок, а на ім прыбіты кружок з сасновага бервяна, – цётка Марфа весела ўсміхнулася на ўсе два зубы. – От аднойчы забягаеш у маю зямлянку. “Хазяюшка, можа знойдзецца паесці?.. Я тут фрыцаў калашмаціў. Стаміўся!..” Стаіш босы, ножкі парэпаныя, штонікі – адно рваннё, кашулька без гузікаў. Кажу: “Партызанік, абаронца ты наш, ёсць у мяне паўблінца грэчневага. Не пагрэбуеш?..” Ухапіў ты мой пачастунак, прысеў на лаўку, уплятаеш. А зброя твая, хамат, побач. Ці мала што, трэба цётку абараніць. Сэрца маё зайшлося ад жалю. Заплакала. А ты суцяшаеш: “Не румзай, цётка, хутка вытурым немчуру. Будзем манную кашу з неба есці...” Пагадзілася: “Няго ж, мой хлопчык, толькі б не чуць страляніны...”

Баба Марфа павойкала, пакашляла, працерла далонямі вільготныя вочы, упілася ў Юрася калючымі вачыма:

– Ведай, мой хлопчык, цябе ў вайну ледзь не страцілі. Бегаў з хаматам па куранях, па кустоўі, па лесе ды напароўся аднойчы на іржавую жалязяку. На назе, у правай пахвіне ўзбухнуў крывавы нарыў. Гарыш увесь. Абмяк. Усе куранёўцы лекавалі. Хто замову шаптаў, хто якую травінку нёс, хто прымочку, хто яду. А ты паміраеш, нават войкаць спыніўся. Вечарэла. Ці дажывеш да рання?.. І тады Сцёпа, твой бацька, ухапіў цябе на рукі і панёс да партызанаў. Ноч восеньская хутка насоўваецца. А ісці праз балота, па хісткіх кладках. На подступах да партызанскага лагера дазорныя сядзяць. На любы шорах могуць пальнуць без папярэджання... Ох, мой хлопчык, добра, што твой бацька знаўся з партызанамі, падмагаў ім ва ўсім. Ведаў іхні пароль. Дак от данёс ён цябе ў лагер, і той жа ноччу іхні лекар зрабіў табе аперацыю. Наркозам была самагонка. А скальпелем – кухонны нож. Во як выратавалі цябе...

Юрась Майскі і раней заўважаў у правай пахвіне шырокі, сантыметраў на пяць рубец. Ды толькі цяпер даведаўся праўду. Не спалася. Як бы здаля, з ваеннага дзяцінства адгукнуўся і пастукаў у сэрца жывы ўспамін: нясе бацька яго абмяклае, гарачае цельца праз цемру ночы, праз зыбкае балота, праз дрымучы лес. Прыціснуў моцна-моцна да грудзей. Цяжка дыхае. А сэрца не скача, як маміна, а вухкае, бы кавальскі молат па чырвоным, разамлелым метале. “Ах, бацька, бацька! – думае Юрась, – даруй, не паспеў нагаварыцца з табой, распытаць пра ўсё. Давядзецца пісаць табе пісьмы на неба. Які ж ты моцны характарам, бацька, колькі тайнаў схаваў у сваім сэрцы!..”

Начны месяц, як лямпачка-начнік для памерлых, трымае ў загадкавых чарах і зоркавае неба, і зямную цемру. У вокны зазіраюць счарнелыя клёны і ліпы. Душа поўніцца таямніцамі мінулых гадоў, і сваіх асабістых, і ўсіх, хто попелам ляжыць у зямлі.

***

Юрась Майскі дужа рана займеў звычку выпісваць з прачытаных кніг разумныя думкі. З гадамі хацелася брацца за чубы з некаторымі асветнікамі, бо ў самога праразалася мудрасць.

Прызнаны некалі збіральнік афарызмаў Казьма Пруткоў упэўніваў, што тры справы, аднойчы пачатыя, цяжка закончыць.

Першая: “вкушать хорошую пищу”. Хто ж супраць есці ікру ласосевую,

засмажаных перапёлак, скрылікі іспанскага хамона, запіваць усё гэта французскім "Наполеонам". Але ж, браток ты мой, Казьма, паспрабаваў бы ты не закончыць гэту звычку на папялішчы спаленай вёскі, у земляных норах сярод дрымучага лесу, у пасляваеннай бясхлебіцы, на зямлі, накормленай чарнобыльскім "гасцінцам".

Другая: "беседовать с возвратившимся из похода другом". Безумоўна, гэта прыемны занятак, пазнавальны. Але ж цяпер, дарагі Казьма, мала такіх людзей, хто сукам сухім тырчыць у дрэве ці карчом лазовым сядзіць у твані. Усе рухаюцца, вандруюць, гойсаюць па краінах і кантынентах. А "бяседы" практычна пра адно: па чым, колькі баксаў, пахудзеў ці пасыцеў, быў дождж ці спякота.

Трэцяя: "чесать, где чешется". О, гэта, дружа Казьма Пруткоў, святая справа! Хочаш не хочаш, а пачэшаш, дзе засвярбела. Вельмі вясёлы беларус, народны артыст Міхась Дрынеўскі, любіць пад'ялдыкнуць: "Мыецца толькі той, хто лянуецца чухацца".

Вось зачасалася Юрасю Майскаму разгадаць кардыяграму свайго сэрца, і яму ўжо няма спакою, сну, душэўнай цішы. Карціць разгадаць унутраны матор бацькі, бо нечым жа і ён заправіўся ад геннага рухавіка.

Юрась даймеў, што маміна сэрца саткана з чуллівых эмоцый і сцішанага цярпення, з вернасці дому свайму і любові да мужа, дзяцей.

А што выстуквае бацькава сэрца?

Паспрабуй не зрабі так, як ён сказаў, як ён загадаў, папярэдзіў, папрасіў, бо ў дворышчы і ў хаце ён – гаспадар, кіраўнік, прэзідэнт. Сказаў, каб дзеці з гуляў вярталіся не пазней дзевяці вечара, дык паспрабуй спазніцца, атрымаеш дзягі па першае чысло. Сказаў не лазіць у сад да суседа – закон. Пятрусь паспрабаваў парушыць яго, дык атрымаў без суда і следства такі "пачастунак", што тыдзень не мог сесці на лаву. Калі Клава і Люба ішлі працаваць санітаркамі ў палявы ваенны шпіталь, папярэдзіў: "Прынесяце дамоў байструкоў, пазабіваю". Вярнуліся сумленнымі дзяўчатамі".

У Юрася свой рахунак бацькавай строгасці. За кожную двойку ў школе меў добры смак шырокага рэменя. Бацькава педагогіка вельмі простая: "Табе што, цяжка кніжачку пачытаць? Сядзіш у цёплай хаце, сыты, апрануты. Засячы на носе: не будзеш добра вучыцца, пойдзеш валам хвасты накручваць..."

Аднойчы падлавіў Юрася, які сек яго вострай сякеркай дрот, хацеў зрабіць сабе самакат. "Ах ты вуж, што нарабіў!.." І каб Юрась не даў дзёру па бульбоўнку, плакала б яго попка. А бацька заблытаўся ў бацвінні, смешна кульнуўся ў баразну, крыкнуў са злосці: "Пагадзі, вуж, вернешся..." Юрась тады не вяртаўся ў хату да позняга вечара. Яго знайшла мама за агародам, у траве. Упрасіла вярнуцца, а перад тым правяла перамовы са сваім строгім Сцяпанам.

Сэрца бацькава, зразумеў Юрась, выстуквала не толькі строгасць: ён быў мяккі і лагодны, калі, выпіўшы, звяртаўся да жонкі: "Манька, ратуй, душа гарыць". Дый вужам называў Юрася не з вялікай злосці, а каб настрашыць, наківаць, каб болей ніколі без дазволу не браў яго інструментаў.

Бацька двухжыльным удаўся мужыком. У калгасе – ударнік. Возьмецца касіць, пляжыць да поту, да мазалёў. Калі араў на валах, то хадзіў за плугам, пакуль валы перастаўлялі ногі. А прыцемкам, раніцай і ўвечары, рабіў усё для сваёй гаспадаркі. Карове сена нарыхтуй, плот рамантуй, гной з хлява выкінь, дроў у печ назапась, свінчо абсмалі, разбяры. Яго клопат адзін:

даць гаспадыні Марыі Адамаўне ўсё-ўсё, каб было чым карміць і дзяцей, і худобу, і курэй. Ён – здабывала, мама – раздавала. Гэтыя функцыі яны так умела выконвалі, што, выбіўшыся з пасляваеннай галоты, сям'я Майскіх не вельмі жыравала, але ніколі і не галадала, нічога ні ў кога не пазычала, нікому не зайздросціла. Жыць з гонарам, прыстойна і сумленна – вось навігатар іх сэрца.

Быў канфлікт з бацькам, які ўскалыхнуў сэрца студэнта Юрася. Ён на канікулах. Вечарам бацька кажа:

– Кладзіся, сын, раней. Досвіткам павяду цябе ў грыбы. Пакажу свае мясціны.

Прапанова, як кажуць дыпламаты, прынята з прыемнасцю. Божа, бацька даверыць свае патаемныя сцежкі. А пры гэтым нешта збаіць, прыгадае.

Юрась доўга не мог заснуць. Здаецца, толькі звёў вочы, а бацькава рука дачыркваецца да яго далоні:

– Уставай!.. Сонца прачынаецца!..

Мячыкам падскочыў Юрась з ложка. Праз хвіліну стаяў у двары, апрануты для вандроўкі па лесе.

Пачалі падбіраць з чым ісці. Бацька прапанаваў кош. З почапкай на плячо. А брат Пятрусь, які жыў побач, прынёс свой кош, сплецены з беленькага луцця. Юрасю ён больш спадабаўся.

–Дзякуй, брат, бяру твой кош!

І тут бацьку як бы страшэнны віхур узняў над дворышчам і з той нечаканай высі пачуўся гнеўны голас:

–Дак табе чужое лепшае?.. – далей пайшлі адборныя, пяціпавярховыя мацюкі. – Сядзі дома!.. У лес не бяру!..

Бацька бразнуў весніцамі, закурыў і, не азіраючыся назад, упэўнена рушыў за прыгуменне, за якім пачыналася забродская дуброва. У Юрася нагарнуліся слёзы: за што, чаму так уз'юрыўся бацька, калі ж залічыць сына ў дарослыя? Ад крыўды хацелася збегчы з дому, паехаць у Мінск да сяброў.

Мама разруліла канфлікт:

– Мой залаты сын, не запякай злосцю сэрца. Бацька прапанаваў табе кош, у якім я некалі насіла цябе на жніво. У гэты кош, як уцякалі ад карнікаў, бацька паклаў іконку, бохан хлеба, бутэльку малака для цябе малога, і пабег з намі ўсімі на Хаўруснае...

Мама ціха заплакала.

– Даруй, матулька, я не ведаў...

Як жа чалавеку трэба шмат ведаць, каб адзіна правільна, разумна прымаць рашэнні

У той дзень бацька і сын памірыліся.

***

Куды адплываюць зямныя гад*ы*?
У небыццё ці ў памяць?
На сметнік ці на Алімп?
У дні салодкія ці горкія?
У храм дабрыні ці ў мех памылак?
У накірунку нястачы ці ў бок багацця?..

Юрась рана зразумеў, што кожны чалавек, як тая чорная скрыня ў самалёце. У асяродку апараціка, які мы называем "душа", фіксуюцца ўсе

мігі, дні, гады жыцця. А калі здараецца непапраўная трагедыя, мы шукаем тую скрыню. І часцей не знаходзім. Так на пагостах ляжаць бібліятэкі непрачытаных кніг.

Бацьку і маці Юрась пачаў вымалёўваць у памяці, як іх не стала ў зямным жыцці. Вылушчыў пры гэтым дужа важную выснову: успаміны пра будзённае, звычайнае не парушаюць рытм сэрца, а залацінкі з пяску жыцця зашкальваюць кардыяграму памяці. З імі хочацца пераначаваць, яны просяцца ў сяўбу на белым аркушы паперы.

Мама кранула апошнімі сваімі просьбамі:

– Сынок, ты ж не згубіся ў тым вялізным мурашніку – у Мінску!..

Мама сама нідзе, ніколі не бывала. У яе нават пашпарта не было. Старшыня забродскага калгаса Малюта часцяком дакараў:

– Сцёпіха, навошта табе той пашпарт. Ты што, у Амерыку патарабаніш?.. Лебяду, макрыцу рваць па бульбе можна і без дакумента. А каб лён церабіць ды карову даіць – не трэба далікатная навука.

Так калгасная паляводка Марыя Адамаўна Майская з году ў год куёўдзілася ў сваім забродскім кубле. У ім падрасталі, аперваліся шасцёра дзяцей. Ды ўсім ім вайна пераблытала дарогі.

Пятрусь у нядзелю пайшоў атрымліваць дыплом бухгалтара. Весела гулялі вечарынку. А ў чатыры раніцы аб'явілі вайну.

Петруся Майскага, у чым стаяў, загрэблі ў ваенкамат. Вярнуўся з вайны інвалідам, з прабітай галавой. Калі выпіваў, усім даваў памацаць чэрап, які дыхаў, торгаў у такт сэрцу, і тлумачыў:

– Гэта мяне Адоля Гітлер пачаставаў...

Петрусю даверылі службу калгаснага конюха, з ёю і звекаваў.

Дочкам Майскім Лідзе, Клаве, Любе, сыну Міколу вайна пераблытала вучобу, лёс, кар'еру.

Дык вось жа чаму мама Марыя прасіла Юрася, калі ехаў на вучобу ў Мінск, не згубіцца ў вялізным чалавечым мурашніку. Ёй хацелася, каб хаця адзін з вялікай сям'і выбіўся ў людзі.

У той дзень і бацьку было не пазнаць.

Устаў раненька з сонцам і курамі. Доўга мыўся ў начоўках, ад галавы да пятаў. Няспешна галіўся сваёй партатыўнай брытвай, перад тым цярпліва тачыў-мянташыў яе аб шырокі скураны рэмень. Падчупорваў нажніцамі пасівелыя вусы.

Апранацца памагала мама. Адзеў куплёныя ў сельмагу штаны, любімую касаваротку ў блакітныя палоскі, нацягнуў на ногі хромавыя боты, а на галаву кепку з казырком, заламаным наперадзе на дзве баразёнкі. Хваліўся, што такую форму кепкі насіў сам Ленін. Хаця пра кіраўніка пралетарыяў мала чаго ведаў дый ведаць наўрад ці жадаў.

Ехалі павольна, моўчкі. Колы адбівалі чачотку па каранях лясной дарогі. Іх праводзілі і крыху палохалі нечаканым лопаннем крылаў то сойкі цікаўныя, то дразды непаседлівы, то сава лупатая. Бацька не зводзіў вачэй з дарогі, у напрузе трымаў лейцы і ўсё паўтараў калгаснаму нястому:

– Не драмаць, тваю маць!.. Хлызіны пакаштуеш, – а калі конь цягнуўся за лясной травінкай, якая раскошна красавала ўздоўж дарогі, нагадваў. – Эйч, што ўдумаў... Вязеш, дак вязі...

Юрасю гаварыў будзённыя словы:

– Як ты?.. На гэткай дарозе не падрэмлеш...

– А я і не хачу спаць.

– Правільна, а то праспіш і не запомніш, як у Шацілкі ехалі... Мо б перакусіў што?..

– Не хочацца...

Юрась доўга хацеў вылузнуцца з-пад бацькавай строгай апекі, а цяпер, калі гэты жадан набліжаўся, самота агортвала сэрца: “Як жа без вас, мае залатыя?.. Хто стане апекаваць у людзях?..”

Бацька не ленаваўся круціць самакруткі з самаробнага тытуню. Бясконца пускаў пад нос сівы дымок, бытта праз яго бачыў нешта сваё і такое, што толькі зразумелае яму.

У Шацілках, на чыгуначнай станцыі, бацька ўтыркнуў у вузкае акенца свой вусата-паголены твар, гучна аб’явіў:

– Бялет да Мінска!

Юрась адчуў, як сарваўся бацькаў голас, убачыў яго вінаватыя вочы, бытта ён адрываў яго ад сябе, сілком выпраўляў чорт ведае куды.

– Трымай, сын, гэту паперку, якая завязе ў сталіцу. Толькі не згубі!..

На пероне бацька пакешкаўся ў кішэні шырокіх порткаў, там, дзе ляжаў капшук з самасадам, выцягнуў памятыя грошы.

– Тут, сын, пяць чырвонцаў. Цялка прадалі, каб цябе выправіць. На большае, выбачай...

Юрась яшчэ ніколі не трымаў такіх дарагіх папер. Свае грошы! Душу распірала радасць. А сэрца выстуквала словы:

– Дзякуй вам з мамай... Узаб’юся на свае – вярну.

– Ты толькі глядзі там, не блазнуй!..

У бацькавым “не блазнуй” Юрась пачуў яшчэ два словы – бізун, лазіна.

І бізуна, і лазіны атрымліваў ад яго. Цяпер во – грошы.

– Дзякуй, татка! – Юрась кінуўся ў абдымкі.

А калі запыкаў па рэйках цягнік, калі Юрась ускочыў у вагон і зірнуў на перон, дзе стаяў бацька, сэрца яго абарвалася, прыпынілася, замерла. Бацька курыў новую самакрутку. Нешта ўсё змахваў з вачэй, нібыта дым шкодзіў пазіраць на сына. Плакаў без слёз.

Юрась зразумеў: бацькоўскі рай для яго закончыўся, пачыналася паваротка да сваёй дарогі.

Пад стук колаў па-новаму загучалі пажаданні. Маміна: “Не згубіся!..” Бацькава: “Не блазнуй!..” Як жа ім хацелася, каб ён уславіў род Майскіх. Нават колы цягніка падтаквалі: “Так-так, так-так, так-так...”



Наталля Русецкая



...я зразумела
чаму я зіма...

# Паміж намі былымі

* * *

У жніўні было
дзве поўні
я пра цябе
успомню
згадаю
адным радком
ты быў
як месяц за шклом
далёкі
чужы
халодны
няведамы
і свабодны
то маладзік
то ветах
а я гадавала
дзетак

* * *

а ты ўставай
і зноў жыві,
пі ранішняе сонца,
усміхайся.
любі дарогу,
на вадзе кругі,
плыві,
не бойся,
дыхай, не здавайся.
а я пайду
па небе
за табой,
мы пражылі вясну
так, як хацелі,
мы бачылі,
як зоркі
мігацелі,
на вейках
вечара
запальвалі
расу.

* * *

мне сёння пячэ між рэбраў,
быццам хтось усадзіў туды нож,
ён напэўна трапіў бы ў сэрца,
толькі гэта мой правы бок.
Але я стараюся дыхаць праз раз –
беражонага Бог беражэ.
раптам сэрца ў мяне паўсюль,
хоць і адно?

* * *

невясёлыя вясёлкі
пад вачыма
у вачах
зоркі
зыркія вавёркі
скачуць поначы
на дах
зубкі рэжуцца
ў дачушкі

засынае на руках
невясёлыя вясёлкі
пад вачыма
у вачах

* * *

сёлета лета
мяне заганяе ў тупік
навігатары слепнуць і глухнуць
губляюць дарогу
а на мапах старых
не нанесены тыя шляхі
па якіх я навобмацак еду
у дождж і ў пагоду
і гару праразае
асветлены новы тунэль
і мяжа падымае шлагбаўмы
сваіх пераходаў
на крыжы раздарожжаў
з усіх невядомых дарог
выбіраю кірунак сэрцам
дадому
да дому

* * *

Для гэтай ночы шкода сну.
Так хочацца віна, размоваў, песень.
І чэрпаць зоркі прыгаршчамі з неба.
Для гэтай ночы шкода сну.
Так хочацца далоні, плечы, скроні –
гарачых шэптаў блытаныя словы.
Для гэтай ночы шкода сну.
Бо жнівень, бо далёка дзесьці мора,
бо спелых вінных гронак смак на вуснах.

* * *

нясу сябе
праз лістапад
нібы віна
паўнюткі келіх
і сонца
дастае да дна

густой
гранатавай
купелі
і грэе

* * *

ёсць гарады
халодныя шэрыя камяні
ёсць гарады
жоўтыя цёплыя прамяні
ёсць гарады
крыжы й галубы ў вышыні
ёсць гарады
вятры шалёныя і дажджы

а ёсць дарогі
паміж гарадамі тымі
паміж табою і мной
паміж намі былымі

* * *

вось яно
задажджыла
хмарамі
аблажыла
цягне павольна
як з жылаў
з неба
шэры сувой
мне засталося
выжыць
самотнай
ваўчыцай
хіжай
што з лужыны
поўню зліжа
і лісце
запаліць слязой

* * *

тонкімі рыскамі
па шэрым паветры

малюю мары свае
жаданні
хачу іх пазнаць
не магу праверыць
яны збываюцца
ці забываюцца
іду наскрозь
прашываю ніткамі
сваіх пачуццяў
думак уражанняў
шэрыя дні
азірнуся –
вышыты
новы ўзор
на сукенцы каляднай

* * *

*...бесскрыдлаты паэт...*
М.Б.

паэт выпадае нібыта зусім выпадкова
з жыцця ў калодзеж двара, пад'езда, хваробы.
за спінай не раскрываецца ветразь крылаў
і не ратуе паэта ў апошнім і першым палёце...

* * *

лета застанецца
ў далонях тваіх суніцамі
над азяром
вербалозамі ніцымі
поўняю
над пустымі вагонамі
словамі
непрагаворанымі
смагаю
неспатоленай
вадою крынічнаю
з-за далягляду
летні мой край
кліча мяне

* * *

Снег
Дзіцячы смех
Залаты гарэх
Падарункаў мех
Пад убранай ялінкай
Цень
Кароткі дзень
Зорак мільгацень
У каміне жарынкі

* * *

Па голым лёдзе,
як па тонкім шкле,
па белым снезе,
як па парцаляне,
ідзе зіма
праз студзень:
дзень у дзень
па вызначаным
плане і раскладзе.
І я іду за ёю
след у след,
год скончыцца
і распачнецца новы,
і незаўважна
для саміх сябе
сёння па снезе
заўтра па вадзе
пяройдзем мы
ў рэжым хады
вясновы.
І хтосьці азірнецца,
хтосьці – не.
Камусьці лёс
кагосьці наварожыць.
А мне так хочацца,
пакуль зіма ідзе,
табе сказаць
на вушка:
ты прыгожы.

* * *

я зразумела
чаму я зіма –
наравісты характар:
магу затрымацца
ў дарозе
ты будзеш чакаць чакаць
што я сыпану смехам
як снегам
а я прыцісну
маўчання
моцным марозам
і нечакана
адліга і завіруха
маіх абдымкаў
зноўку марозна
словы стынуць
звіняць ледзяшамі
вецер
сінія колкія зоркі вачэй
хмары
хмары
і – раз!
снегапад пяшчоты
не разабраць дзе неба
а дзе зямля
роўным белым
пухам
цябе абсыпаю
усяго схавала
ад свету
зацерушыла
– Як табе, цёпла,
цёпла?

* * *

упалі цені
на зямлю
нібы пажухлая
лістота
прысела поруч
адзінота
паклала на плячо
руку

мы гаварылі
з ёй пра ўсё
перабіралі
дні і ночы
чарговы год
наўзбоч пакрочыў
нават не ўспомню –
цот не цот
хтосьці
у жмені
зерне згроб
перамалоў
і ані дбае
зіма ці доўгая
чакае
іншым прыдбаць бы
акалот



Віктар Стахвюк



...А я вэрнусь!

Я вжэ ворочаюсь!

Сюды, на Родіну...

# Подых Тэмры

***Урывак з рамана***

**Слова ад "Дзеяслова"**

***"Дзеяслоў" рызыкуе прапанаваць шаноўным чытачам незвычайны тэкст. Гэта ўрывак з рамана беластоцкага літаратара Віктара Стахвюка, напісаны на гаворцы ягонай роднай вёскі Трасцянка. Віктар Стахвюк вядомы найперш як паэт, арганізатар літаратурнага фестывалю "Пікнік беларускага слова". Гэта не першая ягоная спроба ў жанры прозы, але ранейшыя тэксты, якія друкаваліся ў часопісе "Тэрмапілы", ён пісаў па-беларуску. Раман "Подых Тэмры" напісаны на мясцовай мікрамове са значнымі кавалкамі тэксту па-польску, па-расейску і па-беларуску: з захаваннем мовы, на якой гавораць героі. Але самыя адметныя – тыя часткі, дзе аўтар прамаўляе ад сябе, на сваёй гаворцы.***

***Варта сказаць, што празаікі і паэты на Беласточчыне з даўніх часоў пісалі не толькі на літаратурных варыянтах моваў, але і на мясцовых гаворках, якія практычна ў кожнай вёсцы маюць свае асаблівасці. Ужо ад першых радкоў гэтай публікацыі вы заўважыце тыя адрозненні ў маўленні, якія аўтар па-майстэрску перадае на пісьме. Найперш гэта дыфтонгі "уо", "іэ", "ыэ" ды інш. І яшчэ варта заўважыць, што вымаўленне адрознае, а лексіка – нашая, такая ж, як на Берасцейшчыне, Гарадзеншчыне, Гомельшчыне… і, праверана на сабе, усё абсалютна зразумела… Аднак не будзем займаць вашую ўвагу, чытайце, здзіўляйцеся і насалоджвайцеся.***

Подуматі, туолько ліэт мінуло од того часу, туолько радосьті і суму, фарту і пэха, добра і зла. Всё в пэрэміэшку. І сьвіэт чуть нэ вывэрнувсе догорыэ ногамі. А ты йдэш і всё этэ у вспомінах бачыш: і самостуойны школеня прызывнікув, і початок клюбовоі діэйносьті, політычну заваруху з тобою в очку учэльняного цыклёну, і стан военны, і нуркову выправу до Грэціі...

Прошло пару ліэт военного стану. Тэлефоны на подслуху, талёны чуть нэ на всё, до того сьпіртовы напіткі доступны з пэршоі дня. Ну і пустые пуолкі, а всё этэ по поводу міжнародных санкціюв і выкліканых імі протьмы іншых прычын, як гарлатаніла обурана прыэса. Здаетсе, вона всэ на боку трымаючого власьть. Люд віэдав свое і ділівсе тым в формі анэгдотув, найчасьтіэй, як про тые поізды, што іэдут з Польшчы в Совіэцькі Союз, тяжко сопучы лёкомотывамі: «сало-мясо, сало-мясо», а назад прут, вэсёло гомонячы, – «спічкі-табак, спічкі-табак!»

Всё іншэ было як всэ. Люд поголуовно працёвав на бэзьлікіх паньствовых фабрыках і продпрыемствах, молодёж учыласе бэзплатно в учэльнях, найбідніэйшы, а то якраз выходці з нашых вёсок, доставалі стыпэндію і міэсьте в акадэмікові. Хто оно хотіэв, іэзьдів на обозы, турбазы, озёра, над морэ, чы в горы, а всё бэзплатно, як і до заварухі, в рамках студэнцькіх організаціюв, вжэ бэз прыміэтніка «соціялістычны», хоч фундовав всё якраз эты сыстэм. Горожанэ мясо «залатвлялі» на вёсках, робілі своіэ кулбасы, куплялі або гналі самогуонку, а мнуогі справлялі іменіны, хрысьтіны, чы вэсіэле, дэ можна было, як на фільмах Фэліні, «зажратісе насмэрть». Хітры мужыкі вырошчували пуд фольгою всю огородніну і рвалі бабло по повнуй програмі. Народ прозывав іх «бадыляжэ», што ані чуть нэ было образьлівэ, а наоборуот, позволяло ім чутісе, бы дісіэйшы олігархі. Воны скуплялі доляры, обсталёвували віллі кічоватымі мармурковымі мэблямі, набывалі знаюомствы за бабкі.

Базар кіпіэв. Вэзьлі сюды всё нэобхуоднэ з краін соцлагера – Совіэцького Союза, Чэхословаччыны, Вэнгрыі, Німэччыны, чы Югославіі. Істніэв дэржавны «Pewex» за валюту, дэ за сіэмдісят цэнтув, набытых просто на углу гуліці од «цінкцяжа», любы муог купіті бутэль «выборовоі», а за пяць-шыэсць далярув – джынсы «Wrangler», «Lee» чы «Rifle». Орыгінал, а нэ кітайскі эрзац, як дісь. Для заміэжніка тут быв рай, а для нас, пры зароботку в сорок далярув, всё пуд сілу, але з натугою. Хіба што куплялосе для контрабанды в Совіэцькі Союз. Якраз джынсы былі самым ліэпшым товаром, масово вэзяным в Совіэцьку Імпэрыю з пэрэбіткою в дэсэть-пятнадцэть раз, а рубліэ мінялісе на бабкі, по курсі два-тры до одного, або на золото. Вэзьлі і товар, пэрш за всё, дэдээровську космэтіку, совіэцьку фотооптыку, інструмэнты або электроніку.

Хто з нас нэ іэзьдів на гандэль?! За одін трыднёвы выізд в СССР, або на Вэнгры, прывозілосе пуврочны зароботок выкладчыка. В країны соцлагеру нэ потрыэбны былі ніякі візы. А колі ты міэв на банковум рахунку совіэцькі рубліэ, граніцю на Вэнгры, чы Всхуодню Німэччыну – ГДР – проходів лёгко, пры туом бэз куолькосных огранічэнюв. Трэба было оно міэті пісульку, што рубліэ в тэбэ отрыманы афіцьяльно, напрыклад, на пудставі контракту на працю. Быв я в 1982 рокові на курсах пудвышэня кваліфікацыюв в Інстітуті руськоі мовы імэні Пушкіна в Москвіэ повны два міэсэці і отрымовував стыпэндію з посуольства Пуольшчы, в двое буольшу за заработну плату совіэцького выкладчыка. Было навэть посьвіэдчане, потрыэбнэ на совіэцько-пуольськуй граніці, колі мы раз в міэсэць вэзлі гору дэдээровськоі космэтыкі і руськоі фототэхнікі, дэсяткі складаных ножыкув, не менш всякіх ножніць, а навэть тэлевізоры «Рубин», одным словом всё, што міэло сююмінутны збыт в прыватных бутіках, чы на базары. Найважніэйшэ – доляры, або золото прыхованэ як сьліэд. За час выйіздув прывюоз я трыццэть пять золотых колечок, але этэ, у нас з Люлёю, укралі.

Которогось дня, муой брат Васіль, які выкорыстовував любую нагоду выізду в Вэнгрыю, чы в Союз, кажэ:

– Братюга, ты, колі быв в Москве на стажу, отрымовував афіціяльно рубліэ. Так?

– Так. Але в мэнэ нэма ні одного.

– Пісулька е?

– Была. Можэ, нэ выкінув.

– То ты пошукай. А про рубліэ нэ клопочысе. Завтра я набуду на базары хоч бы мішок. А ты пуойдэш з пусьведчанём в банк і положыш іх на свой рахунок. Як брат, маеш право на выізд спонсороваті мэнэ. Важны оно банковські квіток. Яснэ?

Яснэ, што яснэ!

*

Іэхалі мы пусьпіэшным пояздом Варшава – Будапэшт. Мільготіэлі за окнамі узэнькі полуоскі туолькі-што зазеленіэвшыхсе полюов, лісные урочышча, на краях якіх сьвітілісе майською зэленёю бэрозы, лугі, на которых нэ было шчэ жывіны і туолькі буслы шпарылі гуойдаючы дзюбакамі, в пошуках кротікув, яшчурок, жаб, а навэть заскронцюв. Всё этэ втікало назад, плыло пуд стукот колюос. Мігалі одіночны будыніны калёніюв і ціэлы місьтіны, у якіх кубіковы віллі з бэтоновых пустакув, або цэглы, нічым не напоміналі нашых пудляшськіх білоруськіх вёсок.

Граніця пуольсько-чэшська прошла бэзстрэсово, і нэзадовго мы опынулісе на гранпэрэході з Вэнгерыёю. У вагоны заліэзьлі мадярські пограничнікі і мытнікі, і поплыла іхня угро-фіньсько-монгольська говуорка і бабські лямэнт тых, до якіх прыдірчыво ставілісе мытнікі, намогаючысе конфіскоматі частку товару. У нашэ купэ спочатку заглянув пограничнік, а заразь жэ затрымавсе в двэрах мытнік і без слова став прыглядатісе сумкам і торбам, колі мы, прытаівшы дох, назіралі за ёго пуозірком. Вуон почухавсе за потыліцёю і нэожыдано загадав всіэм взяті своіэ сумкі і выйті з вагону. Бабы вміг заголосілі, однак мытнік пуднявшы голос, выкрыкнув штось нэпонятно і остро, коб всіэм было ясно, што жарты куончылісе і ніякі просьбы ні лямэнт нэ помогут.

Вышлі мы нэсучы по двіэ, а то і тры торбы. Нас накіровалі в залю, дэ стоялі радком столы, на якіх вжэ лежалі горы товару «турыстув» з сусіэднёго вагона. Нэзадавго прышла чорга до нас. Я з братом і ёго жуонкою Надёю положылі сумкі на стуол, одкрылі іх і ждалі мытніка. Пудышов і став проглядаті торбы, а колі полічыв, што чоголень надто мнуого бэзцырымонно одкідав на пудлогу за сэбэ і ніякі протэст на ёго нэ діэйнічав. Так опынувсе пры мніэ, став выкладаті платья, юбочкі, шыты нашымі жункамі, складаны ножыкі і ножніці, фатоапараты «Смена», пару біноклюв, совнэчны акуляры гуртом і з другоі дэсятка пувтора совіэцькіх шахматув у бляшанках і буольш прэсьтіжных, в дэрэвяных коробках, упрыгожаных інтарсіёю. Взяв вуон одну в рукі, одкрыв, прыглянувсе рэзьбяным фігуркам, накунэць положыв на стуол, поглідіэв в пашпорт і пытае:

– Віктор! Ты везут это кому?

– Это? Для друг.

– Ты іграт?

– Да. Іграт буду в Будапешт, вечером.

– Да? Кладі фігура на доска. Будет іграт.

Розставів я фігуры, гліджу. Вуон повэрнув в муой буок біэлы і кажэ:

– Еслы ты выіграт, так ты взят свой товар і едет. Еслы я выіграт, я взят твой товар. Ну?!

– А другой выход нэт?

– Нэт. Давай! – кажэ мытнік, ждучы на муой рух.

Раз так, нічого нэ зробіш. Зрэштою, мэнэ довго намовляті до газарду нэ трэба. В акадэмікові пудчас учобы в універсітэті я окаянно йграв в покэр. Нуоч в нуоч. Газард пэрэйшов в стадію маньцьтва. Было, што мы нэ одходілі од стола буольш за двацщэць штыры годіны. Нам прыносілі до покою іэдло. Дошло до того, што я пройграв магістэрську працю. Нэ было колі пісаті. Чуть было, нэ пройграв і сім'ю.

Чуть нэ руок нэ брав в рукі карт, магістэрську працю напісав, але нэ вытрымав. Працёвав я тогды вжэ в Чэнстохові, в ліцэі, учытелём. Взяв которогось разу выплату в кішыэнь, сіэв в поязд і поіэхав в Варшаву. Оказавшысе за столом накрытым зэлёным сукном, йграв я очуміэло пув ночы. Сэрэд нас быв туолькі адін нэзнакуомэць. Вэзло мніэ як на зло і быть можэ, знов попав бы в залежносьть, коб нэ кумпаньён од покэрного стола. В эту нуоч програв вуон много, тысяч пять-шыэсть злоты, што было чуть буольш за пувторы зарплаты учытеля і попросівсе йграті в крэдыт. Осталісе пры століэ туолькі мы в двох. Мніэ было всё руовно, і я дав згоду. І так Ясь Кілян програв раз, другі, трэті. У моюой кішэні оказалісе пісулькі на мінімум зарплаты двіэ. Кажу:

– Всё, дружэ. На поіэздку на Караібы мніэ хватіт. А тобіэ і так нэ вэзэ. Зробім на дісь стоп, а там поглянэм. Я шчэ прыіэду, адыграешсе.

А вуон на этэ:

– Ніэ! Давай шчэ разы тры кінэм карты. І тогды стоп.

Хтось пудказуе:

– Згоджайсе.

– Добрэ. Ваша воля.

І кінулі мы тры разы карты. І поплыў Ясько так, што я муог пляноваті экспэдіцію і на островы Галяпагос, якіе манілі пудводным раём, што натхнёно опісав в своюой повэсті «Моана» француз Роберт Горскы. Положыв я пісулькі-чэкі в кошэлёк, заказав партнёрам по румці коньяку, гліджу, а

Кілян сідіт з очыма, набрыялымі слюзьмі. Шок! Такі мужык і росклеівсе? Чэкі его почалі парыті задніцю проз кошэлёк. Я туды-сюды, пудышоў пуд окно, поглідіэв на сьвіэтофоры города, на тэмны окна блёкув, што мэтрув за триста на гуліці Валбжыхськуй, на якуой дэсь там в новуй квартіры жывэ наш поэт-біловіэжэць Алесь Барскі і прышло мніэ раптом в голову, што то нэ Кілян, а я сіджу тут з очыма повнымі слюоз, а дэська там, сотні двіэ з половіною кілёмэтув на пувднёвы заход, моя Люля і сынкі моіэ. Поставів я румку на пудоконнік, выняв кошэлёк, а стуоль роспіскі-чэкі Яська, пудышов до его і розорвав раз, зложыв знов і розорвав шчэ, на половінкі і положыв пэрэд ім.

– Всё, Ясь! – кажу. – Нэ віэдаю, як ты, але я, дякуй тобіэ, вылічывсе однозначно. Дякуй дружэ. Дай руку!

Ясько нэ хотіэв прыняті чэкув. Пакэрыст-маньяк, але з гонором.

– Яську! Факт, я тобіэ дарую чэкі. Яснэ, што то вэлікі грошы і тяжко адмовітісе. За то ты мніэ подаровав штось значно дорожыэйшэ. Сьвядомосьть, што йду в нікуды. І этэ больш за всіэ грошы, якіе я раніэй выйграў, чы муог бы выйграті, або пройграті. Ты мніэ помуог уявіті, што ест понятія і рыэчы буольш важны, чым всіэ карты і покэрны столы сьвіэту. За этэ якраз і дякуй.

– Нэ до куньця тэбэ понімаю, але віэру, што кажэш шчыэро, – сказав Ясь і подав руку. – Окэй. Dzięki bracie!

То было тогды. Карт буольш в рукі я нэ брав. За то в шахі частовато грав зо шваграмі, братамі жуонкі. І тэстём. То в іх была сіміэйна традіція.

Тэпэр я продумав адкрыте і рушыў піэшку. Мытнік одказав. Рух, контрух. Мінут дэсэть посьлі, почалосе вырысовуватісе его стратэгія. Я проглідіэв впэруод варьянты ходу бою. Быв шанс втягнуті его в капкан і даті мата. Нэ было натурально пэвносьті, што вуон этого нэ бачыт, аднако?!

Я вжэ хотіэв іті этым маршрутом, але засумнівавсе. Кругом нас руос натуовп і гандляруов і мытнікув. Зайшлі і погранціэ. По графіку, до одыходу поязду шчэ буольш за пувгодіны. Воны всіэ за ім, але адчувалосе, што наш контрабандны буок пэрэжывае і за мэнэ. І я рышыв. Выбрав зовсіэм іншы варыянт. Зняв яму лямфра, коб рухі чэрэз два збіті ёму віэжу. Я віэдав, што колі толькі вуон іэ нэ пошкодуе, то в тры-штыры рухі даст мніэ мата. І вуон этэ обачыв. Спакуойно здав лямфра, зробів скочок конём, я нэзадовго забраў віэжу, пудняв іэ в вэрх в жэсьті трыумфу і тогды почув:

– Шах!

Я помалу поставів здобыту віэжу, розглянувсе по шахматнум полі і як бы туолько тэпэр поняв, што мніэ погрожае нэпозьбіэжны мат, положыв рукі на голову, поглідіэв кругом, выдыхнув з шумом павіэтрэ зо словамі:

– О, мамма мія!

Мытнік спокуойно выконав экзэкуцію. Яго сослужывці білі ёму браво. Контрабандісты таксамо.

Я розглянувсе, показав рукамі на моіэ сумкі і на муой товар кругом іх і кажу:

– Всё ваше! Беритэ! Я ехат домой!

Мытнік оглянувсе кругом, обачыв радосны твары своіэ кумпаніі і роспорадівсе:

– Окэй! Товар мой. Но я не знат, што с ним сделат?! Значит, ты берёт товар и едет в Будапешт.

– Спасибо! – адказав я нэвпэвняно, так як до кунця нэ дошло шчэ до мэнэ, што мытны клопоты на этум однохначно кунчаютсе. Взяв я хорошы

варыянт шахматув в дэрэвянуй каробці з інтарсіёю і говорачы: «Это для вас на память», – подав ёму.

Мытнік затрымавсе в пувжэсту, однако прыняв сувэнір і зо словамі «kesenem» протягнув мніэ руку.

– Ты, то мэнэ налякав! – сказала жуонка брата, Надя, колі мы разом з іншымі пасажырамі упаковувалісе в пояздздэ. – Колі пудняв тую фігуру ввэрх над головою, я подумала, што ты здурыэв!

– Хто?! Братюга? Одставів комэдію, а ты повіэрыла, што хочэ выграті, так?

– Бо й так. Шчэ в мэне дрыжыт всё в сэрэдіні. Думала, што колі выйграеш, у всіэх нас одбэрут товар.

Іэзділі мы часто. Став я забіраті з сабою жуонку. Всэ торбы двіэ товару буольш. І бабок на сотні двіэ-тры за одін курс таксамо буольш. А то, пры учытельськуй зарплаті в сорок баксув, вэлікі грошы. Жыві і роскошуйсе!

На базарах на окраінах Будапэшту, чы Мішкольця наш тавар сходів плавно і за добры кэш, которы мы там жэ міняли на доляры, а покінуту квоту отоварувалі заповняючы сумкі частково на продаж і для сэбэ. Вэзьлі мы і вэнгерске салямі і свэдры, в якіх в пэрэміэшку з турэцькімі, на протягу пару ліэт гандлю тысячув мурашок, ходіла вся Пуольшча. Дісь, од мільёнув громадян Пуольшчы, эты хліэб бэзьлітосно однялі уласьнікі заходніх супэр маркетув, спускаючы бэзробуотны люд на дно голодноі экзістэнціі.

Народ тогды, міэв набіты кошэлькі, а купіті всё што трэба муог на базары, або «по блату». В склепах – совдэповська голеча, як бы хто спэцьяльно хотіэв взьбіэсіті народ. Всё ж в краіні продуковалосе, як і раніэй, особліво на вёсьці. Плён той сам руок в руок, а то і буольш, а харчыэ зо склепув зьніклі. Чары-мары, чы саботаж высокопоставленых чынув?!

Машыны, найчастіэй «по талону», а шкода, бо вэльмі хотіэлосе набыті любую, навэть здорово поношану брычку. Мніэ вдалосе купіті в вусімісятум рокові надцэтіліэтню «Сырэну». Просто супэр .

А здарылосе этэ, протів всёго дотолішнёго жытя.

*

Жыв я, як мніэ здавалосе, по оставівшум сьліэд в коді гэнэтычнум, вэддычному кодэксові. Правосьть і справідлівосьть. Нэ дута і напоказ, а поза очыма, можэш бэствітісе хоч бы над жуонкою своею і дітьмі, зьвіэра одэрті зо скуоры, насобачыті на чоловіэка, продатісе за шмаль. А то, што бывало, выпів чэрэз чур, начвэрыв дурнот, нормальны чоловіэк поймэ. Сволоч нэ одпусьтіт, бо то даст ёму в рукі «гака». А сволочы «гак» потрыэбны, коб маніпулёваті тобою, колі ты оно «пэнкнэш», братко. Тому, што б ты нэ натворыв нэ хотячы, нэ гнісь в дугу. Трымай пьён!

На эты раз было інакш. Обачыв мэнэ в корыдоры учэльні Гжэсек, коордынатор чогось там, кумпэль. Поклікав до габінэту і посьлі тыпового тэт а тэт, кажэ:

– Wiktor. Masz u siebie studenta eksterna Tomasza Kroczyńskiego. On zgłosi się do ciebie na egzamin.

– Okej, ale nie rozumiem, po co mi to mówisz.

– No właśnie! – Гжэсь сказав пудвышаным голосом. – No właśnie. Wiem Wiktor, wiem! – пудяв вуон рукі ввэрх, одхілівсе до заду в крыэсьлі і заразь жэ пудсунув фотэль до мэнэ, нахілівсе і конфэдіцьёнально, як бы хто муог нас в пустуом габінэті пудслухаті сказав, – Jest tylko jeden problem, – і Гжэсь шчэ буольш стішыв голос, – On nic nie umie.

– Co?! – пэрэпытав я.

– On nic nie umie. Nie zna zupełnie rosyjskiego. Niestety zdać musi. Za moją namową wpisał do indeksu ciebie. Przepraszam, że nie pogadałem przedtem z tobą, tym bardziej, że ja naprawdę wiem, jaki jesteś. Ale, Wiktor...

– Kurwa, Grzesiek, – і я, заікаючысе, пробовав выкінуті з сэбэ фрустрацію, бо Гжэська так направду любів за ёго бэзпосрыэдносьть, кумпэльство, вспульны выпады на піво до Ляску Анёлуовського, а тут вуон хочэ пэрэвэрнуті мое нутро, заліэзьті в мою душу і начвэрыті там....

– Wiktor, sorry, ale ty się wycisz i posłuchaj. To nie ty wymyśliłeś system eksterna. To nie ty postanowiłeś ludziom z nomenklatury, elicie naszego miasta i Polski, wreszcie, dać dyplom uczelni za free. To oni przyjęli to ustawowo i ty tego nie zmienisz. Oni mogą tylko zmienić ciebie, a Tomasz i tak będzie miał wpis, chociaż ani dudu z rosyjskiego. Ja natomiast ciebie kurewsko lubię. Nawet za to, jaki jesteś. Że nie udajesz i nie grabisz, a uczciwie pracujesz i dlatego nie grabisz. Dla innych to nie problem. Pamiętasz, jak gadaliśmy o nurkowaniach, węgorzach, nawet mnie kiedyś dałeś jednego i ja to pamiętam i nie zapomnę. A ty mówiłeś, że gdybyś miał kawałek bryczki, to twój świat byłby inny. Bo każdą sobotę i niedzielę skoczyłbyś na kłus i miałbyś to, co lubisz i kasę dodatkową. Dlatego, stary, kazałem wpisać ciebie, – Гжэсь зробів павзу, коб муозг муой пэрэварыв сказанэ, коб зайґралі в юом іншы эмоціі, а ніэ упартэ ніэ, бо ніэ! – Bo Tomasz, stary, to dyrektor banku. Kapujesz?! Dyrektor! I możesz wziąć każdą pożyczkę, nawet taką, na którą w żaden sposób, jako belfer, nie kwalifikujesz się. Patrz mam tu jego indeks. Weź i wpisz ocenę, a o resztę się nie martw.

– Grzesiu, brakuje mi słów... albo ty nic, a nic nie rozumiesz. Mało tego, że mam wpisać człowiekowi ocenę bez względu na to co umie i jak odpowie, to jeszcze chcesz, ażebym to zrobił nie widząc człowieka?! Czy ty ...

– Wiktor, wiesz ilu utytułowanych panów i pań wpisywało tytaj oceny nie widząc na oczy eksterna?!

– Ale ja to nie oni. Cześć!

Мінулі дніэ два-тры, врэшті тыдэнь. Гжэсь нэ одпусьтів. Мое назвісько в індэкс вжэ было впісанэ. Мы шчэ пару раз пэрэговорылі. І ото Томаш у мэнэ, в ґабінэті на эгзаміні. Навэт лёгко зострэсованы. Індэкс лежыт поміж намі, я нэ бэру ёго до рук, нэ заглядаю.

– Как ваша фамилия! – почынаю эгзамін простым пытанём, коб розьлюзніті атмосфэру і початі просту розмову про ёго працю і профэсію, што здавалосе, нэ повінно быті труднэ для чоловіэка, які сіэм ліэт учывсе чужоі мовы.

– Спасибо, вшыстке здровэ.

– Чудесно, – говору я, і тэпэр доходят до мого сьвіэдома слова Гжэська, што вуон ані ду-ду і коб вуон хоч штолень сказав, пытаю:

– А как вас зовут?

– Мой завут банкёр...

– Хорошо, ... А вы кто?

– Я ест Tomasz.

Взяв я в рукі індэкс, глянув на пятюоркі і дэсь там чэтвюорку, впісав позытывну оцэнку. Кажу:

– Panie Tomaszu. Dla mnie jest oczywistym, że pan potrafi się po rosyjsku porozumiewać. Zrozumiał pan pytania i odpowiedział na nie. Gratuluję. Zdał pan egzamin.

– Dziękuję! Panie Wiktorze. Rozmawiałem z panem Grzegorzem. Powiedział mi, że pan marzy o swoim samochodzie. Talonów nie mam, ale mogę udzielić pożyczki. A pan może kupić z drugiej ręki. Wiem, Grzegorz mi mówił, ale ja nie proponuję panu tego przed egzaminem, tylko po. Ja to po kleżeńsku, bo mam takie możliwości i to nie narusza żadnego kodeksu.

Поговорылі мы з паном Томашом, дырэктором одного з по-за чэнстохуовськіх банкув. І взяв я позычку. І купів я сырэну, ну настоліэтнэньку, бо інша нэ трапіласе. І тэлевізор колёровы купів. І шчэ кое што. А міэсэці пару посьлі інфляцыя злізала крэдыт, які сплатів кількома ратамі заміст ліэт пять оддаваті чэтвэрту часть выплаты.

А в дэмонічных шрастрах зашуршало пазуром по пэргаміні, колі Ліэшы впісував нову чорту характэру в грыэшну біографію Віті: корупціоніэр!

За то тэпэр, то я муог бэзпэрэбуойно іэздіті «на клус» на угра в ольштыньскі, мазурські, кашубські, тухольські чы помуорські озёра. Каса плыла ручаямі, што позволіло за одін сэзон купіті трохкомнатнэ мешкане в новум блёкові. Всё іншэ, хоч бы мэблі, знов по знаюомству од экстэрнув, або з другоі рукі. Эх браткі, пограз Вітя в грыхі: корупція знаюомств, а шчэй нэлегальны клус. Оно в лапу нэ брав. Навэть конякуов.

За то жыте поплыло достатне, хоч городськіе рэстораны з дансінгом былі забіты бітком, а міэсьте трэба было «залатвіті по блату» у выкідайлы.

Пудшкуорнэ жыте біэсілосе тысячамі руслув нэпудконтрольных власьті. Відно, юой было так выгодно. Як дісь.

А мы всіэ, в акадэміках, барах і кнайпах, за кумпанійным выпівоном, чы сьвяточным сіміэйным столом, высьміэювалі і опоганьвалі до абрыдлівосьті комуну і іэ соцсыстэму, нэ оставляючы сухоі ніткі, ні на іэ партыйно-урадовых тузах, ні на іэ прынцыпах. Бэзнаказно, што бы про этэ інакш нэ говорылі профэсіональны лгуны з дісіэйшых політычных вэршын і рабы з корпорацыйных СМІ.

*

Быв час, колі ліэтом акадэмікі, зо своімі баро-клюбамі пульсуючымі рытмамі Аббы, пудчас канікул пэрэтворалісе в готэлі для студэнцькоі молодёжы з соцкраін, прыіжджаючоі на обміэн в рамках МОР – міжнародны обозы праці. Хоч нэ туолькі для іх. Зьдійсняласе тогды і там містэрыя обміэну учутямі. Бухгальтэры бога Эроса нэ посьпівалі з авдытом.

Пры туом всюом нэ было нігдэ ніякоі порнухі. Пэршы раз я побачыв здымкі голых паненок в журналах в газетных кіосках, будучы на водолазнуй выправі в Грэціі. Было мніэ трыдцэть шыэсть ліэт. Набыв я і карты зо здымкамі голых паненок! Ну, просто супэр! Такімі однак в покэр нэ пойграеш. Нэ спрыяют концэнтраціі. А в 1985 рокові, іэхав я в Москву і вюоз іх, як оказалосе, в подарок волейболістові Сашы, з якім я познаёмівсе міэсэць пузніэй по волі Божуй. Прыпадком.

Быв я тогды другі раз на стажу в Інстітуті руськоі мовы ім. Пушкіна. То было чуть нэ руок посьлі выправы нурковоі до Грэціі, дэ я прызапасівсе супэр муоднымі цюшкамі, пры туом нэ з нізкоі пуолкі. А то, тутай в Москве нэ было маловажнэ. Чы в мэтро, чы на гуліцях, в магазінах, або в кафэ, чы рэсторанах, якраз на этэ молодые москвічы звэрталі особліву увагу. На курточку з джынсамі з сінёшыэрого полотна, попадалісе аматоры, але муой найліэпшы комплет нэ быв на продаж. Выглядав я в юом супэр .

Проснувсе я раніцёю в нашум готэлёві для заміэжных выкладчыкув на Шабаловці. На стуольчыкові, коло луожка, дыміла коструля повна тушаного шашлычного мяса, доправляного пахучымі спэціямі. Пры юой, покрыты кропэлькамі росы, туолько-што выняты з холодільніка, манів зрок літровы бутэль «Wyborowoi», купляноі за шыэсть рублюов в амбасаді Пуольшчы. Нам, акадэмічным выкладчыкам руськоі мовы давалі ліміт на покупкі на сорок пять рублюов в міэсэць, а то сіэм і пув літра. Возьмі попробуй одмовітісе. Отрымаетсе? Ніэ-а!

В покою мы прожывалі втрох: швагер популярного актора Пуольшчы – Робэрт зо Слупська, якого якраз нэ было, бо пэвно застраг у новоі самуотноі колежанкі з брацькоі соцкраіны, Лешэк, дохтор філёлёгічных наук з Познаньського унівэрсітэту і я. Лешэк, які проснувсе раніэй і всьпіэв натушыті мяса, радосно настрояны, патэтычно заявів, колі я розбудівсе з крыэпкого сну і нэ зусіэм шчэ прышов в сэбэ:

– Віктор, дісь Дэнь Победы, а ты бэзвстыдно спіш?! Вставай! Сьмірно!

Ну і што зробіш, колі твоіэ нуоздры лапают такіе пахі, а зрок твуой совгаетсе по студёных кроплях на літровум бутэлі. Промывшы в сьпіэшці твар і зубы, сідіш в піджамі на краю свого луожка і дівішсе, як Лешэк налівае до стопкі, совіэцького стандарту, чысту «Выборову».

– За Дэнь Победы! – пудняв румку Лешэк.

І мы бух.

– За дружбу!

Знов мы бух!

– За нашых баб, што дэсь там!

Бух!

– За дітэй, коб нэ чэплялісь трамваюв!

Бух! Бух!

– За то, коб мы моглі! – в хміэльнум патосі выкрыкнув Лешэк.

– Леху! То што в твоюом луожку робіт нуоч в нуоч Касенька? Ждэ аж будэш муог?!

– Ха, ха, ха! Нэ іначэй Віктор, нэ іначэй.

– Леху, нэ провокуй, бо Каська баба бюті, а я надто жуонку свою люблю!

– Ну то твоіэ учутя в опасносьті, брате!

І мы бух, да бух! Аж показалось дно і полёгчала коструля.

Лешэк допуовз до луожка і бухнувсе в посьтіэль. Я одягнувсе в супэр модэрны грэцькі цюхі і выйшов наружу. На Кострычніцькуй плошчы стоялі готовы до старту ліэпшы бігуны Москвы, выбраны зо всіэх шкуол, учэльнюв, фабрык і заводув. Тысяч пять. То быв фэстівальны пробіэг, як всэ, 9 мая. Затрымавсе я на тротуарові і помахав бігунам. Одін з іх одмахнув мніэ. Пудышов я да ёго, двохмэтрового вэлікана і запытав, по крутому поніжаючы тэмбр голосу:

– Друг, какая дистанция?

– Двенадцать километров.

– Фігня, рвану! – загнуў я по блатному.

– Дело барское... – одгукнувсе той і сцэптычно окінув мэнэ пуозірком.

І тут жэ пырскнула в вэрх зэлёна ракета, і всіэ мы за ею. Міліціянты, якім я махав рукою, выкрыкувалі «Знаем, знаем. Беги!» Біэглосе добрэ, тым буольш, што я быў на гаю і в лёгкум убрані. А тут таблічка – 3 км. Я обрадовавсе. Подуматі, нэ віэдомо колі я пробіэг дэвэть кілёмэтрув! Але ж ніэ. Бачу

нэзадовго другу таблічку – 6 кілёмэтрув. І тут мэнэ впэршыню прыгнуло до зэмліэ. Але ніць то. Дэсь там, на дэвятум кілёмэтрові я спотнувсе. Злітіэлі з носа окуляры. Вэрнувсе мэтр-другі, прысіэв коб пудняті іх, з трыэснувшым шкельцём і чуть встав на ногі. Добіэг. Хтось мніэ дав в рукі пэтовы бутэль мінэральноі воды. І тут я зробів рокову ошыбку. Замісьть взяті одін-одіны глоток, а рэшту выліті на голову, я іэ выпів чуть нэ всю. Сэрце ошаліэло. Тогды воно было шчэ невіэрогуодно муоцнэ, дякуючы чому я муог косіті, чы рубаті дрова ціэлы дэнь, йті дэсяткі кілёмэтрув, а всё бэз стомы. І то былі остатні мінуты Богом подарованоі мніэ нэзвычайноі вытрымкі і здоровья.

На тысяч пяць ліэпшых бігунов Москвы прыбіэг я сто вуосімісят пяты. Мніэ повіэсілі эты нумэр, намалёваны на полотніэ, на груді. Саша, волейболіст, з якім я пазнаёмівсе на старті, пудышов до мэнэ на фінішы і кажэ:

– Слушай, ты добежал?! Я подумал, што поддатый иностранец пробежит сотни три метров и здаст. Да нет, километры три бежит, пять бежит, сем-восем бежит. Ну я стал пробираться вперёд. И што вижу на финише? Прибежал и то во второй сотне. Ну брат, даёшь!

На другі дэнь, я еле зьліэз з луожка. Выкладчыця білостуоцькоі мэдычноі акадэміі робіла мніэ масаж нуог і плечув просто на пудлозі, коб я ввогуле быв в змозі дабратісе до поліклінікі. А там, доктор, сымпатычна баба, ослухала мэнэ, зробіла всіэмогчымы прыбуорны запісі тіску, сэрця і шчэ штосьті чогосьті і сказала:

– Молодой человек. У вас было здоровье, но больше его не будет. Хорошо, што вы жывёте. А то могло, говоря попроще, «лопнуть сердце». Поняли?

І понял і одчув. Нікуды не діэнэшсе. Пуозно. Колі вспуомніш, што за Дэнь Победы люді поплатілісе нэ такою цэною, то нэ так тяжко на душыэ. На бліжыэйшы выходные пудкінув я Сашы карты з голымі паненкамі і парку экзэмплярув Pleyboy'a, прывэзяного мною з Грэціі. В Союз, чэрэз жэліэзны кордон, вюоз я эту контрабанду, хітро ховаючы сэрэд шмуоток од ока мытнікув, бо голізну дэправуючу дорослых мужыкуов соцьялізм забороняв.

То быв подарунок! Пудчас встрыэчы на пудмоскуовськуй дачы, пры румці столічноі, схолоджануй в студёнуй водіэ, в водоры запаху шашлычного дыму, ёго кумплі вырывалі собіэ мужскіе журналы з рук. Бэспардонно. Карты Саша трымав в кішэні, каб нэ замурзалі шашлычным жыром.

А што скажэш?! Мораль в Совіэцькум Союзі зашкаліла по-за прэдіэлы сэнсу.

Вспуомнілосе, як шыснадцэть ліэт раніэй, в 1969 руокові, колі в Польшчы проводілісе дні культуры РФССР, прыбыло шыссот артыстув з колектывамі і солё. Мэнэ затрудніло пуольскіе агенство „PAGART» в ролі тлумача народного колективу піэсьні і танця ім. Пятніцького з Москвы, з якім на протягу міэсэця побывав я во мнуогіх городах Пуольшчы. В Познані всёею кумпаніёю пуйшлі мы до кіна погліdіэті фільм «Ziemia obiecana» Wajdy. Вышлі мы, а Юра, ліэт на дэсэть старыэйшы за мэнэ, контрабасіст з оркестры Пятніцького, пудышов до мнэ і кажэ:

– Ну, Виктор, картииина! И эти секс-сцены!!! – говорыў Юра в натхнёнуй эксьцітаціі, затіскаючы кулакі і зжымаючы скулы сківіць. – Ведь там, понимаешь?! Сплошная любовь! У нас такого в жизни не увидишь!

А там на самуой справі нічого порнографічного і нэ было. Троху голых паненок, сцэна в поязді з Каліною Ендрусік, як бавітсе пэнісом Ольбрыхського і всё. Тым я нэ зьдівлявсе дорослым мужыкам тут, на пудмоскуовськуй дачы, которы рвалі Pleyboy'a собіэ з рук. Карты парні зайграют, пэвно, насмэрть.

Саша і ёго колегі оказалісе тыповымі продставнікамі москуовськоі інтэлігенціі. Воны радосно вспрымалі лозунгі пуольскоі «Солідарносьті», марылі про луомку совіэцькоі сістэмы і былі готовы пудтрыматі хоч бы самого чорта, які б дав ім надіэю на пэрэмогу.

І якраз тогды пэршым сэкрэтаром, дэ факто, прэзідэнтом Совіэцького Союзу, став Міхаіл Сергеевіч Горбачов, які якраз і увособляв всё этэ – і луомку совіэцькоі сістэмы, і прыватізацію совіэцькіх гігантув, і одкрыте бэзоговуорочнэ на Заход і на прывівку ёго «цэнностюв». А на самуой справі – постать нэ стандартна. Ёго ж над зямлёю, не буольш чым айсбэрга над водою, за то пуд зэмлёю і розглянуті до кунця нэмогчымо. Нэ обышлосе і бэз віэчно пуддатого цара Борыса.

Дыскутовалі мы натхнёно, там на дачы, тым буольш, што в мэнэ нэ было ніякіх нэдоброзычлівых зауваг до самого Заходу і тых жэ «вартасьтюв», з якімі воны нэ так шчэ оголтіэло выпендрувалісь. На Заході, як одіны в кумпаніі, я вжэ быв і бачыв што нэ што своімі очыма. І склепы і супэрмаркеты, якіе посьлі нашоі голечы вдохновлялі багацьтвом всёго і бэз талёнув. Дэ убране, космэтіка і іншэ ліжало пуд час іхнёі сьесты з дванадцэті дня до штырох, в вэлізярных кувшах-корзінах просто на тратуарах грэцькіх городуов, напротів закрытых на той час лавок, а всё по цэніэ трыста драхмув. Быв то эквівалент трох далярув, якіе любы можэ, по совесьті своюой, положыті в кошык і взяті тую ж блюзку, чы іншэ. Покуоль мы нэ сталі табунамі іэздзіті туды, посьлі пэрэмогі солідарніцькоі рэволюціі. Зьніклі з тротуарув і кувшы і корзіны з баксамі, чы драхмамі, што бэз контролі стоялі пудчас сну-сьесты своіх господарув.

Нэ віэрылосе моім собесіэднікам, колі росказуваў я про этэ нэпэрэбранэ богацьтво товару, а на самуой справі шырпотрыэбу, якого в Союзі нэхватало до зарыэзу.

Столічна добрэ входіла пуд пахучы шашлык, для якого мясо, вжэ нарыэзанэ, купіті можна в любуом магазіні Москвы. А у нас в Пуольшчы, голоднеча. Урадовы дядькі, відно з пудсказкі закулісы, вычысьтілі пуолкі з усёго і проз чырвоны смі-потворы всё ськлнулі на санкціі. Оно оцот і гэрбата. І тоны джынсув в Pewexach, якіе мы вэзьлі в Союз.

– Виктор, если не секрет, а по какой цене ты покупаешь в Польше джынсы? – запытав Артур, Сашын друг по институту.

Я спочатку засумнівавсе, чы сказаті правду, але тут сэрэд ново набытых друзей?! Кажу:

– По шэсть долларов, плюс-минус 10% в зависимосьти от марки.

– То есть ты покупаешь Lee, Wrangler, Rifle по такой цене?

– Да.

– Да ё..., бля...! По шесть долларов, а продаешь по восемдесят?! – пэрэпытував Артур, які досюоль нэ вымовів ні одного нэцэнзурного слова. Рыжоваты, з протяглым тваром высочун, колега Сашы з волейбольноі команды. Ну я пры іх, просто, стосімідэсэтісэнтымэтровы карлік.

– Да, – одказав я упэвняно.

І почалосе. Мужыкі остро дыскутовалі. Обвінялі дэржаву, якая одрыкаетсе от так фантастычного поповнэня свого будджэту. Хватіло бы, коб дэржава продавала по двадцэть пять долярув, то вжэ штырохкратна пэрэбітка. Куолько можна бы запусьтіті програм, добудоваті доруог, пуднэсьті пэнсіі, а выпосажыті шкуол. Лічылі, додавалі, множылі і вышло ім, што дэржава в роук могла бы міэті мільярдув пять баксув чыстого прыбытку.

– Что, они дураки? Они этого не видят? – засумнівавсе Гена, колега Сашы по інстітуту.

– Как не видят?! А что если они как раз и наводняют рынок через подставных лиц, а те количества, которые везут такие как Виктор, лишь малая часть бизнеса, а выработанный кэш распределяют по карманам? – доліэв олівы до огню Артур.

Дыскутовалі і спорылі і стало на туом, что сыстэму обовязково трэба ломаті.

– Дальше так жить невозможно. Надо менять систему, – пуднявшы чарку, кажэ Артур. – За перестройку! За гласносьть!

– За вас! За ваше будущее! – і колі всіэ мы выпілі, я добавів. – У вас впервые во главе державы президент, вместо секретаря компартии, Міхаил Сергеевич Горбачёв. Это очень почитаемый на Западе политик. К тому же, министром иностранных дел у него Давид Шеварнадзэ. У нас в Польше, особенно в тех партийных кругах, которые полностью иденцифицировались с «Солидарностью», он в глубачайшем уважении. Мне с восхищением о нём и Горбачёве говорил мой студент, высоко поставленный в областном комитете партии, аппаратчик, который зная, что я в руководящих областных структурах «Солидарности», не скрывал убеждений. Это говорит о том, что в польских осьведомленных партийных кругах Горбачёв и Шеварнадзэ – это прозападники. А коль так, кто знает? Кто знает, в какую сторону грянут события.

– Виктор! Ты что?! У нас?! Это кагебэшная окостенелая система. Её невозможно переформатировать. Её можно только рвануть ко всем чертям. Иначе ничего не получится. Посмотри. Партаппарат, который по нашим меркам живёт на несравнимом с нами уровне, не отдаст позиций за так. А это он держит на цепи тайные службы, которые в три мига задушат любой протест, а тех, кто осмелится, растерзают в клочья. Разве ли не так ребята? – задірысто кинув вызов Саша.

– Да, блин! Кровь сжимается в венах, когда думаеш обо всём этом. Вот Виктор, который побывал и видел Запад своими глазами, расказал о свободе. Не говорю об уровне жизни. Это вообще чудовищный разрыв! А вот пришёл Горбачёв. Ну, обещал он кое-что в виде перестройки, ну поставили его на пост президента, а значит отказались от бесмысленной и противоестественной формы государственного управления партийной номенклатурой, которую никто и никогда не избирал. Она сама выросла вне закона и вне закона правит Советским Союзом. А я хочу идти на избирательный участок. Дать голос тому, кто меня убедит, что он справится с экономикой гигантской страны, даст возможность любому, если я человек предприимчивый, обзавестись своим кафэ или рестораном, баром, или магазинчиком. А разве он мне всё это даст? – возмутівсе Артур. – Это возможно. Но меня волнует вопрос помаштабнее. Ребята, у нас в Союзе мощнейшая промышленность тяжёлая и горнодобываюшчая, и оборонная, и энергетика, и верфи, и всё прочее. А с этим как быть? Тоже под молоток, хто сколько даст? – поставів сумнівы чорговы друг Сашы Вадім.

– Да нет. Всё стратегическое, вся сырьевая, оборонная и тяжёлая промышленность ни в коем случае не должна подлежать приватизации. Она должна быть исключительно государственной. Но! Но управление государственной экономикой не должно быть номенклатурным, а профессиональным. Повторяю, ребята, исключительно под руководством

Алесь Бычкоўскі



...піць, як правіла, кідаюць усе, праўда, хтосьці паспявае гэта зрабіць яшчэ пры жыцці...

# Фірма

***Амаль крымінальнае чытво***

Аднойчы да Валера з'явіўся анёл. Стаў рукі ў бокі і кажа:

– Ты, гэта, Валера, кідай ужо, годзе бавіцца, збірайся.

– Куды?

– Там пабачыш, – анёл усеўся за барнай стойкай побач з Валерам і дастаў цыгарэты.

– Прыйшоў мой час?

– Ну, прыйшоў – не прыйшоў, а пара ўжо думаць, – нечаканы візітоўца пстрыкнуў запальнічкай, і Валер заўважыў, якія брудныя ў анёла рукі, з доўгімі пазногцямі.

– Дык...

– Дык-індык, Валера. Не хочацца, праўда?

Анёл крытычна скасавурыўся на яго.

– Добра, хай сабе, я пакуль жартую, – і паказаў агра-

мадны кулак. – Глядзі мне, Валера, дап'ешся. Тады позна будзе баржомі жлукціць.

Пасля залопаў крыламі, порх-порх, і знік з вачэй, падняўшы вецер. Незвычайна гарачы, нават пякучы вецер.

***

Абуджэнне было цяжкім, смылела знутры і здавалася нібыта сабакі грызлі за ногі.

“П'янь, каб ты здох! – недзе раўла жонка. – Заўтра – на развод!”

Ён сціснуў сківіцы.

Ізноў і зноў трэнькаў мабільнік, рыхтык у фільме “Адрэналін”, дзе герой Джэйсана Стэтэма прачнуўся раніцай і нічога не памятаў.

“Фраярок, заўтра прынясеш грошы, – хрыплым басам на сіплае “алё” адказала слухаўка. – Не будзе грошай, кватэра наша. Зразумела?” Абразлівае “фраярок” разанула слых.

Якая кватэра? Уласная трохпакаёўка ў цэнтры?

Змрочны тон раптам зрабіўся ліслівa-лагодзістым.

“А мо жадаеш адгуляцца? Толькі што паставіш? Ты ж усё спусціў учора на вецер”.

Тон ізноўку змяніўся: “Ну ты ўсё зразумеў? Грошы каб былі да шостай вечара. Пяцьдзясят тысяч даляраў”. Кароткія гудкі.

Божухна, якія даляры?

Бліснула маланка ў памяці. Казіно!

Гарэлка, бабы, покер... Цьху. Марціні, шампанскае, віскі, блудлівыя спакусніцы, ахвотніцы на чужое шчасце. Ён гуляе ў карты – на коне партманет і залаты пярсцёнак-пячатка. Рыхтык пушкінскі герой прамаўляе: “Тройка, шасцёрка, туз, дама, шасцёрка, туз”. Дама і туз – ключавыя словы. Чарнавокая ведзьма юрліва лашчыцца, а тоўсты ігрун-карцёжнік, навідавоку катала, спакушае згуляць “па-крупнаму”. Зараза! Здаецца, ён сапраўды спусціў усё.

Ізноўку мабільнік трэнькае.

“На сувязі менеджар па кадрах, – сухі голас пазнаецца адразу. – Мне даручана паведаміць, што, на вялікі жаль, кампанія пакуль не адчувае патрэбы ў вашых паслугах. Канчатковы разлік вам будзе пераведзены на банкаўскую картку, дакументы вышлюць поштай. Усяго найлепшага!” Коратка пстрыкнула. Звольнілі!

Успышка бліскавіцы ўваччу.

“Грамадзянін, пройдземце ў аддзяленне! – пачуў голас, калі выкуліўся з таксоўкі і прыхіліўся да слупа памачыцца. Дзе тое было? Верагодна, на аўтобусным прыпынку. Ён абурыўся і наважыўся адарваць міліцыянту пагон. “Я цябе ў ЛПП аформлю зараз жа!” Але нехта падскочыў, пераняў, штосьці доўга тлумачыў. Нарэшце яго запіхнулі ў нейкую машыну і кудысьці павезлі.

“Ці жывы яшчэ, сабака? Каб цябе агні спалілі на яснай пагодзе! – гнула сваю лінію жонка. – Ты чуў, швэндала, каб нагі тваёй тут не было! Заўтра, паўтараю, заўтра – на развод! Сама за ўсё заплачу, абы хутчэй пазбавіцца ад дурня!” Тэлефон, каб мог гаварыць, заплакаў бы.

Адзін, два, тры, чатыры... Пакутнік згінаў пальцы, колькі і чаго ён паспеў натварыць за адзін вечар? Абрынуўся ў запой, з работы выперлі, жонка выгнала, у дадатак прагуў усе грошы, у давесак няйнакш праблемы з міліцыяй,

і самае жахлівае – нажыў няхілыя праблемы, бо картачны доўг, як кажуць, рэч вельмі сур'ёзная і небяспечная. Пра наступствы і думаць не хацелася.

Пасля гадавога перапынку ён толькі пакаштаваў гарэлку і адразу ж "пусціўся ў скокі". Усяго за адзін дзень страціў і разбурыў усё, што такімі высілкамі-намаганнямі стваралася цягам года цвярозасці. Жах!

І пазбаўлены сковаў рэальнасці мозг інстынктыўна даў нервовым цэнтрам каманду спаць. Хоць нейкая палёгка – схавацца ў адключцы.

Але ж, колькі не спі – прачынацца ўсё адно трэба, не прачынаюцца толькі мёртвыя.

Другое абуджэнне сталася рэзкім. Імгненным. І больш стракатым.

У галаве настойліва пстрыкае, а ў роце пануюць экзістэнцыйныя пахі, увушшу гудуць пахавальныя званы, і здаецца, чорны дым узнімаецца з апраметнай. З пакутлівай глоткі вырываецца енк. Трасуцца рукі, і ў страўніку рагоча д'ябал. "Ой, дзе быў я ўчора?" – аднекуль спявае Высоцкі.

– Валер Ермалаевіч Гамбізаў, – левітанаўскі барытон хутчэй засведчыў, чым спытаў.

Валер варухнуў рукамі і расплюшчыў вочы. Лунаў паўзмрок. Ён ляжаў на канапе.

– Значыць так, Валер Ермалаевіч, – постаць мужчыны ў цывільным гарнітуры схілілася да пакутніка, і мужчына засведчыў. – Жыць будзеце.

Валеры варухнуў ліпкім языком у амяглым роце:

– Дзе я?

– Жыць будзеце! – ужо весялей засведчыў мужчына і бліснуў круглымі акулярамі. – Праўда, рытарычнае пытанне: а навошта?

Валеры адразу ўсхапіўся і сеў, не зважаючы на агульны боль і млявасць. Невядомы суразмоўца быў высокім, хударлявым, са спачувальна-змоўніцкім выразам твару.

– Бабашкін Аляксей Пятровіч да вашых паслуг, – назваўся ён і дадаў. – Вы на тэрыторыі фірмы "Апошняя надзея". Наш дэвіз-слоган "Заўтра будзе лепш, чым учора", і я ваш асабісты кансультант-адміністратар.

Валеры намагаўся штосьці сказаць, але сам не разумеў што. Толькі пытанні віравалі ў думках, і душыла смага. Ён зморшчыўся, як грыб, абхапіў галаву і паспрабаваў устаць на ногі. Атрымалася не адразу.

– А як?.. – спытаўся ён і замаўчаў, праглынуўшы словы.

– Элементарна. Учора вы сталі кліентам нашай фірмы, падпісалі кантракт на супрацоўніцтва і замовілі першую паслугу – аднавіць учарашні дзень.

У галаве ў Валера адразу пранесліся стоп-кадры, быццам з дыяфільма на тэму "Як я адпачыў". Рэстаран, бар, кавярні, казіно, алкаголь, рулетка, міліцыя, здаецца, нават "хуткая дапамога". Што, скажыце на ласку, ён учора тварыў?

– А калі я сёння не хачу прыгадваць мінулыя падзеі?

– Воля вашая, але аванс вы выплацілі, – кансультант-адміністратар звычным рухам паказаў квітанцыю.

У Валера адразу пазмрачнела ўваччу ці то ад кошту паслугі, ці то ад абстыненцыі.

– Увогуле, я не рэкамендую адмаўляцца, Валер Ермалаевіч, – настойліва мовіў кансультант.

Ён пацягнуў Валера за гузік кашулі і гіпнатычна зірнуў праз круглыя акуляры.

– На вас складзены адміністрацыйны пратакол, і гэта самае мяккае ў вашым жыцці. Паверце, вельмі хутка вы абавязкова пажадаеце даведацца пра ўсе акалічнасці і варункі вашага апакаліптычнага ваяжу.

– Валяйце, – пасля нядоўгіх роздумаў згадзіўся небарака. – Чакайце, а што вы за кантора?

– Аказваем хуткую наркалагічную дапамогу, але не ў тым сэнсе, як агульнапрынята. Карацей, мы дапамагаем нашым кліентам аднавіць памяць пасля п'янага віру. Мы паспрыяем, каб па хвілінах, нават па секундах распісаць вам усе падзеі "ўчарашняга дня". Размовы з асабістай аховай, калі такая маецца, ці з паплечнікамі-сабутэльнікамі выключаюцца. Пры наяўнасці вострых кутоў, такіх, як міліцэйскія пратаколы, мы пасадзейнічаем іх абысці ці выправіць. Зразумела, усе паслугі будуць уключаны ў канчатковы разлік. Мы дапаможам прымірыцца з жонкай, з калегамі на рабоце, сябрамі, адміністрацыяй шынка, у які вас заносіла халера, і іншае. Увогуле, мы здольныя дзе трэба падмазаць або кампенсаваць. Дарэчы, работа па вашым кантракце ўжо распачата. Галоўнае, не хвалюйцеся. У фірме працуюць былыя следчыя крымінальнага вышуку, з тых, хто на пенсіі, спецслужбоўцы ў адстаўцы, ёсць уласная агентурная сетка і мноства сувязяў. Мы карыстаемся попытам і аўтарытэтам на самым версе, – кансультант паказаў пальцам у столь. – Нават пастаянныя кліенты ёсць.

– А навошта мне вышук і агентурная сетка? – даўся дзіву Валер.

– Даведацца пра ўсе прыгоды, распісаць па хвілінах, – даходліва патлумачыў цярплівы кансультант.

Валеры кідаў па баках трошкі зацкаваныя позіркі. Цяжка дыхалася, перахоплівала ў грудзях.

– Келіх піва? – паслужліва ўсхапіўся Аляксей Пятровіч.

– Вы сапраўдны Айбаліт, – Валеры закаціў вочы, затым паглядзеў на свайго ратавальніка з падзякай і вялікай надзеяй, прагна прыпаў да адкаркаванага гарлячка спатнелай піўной пляшкі, клапатліва прапанаванай кансультантам.

– Такім чынам, у пэўным сэнсе, – тут Айбаліт зрабіў паўзу і паважна мовіў: – Мы – кантора!

Пакутнік спалавініў пляшку і з палёгкай выдыхнуў.

– Лімузін чакае, – запрасіў Бабашкін. – Пачнем з фінальнага пункту.

Памяшканне фірмы месцілася ў сутарэнні цокальнага паверха хмарачоса паблізу галоўнага праспекта сталіцы. Выкладзеныя з гранітных плітак прыступкі на першы погляд здаваліся залішне высокімі, нават стромкімі. Валеры хіснуўся, і кансультант асцярожна падтрымаў кліента за локаць.

– Аляксей Пятровіч, а чаму сур'ёзная кампанія ды так глыбока ўнізе? – не вытрымаў Гамбізаў і паспрабаваў падлічыць колькасць прыступак.

– Дзеля псіхалагічнага эфекту, – паспяшаўся растлумачыць Бабашкін. – Выхад з сутарэння сімвалізуе пачатак вашага шляху ўверх, да сонца, так бы мовіць, прэч з ямінi, у якую вы ўваліліся. Наперад да новага жыцця. Мы таму і мусім людзьмі звацца, што калі павалімся, устаем і ідзем далей. Наперад! Мы як сонца, спыняцца не маем права!

Ад выпітага піва Гамбізаву хоць і палепшала, але ненадоўга. Ён пракашляўся і пачаў узнімацца па прыступках. Кансультант крочыў следам.

Вуліца сустрэла гукамі перадабедзенага дня. Час пік. Мінакі, аўтамабілі, грукат, лязг, віск і не зусім прыемны пах. Валеры азірнуўся. Першы ўзровень дома займалі прадуктовая крама, невялікая кнігарня ды фірма

па гандлю смартфонамі, размаітыя абрысы якіх праглядаліся на стэндах за вонкавым шклом памяшкання, дзе вёўся продаж. На прыхадняў з сутарэння ніхто не звярнуў увагі. Дакладней, амаль ніхто. Снавалі аўтобусы, тралейбусы. Плынь машын гайданулася на зялёнае святло, паволі паплыла. З перапою на свет выкарасквацца заўсёды цяжка, наўкола спрэс шугнякі, безліч шугнякоў. Да абоіх з ніадкуль падбег спрытны дзядок у зашмальцаванай саколцы з надпісам “Cannibal Corpse”.

– Падайце тры дзвесце, калі ласка, – ветліва папрасіў ён. – На лекі не стае.

Айбаліт без слоў дастаў партманет з унутранай кішэні, адлічыў патрэбную суму і аддаў.

– Панкі не памёрлі, – узрадваўся дзядок і хуценька знік.

– Наш былы кліент. Трыццаць восем гадоў чалавеку, а на першы погляд і не дасі, – патлумачыў Бабашкін. – Спіты дашчэнту. Пакрысе пачынаў. І сям’я мелася, і работа. А зараз? Падмацоўваем часам, бо шкада. Нібы наглядны дапаможнік для нашых кліентаў.

Гамбізаў няёмка пракашляўся і запытаў:

– З чаго пачнем?

– З аксіёмы, Валер Ермалаевіч, – кансультант раптам пасур’ёзнеў. – Піць, як правіла, кідаюць усе, праўда, хтосьці паспявае гэта зрабіць яшчэ пры жыцці.

Узнікла тэатральная паўза. Гамбізаву памлоснела. Задаволены эфектам, Бабашкін змякчыўся.

– Праўда, Валер Ермалаевіч, надараецца і так, што чалавек памірае ў дваццаць пяць, толькі хаваюць яго ў семдзесят. Разумееце, да чаго я хілю?

Гамбізаву было не да філасофіі. Палёгка ад піва сталася часовай, і Бабашкін усё зразумеў.

– Прапаную падсілкавацца. Рэстарацыя побач.

– Вашая праўда, – выдыхнуў з палёгкай Гамбізаў. – На пусты страўнік цяжкавата думаць.

– Дый півам галаву не падманеш.

– А то!

Маленькае ўтульнае памяшканне цяжка было назваць рэстарацыяй у звычным сэнсе, хутчэй кавярня, але пахі прыемна казыталі нос. Валер зглынуў і запытальна зірнуў на кансультанта.

– За кошт фірмы, – паспяшаўся запэўніць Бабашкін.

Валеру прынцыпова было пляваць, за чый кошт, страўнік бурчэў і, нягледзячы на моцную абстыненцыю, хацеў есці – добры знак. Сведчанне, што здароўе яшчэ не згублена. Без сумніву, навіна радавала. Але ж, пахмяліцца варта...

Яны замовілі па просьбе Валера сухога віна, нарэзку з вяндліны, каўбасы, слабасалёнага селядца і падаліся за стол. Уселіся адзін супраць другога. Афіцыянт хуткім часам прынёс замоўленае, расставіў талеркі з пачастункамі, адкаркаваў бутэльку і адышоў. Валер хацеў гарэлкі, але падумалася – яшчэ не вечар, абыдземся вінцом. Напоўніў келіх, прапанаваў кансультанту, хутчэй па звычцы дзеля ветлівасці. Бабашкін жэстам адмовіўся, маўляў, на службе ды за стырном, ім яшчэ ехаць. Валер згадзіўся, хукнуў і махам апаражніў келіх у некалькі глыткоў. Пачакаў, прымружыўшы вейкі, затым паклаў у рот кавалак вяндліны, прыняўся жаваць, малоць, каўтаць, цягнуць з талерак. Пакрысе наплыла рэлаксацыя.

“Варварства, дзікунства закусваць сухач селядцом. Але ж голад не цётка”, – падумаў ён.

Паступова да Валера дайшло ўсведамленне ўласнага становішча. Ён трымаўся, не піячыў цягам году, як ужо сказана вышэй. Затым сарваўся ў піке, паляцеў у астральныя сны, зваліўся ў штопар, як заўгодна назавіце. Звычайна надараецца так, а п’янічкам тое добра вядома, што на раніцу пасля добрай гулянкі нічога не памятаеш. Яно мо і добра, нічога не памятаць, каб ад сораму не сканаць, але ж сябры, калегі, суседзі пасміхаюцца: хто здзекліва, хто са спагадай. І тады, нібы чарвяк, свідруе думка, а што ж рабіла твая пакутлівая душачка з дурной галавой на шпаркіх нагах? Куды насіла пакутніка? Валер прыкінуў, што ў запоі ён не дзень, і нават не два, а вось тры дні бадай дакладна. Прынцыпова, для яго то невялікі тэрмін, аднойчы неяк піячыў месяц, праўда, пасля лячыўся ў спецыяльным аддзяленні. Але ж чаму пасля трох дзён адбіла памяць? То загадка веку. “Карусель” у галаве. Сарваўся. Мо таму і сарваўся, што год не піў? Цьху, незадача. Валеру памлоснела, пот спіну заліў. Дыяфільмы ў галаве вылузнуліся і паказалі ізноў: раз’юшаную жонку, звальненне з працы і гульню ў казіно. І ў дадатак Аляксей Пятровіч, кансультант, адкуль узяўся? Валер успомніў, што нешта падпісваў. Апошнія грошы з банкаўскай карткі спаліў на паслугі фірмы, якая шчодра абяцала дапамагчы, аднавіць учарашні дзень. Гледзячы на ўсё, аднавіць давядзецца, бо адзін з дыяфільмаў паказваў жахлівае – ён мусіць згубіць жытло. Няйнакш трэба паперы падпісваць з натарыусам. А дудкі вам. Аднак успомніліся пагрозы ў слухаўцы і сур’ёзны дзядзечка, з якім сеў за карты. Валер зразумеў, што проста ад яго не адчэпяцца. Мо і кансультанта прыставілі, каб не збег? Валер спыніўся есці і скасавурыўся на Бабашкіна. Той нібыта прачытаў думкі кліента, пасміхнуўся і сказаў:

– Ну што, гатовыя пачаць раскрыццё таямніцы ўчарашняга дня?

У Валера завуркатаў мабільнік. Валер зіркнуў на кансультанта, быццам пытаючы дазволу. Той прыдаў сабе заняты выгляд, расклаў перад носам нататнік і чыркаў там алоўкам. Валер вырашыў адказаць на выклік з незнаёмага нумара.

– Ну дык ты дзе? – запытаўся хрыплы бас.

– А вы хто? – асцярожна пацікавіўся Валер і прамакнуў сурвэткай потны лоб.

– Ты не забыў, што вінен добраму чалавеку кватэру?

Імгненна перасохла ў гарляку.

– Мо дамовімся? – прапанаваў Валер.

Слухаўка абрынула вал мацюкоў і пагроз.

– Ужо дамовіліся. Ты замест грошай прапанаваў кватэру, учора на тым і пагадніліся, кропка. А то я табе нагадаю, напомню, раз ты забыўся, – паабяцаў голас і ўдакладніў, падвёў рысу. – Асабіста. Зразумеў?

– Д-добра... – Валер ажно пачаў заікацца.

– Я яшчэ затэлефаную сёння, будзь на сувязі. І не ўздумай тамака хімічыць, пашкадуеш.

Сувязь абарвалася.

– Усё ў парадку? – спагадліва спытаў Бабашкін, бліснулі акуляры.

Валер коратка зыркнуў на субяседніка, калі суняў дрыжыкі, і спытаў рахунак за сняданак.

Кансультант запярэчыў:

– Ну што вы, за кошт фірмы. Прынамсі, калі шчыра, прызнаюся: пера-

кус і апахмел папярэдне ўключаны ў прайс паслуг. Вы заплацілі яшчэ ўчора. Так што не спяшайцеся, атрымлівайце асалоду.

– Якая там асалода?.. – Валер скрывіўся.

– І тым не менш, ваш сённяшні стан выключна і цалкам толькі ваш выбар, які мы несумненна паважаем. Вы мо і не хацелі, але выбралі.

Апошнія словы рэзнулі слых праматой, і Валер знайшоў іх злавеснымі і нават у чымсьці пагрозлівымі. Мільганула думка, што варта адмовіцца ад паслуг кансультанта. Мабыць, непрыязь адбілася на твары Валера, бо кансультант адразу запярэчыў:

– Паслухайце, шаноўны. Вы ж усё адно самі зараз нічога не зробіце. А грошы вы ўжо заплацілі за нашу работу і вярнуць іх нельга, бо такія правілы. Так што ў вашых жа інтарэсах ужо скарыстацца момантам. Дый за кампанію, здаецца, весялей.

Валер павагаўся, Бабашкін меў рацыю.

– Вы казалі пра згладжванне вострых кутоў, – успомніў Валер.

– Так-так, – пацвердзіў кансультант. – Літаральна ўчора атрымалася высветліць адзін з вывіхаў вашага ваяжу, даруйце мне гэтае слова. Сутычка з міліцыянтам. Вы адарвалі пагон, выхапілі фуражку, абражалі чалавека “пры выкананні”. Добра, што прадстаўнікі нашае канторы былі непадалёк, а кантракт вы падпісалі ўжо. Давялося спехам вас адмазваць. Так што, тое-сёе мы можам. А то начавалі б у пастарунку, за кратамі, а сёння замест рэстарацыі паехалі б на суд у спецыяльнай машыне.

Валер замычэў, сціснуў зубы. Падрабязнасці сутычкі з праваахоўнікам ён не ведаў, у памяці зеўрала чорная дзірка, але “дыяфільмы” перад унутраным позіркам вылузваліся адпаведнымі стоп-кадрамі. Так, насамрэч ён трымаў у руцэ пагон і нехта ў форме міліцыянта пагражаў накіраваць Валера лячыцца ў ЛПП.

– З адною акалічнасцю, вам толькі сёння трэба сустрэцца з “пацярпелым” і папрасіць прабачэння.

Валер здрыгануўся. Бабашкін развёў рукамі:

– Тут ужо асабістае, нічога нельга зрабіць, прабачце. І без таго, абышліся, што называецца, малой крывёй. А тут сказаць два словы ўсяго. Ну што такое ў вашым стане пара слоў? Словы ж нічога не значаць для вас, правільна? Затое пратакольчык адказны таварыш парваў, дакладней, абяцаў парваць, як толькі вы прабачэння папросіце.

Валер вырашыў не марнаваць часу, прапанаваў выправіцца да абражанага праваахоўніка зараз жа. Мільганула думка, а што калі міліцыя здольная абараніць яго, недарэчнага гульца ў казіно, і ўратуе кватэру? Эх, каб гэта з усімі можна было так сёння – ва ўсіх проста папрасіць прабачэння.

Заззяўшы ўсмешкай на ўсе зубы, Бабашкін супакоіў і запэўніў, што міліцыянт няйначай адпачывае пасля начной змены. І ўсё яшчэ яны паспеюць, дзень вялікі. На стале заторгалася слухаўка кансультанта. Той спехам узяў, засяроджана слухаў якую хвілю, прамовіў “так-так” і схаваў слухаўку ў кішэню пінжака. Усмешка прапала, ён стаў сур’ёзным.

– На вас падаюць у суд, Валер Ермалаевіч. Рэстаран “Галактыка”, – словы прагучалі як стрэл.

Гамбізаў вусцішна ўздыхнуў і мовіў: “Валяйце”. Падумаеш, суд. Тут неўзабаве бандыты, якія вымагалі кватэру, галаву адпілуюць, да суда можа і не дойдзе чарга, не паспее.

– Наш агент толькі што паведаміў. Вы набілі шмат посуду ў час гулянкі

ў рэстаране. І самае горшае – трапілі на відэакамеру. Ахова вытурваць не стала, проста акуратна, як мае быць, зафіксавала вашыя дзеянні, высветлілі асобу, і сёння адміністрацыя падае зыск на кругленькую суму. Адвакаты канторы ўжо працуюць над вашым праектам, але мяркую, нам неабходна зараз ехаць і ўдакладняць дэталі, паспрабуем вырашыць справу на месцы.

– Прасіць прабачэння?

Бабашкін замітусіўся.

– А што тут дрэннага? Усяго толькі словы. Паверце, у вашым становішчы гэта не самае горшае.

Валер згадзіўся, хутка яны крочылі да пампезнай адрэстаўраванай "Волгі", на якой прыехалі.

Каля рэстарана "Галактыка" было нятлумна. Невялічкая вуліца збочвала з праспекта і праз дзвесце метраў хавалася пад шатамі клёнаў і ліп, па невядомых прычынах не спілаваных да гэтай пары. На паркоўцы непадалёк ад прыступак затаіўся шыкоўны джып, увесь храмавана-чорны, з вялізнай антэнай і, як падалося Валеру, нават спераду з танаваным шклом. Побач прытуліліся пара скутараў і састарэлы "апялёк". На прыступках каля ўвахода стаяў, склаўшы рукі на грудзях, асілак у чорным строі і паголенай да бляску галавой. На носе – чорныя акуляры. Здалёк чалавек той нагадваў тэрмінатара, толькі без валасоў. З абыякавасцю мадэлі Т-100 асілак змераў позіркам постаці Валера і кансультанта, якія падняліся па прыступках і крочылі да ўвахода.

– Здрасця, – выдыхнуў Валер і скаўтнуў сліну. Аляксей Пятровіч суцяшальна пасміхнуўся і па-сяброўску паляпаў кліента па плячы, маўляў, не губляйся, усё як мае быць.

Адміністратар прывеціў гасцей больш-менш прыязна, а вось мажная кабета вагой пад цэнтнер, калі выплыла адкульсьці з нетраў службовага калідора, убачыўшы Валера, адразу пачырванела, расквахталася. Мудрагеліста з прыдумкай аблаяла, апелявала да грамадскага сумлення і пагражала ўчастковым інспектарам. Карацей, усчала сварку. Валер і слова не мог вымавіць, а Аляксей Пятровіч слова не мог уставіць. Пакуль нарэшце не аб'явілася кіраўніцтва ў асобе дырэктара.

– Галактыён Хрыстафоравіч, – адрэкамендаваўся ён і парукаўся пасобку з гасцямі, павярнуўся да гаварлівай цёткі. – Мар'я Фядотаўна, мы ўсё ўладзім. Калі ласка.

– Мяне, салідную жэншчыну, прымушаць тверк танчыць, не сорамна? Маладуху знайшлі...

Валер адчуў, як чырвань кінулася ў шчокі, і сарамліва апусціў вочы, разгублена развёў рукамі.

– Мы гатовыя ўсё кампенсаваць, – своечасова вымавіў паслужлівы Аляксей Пятровіч.

– Думаеце, калі грошай шмат, то ўсё можна? А мо ў мяне грошай больш? І я вас засуджу за маральны здзек і абразу!

– Мар'я Фядотаўна, прашу вас! – узмаліўся дырэктар.

Кабета нарэшце замоўкла і ўзялася свідраваць вачамі прысутных.

– Можна і без суда абысціся. Наш кліент гатовы за ўсё разлічыцца, – запэўніў кансультант Бабашкін.

– Можна-можна, – згадзіўся з ім Галактыён Хрыстафоравіч. – Судом гэта мы так пужаем. Не ўсе ж нашыя наведнікі сумленныя. Калі ласка, у мой кабінет.

Павалілі шумнай гурбой. Мінулі кухню. Валер крадком зірнуў на посуд, паторгаў за рукаво дырэктара.

– Скажыце... а шмат я талерак натоўк учора?

– Мар'я Фядотаўна, колькі? – звярнуўся да яе кіраўнік.

– Дваццаць кілаграмаў аскепак, – з гатоўнасцю зманіла гарэзлівая кабета.

У Валера сціснула патыліцу.

– Даруйце, калі ласка, – вырвалася з амяглых вуснаў.

– Даравацъ то мы даруем, але спачатку трэба кампенсаваць, – пераможна і больш мякка зазначыла Мар'я Фядотаўна.

У кабінеце доўга не бавіліся, палічылі, пералічылі, склалі нейкі акт. Валер зірнуў на рахунак, напісаў распіску, пакінуў пашпартныя дадзеныя. Бліжэйшым часам неабходна было ўнесці кампенсацыю. Калі выйшлі ўжо назад у калідор і развіталіся, дырэктар і мажная жанчына засталіся нешта абмяркоўваць, Валер пацікавіўся:

– Аляксей Пятровіч, а што такое тверк?

– Ну вы як дзеці маленькія, хаця тое і школьнікі ведаюць. Ні разу не бачылі, як дзявулі танчаць тверк? Гэта як? Ракам! Пятую кропку як мага вышэй, і затым трэсці на колькі моцы, з як мага большай амплітудай.

Валер адчуў, як ізноў чырванее.

– Дзіўна, а раней, як помніцца, танга лічылася непрыстойным танцам, – сам сабе прамовіў Бабашкін.

Дзіва было ў тым, што Валер амаль не помніў ні гэтую мажную кабету, ні гэты рэстаран, адно кадры з дыяфільмаў у галаве, і то няпэўныя. Відаць, добра накідаўся.

Асілка-тэрмінатара каля ўвахода ўжо не было, знік з паркоўкі і танкападобны джып з танаваным шклом.

– Адну праблему, можна сказаць, вырашылі, – з палёгкай зазначыў новаспечаны сябра Валерыя.

Валер толькі ўздыхнуў, успомніўшы лічбы з рахунку за знішчаны посуд. Ажыў-заторгаў мабільнік у кішэні. Валер машынальна дастаў, паглядзеў – званіла жонка.

– Лепшая палова, – патлумачыў кансультанту.

– Я пачакаю, – з паразуменнем сказаў Бабашкін. І наблізіўся да дзвярэй “Волгі”.

З заміраннемм сэрца Валер націснуў кнопку і нячутна прамовіў: “Алё”.

– Я табе ніколі гэтага не дарую, чуеш?!

– Сонечка, рыбанька мая! – незадачлівы піяка нарэшце ўспомніў жончына імя, якое за раніцу чамусь выскачыла з галавы.

– Я для цябе болей не Сонечка і не рыбанька, – голас усхліпнуў. – Ты што зрабіў з нашай кватэрай?

У Валера схаладнелі далоні і заляпала ў грудзях.

– Званілі ўжо, абяцалі зайсці.

– Хто званіў?

– Назваліся новымі гаспадарамі нашага жытла.

– Сонечка... Сонечка, дай дзень, я ўсё выпраўлю. Далібог!

Голас перастаў хліпаць.

– Позна, Валерачка. Я прыняла рашэнне ўсё выправіць самастойна, каб адным махам усе памылкі. Ты выбраў гарэлку замест спакойнага жыцця. Рыхтуйся цяпер. Вельмі хутка табе стане сорамна!

– Мне ўжо сорамна, Сонечка! – разгубіўся Валер. – Перад кім яшчэ?

– Перад нябёснымі анёламі. Яны ўжо ляцяць па цябе.

Лепшая палова адключыла сувязь, і Валер застыў у разважанні.

Неўзабаве справы набылі нечаканы паварот. У састарэлым "Опелі" на стаянцы завёўся рухавік і адчыніліся дзверы. З салона вылез вусаты мужчына ў белым гарнітуры і белым капелюшы.

– Гэй! – паклікаў ён. – Гэта ж ты Валер Гамбізаў?

Кансультант адразу напяўся. Валер усвядоміў, што пытанне адрасавана менавіта яму, і зараз жа пацвердзіў павольным кіўком.

У незнаёмага мужчыны ў руках аказаўся пісталет, неадкладна настаўлены на Валера.

– Нічога асабістага, мужык. Гэта прывітанне ад жонкі.

І націснуў на курок. Бабахнуў стрэл, рэха якога скаланула малалюднае наваколле.

З крыкам "Не!" Бабашкін кінуўся да Гамбізава, засланяючы ахвяру ўласным целам. Валер агаломшана назіраў, як Аляксей Пятровіч таргануўся раз, другі, трэці. Незнаёмец ціснуў і ціснуў на курок. Тады з лаянкай ускочыў у заведзены "Опель" і, нягледзячы на састарэлы знешні выгляд, аўтамабіль з хуткасцю ветра схаваўся з вачэй, растварыўся на даляглядзе.

Кансультант Бабашкін упаў ніцма, раскінуўшы рукі, акуляры паляцелі ў бок, а спіна была ў акуратных дзірачках. І Валер назіраў, як асфальт пад Бабашкіным пакрысе намакае, расплываецца цёмнай вільготнай плямай. Са здранцвення Валера вывеў гук расчыненых дзвярэй рэстарацыі. На шум стрэлаў выбег адміністратар. Ды так і знерухомеў з разяўленым ротам.

– Што стаіш, міліцыю выклікай! – вырвалася з грудзей Гамбізава.

Затым, хутчэй рэфлекторна падпарадкаваўшыся інстынкту, жаху і панікі, чым яснаму ўсведамленню, Валер ускочыў за стырно "Волгі". Пашанцавала. Аляксей Пятровіч паспеў уставіць ключ у замок запальвання, пакуль Валер гутарыў з жонкай. Дрогкімі непаслухмянымі пальцамі Валер пакратаў ключ, завёў рухавік, ляснуў дзвярыма і, выкручваючы стырно, рвануў ад месца здарэння прэч. Куды заўгодна, абы падалей адсюль!

***

Трымаў стырно, не даваў веры ўсяму, што здарылася. Блыталіся думкі, нават ап'янелае адчуванне выветрылася з шакаванага розуму. "Волга", нібы карабель, плаўна гайдалася на паваротах. Валеру чамусь падалося, што тып, які вёрз пра кватэру і святасць картачнага доўгу, меў грузінскі акцэнт. Ён вымаўляў словы з тонам манументальнай непарушнасці, як таварыш Сталін ці Берыя ў сучасным расейскім кінематографе.

Ай ды Сонечка, ай ды рыбанька, любая жоначка... Нават у галаве не ўкладвалася. Нібыта ў танных баявіках. Ды ў Менску, сярод белага дня. Ды самае незвычайнае – змагла ж знайсці выканаўцу. Чаму і не? Сёння за грошы чалавек задушыцца, матулю родную на рынак транспланталогіі органаў гатовы спіхнуць. І не верылася Валеру, што падобнае магчыма, але факты сведчылі зваротнае. Уратаваў цуд у выглядзе Бабашкіна Аляксея Пятровіча. Каб не кансультант "канторы", ляжаць бы цяпер Гамбізаву Валеру Ермалаевічу на стале паталагаанатама і судмедэксперта, ды перад анёламі нябеснымі сарамліва чырванець, як прадказвала лепшая палова.

Валер з гадзіну бязмэтава кружляў па сталіцы, пакуль трошкі не супакоіўся. Здаецца, праследу не выявіў, міліцыя не спыняла, дый ён не парушаў правілаў руху. Збочыў, спыніўся непадалёк ад парка Горкага, стаў

на стаянку, выключыў рухавік, затым зазірнуў у “бардачок”, пашнырыў рукамі ў дзвярах. Бяда крылася ў тым, што ўсе свае рэчы і дакументы нябожчык Бабашкін відавочна трымаў пры сабе ў кішэнях. Нават на “Волгу” не было ніякіх паперак. І адрас, па якім Валер прачнуўся сёння раніцай, ён не помніў. Нават дарогу не запамінаў, цалкам давяраючы кансультанту. І куды цяпер падацца, што рабіць? Звяртацца ў міліцыю? Спытаюцца, навошта збег з месца здарэння? Праўда, гэта турбавала менш за ўсё. Куды гаршэй, калі наняты Сонечкай забойца, які выглядаў быццам зорка Галівуда, зноўку з’явіцца, вернецца, каб выправіць памылку. Прагледжаныя за жыццё кіламетры серыялаў сведчылі, што міліцыя ад кілера не ўратуе. У гэтым сэнсе Валеру зусім не карцела выпрабоўваць лёс.

Задрыжэла слухаўка, высвечваючы знаёмы нумар. Валер павагаўся, адказваць ці не? Некалькі разоў уздыхнуў і адказаў.

– Алё, гэта ты, слонік?

Даўняя і былая жончына сяброўка Таццяна заўсёды звала Валера “Слонікам”. Сонечка з сяброўкай моцна пасварыліся яшчэ гады са тры таму, калі жонка раптам прыраўнавала Валера да сяброўкі. І хоць на самой справе Валер нават не дакранаўся да Таццяны, яны да гэтага часу заставаліся ворагамі. Зрэдзьчас, раз на паўгода, Таццяна тэлефанавала да Валера, то кансультавалася па паслугах фірмы, дзе Валер працаваў, то цікавілася як там сяброўка. Валер на гэты раз нават і не намагаўся ўдакладняць, з якім пытаннем турбуе Таццяна, патрабавалася недзе адсядзецца, перавесці дых, памаракаваць над абставінамі.

Былая жончына сяброўка аказалася не супраць сустрэцца з Валерам, прыняць пад свой дах на пару гадзін. Ён толькі абрадавана дакрануўся да ключа, на гэты раз больш упэўнена, і “Волга” стартавала з месца.

***

Таццяна адчыніла ледзь не імгненна, быццам чакала каля ўвахода. Валер уваліўся, шчыльна прычыніў за сабою дзверы, павярнуў ключ, які тырчэў у замку. Жончына сяброўка не ўсміхалася, як звычайна, а шырокімі вачыма агледзела Валера з ног да галавы. На ёй была празрыстая сукенка, лунаў лёгкі водар парфумы.

– Усё ў парадку? – шэптам спытаў Валер, сунімаючы частае дыханне, бо па лесвіцы падымаўся бегма. І падумаў, што пытанне ў ягоных вуснах гучыць трошкі недарэчна.

– Званіла твая, – Танечка аблізнула вусны. – “Забірай сабе гэтага паваляку, мне такое шчасце не трэба”. Так і сказала.

У Валера ўпала сэрца, ён сціснуў вусны.

– Даўно званіла?

– Літаральна перад тым, як я набрала твой нумар. Дарэчы, я і вырашыла да цябе неадкладна дазваніцца. Што адбылося?

– Ну, бяда... – Валер нарэшце разуўся. Падумаў, што жончын званок супаў з тым момантам, калі незадачлівы стралок памылкова запуляў набой у кансультанта Бабашкіна. – А дзе твой?

– Яшчэ заўчора выправіўся ў камандзіроўку.

Яны прайшлі ў залу, дзе Таццяна паспела падрыхтаваць столік для госця.

Муж Танечкі працаваў у той жа кампаніі, дзе і Валер, толькі ў гандлёвым аддзеле. Таццяна нешта ўнюхала і зморшчылася.

– А ну, дыхні! – яна прысунулася бліжэй.

Валер хукнуў.

– Ай, сабака, дык вось чаму Сонька ўздыбілася. Не стрымаўся?

Госць пазмрачнеў.

– Танечка, трындзец мне. Я прайграўся ў казіно. У падпольным, здаецца. Не помню.

Сяброўка войкнула.

– На пяцьдзясят тысяч даляраў, – гаротнік уздыхнуў. – Аднак падобных сродкаў няма, таму хочуць забраць кватэрай. Менавіта з гэтай прычыны Сафія на развод...

– Ты дурны? – сказанае з вось такой шчырай спрошчанасцю пытанне вырвалася і павісла ў паветры.

Валеру раптам усё стала да лямпачкі. Надакучыла ўсё: і работа, і жонка, і нястрымныя п’янкі, і ўвесь белы свет. На століку меліся і закусь, і напоі, але нічога не хацелася, проста не лезла ў рот.

– Ты ж мне не жонка, каб адчытваць.

Танечка спахапілася, зразумеўшы, што ляпнула лішняе. Зараз жа ўзялася лашчыцца.

– Жонка ж можа і адпець заадно, – падвёў рысу Валер, разважаючы, ці сказаць Танечцы пра кілера і ўвогуле пра здарэнні і дзіўную фірму з назвай “Апошняя надзея”.

– І каму ты вінаваты цяпер?

З грудзей Валера вырваўся цяжкі ўздых.

– Сам не ведаю. Не помню, хоць страляй. Толькі голас з грузінскім акцэнтам, як у Берыі.

– Дык раз не помніш, то можа нічога не страціў?

– Каб жа! Тэлефанавалі ўжо. Дый стоп-кадры паўстаюць урыўкамі ўваччу.

Танечка спагадліва пахітала галавой, матляючы светлымі кудзеркамі. І глядзела спагадліва-спачувальна.

– Год не піў, – выдыхнуў Валер.

– Ведаю.

– Як завязаць?

– Трэба каб каваль закадаваў.

Гэта быў барадаты жарт, паказка, анекдот. У адной вёсцы піячылі мужчыны. Натхнёна, самааддана і з вялікім імпэтам. Пры ўсім гаравалі, не ведалі, як “кінуць”? І тут адзіны цвярэзнік, вясковы каваль, уздумаў пакутнічкаў лячыць нейкім таямнічым уласным спосабам. Карацей, заводзіў жадаючых да сябе, напампоўваў сівухай, а затым гвалтаваў. Пасля ж завяраў пацярпелага, маўляў, калі яшчэ шклянку глынеш ды я заўважу цябе нападпітку, раскажу ўсёй вёсцы, што з табою зрабіў. І небараку было хоць скрозь зямлю праваліся ад сораму. Хутка ў вёсцы жылі адны цвярэзнікі, а выраз “закадавацца ў каваля” займеў вялікую вядомасць. Пачуўшы чароўныя словы, вяскоўцы чырванелі і пераводзілі размову на запасныя рэйкі. Ці мела месца ў жыцці падобная гісторыя на самой справе, дакладна невядома, але гэтая старая паказка выклікала невялікую ўсмешку на твары Валера, якую напраўдзе, у святле абставін, варта назваць жалобнай.

Са звычайнай жаночай цікаўнасцю Танечка запытала, што Валер плануе цяпер рабіць?

– Існаваў адзін варыянт, але...

Вобраз забітага кансультанта Бабашкіна, які ўратаваў кліенту жыццё,

нібыта застыў перад вачамі Валера. Не хацелася даць веры, што падобнае магчыма. Смерць Аляксея Пятровіча дужа ўжо беспадстаўная, на пустым месцы. Вар'яцтва! Дый Таццяна як успрыме інфармацыю, калі распавесці пра ўсё? Валер паразважаў і перадумаў прызнавацца.

Сяброўскае спатканне было парушана нечаканым званком у дзверы. Валер успомніў, што замкнуў знутры і ключ пакінуў у замку. Пачулася, што нехта поркаецца звонку, быццам намагаецца засунуць свой ключ і адчыніць.

Танечка падхапілася, як ашпараная.

– Не можа быць! Ён жа абяцаў толькі заўтра вярнуцца!

Ці здраджвала мужу жончына сяброўка, Валер ніколі не цікавіўся. Аднак зараз ён падпарадкаваўся панічнаму настрою Таццяны, што несумненна было памылковым і невыпраўляльным. Тым больш, што пра раўнівы нораў Таццянінага мужа ў іхняй фірме складвалі легенды і паданні. Тут бы проста на месцы сядзець, бо сапраўды нічога дрэннага або не тварылі, не распранутыя ж, не галяком у ложку. Але...

– Лезь у шафу! – Танечка спрытна ўхапіла Валера і літаральна пацягнула за сабою.

Вялікую секцыю-гарнітур у зале напалову займаў гардэробны аддзел. Танечка адсунула ўбок дзверы і падштурхнула Валера ў свет норкавых футраў, дарагіх паліто і характэрных пахаў. "Як у камедыйнай стужцы", – падумаў Валер, калі ўладкаваўся ў цемры. Пакінуў шчылінку каб падглядваць. Таццяна пабегла адчыняць. Неўзабаве кватэра напоўнілася гукамі.

"Там жа мае туфлі!" – Валер схапіўся за галаву. Але Таццянін муж, здаецца, пакуль нічога не заўважыў.

– Ваў, ты ніяк чакала гасцей?! – усклікнуў знаёмы бас.

Валер пахваліў сябе за тое, што нічога не адкаркоўваў і нічым не частаваўся.

– А я ўдакладніла ў твайго менеджара, калі цябе чакаць, бо з галавы выскачыла, – не разгубілася Таццяна. – Вось і прыгатавала прысмакаў. Падумала, што сумую без цябе.

– Вельмі шчыра, – ухваліў муж.

Таццяна завуркатала, нібы котка, абшчапіла рукамі за шыю сужонца, пачала ціўкаць на ўсе лады, завіхацца, падкладваць у талерку. Праз пакінутую шчылінку Валеру было добра ўсё відаць. Жанчыны пры неабходнасці становяцца выдатнымі актрысамі. Муж з удзячнасцю пацалаваў Танечку, наліў і выпіў, са смакам закусіў.

– Праблема толькі ў тым, што я нікому не паведамляў, што вярнуся на дзень раней. На фірме не ведаюць.

Твар Танечкі набыў разгубленасць.

І тут здарылася тое, што прынцыпова можна прадбачыць, але ніяк нельга чакаць. У Валеравай кішэні ажыў, задрыжэў і заспяваў мабільнік.

Палоннік шафы выцер з ілба гарачы пот і, затаіўшы дыханне, пацягнуўся рукой, спрабуючы знайсці сродак сувязі і выключыць гук, які настойліва паўтараўся і паўтараўся. У кватэры павісла мёртвая цішыня. І толькі з шафы, нібыта навязлівая ідэя ў галаве шыза, чуўся здрадніцкі гук.

– Маць мая жэншчына! – з выразам прамовіў Танеччын муж, няспешліва падняўся і наблізіўся да шафы. Рэзкім штуршком адсунуў дзверы. На той момант Валер нарэшце справіўся з пошукамі слухаўкі, націснуў сувязь, паднёс да вуха і прамовіў: "Алё!"

– Чуеш, фраер?! – адазваўся на тым баку знаёмы грузінскі акцэнт. – Тут твая лепшая палова ледзь не здзейсніла памылку, але ты, лічы, цудам ацалеў, чаму я нечувана рады! Ты ўважліва слухаеш?

Валер пацвердзіў. Намацваючы тэлефон, ён выпадкова націснуў кнопку гучнай сувязі, таму пачулі ўсе прысутныя.

– Карацей, дзеля спакою, каб ніхто больш не нарабіў глупства, а я атрымаў мае грошы або кватэру, я ўжо прыняў суадносныя захады. Твая жонка ў мяне ў гасцях. Выбірай, альбо мы нашынкуем яе на фарш і возьмемся шукаць цябе, а шукаць мы ўмеем, не сумнявайся, альбо мы яе адпусцім, і ўжо ў наступны раз Сафія Міхайлаўна нойме больш спрактыкаванага забойцу.

Пачулася валтузня, і Валер пазнаў голас Сонечкі.

– Што я павінен зрабіць?

– Сюды ехаць. Вырашаць будзем, – прамоўца назваў адрас і адключыў сувязь.

Валер з уздыхам вярнуў тэлефон у кішэню і выбраўся з шафы.

– Валер Ермалаевіч, а што вы робіце ў шафе? – набычыўся Таньчын гаспадар, затым ухапіў госця за грудкі і патрос. У фірме расказвалі, што муж Таццяны можа пры выпадку і ў лыч даць. Тым больш, што Валера ўжо звольнілі. Танечка спалохана ўскрыкнула.

***

Валер спусціўся ўніз у трошкі пашкуматаным выглядзе. Роспачна заўважыў інспектара ДАІ, які ўважліва разглядаў “Волгу” і відавочна чакаў гаспадара, затым нешта казаў па рацыі. Валер здагадаўся, што аўто, пэўна, ужо ў вышуку, таму павярнуўся спінай і пакрочыў у іншым напрамку.

Было з чаго гараваць, засталося толькі з жыцця пайсці. Запой – гэта гульня ў рускую рулетку. Ніколі не ведаеш, чым скончыцца. Ну, раз сам уляпаўся, то самому і адказваць. З цвёрдым разуменнем сітуацыі Валер падаўся па ўказаным адрасе з непахісным намерам хоць жонку вызваліць з бяды. Сам жа давёў!

На пункце прызначэння Валера ўжо чакалі двое мардаваротаў. Адзін з іх быў той самы асілак, якога Валер бачыў на ўваходзе ў рэстаран “Галактыка”. Не прамовіўшы слова, яны запіхнулі Валера ў вялікі чорны джып з танаваным шклом, паселі самі і паехалі. Як разумны чалавек Валер вырашыў пытанняў не задаваць.

Прыехалі на могілкі. Вывелі палоннага, падштурхнулі да вусатага тыпуса ў дарагім строі, відавочна, гэта і быў іх галоўны. Валер азірнуўся. Убачыў свежавыкапаную яму, на пясчаным узгорку раскрытую пустую труну. Двое мардаваротаў трымалі Валераву жонку. Побач з “Берыем” замер сухенькі чалавечак з ліслівым тварыкам і ў акулярах, з дыпламатам у руцэ.

Валер успомніў, што менавіта гэты тып з вусамі ўчора і ўгаворваў “згуляць па-крупнаму”. Галоўны мафіёзі крытычна агледзеў Валера.

– То добра, што сам з’явіўся, фраярок. Вось мой натарыус, – ён кіўнуў у бок ліслівага тварыка. – Афармляем дароўную. Згода?

Валер зіркнуў на жонку.

– Доўга чакаць не буду, – папярэдзіў учарашні шулер. – Баш на баш і разыходзімся. Я табе – жыццё, ты мне – выйгрыш.

– А калі я адмоўлюся паставіць подпіс?

– Я прадбачыў такі варыянт, – бос засунуў рукі ў кішэні штаноў, выставіўшы наперад пуза. – Ведаеш, мне пляваць на пяцьдзясят тысяч і на тваю кватэру. Але ж у маёй пачэснай справе галоўным найперш – рэпутацыя. Калі я не здзяру з цябе скуру, што людзі падумаюць?

І Валеру тут па-сапраўднаму стала страшна. Не так, калі стралялі ў кансультанта. І не так, калі сядзеў у шафе.

– Сёння я кагосьці закапаю. Выбірай: цябе ці яе?

Жонка разявіла рот, але не здолела штосьці прамовіць.

– Давай мяне, – доўга не чакаў Валер, які дэманстраваў крайнюю эмацыянальную нестабільнасць. Бо страх ізноўку змяніўся абыякавасцю.

Галоўны падступіўся бліжэй, уважліва зазірнуў Валеру ў вочы.

– Як высакародна, уратуеш жонку і кватэру... сапраўдны мужчына.

– У гэтай бядзе вінаваты толькі я. Значыць, мне і адказваць.

– Валера, не трэба! – усхліпнула Сонечка. – Не трэба, хай задушыцца кватэрай, да мамы пераедзем.

Галоўны пасміхнуўся і прамовіў сваёй хеўры:

– Гаспада, паглядзіце, што робіць з людзьмі каханне. Ён прыносіць сябе ў ахвяру, а яна толькі нядаўна забойцу наняла, а цяпер ужо дала заднюю хаду і з усім згодная.

– Не чапайце Валера...

– Цыц!

Галоўны хітнуў. Валера хуценька звязалі, спавілі вяроўкай, каб менш торгаўся, паклалі ў труну, накрылі вечкам і заляпалі малаткамі, убіваючы цвікі. Затым труну спусцілі ў яму і прыняліся засыпаць, загортваць свежай зямліцай, пах якой адчуваўся літаральна праз дошкі.

Валер слухаў гудкія ўдары сэрца, чуў, як сыплецца зямля. І разумеў, што гэта канец.

І ўжо пад вечкам труны пакутнік адчуў, як пацурчэла паміж ног, паплыло ў калашыны нешта гарачае і ў вялікай колькасці.

***

Ізноўку перад ім з'явіўся анёл.

– Ну што, Валера, казаў жа табе, што дап'ешся, небарака. Гатовы цяпер, ці не?

Валер цяжка дыхаў, бо не ставала паветра.

– Не сцы, мудзіла, усё будзе добра!

І паляпаў Валера па плячы.

Валер не вытрымаў і з усяе моцы зароў крыкам адчаю, крыкам істэрыкі і нават крыкам радасці, які ўпершыню выдаюць немаўляты, пакідаючы матчына ўлонне...

***

– Давай хутчэй, а то задыхнецца, – камандаваў вусаты дзядзька.

Змрочныя мардавароты гыгыкалі паміж сабою, адпускалі смешачкі і цягнулі вяроўкамі труну наверх. Ім было цяжка, але ўчатырох справіліся. Асцярожна перанеслі труну на пагорак. Пабралі сякеры ды давай выцягваць цвікі, адкаркоўваць вечка. Хутка вечка было знята і адкінута ў бок. Прысутным у нос ударыў нястрымны пах мачы і ўчарашняга перагару.

– Сюрпрыз! – абвясціў вусаты дзядзька.

Да раскапанай ямы наблізіліся іншыя людзі.

Валер глядзеў дзіка, не раўнуючы як у савы, расплюшчанымі вачыма. Нібыта з таго свету, як у пекле пабыў.

– А кліент не крануўся, не страціў глузды? – спагадліва пацікавіўся чыйсьці голас.

Валеру дапамаглі прыўзняцца і сесці, развязалі вяроўку, чыесьці клапатлівыя рукі расціралі спатнелыя плечы, нехта падбадзёрваў і даў сербануць гарачай гарбаты з тэрмасу. Не верачы вачам, Валер падумаў, што ён апынуўся ў раі. Яго абступілі знаёмыя твары. Пасміхаўся Аляксей Пятровіч Бабашкін, побач з ім дырэктар рэстарана "Галактыка", са шчасліва-загадкавай усмешкай жонка, нават Танечка з мужам. Мардавароты з махляром-карцёжнікам задаволена пазіралі зводдаль. Нават незадачлівы кілер, які страляў у спіну Бабашкіну, быў з імі.

– Дазвольце ўсё патлумачыць, – раскрыў рот кансультант.

Так, фірма, якая займалася высвятленнем абставінаў "учарашняга дня", выконвала яшчэ і функцыі комплекснай псіхатэрапеўтычнай дапамогі. То бок, дапамагала слабахарактарнаму чалавеку праз шок і стварэнне экстрэмальных падзей у жыцці пазбавіцца шкодных звычак. Нездарма ж і назву мела "Апошняя надзея".

– Да нас тэрмінова звярнулася ваша жонка Сафія Міхайлаўна, – распавядаў Бабашкін. – Сказала, не даю рады ўтаймаваць мужаву хваробу, папярэдзіць п'яныя эксцэсы. Мы параіліся, вызначылі ўласныя магчымасці ў напісалі спецыяльна для вас сцэнар, у ходзе якога вы трапляеце ў шматлікія прыгоды, капканы і пасткі. Спачатку вясёлыя сабутэльнікі дапамаглі вам набрацца да патрэбнай кандыцыі, калі яшчэ здольны трошкі помніць, але ўжо нічога самастойна не кантралюеце. Дарэчы, апрача ўсяго, у нас працуюць прафесійныя акторы, і варта зазначыць, усе цудоўна справіліся з ролямі: і картачны махляр, і дырэктар "Галактыкі", і міліцыянт, якому вы, Валер Ермалаевіч, пагон адкусілі. Так, адкусілі, а не адарвалі, і кілер, і нават я. Ну скажыце, вы паверылі ж, што мяне насамрэч застрэліў з пісталета вунь той чалавек, праўда? Вось-вось. Толькі з сяброўкай Сафіі Міхайлаўны і ейным мужам давялося ўжо дамаўляцца. Як высветлілася, яны вас вельмі любяць, шануюць і паважаюць, таму з радасцю далі згоду паўдзельнічаць у спектаклі, абы вам дапамагчы. З радасцю адгукнуліся і на вашай рабоце, дзе вас гэтаксама шануюць і любяць і адкуль, зрэшты, вас ніхто не звальняў. Галоўная ідэя была ў тым, каб праз шэраг стрэсавых сітуацый паказаць вам, якімі могуць стаць наступствы злоўжывання гарэлкай.

Настала тэатральная паўза.

– Дык гэта ўсё падстроена? – не верыў Валер.

– А вы хочаце, каб усё па-сапраўднаму? – запытаўся Бабашкін. – Хочаце, каб на самой справе ваш чарговы запой аднойчы скончыўся фатальным зыходам?

Наблізілася жонка Сонечка.

– Валер, будзеш яшчэ піць? Вось пасля ўсяго, што здарылася, будзеш?

У бедака пацямнела ў вачах. Раптам зрабілася цесна ў грудзях, і паветра на самой справе стала не хапаць. Свет вакол закружыўся ў нястрымным танцы.

– Вох, кліенту кепска, выклікайце "хуткую"...

І свет доўга яшчэ танчыў, нават калі Валер заплюшчыў вочы.

Марына Юрчык



...Я маўчу і маўчу –
і не ведаю, як спыніцца,
калі свет бессэнсоўны, дарэмны,
пусты і вадкі...

# Слуханне цела

* * *

Неба рук асвятлілася россыпам венаў-маланак:
навальніца грукоча без выйсцяў у стан радка,
громы б’юцца ў далонь, каб разрады твае спаткаць,
а замест – па-над ёй расквітнелі пялёсткі каны.

Свет не варты, ты лічыш: ад Джуна і да Нью-Дэлі,
бо нашу ў сабе словы – пакуль не сканалі ў твань,
бо калі ты інакшы – тапі гэта, больш пітва!
Ды за рэбрамі недзе завязнуў “люблю” відэлец.

Хто працуе на д’ябла, а хто, разумова, піша –
па Булгакаву так уяўляеш наш сумны лёс.
Прадказанне другое ўцякае са слёзных маіх залоз:
ты пад рану ў агруддзі падставіш пусты кілішак.

Крэйда, цэгла, тканіна і гліна ці дрэва, вапна,
акварэлі і пластык, папера і шкло, бурштын –
растлумач жа, з чаго мне стварыць твой пакой і тын,
цэлы Свет, каб нарэшце ён быў для цябе прывабным?

* * *

Слуханне цела заўжды адбываецца там, дзе ціха.

Зробяць аднойчы віной прыгажосць ці маю абразу
людзі, якія сцвяржаюць, бы цела, насамрэч, – ліха,
тое, што нам не дае, бы мяжа, апынуцца разам.

Ты адчуваеш яго як разбіты крыштальны келіх,
рэшткі якога належыць збіраць па ўзоры новым.
Што б там ні раілі Ялам ды Фрэйд, ці Маслоў і Келлі,
кажаш ты: “Гэта мой сродак не быць сярод вас, панове!”

Я адчуваю, як падае лісце барвовых, чырвоных кропляў
з тонкіх галінаў артэрый – ў табе адбылася восень.
Шэптам наўмысным праводзіць, куды б ні рабіла крок я,
быццам з табой сіметрычныя ўздоўж па пакутнай восі.

Скура, цягліцы зусім не мяжа, не палон, не шыбы.
Лепшаю музыкай: новай, яскравай, старой, сівою –
мне падаецца ў грудзях тваіх сэрцабіцця выбух.

Слуханне цела заўжды адбываецца там, дзе двое.

* * *

Неба вочы падведзены стрэлкамі чорных галінаў,
глебы вусны вільготныя – нафты счарнелай вясёлкай.
Я складаю сябе цалкам з паўз палавінных цаглінаў,
ды праз трэшчыны цішы – радкоў прарастаюць зёлкі.

Зноўку ноч распадаецца ў россып сівых чарніцаў,
а адна засталася між аркушам ды асадкай.
Я маўчу і маўчу – і не ведаю, як спыніцца,
калі свет бессэнсоўны, дарэмны, пусты і вадкі.

Глеба ўся усміхаецца, казкі пяе, старая.
Абяцае: не будзе ні трызны, ні плачу, ані хаўтураў, –
а жыццё толькі з рэшткаў апошніх мяне стварае,
нібы з нотаў звычайных хімічную партытуру.

Пераблытвае нас і старонкі, апоўнач з поўднем –
цела здраджвае мне, наваліўшыся злым хаўрусам.
Я крычу, нібы словы сабраліся ў вуснаў поўню,
і мой голас святлее: ад чорнага ў светла-русы.

* * *

Ты не любіш басовыя партыі тонкіх закрэсленых рук,
сола-партыю кос скарачаю наўмысна амаль па выю.
А героі паданняў і вершаў кладуцца ў друкарскі брук,
бо наогул нікому яны не патрэбны цяпер жывымі.

Толькі фарбавы помнік і націскі – россып засохлых ландрын –
друкаваныя словы не маюць больш прывідаў, мрояў, рэха.
Хоць і горшы за стрыманы спеў ксілафону тваіх рабрын,
шэраг літараў чорных на мне значна лепшы за гукаў вэрхал.

Ты не любіш нямецкую – холаду, звону пад ёй замнога,
я ж яе абіраю, бо толькі на роднай ёсць горкі плён:
ты хаваеш галоснае “ы”, нібы так забіраеш рогат,
мне пакінуўшы менш за імя – толькі сціплы сухі заклён.

Марна.



Эліза Ажэшка



…І вечным помнікам памерламу яму
Сухія дошкі шыбеніцы будуць,
А славай стане горкі плач кабечы
З бясконцымі начамі згадак сваякоў…

# Бог ведае хто

***Навела***

*Пераклад з польскай* ***Анатоля БУТЭВІЧА.***

## Слова ад перакладчыка

Добра, што апошнім часам з'яўляецца ўсё больш ахвотнікаў доказным чынам прадставіць сённяшняму пакаленню, асабліва маладым, нашу даўнюю і не вельмі даўнюю гісторыю. Добра, што ў гэтым жа ракурсе часта разглядаюцца і творы мастацтва, літаратурныя творы. Бо, як на маё меркаванне, мы ўсё яшчэ не можам пахваліцца, што добра прааналізавалі, вывучылі, асэнсавалі, зразумелі напісанае нашымі папярэднікамі. Асабліва тымі, хто пісаў не толькі па-беларуску альбо не на мове тытульнай нацыі. У гэтым плане яшчэ шмат чаго карыснага хавае ў сабе творчасць пісьменнікаў польскамоўных – і тых, хто нарадзіўся на нашай зямлі, а пісаў па-польску, і тых, хто не меў повязяў з беларускай тэрыторыяй, аднак жа ў сваёй творчасці закранаў і аналізаваў тое, што адбывалася тут.

У гэтым пашаноўным пантэоне асаблівае месца належыць нашай знакамітай зямлячцы і выдатнай пісьменніцы Элізе Ажэшцы. Павінен прызнацца, што апошнім часам цікавасць да яе і яе творчасці ўзрастае, можна згадаць хоць бы добрую ініцыятыву сённяшняй галоўнай рэдактаркі часопіса “Маладосць” Святланы Воцінавай, якая падрыхтавала і агучыла ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры цэлы цыкл даследчых матэрыялаў пра жыццё і творчасць Ажэшкі. Значыць, застою тут няма, значыць, будуць і новыя адкрыцці, бо творчы працэс і ў даследчыкаў бясконцы.

Што ж да Элізы Ажэшкі, то яе творчасць таксама патрабуе далейшага перастварэння на беларускую мову, каб сённяшні і будучы чытач мог глыбей зразумець, што і як асэнсоўвала і ўвасабляла ў мастацкае слова аўтарка на аснове падзей на нашай зямлі і як паказвала гэтыя падзеі ў неспрыяльны час панавання царскай цэнзуры. Асаблівае значэнне ў гэтым кантэксце мае цыкл яе навел “Gloria victis” – “Слава пераможаным”.

Гэта слова Ажэшкі пра паўстанне і паўстанцаў 1863 года на заходнепалескай тэрыторыі. Яе назіранні, яе памяць, яе неабыякавы погляд на тагачасныя падзеі і сёння цікавы, бо дадае да нашага ведання шмат карыснай інфармацыі, дапамагае зразумець унутраныя пружыны чалавечых паводзін у той бурапенны і няпросты час, калі трэба было рызыкаваць сваім жыццём і са зброяй абараняць права народа жыць вольна на сваёй вольнай зямлі. “Gloria victis” – і пра гэта таксама. Тыя пяць навел, якія ўвайшлі ў выдадзеную ў 1910 годзе, апошнім годзе жыцця Ажэшкі, кнігу “Gloria victis”, дагэтуль не мелі магчымасці быць даступнымі беларускамоўнаму чытачу. Але, дзякуючы “Дзеяслову”, сітуацыя выпраўляецца. На яго старонках ужо надрукавана большасць навел у перакладзе на беларускую мову. І вось сёння чарговае знаёмства з пачуццямі, эмоцыямі і дзеяннямі не толькі самой Ажэшкі, але і тых людзей, хто не стаяў убаку ад паўстанцкіх падзей і клопатаў, хто як мог дапамагаў пастанню і паўстанцам. “Бог ведае хто” псіхалагічна цікавая навела, усяго толькі дэталь багатага на жорсткія, гераічныя, простыя і чалавечыя стасункі мясцовага люду з высокімі ідэямі паўстання 1863 года.

**Анатоль БУТЭВІЧ**

...А зараз я прыгадаю табе адну смешную гісторыйку з дзеяў той вясны. Як гэта, дзівішся ты, пасярод такой трагедыі – смех? О, мая дарагая, жыццё – гэта кангламерат гліны і мармуру, перапляценне нітак жэмчугу і шнуроў каралаў.

Жамчужныя пераліві смеху над каралавым струменем крыві, цень ночы на ранішнім досвітку, цень граху на ўборах анёла, на парчовай аздобе – падскоквае выпэцканы клоўн у злавеснай і панурай келлі.

Усё бывае, і бывае адразу, у адзін момант – у адным людскім сэрцы.

Адзін слынны пісьменнік колькі ні пісаў слова “жыццё”, столькі пазначаў у дужках іншае: “лухта”.

Лухта такая, што няхай ужо ў ёй толькі само Божае вока адрознівае гліну ад мармуру; іржу, якая пляміць пялёсткі белай ружы, ад спаленага ў сонечным прысаку яе сэрца; звонкі смех жэмчугу – ад шнуроў каралаў, што сцякаюць кроплямі крыві...

І тое яшчэ вазьмі пад увагу, што чым больш уражлівае сэрца, чым клавіятура яго шырэйшая і танчэйшая, тым больш спрытныя пальцы, якія

дакранаюцца да клавіш, тым больш частымі мусяць быць у ім спатканні хмараў з блакітам, выпэцканых клоўнаў з чорнай журбой, іржы з беллю, слёз са смехам...

*

Ой, і былі ж мы, былі за той смех наш моцна абгавораныя! Ой, былі ж мы за тое наша свавольства зганьбаваныя!

Бо неабходна было быць маладосці бурлівай, легкадумнай, тэмпераментнай, распешчанай, каб здзейсніць падобны жарт; трэба было мець сапраўдны шанец, каб не трымаць за яго пакаяння...

Дзевяць было нас, і быў бы выгляд наш цікавым, а асмелюся сказаць – і прыстойным, калі б тым днём нехта ўбачыў нас у тым пакоі і вакол таго стала.

На пачатку сакавіка нам загадалі: рабіць корпіі (перавязачны матэрыял – *А.Б.*) і бандажы, шыць прыгожыя кашулі і канфедэраткі; аж тут сакавік дабягае да свайго канца, а яшчэ не ўсё гатова.

Многае мы ўжо зрабілі. Ніводная з нас ужо не мела аніякага свайго шаліка альбо хоць бы ядвабнага шматка, бо ўсё пайшло на тыя кашулі, каб іх бруд і чарвякі не чапалі. Ужо вялікія скрыні былі запоўнены корпіямі, рознай беласнежнай бялізнай. Але канфедэраткі... Усяго некалькі дзён, як прывезлі для іх авечыя апухі.

Не наша віна! Мястэчка аддаленае – і ніхто ў ім дагэтуль аб такой колькасці авечых аўчынак ані не чуў. З вялікага і яшчэ больш далёкага места прывоз спазніўся, але як толькі аўчынкі прыбылі, адразу ж ва ўсе бакі разляцеліся па суседзях ганцы, склікаючы на пільную, тэрміновую, сумесную працу.

Прыязджайце! Прыязджайце!

Стэфуня, Актуня, Клямуня, Марыня, Вінцуся, Тося, прыязджайце! Прыязджайце і бярыцеся за шытво!

А мо і пані графіня захоча прыехаць і разам з намі шыць, шыць, шыць?

“Вядома! – адказала яна. – З вялікай ахвотай, з радасцю!”

І слічную Інку, дачку збяднелай, але такой высакароднай пані Тэрэзы трэба запрасіць? А як жа! Вядома! Чаму ж не?

Да круглай дзясяткі забракла адной, але восем прыехала, а калі прыехалі да мяне, то я стала дзявятай.

Прыехалі да мяне, бо я на той час – ого! – мела скарб! Скарб той быў ружовы і залаты і называўся ён міласць людская.

Не ведаю, за што. Мо за маладосць, мо за гарачы тэмперамент, а мо за тое, што сэрца сваё насіла я на далоні і было яно такое гарачае, што струмені цяпла разліваліся навокал, ажно іскрылася ад вясёлак, якія свяціліся ў ім.

А мо і не быў гэта рэальны скарб, а толькі вера ў ягоную існасць? Зараз ужо не здолею разабрацца, што ў той маёй першай, буйнай маладосці было праўдай, а што толькі верай, яшчэ ніякімі халоднымі альбо хлуслівымі вуснамі не задзьмутай.

Даволі таго, што ў той час, калі засмяялася я, смяяліся ўсе, калі заплакала я, усе прыбягалі пытацца: “Чаго? Чаго?”. Калі ж адыходзіла, усе крычалі: “Не сыходзь!” А калі выгукнула: “Прыходзьце!” – прыляцелі ўсе.

Усю першую палову дня павозка за павозкай, возік за возікам пад’язджалі да ганка дома.

Актуня, стройная, як вылітая, у амазонцы (жаночы касцюм для верхавой язды – *А.Б.*) і капялюшыку з пяром, быццам з англійскай гравюры сышла, прыехала конна.

Пані графіня, пекная, модная брунетка, якая адну трагічную гісторыю мела за сабой, а другую – перад сабой, сёння выскачыла з карэты смеючыся і ва ўсе бакі рассяваючы бляск чорных гагатаў (гагат – чорны камень для вырабу ўпрыгожанняў, вядомы таксама як чорны янтар, чорная яшма – *А.Б.*), якія ўкрывалі яе сукню.

Інку матка прыслала аднаконным вазком, якім кіраваў мужчына ў авечай шапцы.

Перад самым поўднем усе мы сабраліся ў ружовым пакоі.

Салонік невялікі, прытуліўся да большага, і быў такі ружовы, як мая маладосць. Ды ўжо на маю ружовую маладосць пачыналі напаўзаць, праўда, яшчэ нясмела, марудныя альбо хуткія хмаркі. Аднак фіранкі на дзвярах і вокнах пакоя, абіўка мэблі, арабескі на сценах былі ружовыя. Толькі праз два акны з-за фіранкавых заслонаў зазіралі сюды, ведучы спрэчку з вазонамі, шарае сакавіцкае неба і шэрая імгла сакавіцкага дожджыку. Бо там і тут – на карнізе каміна, на этажэрках, сталах, паміж белымі слупкамі, што атачалі старасвецкае бюро, у гаршках і гаршчочках квітнелі вазоны. Апрача вазонаў на карнізе каміна прытуліўся чорны кот, які згарнуўся клубком каля рамы вялікага мужчынскага партрэта, і спіць, ажно храпе. Праз вокны ў шэрай імгле бачацца дрэвы, дрэвы, дрэвы, а паколькі яны яшчэ без лісця, то праз іх відны цёмныя ад вільгаці дарогі прысадаў, прысадаў, прысадаў...

Цесна сёння ў ружовым пакоі. Не як звычайна, а пасярод яго стаіць доўгі стол, вакол стала на дзевяці ружовых крэслах сядзім усе мы, дзевяцёра, ружовыя ад шчырых вітанняў і яшчэ больш шчырай захопленасці.

На высокіх падлакотніках крэслаў, ужо і тады старасвецкіх, на вялізнай канапе, на бакавых століках, этажэрках, на бюрку развешаны, раскладзены матэрыялы з воўны трох колераў. Белы, малінавы і блакітны.

Таму пакой выглядае як вялікіх памераў нацыянальны штандар. Страката тут, бо шмат нарыхтовак. Так шмат, што колькі б разоў нехта з нас не ўставаў і не ішоў па пакоі, гэтулькі разоў недзе зачэпіць і пацягне за сабой нешта белае, малінавае альбо блакітнае. А іншыя папярэджваюць: “Асцярожна! Кашамір можа запляміцца!” Бо з кашаміру тых трох колераў шылі мы канфедэраткі. Як годна будзе выглядаць у іх атрад!

– Як кветкавы луг! – пачынаю паэтызаваць я.

– Як макі, змешаныя з валошкамі, – чырванеючы, ціха падтрымлівае Стэфуня.

Замужняя жанчына ўжо колькі гадоў з’яўляецца гаспадыняй вялікага, багатага дома, ды нішто яшчэ не здолела хоць бы на паўтона ўзвысіць яе нясмелы голас і абараніць твар ад частай чырвані – белы сярод моцна чорных валасоў.

– Не, не як макі альбо нейкія іншыя кветкі будуць выглядаць, а як вялікі трохколерны штандар!

Гэтыя словы, шырока ўзмахнуўшы рукамі, прамовіла найвышэйшая з нас ростам, з самымі самотнымі вачыма і самым белым тварам Клямуня Канецкая. Была яна сярод нас найбольш паважнай, мо таму, што самая старэйшая, бо мела ўжо гадоў ажно дваццаць пяць. З іншага канца – лічба пражытага намі замыкалася васямнаццаццю гадамі слічнай Інкі.

У пакоі страката, але на нас ніякай стракатасці няма, о не! Нацыянальная жалоба. Сукні чорныя, аздобы з гагату альбо паліраванай і памайстэрску апрацаванай сталі. Толькі валасоў цэлая гама: ад чорных, як смоль, залацістых – да светлых, як лён.

Адразу ж распачалася актыўная гамонка. Агляд матэрыі, пахвальба, ганьбаванне, парады, звернутыя да мяне пытанні.

– Колькі мусім іх пашыць?

Коратка, але пераканаўча адказваю:

– Сто.

Ажно ўскрыкнулі:

– Так шмат!

– Патрэбна нашмат болей. Я толькі за сябе і за вас згадзілася на частку.

– Ну то добра! Зробім! Нават шкода, што не болей. Завінемся, і дзень, два, тры...

– Тыдзень, два, – разважае Клямуня.

– Няхай сабе і тыдзень альбо два! Каменем засядзем і будзем шыць, шыць, шыць...

Тады пачынайма! Добра, але перш, чым распачаць шытво, спачатку трэба скроіць. Паводле формы – вось гэтай! Хто ўмее кроіць найлепей? Вінцуся ўмее! Вось нажніцы, сапраўдныя, кравецкія, дасканалыя!

Рослая, зграбная, гожая, з бліскучымі стальнымі шпількамі ля шыі, ля пояса і ў валасах Вінцуся становіцца да стала ў адважнай і бадзёрай паставе, раскладвае перад сабой матэрыю і – шах, шах, шах!

Аказваецца, што ўмее не надта. Ужо сапсавала некалькі кавалкаў кашаміру, але гэта яшчэ малая бяда.

– Шмат яго ў нас, таму хай сабе крышку і напсавала... Але аўчынак, ведаеце што, аўчынак, здаецца... мала...

Трывожныя ўздыхі.

– Так, так, праўда, вельмі мала іх. Барані Божа, не хопіць.

Вінцуся прамовіла жаласным тонам:

– Баюся. Хай нехта іншы...

Ага, добра казаць іншы! Але хто?..

– А мо пані графіня ўмее?

Тая страпянулася адмоўна так, што ажно рассыпала вакол сябе чорныя бляскі гагатаў.

– Колькі жыву, нічога не кроіла!

– Актуня, можа, ты?..

Амазонка, працягваючы праз кашамір іголку з ніткай і не падымаючы ад работы светла-залатой галавы, голасна, на ўвесь пакой, на ноты слыннай на той час арыі “Рахела, калі Пан у дабрыні незразуметы” – заспявала і затралявала:

– Не ў-мею – не ў-мею – дайце мне свя-я-я-яты – спа-а-акой!

Трэба паклікаць Марыльку Ярашынскую, гэта панна служыцелька, тры браты якой ідуць у атрад. Давяраць ёй можна, як, зрэшты, і ўсёй абслузе.

Прыбегла пакліканая. Сукенка ў жалобныя краткі, галава ў кучаравінках, сама жвавая, бойкая, смелая. Калі даведалася, у чым справа, спрактыкаваным вокам зірнула на авечыя футры, сівыя і белыя, пасля чаго паціснула плячыма:

– І гэтага павінна хапіць на сто шапачак, ды яшчэ гэткіх – квадратных? Хіба вы жартуеце! Ледзьве мо на шэсцьдзесят хопіць.

– Езус, Марыя! Што ты кажаш, Марылька?!
– Бог ведае, што ты пляцеш!
– Не абазнаная ты!
– Няшчасце прадказваеш...
– Гэта не жарты! Гэта было б няшчасце!..
– Аб новым паступленні і думаць няма чаго!..
– Дзе там! Ужо часу няма...
– Крой, Марылька! Пачынай кроіць! Убачыш, што хопіць...

Яна ўмольна склала рукі і тоненькім галасочкам прамаўляла:

– Баюся! Як маму кохам, не хопіць, а пасля пані скажуць, што я дрэнна вымервала і што гэта мая віна!

Нічога не можа так латва давесці да шаленства, як страх. Страхам зачапіла мяне выказванне Марылькі, таму ўпадаю ў шаленства і не хачу, а крычу, проста крычу:

– Папрасі сюды пані Чарніцкую. Скажы, што вельмі просім, каб прыйшла!

– Чарніцкую! Чарніцкую! – паўтараў за мной хор з некалькіх галасоў, а іншыя гукалі:

– Чарнісю! Чарнісю паклікаць на паратунак!

Гэта жонка старшага ляснічага, жыве ў афіцыне з мужам і адзіным сынам, якія абодва маюць ісці ў атрад. О, тая здатная на ўсё! Калі справа датычыць гаспадаркі і ўсялякіх іншых такіх рэчаў, усё ўмее і робіць старанна, сумленна.

Уваходзіць Чарніся. Такая высокая, што мы каля яе быццам ліліпуткі, гэткая высмуклая і выпрастаная, што нагадвае туга напятую нітку. Угары невялічкая галоўка з маленькім жоўтым тварыкам і малымі чорнымі вочкамі, а з тылу галавы невялічкая каса, укладзеная так, што спіралькай вытыркаецца над валасамі, такімі прыгладжанымі і бліскучымі, што нагадваюць моцна прылеглы чэпчык з чорнага атласу. На сабе мае чорную сукню. А маршчынкі пад чорным атласам валасоў вельмі сімпатычныя, бо сведчаць аб нейкіх пачцівых клопатах і занятках, пераканаўча сведчаць.

Яна з цікавасцю зірнула на нас, на нашу працу і, узрадаваная пакліканнем, з усмешкай раскланялася на ўсе бакі. А з нашага боку пачуўся гул выкрыкаў:

– Чарніся, ратуй! Бачыш аўчынкі! Сто канфедэратак трэба пашыць! Злітуйся, зрабі так, каб хапіла аўчынак! Паглядзі, памяркуй, вымерай, скрой!

Глядзела, меркавала, на ўсе бакі маўкліва пераварочвала аўчынкі. Нядобры знак, калі маўчыць. Ніякі грэк не ўзіраўся больш трывожна ў аблічча Піфіі (у Старажытнай Грэцыі жрыца-прарочыца ў храме Апалона ў Дэльфах, што на гары Парнас. – *А.Б.*), чым мы ў гэты момант.

– Ну, што? Што пані Чарніцкая пра гэта думае?

– Што думаеш, Чарніся?

А яна разважліва і ўрачыстым тонам апавядае:

– Нічога не думаю. І нічога зараз не скажу. Страшыць вас не хачу, абяцанак-цацанак не люблю. Можа хапіць. Можа не хапіць. Трэба добра памеркаваць і вымеркаваць. Але зраблю ўсё, што ў мажлівасцях чалавека, у гэтым паняў запэўніваю, бо гэта ж не для аднаго некага, а для агульнай патрэбы работа.

Любіла Чарніся часам прамаўляць патэтычна, і тое “агульная патрэба”

нейкім чынам сама сабе прыдумала, бо колькі разоў два гэтыя словы ні прамаўляла, столькі разоў станавілася крышку расчуленай і разам з тым урачыстай.

– Папрашу нажнічкі...

– Ёсць, ёсць! Вось яны! Мая Чарніся, мая залатая, памяркуй, вымяркуй!

Ва ўсіх нас зваліўся з плячэй цяжар. Калі ўжо Чарніся нечым зоймецца і аб нечым пастараецца...

Каля нашага стала са сваім кроем яна размясціцца не магла, а калі стала над гарой авечых футраў ля бакавога століка, розныя цацкі і забаўкі з яго зняўшы, то магло здавацца, што ружовае тло пакоя перакрэсліла доўгая чорная стужка з хвосцікам тырчком на самай вяршыні.

Маўчанне надоўга запанавала ў ружовым пакоі; толькі восем пар рук з іголкамі ў пальцах то падымаліся над схіленымі галовамі, то апускаліся, а двое нажніц нястомна шоргалі сваімі палавінкамі, часам гучна скрыгаталі. Нажніцы Вінцусі працавалі ў паспешным рытме, Чарнісе – у павольным і асцярожным. Часам мы назіраем за ёй, калі, на хвілю прыпыніўшы кройку, яна ўзіраецца ў раскладзеную на стале аўчынку, вачыма вымярае яе, прыставіўшы да вуснаў палец, мяркуе, абдумвае, а нашыя сэрцы ў гэты момант перапаўняе добрая надзея.

Надзея! Яна перапаўняла нас не толькі наконт абшывання квадратных шапак. Самымі рознымі галасамі спявала яна ў нашых вясновых галовах, якія дагэтуль адно чубчыкамі прычосак ледзь паказваліся ў прафесійным, жорсткім свеце, спявала ў нашых гарачых, ажно да кіпення, сэрцах. А мы толькі беражкамі губ дакрануліся да вострых берагоў кубка жыцця.

О, маладосць...
Спіць на кветках.
Спіць мой залаты...

Чым жа з’яўляюцца кветкі маладосці? Мроямі, што вянуць восенню. А што такое яе золата? Надзея, якая выплаўлена ў агні жыцця, а на ягоных дарогах выліваецца з сэрца.

За вокнамі пануры сакавіцкі дожджык імжыць і імжыць; з супрацьлеглага канца дома чуваць часам невыразнае гучанне мужчынскіх галасоў, якія пасля надоўга змаўкаюць. Цішыня.

У цішыні ружовага пакоя, расквечанага трыма колерамі, якія параскіданыя ва ўсе бакі, пачуўся прыцішаны, з глыбокім грудным гучаннем голас кабеты, які пачаў прамаўляць:

О, маці полька, калі у сына твайго
Блішчыць у вачах светнасць генія,
Калі пазірае з дзіцячага твару яго
Даўняя гордасць палякаў, шляхетнасць...

З шытвом і рукамі, апушчанымі на калені, з бледным тварам, схіленым трохі наперад, Клямуня Канецкая чытала верш, усім нам добра вядомы, амаль што ўсімі вывучаны на памяць. Не дэкламавала, проста прамаўляла. Гаварыла няспешна, ціха, спакойна:

Загадзя акруці ланцугом яго рукі,
Да тачковага воза загадай запрагаць,
Каб не самлеў пад сякерай ката,
Каб не зайшоўся ад віду аковаў...

Гаварыла няспешна, ціха, спакойна. Толькі ў глыбокім яе голасе чуліся часам ноткі болю і смутку, а ў шэрых зрэнках, якія з-пад выпуклага ілба пазіралі некуды ўдалячынь, палымнеў агонь – спакойны, роўны, моцны.

І вечным помнікам памерламу яму
Сухія дошкі шыбеніцы будуць,
А славай стане горкі плач кабечы
З бясконцымі начамі згадак сваякоў...

На чорным яе станіку, ля шыі, пабліскваў сталёвы абадок, які атачаў партрэт Касцюшкі.

Не перастаючы шыць, мы слухалі вядомы на памяць верш так, як быццам упершыню ў сваім жыцці чулі яго: сэрцы нашыя біліся часцей, а вочы сталі вільготнымі. Графіня голасна ўздыхнула, мо падумала пра сваіх двух маленькіх сыночкаў. Актуня шапнула:

– Мой Стасік...

Раптам ля бакавога століка нешта загрымела, выбухнула, быццам над руінамі разбуранага Ерусаліма загучала труба.

Гэта высмаркалася Чарніся. А пасля, яшчэ праз хвіліну, вялікай хусцінкай выцерла слёзы, што цяклі па твары.

Каб сядзеннем за сталом не рабіць вялікага перапынку ў працы, я загадала прынесці сняданак у жоўты пакой. На позні абед то пойдзем у сталовую, але зараз хоць як, хоць што, але каб траціць часу як мага меней! Што за бяда, мой Божа, калі чалавек, які мае нешта прыемнае і мілае да работы, абыдзецца без яды! Няхай там, у сталовай, панове ядуць сёння адны, а мы тут, хуценька. Панам прыходзіць сюды сёння няможна, бо жартамі, вечнымі спрэчкамі яны будуць толькі замінаць.

Аднак яны прыйшлі. Трое былі сваімі, а чацвёрты – госць. Прыйшлі ў перапынку пасля снедання, калі Актуня, прыпадняўшы бязмежны шлейф свае амазонкі, выбегла ў прылеглы салон, села да фартэпіяна і моцным сапрана на ўвесь дом заспявала: “Рахела, калі Пан, у дабрыні незразумелы...”

Пачаўся тлум, панове ўвайшлі і акружылі пявунню, просячы, каб спявала яшчэ што-небудзь. Загучалі *Les adieux* Шуберта і “Бывай, дзяўчына, здарова, Айчына кліча мяне”.

А час ішоў.

– Актуня, хопіць спеваў! Трэба шыць!

Яна адарвалася ад фартэпіяна, заблыталася ў шлейфе амазонкі, ледзь не ўпала, але, спрытная, як сарна, выблыталася са скрутаў, дапяла да свайго крэсла і ўжо шые, шые. А мы намагаемся выгнаць паноў не толькі з ружовага пакоя, але наогул ад нас. Няхай ідуць сабе ў другі канец дома, хай як мага хутчэй сыходзяць з нашых вачэй, хай не замінаюць нам.

Актуня ні на імгненне не перастае шыць, але на ўвесь голас на ноты “Рахела, калі Пан” спявае:

– Няхай дадуць нам свя-я-яты – спако-о-ой!

Паны не хочуць сыходзіць адразу, упіраюцца, просяць, але нарэшце, аглушаныя, закрычаныя, адыходзяць, а ў ружовым пакоі зноў пануюць маўчанне і шыццё, рукі то ўздымаюцца, то апускаюцца, часам блісне сталёвая іскра на станіку альбо ў валасах, іншым разам заскрыгочуць нажніцы.

Бо Вінцуся і Чарніся безупынку крояць і крояць, першая спрытна і

хутка, другая – перараэаючы сваім уборам ружовую сцяну доўгай чорнай паласой, разважна, урачыста.

Нечакана на дзядзінцы пачулася туркатанне колаў. Нехта прыехаў. Тося зарумянілася, у Інкі з пальцаў вывалілася іголка.

– Мо вясёлы Алесь! – жартуем з першай.

– А мо пан Густаў! – дражнімся з другой.

Але нічога не ўдаецца пачуць, апроч невыразных здаля галасоў і крокаў. Інка падымае на нас вочы і з самай салодкай мінай прапануе:

– Пайду, даведаюся, хто прыехаў.

– Вядома, просім.

Яна выбегла і хуценька, з апушчаным грэцкім носікам, вярнулася.

– Пан Буракевіч прыехаў, – прамовіла.

Ну, калі пан Буракевіч, то ніякім чынам гэты візіт нас не датычыць. Ведаем пана толькі з назірання, і то рэдкага. Сусед, мае непадалёку ладны маёнтак, але пануе там супраць яго нейкая прадузятасць. Вядома, што з'явіўся ў гэтыя мясціны не так даўно, крэўных альбо даўніх знаёмых тут не мае. Чужы – і Бог ведае хто. Але важней за ўсё тое, што ягоная таварыскасць пакідае жадаць нязмерна большага. Здаецца, што намагаецца быць элегантным, аднойчы прыехаў у касцёл так моцна абліты нейкімі акропнымі парфумамі, што адна нашая суседка, асоба хваравітая і слабая, самлела і звалілася з касцельнай лаўкі, а маршалак Банецкі, які маліўся побач, так расчыхаўся, што ў яго ажно нос апух. Напалеона ІІІ сусед пастаянна называў Банапарт, на існаванне канцавога "е" ў гэтым прозвішчы ніякім чынам згаджацца не хацеў, і часта-густа да мовы сваёй дамешваў д'ябла, напрыклад: "Чорт з табой! Няхай яго д'яблы схопяць! Чорт ведае, што гэта значыць", *etc.* І слова "шэльма" таксама ўжываў. Нехта чуў, як ён казаў: "Чорт ведае, што той шэльма Банапарт для нас за пазухай сваёй хавае". А аднойчы, на запытанне, як яму адна панна падабаецца, адказаў: "Слічная, шэльма, як сто д'яблаў!"

Чалавек неадукаваны і незвычайны прастак. Здаецца, сын эканома ці нешта падобнае. Бог ведае хто. Але мы пра ўсё гэта ведаем толькі з чутак. Па нейкіх справах часам прыязджаў сюды, але прымаў яго толькі сам гаспадар дома, гаспадыням жа ніколі не быў прадстаўлены. *N'etant pas presentable* да таварыства не належаў. Зрэшты, можна было сказаць, што не надта да яго і гарнуўся. Нежанаты, немалады, жыў наводшыбе, нікому не навязваўся, спакойна сабе старэючы і сівеючы. Калі некалькі разоў бачылі яго ў касцёле і бліжнім мястэчку, заўважалі, што мае срэбную сівізну на галаве і вакол твара. А твар гэты моцна румянай скурай акурат пасаваў да ягонага прозвішча, толькі двое вачэй, блакітных і бліскучых, моцна выдзяляліся сярод агульнай чырвонасці. Гэта нагадвала тое, як быццам нехта ў сталовы бурак уставіў дзве бліскучыя ад расы незабудкі і ўсё разам паклаў на серабрыстую кудзелю.

Нас тады наогул не турбавала, што пан Буракевіч па нейкай справе, відаць, прыехаў да гаспадара дома, і шылі мы сабе далей, занятыя працай і маўчаннем, калі раптам голас, настроены на ўрачыстую ноту, прамовіў:

– *Memento mori!*

Гэта Актуня, апусціўшы рукі на калені і жаласлівымі вачыма пазіраючы на нас, прамовіла гэтыя пахавальныя словы і дадала:

– Як у кляштары, калі на *silentium* зазвоняць...

– Як у камедулаў (камедулы – манахі каталіцкага ордэна пустэльнікаў. – *А.Б.*), – шапнула Стэфуня.

– Чаму мы не размаўляем? Размаўляйма!

Ага? Чаму мы не размаўлялі! Добра гэта сказаць: размаўляйма! Калі няўмелыя рукі робяць нешта з вялікім стараннем і не меншым запалам, вусны ажно нямеюць альбо сціскаюцца ад руплівасці, ад намаганняў, а галава ім ніякіх словаў не падказвае.

– Прачытайма што-небудзь!

– Няхай хто-небудзь голасна пачытае!

– Добра. Але ў такім разе адна пара рук адарвецца ад работы.

Ды няхай сабе! Нейкую гадзінку-другую пара рук пагультаіць, затое іншым будзе прыемней працаваць.

Я адскочыла ў суседні салон, узяла са століка моцна на той час зачытаную, паабрываную брашуру, у якой Эдман Абу (Эдман Франсуа Валянцін Абу (1828 – 1885) – французскі публіцыст – *А.Б.*) вызначаў новы падзел Еўропы і адводзіў у ім значнае месца Польшчы – вялікай, магутнай, незалежнай. Паўсюль сцвярджалася, што той пісьменнік быў давераная асобай, памагатым французскага цэзара Напалеона III, і нібыта пан Буракевіч сказаў, што яму гэта сам Банапарт надыктаваў. Бо палітычныя камбінацыі тут шырокія і глыбокія, ідзе вызначэнне наогул новых дзяржаўных межаў, поўнае перамалёўванне еўрапейскай мапы – і колерам, самым ружовым з ружовых, вымалявана на ёй будучыня Польшчы. А калі Б а н а п а р т так думае, складае такія планы і мае такія намеры, то ўжо найпэўней станецца так, кааліцыя заходніх дзяржаў зойме наш бок і ўсе гэтыя змены дарогай міру альбо дарогай вайны давядзе да здзяйснення. І толькі патрэбна, каб мы самі не апусцілі рук і сэрцаў, каб у мужнай барацьбе не стаміліся, каб штандар яе ўздымалі як мага больш адважна і як мага больш настойліва – а Захад на падмогу нам прыйдзе і трыумф справядлівасці, вольнасці, трыумф Польшчы, якая даўным-даўно за дзве гэтыя ідэі пакутуе і змагаецца, адбудзецца, і радасныя сурмы і трубы разнясуць гучныя гімны і ўхвальныя песні на ўсе чатыры бакі свету. Так пісаў, верагодна, па загадзе свайго пана памагаты і давераная асоба Банапарта. А калі словы таго пісання, прачытаныя жывым голасам, разносіліся па ружовым пакоі, Божа, з якой радасцю біліся ў нашых грудзях сэрцы, якія гарачыя гімны і ўхвальныя песні выспеўвалі нашыя вясновыя галовы! У гонар дабрадзейнага і рыцарскага свету, у гонар Банапарта і ягоных спрыяльнікаў, у гонар блізкага, надзейнага, вялікага трыумфу Польшчы выспеўвалі гімны і ўхвальныя песні нашыя вясновыя галовы і гарачыя сэрцы...

А што потым тыя галовы і сэрцы – так заведзена! – ішлі па жыцці і дайшлі да магілы, на свет і на людзей ні слова пракляцця не прамовіўшы, – тое дзіва!

Толькі тады, калі дапамагаць гэтай святой і нават чужымі падтрыманай барацьбе, то дапамагаць з усёй сілы, кожнай кропляй крыві, кожнай іскрынкай духу! Уся наша кроў і ўвесь наш дух рваліся наперад, імкнуліся на падмогу. І шчаслівa ўсё рабілася б... Але на той час яшчэ нічога, акрамя шыцця, для дзейнасці не было.

Таму, слухаючы песню слыннага француза, цудоўную песню, мы шылі, шылі, шылі, часам выціраючы з павек слёзы расчуленасці, часам падымалі твары ад работы і з паразумеласцю абменьваліся самымі шчырымі, цёплымі ўсмешкамі.

Раптам – у часта дрыготкі ад узрушэння голас чытачкі, у прамоўленыя французскія словы ўплялося гучным голасам выказанае адно толькі польскае слова:

– Забракла!

– Езус, Марыя! – крыкнулі мы ўсе і ўскочылі на ногі, акружылі Чарнісю, ад якой пачулі гэтае фатальнае слова.

З доўгімі, тонкімі рукамі, апушчанымі ўздоўж высокай і тонкай фігуры, Чарніся стаяла засмучаная, збянтэжаная, а мы, адразу знямелыя ад разгубленасці, заламвалі рукі альбо ў адчаі падымалі іх да галавы.

Усё ж такі забракла!

– А колькі забракла?

– Выкраіла семдзясят восем... напрыканцы штораз вузейшыя і вузейшыя паскі кроіла... але, Пане Божа, ратуй!.. Больш не выйшла. Дваццаць дзве не хапіла!

Памылка не такая вялікая, як абвясціла Марылька, аднак жа памылка.

Пане Божа, ратуй! Бо іншага парутунку ніадкуль не відаць.

Хіба пабегчы да паноў і прасіць, маліць, каб як найхутчэй у горад паслалі, у той далёкі... Бо часу замала... вельмі мала... і як там яшчэ справіцца той пасланец...

Няхай каторая з нас сама паедзе!

Добра сказаць! Кожнай нешта замінае і заўсёды бракуе часу! У любы дзень ад нас могуць запатрабаваць усё, а тут – не гатовае! Стэфуня кажа, што ад мужа свайго ведае, што ў любы дзень... А калі начальнік атрада так кажа...

Бяда, вельмі вялікая бяда! Нават такой драбязы не маглі зрабіць годна! Сорам! Ведаем, што віны нашай у гэтым няма, аднак жа нечага саромеемся... Мо прадчуваючы зласлівыя мужчынскія жарты з жаночай работы.

Калі так бядуем і шукаем шляхі паратунку, нічога прыдумаць не могучы, дзверы ад дальніх пакояў крышку прыадчыняюцца і праз вузкую шчыліну спачатку нясмела зазірае добра завітая галава Марылькі Ярашынскай, а пасля вылузваецца са шчыліны і ўся постаць дзяўчыны. З нейкім хітраватым агеньчыкам у вачах уваходзіць яна ў ружовы пакой. У паводзінах сваіх крышку самалюбівая. Мо трохі за дзвярыма падслухоўвала, як развяжацца справа з аўчынкамі, і што на гэты конт скажа Чарніся, а зараз увайшла і ціха, спакойна, але з нейкай загадкавай усмешкай і хітрынкай у вачах пачала казаць:

– Кажу паням, што ішла зараз па перадпакоі і бачыла футра пана Буракевіча... Такія добрыя аўчынкі! Сівыя, вельмі далікатныя, далікатнейшыя за гэтыя... цуд!

Ажно шчокі на далонь апусціла са здзіўлення ад выдатных аўчынак пана Буракевіча.

А мы ад гэтай весткі ажно задрыжалі – мо ад свірэпай, пякучай, з’едлівай прагавітасці, а мо ад зайздрасці. Калі ёсць на свеце маральны апетыт, то мы яго тады добра адчулі. От жа шчаслівы чалавек, калі такія аўчынкі мае!

– І ўсё ягонае футра з аўчынак? – пытаемся аслабелымі галасамі.

– Цалюткае! – адказала Марылька, а хітрыя агеньчыкі ў вачах ажно блішчаць і ўсмешкі па яе вуснах ажно скачуць.

– Няхай пані пойдуць і самі ўбачаць, што не хлушу, – кажа.

Гэта праўда. Хай бы хоць убачыць! Пайшлі паглядзім!

Прапанову зрабіла Вінцусяй, якая з вялікімі нажніцамі ў руцэ стаіць

над стосам пакроеных кашаміраў, блішчыць усімі сваімі сталёвымі шпількамі, брошкамі, клямарамі і выглядае надта энергічнай.

– Пайшлі паглядзім! Пайшлі!

Адзінадушша не было, бо не ўсе згадзіліся з прапановай. Клямуня, Стэфуня, графіня і яшчэ нехта з месца не зрушыліся, але пяць пайшло.

А каб дайсці да перадпакоя, трэба мінуць два вялікія і два меншыя пакоі. Пайшлі. Паход узначальвала Вінцуся, усё яшчэ забыўліва трымаючы ў руках нажніцы, пасля двумя парамі ішлі Актуня з Тосяй і я з Інкай, а за намі ў ар'ергардзе дыбала на сваіх доўгіх нагах Чарніся, чорнай, доўгай крэскай ахінаючы карціны і люстэркі на сценах.

Цеснай грамадкай стоўпіліся мы ў перадпакоі вакол вешалкі, на якой – о Божа міласэрны! – футра пана Буракевіча з сівых аўчынак... Такое файнае...

Прыцішаныя воклічы і гучныя ўздыхі. Каб жа гэта была ўласнасць каторага са знаёмых паноў! Можа, мы выпрасілі б, выплакалі... на калені ўпалі б... А так – незнаёмы ягамосць. Бог ведае хто... Скупы, напэўна, чаго тут разважаць аб просьбе... Мы ж сапраўды ўсе, усе чыста аддалі свае сукні і іншыя файныя ўборы... Але гэта нешта іншае... Бо мы кабеты! А прасіць аб нечым паноў, гэта – спрабаваць грызці каменне... Асабліва такога пана... Бог ведае каго!

Калі мы так бядуем і лямантуем, з-за нашых плячэй высоўваецца галоўка Марылькі Ярашынскай... Невядома, адкуль яна тут узялася, бо з намі сюды не ішла, напэўна, ціхенька ўсунулася пазней, а зараз ажно завіткі над яе ілбом трасуцца ад імпэту, рукі шырока распасцірае, калі з вялікай рашучасцю прамаўляе:

– Я адно крысо адрэзала б – і ўсё!

Мы скамянелі, замерлі са страху ад такой прапановы, але пасля ажылі і пачалі абменьвацца між сабой ціхімі словамі, кідаючы хуткія позіркі паразумення, якія ажно палілі нас... Ды тут надышла секунда, так, на гадзінніку часу зазвінела секунда (калі наогул хоць які гадзіннік вызвоньвае секунды), за якую некалькі вуснаў адначасова і рашуча вышапталі:

– Вінцуся, адрэж крысо!

Названая, уся ў бліскотках сваіх сталёвых аздобаў і з агністымі плямамі, што выскачылі на шчокі, як ястраб ластаўку, як хорт зайца, як, верагодна, чорт праклятыя душы, схапіла футра пана Буракевіча і ўжо расклала на стале перадпакоя, калі раптам завагалася...

– Як жа гэта рэзаць? Проста з верхам, з ватай, разам з падшэўкай?..

Звярнулася да Чарніцкай:

– Чарніся, падкажы! А мо адрэж сама! Ты зробіш гэта акуратней!

Вось бы штука была – у чужога футра адрэзаць крысо, ды яшчэ акуратна! Чарніся таксама абедзвюма рукамі схапілася за галаву.

– Сьвяты Божа, святы моцны! Я чужое футра... ды яшчэ ў такога... Ён бы мяне пасля, напаткаўшы, аблаяў бы альбо пабіў бы... І паням таксама не раю. Адно толькі – гэта сапраўды патрэбна не для некага аднаго, а для агульнай карысці патрэбна...

Ото ж тое! Для агульнай патрэбы! У тым акурат уся справа! І вочы самой Чарнісі, насуперак пратэсту, пазіраюць на футра пана Буракевіча, блішчаць, як чорныя жучкі.

Аднак жа яна ставіць заслону жарсцям і з абедзвюма ўзнятымі рукамі, шмат разоў паўтараючы: “Святы Божа, святы моцны! Хай мяне анёлы-

ахоўнікі бароняць і асцерагаюць!”, шырокімі крокамі ўцякае з перадпакоя, праз доўгую перспектыву іншых пакояў яе доўгая чорная крэска хутка нясецца ў ружовы пакой.

А Вінцуся, з нажніцамі, як дзюба галоднага птаха разяўленымі, роспачна гукае над раскладзеным футрам:

– Марылька, хадзі, адрэж! Ты спраўнейшая... Дзе ж гэта Марылька?..

Эге! Яе ўжо і след прастыў. Знікла! Раіць і спакушаць яна то раіла і спакушала, але калі дайшло да справы, знікла. Так, як і Чарніцкая, спалохалася, відаць, псаваць такую годную рэч незнаёмаму ягамосці, можа, тырану, Бог ведае каму...

А тады Вінцуся, падбадзёраная нашым падміргваннем і заахвочвальнымі жэстамі, узнятая на вышэйшую ступень адвагі, моцна абаперлася нагамі на падлогу, рукамі, узброенымі нажніцамі, зрабіла нейкі дзіўны жэст і – чах, чах, чах!..

Ад долу ажно да сярэдзіны пекнага футра адно крысо адрэзана, з верхам, з ватай, з падшэўкай, з усім, што яму належала. І толькі калі футра вярнулася на вешалку, абрыўкі падшэўкі і кавалкі ваты з ягонай адкрытай раны жаласліва звешваліся долу.

У ружовым пакоі было трохі спрэчкі між тымі з нас, хто рабіў гэта, і тымі, хто з месцаў сваіх не кратаўся, былі ўнутраныя сумненні наконт справядлівасці ўчыненага, у рухах адчуваўся неспакой і хвалі развагі праплылі па тварах, але неўзабаве ўсё зноў стала спакойным. Чаго там! Неяк жа будзе! Пану Буракевічу панесеныя страты можна вярнуць. Заплацім, колькі пажадае, і няхай купіць сабе іншае футра, а зараз мы маем аўчынкі! Маем! Маем! І гэта галоўнае. А рэшта – марнасць, пустка, тленнасць!

Чарніся, седзячы за бакавым столікам, адпорвае ад аўчыны верх з ватай. Пыл, што курыцца з матэрыі, невялічкай хмаркай засланяе яе дробнае аблічча, ды нечакана з-за воблачка чуецца яе голас:

– Аднак жа не хопіць!

– Не хопіць! І гэтага яшчэ не хопіць!..

– На дванаццаць пэўна хопіць, але на нейкіх восем, дзесяць... будзе бракаваць!

Мы пахаладзелі ад скрухі. Восем на сто – адсотак невялікі. Ужо хай сабе! Што зробіш! Не пойдзем жа другое крысо ў пана Буракевіча адразаць!

Тым часам у другім канцы дома, недзе каля перадпакоя, пачуўся нейкі невыразны грукат, крокі і раптоўна гучныя мужчынскія галасы, бегатня, крыкі...

Бяда. Наступае хвіліна суда і кары. Дагэтуль не прыходзіла нам у галаву, што хвіліна гэтая наступіць. Дрыжыкі пабеглі на спіне. Але хай сабе, з нізка схіленымі над шытвом галовамі сядзім і шыем. Вінцуся, кроячы кашаміры, так скрыгоча нажніцамі, што ажно ў вушах трашчыць. Чарніся распорвае аўчынку. Маўчанне. І толькі вушы, наструненыя ў бок перадпакоя, прыслухоўваюцца, што там дзеецца. А там пачынае тварыцца нешта страшнае...

З грукатам адчыняюцца дзверы. Са страхам на разгарачаным твары ўрываецца Марылька і, цяжка дыхаючы, кажа:

– Што будзе? Што зараз будзе? Пан на прыслугу так гневаецца, што хай Бог бароніць... Пытаецца, хто гэта зрабіў, а яны не ведаюць... А пан думае, што хлусяць, і гневаецца яшчэ больш... А Юзаф ажно плача.

Яна яшчэ не скончыла гаварыць, калі мы ўжо сарваліся з крэслаў. Не,

не! На прыслугу гнеў і несправядлівыя папрокі кідаць нельга! Нельга, каб з-за нас плакаў пачцівы Юзаф.

Трэба ісці, пра ўсё расказаць і перапрасіць пана Буракевіча, спытацца, колькі пажадае грашовай кампенсацыі.

– Хадзем!

– Хадзем!

Спачатку вінаватыя, затым, з-за каляжанскай салідарнасці, тыя, хто ў злачынстве чыннага ўдзелу не браў, за імі Чарніся, заклапочаная, але з цікавінкай у чорных вочках, а наастатак – Марылька, спакушальніца, як напалоханы кот, ціхенька крадзецца каля сцен.

Па дарозе занепакоіла нас пытанне, хто першы звернецца да пана Буракевіча. Ну што ж, гаспадыні дома спадручней... О, цяжкая хвіліна пакуты і згрызот сумлення. Але нічога не зробіш! Маюць рацыю. Мне выпадае першай узяць слова перад гэтым незнаёмым ягамосцем, нейкім вялікім – Бог ведае кім.

Актуня і Стэфуня з абодвух бакоў шэпчуць мне на вуха:

– Я прыйду табе на падмогу.

А я чую за сабой галасы іншых:

– І я! І я! І я! Усе будзем прызнавацца і перапрашаць...

– І плаціць...

Дзверы са сталовай у перадпакой адчынены насцеж, па іх можна меркаваць аб вялікай напружанасці, з якой людзі ўбягалі сюды і выбягалі. А вакол вешалак – кіпіць сапраўднае пекла. Сабраныя паны і лёкаі аслупянелі, пан Буракевіч размахвае рукамі і крычыць, гаспадар дома сварыцца на прыслугу, стары Юзаф чырвонай хусцінкай выцірае слёзы з вачэй, ягоны буфетны памочнік тоненькім голасам верашчыць, што, як Бога кохам, не ведае, хто гэта зрабіў...

Наш уваход, такі калектыўны, здзівіў іх і выклікаў моцны эфект, усе змаўкаюць і пазіраюць, што гэта за такая жаночая працэсія ідзе... А мы кіруемся проста да пана Буракевіча і спыняемся перад ім, праўдзівей, перад ім стала я, а мае таварышкі за мной – як мур, а за імі яшчэ Чарніся і Марылька.

Стаю, раблю рэверанс, рукі да пана Буракевіча выцягваю. У гэты самы момант гаспадар дома, моцна разгневаны такім здарэннем і ажно да аслупення здзіўлены нашым уварваннем, усё ж прытрымліваецца паважлівасці і пэўных патрабаванняў этыкету, прамаўляе, прадстаўляючы:

– Пан Буракевіч, гэта мая жонка...

У пана Буракевіча твар становіцца яшчэ больш чырвоным, пасярод яго блакітныя вочы проста слупянеюць ад здзіўлення. Здаецца, што ад выгляду гэтых адзінаццаці кабет, якія невядома чаго з'явіліся перад ім, ён на хвіліну забыўся пра сваю крыўду. З вельмі нязграбным паклонам ён сваёй чырвонай і шорсткай рукой дакранаецца да маёй рукі, а я пачынаю гаварыць. Прамаўляю ціха, бо ў мяне калоцяцца грудзі, а ў горле ажно перасела. Аднак жа кажу:

– Прыйшлі мы перапрасіць пана... вельмі, вельмі пана перапрашаем... бо гэта мы... праўдзівей, галоўным чынам я, менавіта я...

– Не, не, гэта ўсе мы ... – хорам адзываюцца мае таварышкі.

– Я... мы... зрабілі гэта... адрэзалі тое крысо...

– Што? – як быццам нехта выстраліў з пісталета, зрываецца з вуснаў пана Буракевіча, і па ім відаць, што ён пачынае ўпадаць у шаленства.

– Што гэта? Пані дабрадзейкі строяць з мяне нейкія жарты, кпіны, насмешкі... няхай д'яблы возьмуць...

Назіраючы за такім грозным непрыяцелем, я зусім страціла голас, але тут з-за мяне высунулася Вінцуся і гучна, рашуча пачала прамаўляць.

Мова яе звычайная, аднак змястоўная. Коратка, але даходліва, расказвае, што і як было, і што менавіта яна вось гэтымі нажнічкамі адрэзала крысо футра і зараз нажніцы гэтыя прынесла ў доказ (сапраўды рэальны доказ!), што ніхто іншы, а толькі яна адна рабіла гэта, таму вельмі, вельмі перапрашае...

– Вельмі, вельмі перапрашаем! – пачуліся ўслед за прамоўцай розныя галасы, хор кабет у самых шчырых пачуццях складае рэверанс ажно да зямлі.

А зараз выступаю зноў я.

– Няхай пан будзе ласкавы сказаць, колькі гэтае футра... колькі маем пану вярнуць... на пакупку новага футра... мы ахвотна... зараз...

І зноў дзевяць рэверансаў з таварышкамі хору.

– Вельмі пана перапрашаем і няхай пан будзе ласкавы сказаць, колькі за гэтае сапсаванае футра...

Што думалі і што адчувалі, як выглядалі сведкі гэтай сцэны, я не ведаю, бо ў незвычайнай сваёй узрушанасці на іхняе існаванне сапраўды забылася, але ў пана Буракевіча ўперыла позірк неразумення, здзіўлення, бо штосьці з ім стала адбывацца, а на ягоны твар пачало выбівацца сапраўды нешта нечаканае, надзвычайнае.

На ягоным твары, як бы раптоўна крыху збялелым, адразу пачала прабівацца пільная ўвага, пасля радасць... нейкая гарачая, прамяністая радасць.

Ужо калі прамаўляла Вінцуся, апавядаючы пра гісторыю канфедэратак, якія не могуць быць выраблены да патрэбнага тэрміну, гнеў знік з ягоных вачэй, у іх з'явіўся выраз цікавай, сканцэнтраванай увагі. А пасля бліснула радасць. Не ведаю, ці чуў ён апошнія нашы словы аб грашовай кампенсацыі, бо павекі ягоныя неяк дзіўна пачалі міргаць, а губы пад срэбнымі вусамі сталі дрыжаць, быццам на іх націскалі словы, якія выбіваліся з вуснаў. І ён выбухнуў:

– Значыць, пані дабрадзейкі з такой мэтай маё футра знявечылі! На шапачкі для тых... што ідуць туды... за... за... Айчыну... Няхай мяне д'ябал возьме, калі я незадаволены, не ўдзячны...

Яго зычны голас пачаў дрыжаць, губы ажно ляталі, а незабудкі-вочы, у сталовы бурак устаўленыя, былі аблітыя бліпчастай расой.

– Да д'ябла! Чаго я так злаваўся тут, чаго гневаўся? Перапрашаю, вельмі перапрашаю! Шэльма я і дурань! Але зараз я дзякую паням дабрадзейкам, сто разоў, сто тысяч разоў дзякую... дзякую... за тое, што хоць тое, хоць гэта... хоць гэтым кавалкам маёй апранахі...

З апошнімі словамі ён кінуўся да нас такім раптоўным рухам, што мы міжволі адступіліся, а ён пачаў адну за адной цалаваць нас у рукі. Гэтыя пацалункі пісталетнымі стрэламі разляталіся па перадпакоі, а ў перапынках ягоны грубаваты, хваравіты голас, у гэтыя хвіліны насычаны нейкай асаблівай чуллівасцю, перахоплены нейкім смуткам, прамаўляў:

– Бо я, пані дабрадзейкі мае, стары ўжо і сам ужо не магу... а сына не маю... і чужы я тут, аседлы, нікому не знаёмы... таму ніхто мне не давярае, ніхто ад мяне нічога не жадае... а я ж ад усяго сэрца, ад усёй душы рад быў бы... хоць нечым рад быў бы далучыцца... служыць...

Ужо ўсіх нас адзінаццаць пачаргова, бо Чарнісю і Марыльку таксама, у рукі пацалаваў, калі нейкая нечаканая думка стрэліла яму ў галаву. Знерухомеў, некалькі секунд задуменнымі вачыма пазіраў на нас.

– А, можа, – пачаў, – можа, патрэбна больш... можа, яшчэ адрэзаць?..

Мы ажно закалаціліся ад здзіўлення і – ад таемнай радасці. Але ж не выпадае так вось адразу прыняць незвычайную прапанову. Усе мы хорам і паасобнымі галасамі выкрыквалі:

– Дзякуем! Вельмі дзякуем пану! Пан вельмі добры, але мы не можам злоўжываць... І без таго не ведаем, колькі за такую шкоду...

– Што там: колькі. Якія там: колькі? Гэта я паням дабрадзейкам вечна буду ўдзячны... Няхай мяне д'ябал возьме, калі хлушу, што вечная падзяка... і калі патрэбна больш... калі, наогул кажучы, патрэбна нешта яшчэ...

Тут з кола таварышак выступіла наперад Актуня і ў сваёй зграбнай амазонцы, смела, а на твары так выглядала, як бы адразу з уздымам мела заспяваць “Рахела, калі Пан”, прамовіла:

– Калі казаць праўду, то нам яшчэ для дзясяці... абшыўкі аўчыннае не хапае...

– Не хапае! – выгукнуў ён. – А што? Адчула мая душа, што не хапае...

Ён сарваў з вешалкі змрочныя руіны свайго футра і падаваў яго нам, то адной, то другой, проста ў рукі ўпіхваў.

– Прашу, прашу! Няхай гэтыя шэльмы авечкі атрымаюць крыху шчасця... гонару... і я разам з імі...

Узрушаныя, здзіўленыя, збянтэжаныя, мы адступаліся, робячы рэверансы, не смеючы прыняць дар... Графіня першай схапіла адну з ягоных рук, што падавалі падарунак, і моцна сціснула яе, пасля чаго гэтая чырвоная, шорсткая рука пераходзіла ад адной кабечай далоні да другой, яе сціскалі, траслі не па-свецку, не па-салоннаму, а папросту, шчыра. І казалі мы настойліва:

– Ці прыдатнае? Але ж непрыдатнае. Як жа пан без футра паедзе! Сёння ж так холадна! І нам ажно столькі не патрэбна!

– Не патрэбна ажно столькі! Ну, тады толькі другую палову... для дзясяці шапачак, другую палову... Акурат на гэта хопіць...

У руках у Вінцусі неяк дзіўна своечасова бліснулі і зазванілі нажніцы.

– Вось і нажнічкі ёсць! – ускрыкнуў пан Буракевіч. – Дзякуй Богу, ёсць нажнічкі... з дазволу пані дабрадзейкі...

Ён выхапіў з рук Вінцусі нажніцы такім несалонным рухам, што яна ажно ўскрыкнула ад болю, а ён у імгненне вока расклаў на стале рэшткі аўчынак і – чах, чах, чах! Мармытаў:

– Цвёрды, бестыя, гэты баран... але і нажніцы, шэльмы, тупыя... каб на іх д'ябал...

А калі пекнае нядаўна футра засталося зусім без крыса, ён пачаў апранаць рэшткі на сябе.

– Пані дабрадзейкі кажуць, што дзень сёння халодны, але я з гэтага пасмейваюся... Бо я здаровы... хвала Богу, і магу, хай сабе ў мароз, без футра... А тут жа яшчэ грудзі і плечы прыкрытыя...

Ён усклаў на плечы дзіўную апранаху, якая выглядала як нявесціна ф і г а р а, толькі тым ад яго адрозніваючыся, што была з рукавамі і што ў выніку рэзання, якое было хутка зроблена нажніцамі, абвіслі долу неверагодна жаласлівыя абрыўкі ваты, сукна і падшэўкі.

Але адразу ж яго атачылі паны, усе тры дамовыя і госць. Гаспадар дома прасіў:

– Няхай сусед будзе ласкавы так адразу не з'язджаць... Мо разам паабедаем... Няхай коні пастаяць у стайні...

Не з павагі, не са звычайнай павагі, а ўпершыню запрашаў пана Буракевіча ў свой дом як госця. У ягоным голасе чулася ўзрушэнне.

А пана Буракевіча гэтыя запросіны і іхняя сардэчнасць – дзіўная рэч! – не ўсцешылі, але, адразу здзівіўшы, разліліся па твары засмучэннем ці мо задуменнем. Крыху цішэй, чым гаварыў звычайна, ён адказаў:

– Дзякую пану дабрадзею, шчыра дзякую... але адвык, а папраўдзе кажучы, то да такіх кампаній я ніколі не быў прызвычаены... Як дзік адзінокі між лясных дрэў, так я адзінокі хаджу між людзей, і ніхто мне ні братам, ні сватам. Шэльма доля такая... але што рабіць? Калі Пану Богу так даспадобы... і ўжо нядоўга... я ж стары... і таму нядоўга ўжо на гэтым д'ябальскім свеце... Але вось аб чым я папрашу пана дабрадзея...

Ён у абедзве свае рукі ўзяў руку гаспадара дома і дзіўна запытліва пазіраў сваімі незабудкамі ў ягоныя вочы, а пасля крыху прыцішаным голасам прамовіў:

– Няхай панове будуць ласкавыя пры кожнай патрэбе, такой агульнай... пры кожнай такой аказіі, што да грошай, альбо трохі працы якой патрэбна, звяртацца да мяне... Я хачу... я жадаю... хоць нечым паслужыць... нашай маці... бо і я таксама... сын яе... а што шэльма лёс кінуў мяне ў асяроддзе самых чужых на гэтым свеце, то я і не навязваюся нікому... а толькі... д'ябал ведае, што ў сэрцы сядзіць і не дае спакою...

Усе чацвёра мужчын пачалі ўсё больш шчыльна атачаць яго, усё больш шчыра запрашаць. Няхай прыязджае да іх, няхай бліжэй з імі пазнаёміцца, а яны будуць адведваць яго.

Але ён пачаў махаць чырвонымі рукамі.

– Эй, не! Эй, не! Ад усёй душы, ад шчырага сэрца дзякую, але не! Адвык... не прывык... д'ябал за парабка трымае... наадзіноце мне найлепей... садам сваім займаюся... дрэўцы – гэта мае дзеці... самотныя думкі – то мае госці. Развітваюся з панамі дабрадзеямі, развітваюся, дзякую!

І пайшоў да выхаду ў сваім дзіўным ф і г а р а з жаласлівымі махрамі.

Але мы ўсё ж проста так, без нічога, расстацца з ім не маглі і дагналі яго каля дзвярэй. Божа мілы – чаго толькі не нагаварылі мы яму! Якімі толькі шчырымі і сардэчнымі словамі не абсыпалі! Здаецца, што графіня некалькі разоў пяшчотна пагладзіла яго па плячы... Здаецца нават – хоць наконт гэтага я не зусім упэўнена, што ягоныя чырвоныя шчокі, аточаныя срэбнай кудзеляй, ад Актуні, Вінцусі і ад мяне дасталі тры пацалункі...

І толькі пазней, пасля ад'езду пана Буракевіча, адбыўся над намі суд, не суд парыяў, барані Божа, але значна вышэйшы, бо нашых і ўсялякага іншага заводу паноў.

А калі падчас абеду нас надта ўжо даймалі буркатаннем і абуралі папрокамі, Чарніся, якая гэтым днём абедала з намі, выпрастала на крэсле сваю высокую постаць і з чорнымі вочкамі, якія гарэлі вугельчыкамі, прамовіла:

– А мне здаецца, перапрашаю паноў, што калі пан Буракевіч прабачыў і яшчэ падзякаваў, то і ўсімі ўсё павінна быць прабачана і забыта... Бо не для саміх жа сябе адразалі пані тыя полы, а для агульнай патрэбы...

Мела слушнасць Чарніся. Пасля таго дня і пасля той вясны наступіла ў нас такая агульная патрэба, што ажно – ах!

*Красавік 1908*

## Веніямін Блажэнны



...Але слова маё
вольны вецер у дрэвах гушкаў,
Тое слова было
словам Бога і словам веры...

# «І вечны толькі шлях, і вечны толькі пошук...»

*Пераклад з рускай* ***Насты КУДАСАВАЙ.***

Пра паэта Веніяміна Блажэннага я даведалася на пачатку 2000-х з кнігі Барыса Роланда. Тое быў звычайны зборнічак апавяданняў, якія я набыла на філфаку з цікавасці, а цікавым у студэнцкую пару здавалася ўсё, усё захапляла і вабіла. У адным з апавяданняў Роланд, агаломшаны, апісваў сваё знаёмства з творчасцю яго сучасніка Веніяміна Блажэннага (Айзенштадта), там жа былі і вершы паэта, якія я тады прачытала ўпершыню.

Я на той час была ўжо добра набрынялая ведамі аб літаратурах розных школ, эпох і тэхнік, чытала ўсё, да чаго даходзілі рукі, але гэта быў шок! Шок, што сёння можна пісаць так: не шукаючы арыгінальных тропаў, не дбаючы пра новыя рыфмы, не баючыся падацца наіўным ці неактуальным для свайго часу. Блажэнны як быццам увогуле не думаў пра існаванне часу і чытачоў. А проста пісаў як Бог на душу палажыў (у выпадку з Блажэнным разумееш, наколькі літаральным, аказваецца, можа быць гэты выраз).

З тае пары я шукала яго, вылоўлівала дзе-нідзе купкі вершаў, драбочкі ўспамінаў, публікацый, згадак. Кожная маленечкая здабыча была скарбам. Гэта пазней у мяне з'явіцца зборнік "Сораспятье", з якога пачнуць паўставаць мае пераклады, пазней я пазнаёмлюся з мінскім паэтам Дзмітрыем Строцавым, які даследуе (і наследуе) творчасць Блажэннага. А тады было толькі яго паветра і рух навобмацак.

Я не думала аб тым, каб зрабіць яго сваім. Ён ужо быў маім – у галасах кошак, сабак, мурашоў... Мінск, такі чужы, незразумелы і няўтульны, раптам зайграў новымі фарбамі. Адно ўсведамленне, што ў гэтым горадзе жыў паэт такой велічыні, жыў так нядаўна, яшчэ за некалькі гадоў да майго прыезду, напаўняла сэнсам і паўнатой будзённыя шляхі. Здавалася, вуліцы яшчэ нясуць яго прысутнасць, ён яшчэ прамаўляе сваю ціхую споведзь. Ціхую, але цвёрдую. У Веніяміна Блажэннага быў абсалютна ўпэўнены голас, без ценю какецтва, голас паэта, які ведае праўду і не цураецца адказнасці за яе. Ён пісаў штодня! Пакінуў пасля сябе агромністы архіў вершаў. Магчыма, паэзія была для яго адзіна праўдзівым маўленнем, а штодзённае пісанне вершаў – адзіна магчымым спосабам існавання.

Здзіўляе, што Блажэнны ўвесь час нібы паўтарае адно і тое ж, часта нават аднымі і тымі ж словамі, але яно не перастае быць моцным і сапраўдным, не надакучвае, не драбнее. У яго няма ніякіх творчых пошукаў. Ды яны і не патрэбныя, калі ты спасціг галоўнае, калі ты ведаеш, што не існуе мяжы паміж жыццём і смерцю ды лёгка перакрочваеш адсюль туды й назад. Тут слова "актуальнасць" губляе сваю актуальнасць і гучыць недарэчна. Уся паэтычная спадчына Веніяміна Блажэннага мне ўяўляецца адзіным радном, бясконцым маналогам аб вечнасці і болю. А мова яго вершаў гучыць так звыкла, проста, празрыста, што паступова нібы перастае існаваць, сягае туды – у тую самую "немату", дзе застаецца толькі дух.

Я спатыкалася аб гэтую прастату ўвесь час. Студэнткай, я збіралася пісаць па творчасці Блажэннага навуковую працу, але любая спроба прэпарацыі гэтых тэкстаў выглядала марным намаганнем схапіць у прыгаршчы акіян. Атрымлівалася недарэчная жменька вады, а галоўнае – сама стыхія – заставалася няўлоўным і невытлумачальным. Бо яго немагчыма раскласці на складнікі і сказаць, з дапамогай якіх мастацкіх сродкаў паэт вось тут кажа гэта, а там – тое. Таму навуковая дзейнасць была з расчараваннем адпрэчаная. Але мінула больш за дзесяць гадоў, і аднойчы я зразумела, што выразна чую гэтыя вершы на беларускай мове, што яны ніколі не пераставалі быць "маімі".

У працы над перакладамі самым складаным для мяне было тое ж: захаваць гэтую простасць, непадзельнасць, не ўскладніць яго вершы "прыгожым" і "арыгінальным", засцерагчы іх ад Кудасавай. Гэта была праца не столькі над ім, колькі над сабой. Ды і слова "праца" тут ужытае вельмі ўмоўна. Хутчэй, гэта стала для мяне магчымасцю сустрэцца з паэтам на яго тэрыторыі, куды мяне ласкава (як мне падалося) запрасілі.

**Наста КУДАСАВА**

* * *

Мяне вучыла мыш мышынай весялосці
І правілам сваёй самотніцкай гульні,
Калі я ў цёмнай келлі быў прыняты госцем,
У закутку сырым, дзе спачываюць дні.

Мяне вучыла мыш нячутнай шэрай згодзе
З мышынай нашай доляй, кволай ды сляпой...

Вучыла немаце – такой сапраўднай ноце,
Калі, пазбыўшы ўсё, становішся сабой.

Прыслухайся ж і ты – і раптам станеш мышшу,
І станеш мурашом, і станеш трын-травой,
Мяне вучыла мыш тамтэйшаму зацішшу,
Калі душы ўжо больш не страшна быць жывой.

* * *

А яшчэ я прашу – захавай гэту даль,
Захавай гэту даль назаўжды,
Дзе я смутку людскому свой голас аддаў,
Дзе я быў улюбёнцам бяды.

Захавай гэты ліст, што з вышыняў прыстаў
Да маёй беспрытульнай душы,
Быццам быў ён зямнога вяшчун хараства,
Быццам лёс мой ён наваражыў.

І сабаку самотным, прашу, не пакінь,
Зберажы і цяплом атулі,
Гэта ён мне ў нябёсы паказваў шляхі,
Калі я быў зблукаў на зямлі...

* * *

Колькі, Божа, нам год?
Век за векам з табой мы старэем...
Помню, як на світанні на ўездзе ў Ерусалім
Я аднойчы вёў доўга размову з вандроўным габрэем,
Аказалася потым, што гутарыў з Богам самім.

Знікла тое даўно, я тады быў падлетак бязвусы,
Быў звычайны пастух – проста пасвіў авечкі наўзбоч.
І такім хараством заварожваў мяне твар Ісуса,
Што не мог ад яго адарваць я захопленых воч.

А пасля я трывожныя рэчы даведаўся з часам:
Што распяты мой Бог, той, хто нас навучаў дабрыні,
Але з мёртвых паўстаў – і ізноў у сусветах мы разам,
Тыя ж сцежкі й авечкі, і тыя ж наўсцяж камяні.

Вось і сталі з табой мы абодва старымі, мой Божа,
Мы спазналі нядолю й самоту, труну і тугу,

І стамлёна сядаем на той жа камень прыдарожны,
І ізноў ад цябе я вачэй адарваць не магу.

* * *

Я не мовіў яшчэ пра сябе ні паўслова,
Я яшчэ не знайшоў сябе ў далях сусветных,
У блуканнях маіх прастадушных, вясковых
Я яшчэ не ўсвядоміў, дзе ніва, дзе сметнік.

Не заўсёды яшчэ пазнаю я па звычцы
Нават дом, нават вокны бацькоўскага дома,
І маё ж дарагое людское аблічча
Падаецца мне часам зусім незнаёмым.

### *АРСЕНІЮ ТАРКОЎСКАМУ*

Не прыходзіць адказ Ваш. Ці Бог нам сустрэчу адмераў?
Можа стацца, мы неяк раптоўна памром незнарок.
І тады не паэтаў спатканне ў маскоўскай кватэры –
Тое будзе спатканне дзвюх душаў – без рук і без ног.

Як пазнаю я Вас? Як пазнаю на тым я Вас свеце?
Як мяне Вы пазнаеце на замагільным баку?
Я прашу Вас запомніць, што буду ў паштовым канверце,
Там, дзе Вашы лісты, як душу сваю, я берагу.

І тады Вы пазнаеце свой жа пакутлівы почырк,
І як з літараў выйдзе абцінак, Вам стане відно.
Так і здарыцца ўсё, як на ліха я сам напрарочыў:
Дзве душы, два зляканні – ні рук у праклятых, ні ног.

* * *

Хто сказаў, быццам Госпад не пусціць да Трона сабаку?
Не, ён пусціць сабаку і нават прагоніць апостала:
– Надакучыў ты, лысы, мне разам з усім вашым статкам,
Прыбяры бараду сваю, месца наследуе пёс тваё...

Ох і хітры ж мужык ты, да Бога здавён прысуседзіў
Ды храпеш на гаючым паветры, шчасліва здарожаны,
А апостал Палкан абышоў усе вёскі на свеце,
След вышукваў мой і не прасіў адпачынку ў зняможанні.

А апостал Палкан для святыні не шкадаваў сілаў,
На пагорку сядаў ды вышчоўкваў атрады блышыныя,
А па вёсках яго і каменнем і палкамі білі –
Быў апостал мой біты нявернікамі-мужчынамі...

А апостал Палкан быў блукальцам і ў сцюжу, і ў спёку,
Быў за лазняй аліты бязлітасна юшкай гарачаю,
І калі ён аблаяў аднойчы ці лёс свой, ці Бога –
Ён на лаянку меў, безумоўна, падставы сабачыя...

Падыдзі-ка, Палкане, вунь поўсць як аблезла на псіне,
Не пагрэбуй маёю нябесна-сялянскаю хатаю,
Рады я, далібог, не людской, а сабачай святыні,
Нават пахне па-свойску – жывое, блазное, калматае...

* * *

Адшукайце мяне, як іголку, схаваную ў сене,
Адшукайце мяне – каласок у асеннім гумне,
Адшукайце мяне, і я вам абяцаю збавенне:
Будзе богам збавёны, хто рукі памкне да мяне.

Адшукайце мяне, я прашу, бо я вешчае слова,
Бо я вечнасці недасягальнай сарваны радок,
Адшукайце мяне, бо мне цісне пакута Хрыстова,
Адшукайце мяне, заблукалага ў прышласці змрок.

Але я не сляпы, я змагу вас убачыць, калі вы
Завітаеце ў кут, дзе анучай прыкрыты мой боль,
Дзе я ранаў крывавых хаваю ад вас пераліvы –
Я баюся, баюся, што ў цёплых руках вашых соль.

* * *

Не шкада, што я недзе ў дарозе імя сваё страціў, –
Мне падкажуць яго, мітусліўцу, браты-мурашы,
Бо я столькі гадоў разам з імі блукаў як прыяцель
Па задворках сусвету, па цёмных сцяжынах душы.

І падкажа мне Бог мой, навошта я рушыў тым шляхам,
Дзе забытыя пасынкі свету нясуць свой прысуд,
І чаму так любіў я ката ды худога сабаку,
І чаму я прадбачыў нябеснае славы іх цуд...

* * *

Душа мая, душа! –
Ці ашалелым зверам
Бяжыш ты напралом,
Ці пчолкай залатой выпростваеш з даверам
Мядовае крыло?

Ці, можа, пазяхаеш, на вакно прысеўшы,
І лапкай мыеш рот?
Ды ўся ад пазяхання свецішся і млееш –
Цудоўны боскі кот.

Душа мая, душа! –
У дбанні павучыным
Твой працавіты чын.
Што тчэш ты мне, душа, з блюзнерства і святыні,
Прарочыш мне аб чым?

Застылая ў вачах апостала-аленя,
У кругаверці дзён, –
Ці твой груваскі крок гукае ў аддаленні?
Ці недзе побач ён?

Душа мая душа! –
Хоць кропляю на кветцы,
Ты толькі будзь навек.
Я так хачу жывым застацца ў гэтым свеце,
Звычайны чалавек.

Я так хачу жывым застацца ў кожнай хвілі,
У жыце, у жуку,
У коніку, у каласку ў снапе пахілым –
Ва ўсім, пакуль жыву.

Я жыць хачу імгненне і хачу жыць вечнасць,
Развітвацца, грашыць...
– О, як яно шуміць – загадкавае веча
Маёй жывой душы!..

* * *

Не, цяміў я няшмат у таямніцах Бога,
Я нават у царкве быў часам як не свой,
Адно худых сабак я ведаў на дарогах,
Яны шукалі Рым з няўрымснасцю сваёй.

Той Рым няблізка быў – за полем ды за ўзгоркам,
Нібы ў далечыні святло нехта разліў,
І сумаваў і я звярыным сумам горкім
Па ясных берагах нязведанай зямлі.

Былі нам спадарожныя чароды птушак:
Без цяжару й журбы, адкінуўшы рыззё,
Здавалася, лятуць чысцюткія, як душы,
Туды ж, куды і мы, нястомныя, брыдзём.

І ўсё, што я спасціг, звярыны лёс прайшоўшы:
Паўсюдна твой прытулак і твой родны дом,
І вечны толькі шлях, і вечны толькі пошук,
І пошчак "Алілуя!" ў полі пад кустом...

* * *

І звяры пушыстахвостыя
Палюбілі ўслед за мной
Паўтараць натхнёна: "Госпадзе"
Ды люляць зямны спакой.

І звяры з мальбой звярынаю
Так казалі: – О, Хрыстос,
Аднаму табе мы вінныя,
Ты нам даў душу і хвост...

Дык вазьмі ж у Царства Божае
Нас, малых тваіх дзяцей.
Бачыш колькі веры ў кожнага!
Колькі ўдзячнасці ў хвасце...

* * *

Вось і выйшла нячутна са смерці манашка-кошка,
Што ў каморцы-келлі заўжды за святлом цікуе...
На грудзях у яе не звычайны – святарны кошык, –
Там яна збірае цяпло й дабрыню людскую.

І маю душу яна возьме пяшчотна ў лапкі,
Пакачае ў траве, потым чмыхне ружовым носам,
Нешта мяўкне сваё ды, схапіўшы душу ў ахапак,
Пабяжыць вясёлым подскакам у нябёсы.

Можа быць, яна Госпаду Богу яе пакажа
Ды, прасветлена вымыўшы лапкай цудоўны тварык,
Ля Господняга Трона ціхмянай аховай ляжа,
Покуль Бог налюбуецца мною – такім няздарам...

Я з братэрства найменшых, я з самых, з самых убогіх,
Я ні дома, ні дыма не меў, толькі рвань ды латкі.
Але я чарадзеем славіўся ў чатырохногіх
І я мог рукамі пакратаць палёт крылатых.

Але слова маё вольны вецер у дрэвах гушкаў,
Тое слова было словам Бога і словам веры –
І было яно расчытанае простай птушкай,
І было яно пачутае шчырым зверам.

* * *

Я паверу, што мёртвых хаваюць, хоць гэта і дзіка,
Я паверу, што цела сатлее ў зямлі спакваля,
Але вочы, блакітныя вочы, нябесныя блікі!
Хіба можна паверыць, што неба схавае зямля?..

Ці ласкавым было тое неба, ці несла пагрозу,
Ці вясёлкаю ззяла, ці секла няшчадна вадой, –
Але гэта было маё неба – вачэй маіх слёзы,
І не верыцца мне, што я жыў дзеля смерці адной!..

...Я расплюшчу стамлёныя вочы з магільнага склепа,
Ах, як хочацца неба, як доўга святла я прасіў, –
І пальецца мне ў мёртвыя вочы бясконцае неба,
І агнём маіх слёз запалае нябесная сінь...

## Вольга Такарчук



...як гэта Бог дазваляе такія вялікія пакуты сваіх стварэнняў, калі ён добры, міласэрны і ўсемагутны...

# Зялёныя Дзеці, або

## *Апісанне загадкавых здарэнняў на Валыні, медыкам Яго Каралеўскай Мосці Яна Казіміра Уільямам Дэвісанам упарадкаванае*

*Пераклад з польскай* ***Марыны ШОДА.***

*Паводле: Olga Tokarczuk. Opowiadania bizarne. Krakyw, Wydawnictwo Literackie, 2018.*

Здарэнні гэтыя адбыліся вясной 1656 года. Я ўжо каторы год знаходзіўся ў Польшчы, дзе апынуўся па запрашэнні Марыі Людавікі Ганзага, сужэнкі Яна Казіміра, караля польскага, каб заняць пасаду каралеўскага медыка і наглядчыка каралеўскіх садоў. Я не мог адмовіцца ад такога запрашэння з павагі да велічы асобаў, якія да мяне звярнуліся, а таксама і з пэўных прыватных меркаванняў, пра што тут згадваць не варта. Але, едучы ў Польшчу, я адчуваў сябе ніякавата, бо не ведаў гэтай аддаленай ад знаёмага мне свету краіны і таму ўяўляў сябе нейкім *экс-цэнтрыкам*, тым, хто выходзіць з цэнтру, у якім

вядома, на што можна спадзявацца. Я баяўся чужых звычаяў, жорсткасці ўсходняга люду, а перадусім непрадказальнага тутэйшага клімату, холаду і вільгаці. Я памятаў пра лёс майго сябра, Рэнэ Дэкарта, які некалькімі гадамі раней быў запрошаны шведскай каралевай, накіраваўся ў яе халодныя паўночныя палацы ў далёкі Стакгольм і там прастудзіўся ды памёр у росквіце гадоў і разумовых сілаў. Якая страта для ўсемагчымых навук! Асцерагаючыся чагосьці падобнага, я прывёз з Францыі некалькі найвыдатнейшых футраў, ды толькі ў першую ж зіму яны выявіліся занадта лёгкімі і тонкімі, як на тутэйшае надвор'е. Але кароль, з якім я вельмі хутка шчыра пасябраваў, падарыў мне воўчае футра да самых пятак, і я не развітваўся з ім ад кастрычніка да красавіка. Яно было на мне акурат падчас апісанай тут паездкі – а быў ужо сакавік. Ведай, Чытач, што зімы ў Польшчы бываюць суворыя, што ў Швецыю ходзяць напрасткі па лёдзе праз Балтыйскае мора, а на многіх замерзлых азёрах і рэках ладзяцца карнавалы і кірмашы. А паколькі гэтая паравіна году тут цягнецца доўга, для батаніка, праўду кажучы, застаецца мала часу. Таму рады не рады, а мусіў я займацца людзьмі.

Мяне завуць Уільям Дэвісан. Я шатландзец родам з Абердыну, але шмат год жыў у Францыі, дзе маю кар'еру ўвянчала пасада каралеўскага батаніка і дзе я апублікаваў свае найважнейшыя працы. У Польшчы пра іх амаль ніхто не ведаў, але мяне цанілі, паколькі тут некрытычна ставяцца да тых, хто прыехаў з Францыі.

Што мяне паклікала па прыкладзе Дэкарта выправіцца на край Еўропы? Цяжка было б на такое пытанне адказаць коратка і сутнасна, але паколькі гісторыя гэтая тычыцца не мяне і я толькі яе сведка, то пакіну пытанне без адказу, бо ўпэўнены, што кожнага чытача больш прыцягвае сам аповед, чым сціплая постаць таго, хто апавядае.

Мая служба ў польскага караля супала па часе з надта нядобрымі падзеямі. Падавалася, што супраць польскага каралеўства паўсталі ўсе злыя сілы. Краіну раздзірала вайна, спусташалі шведскія войскі, на ўсходзе не давалі спакою маскоўцы. Яшчэ раней на Русі паўсталі незадаволеныя сяляне. Кароль гэтай няшчаснай дзяржавы, быццам падпарадкоўваючыся нейкім таемным аналогіям, таксама пакутаваў ад незлічоных хваробаў, як ягоны край ад нападаў. Прыступы меланхоліі ён часта лекаваў віном і блізкімі стасункамі з дзявочымі целамі. Яго супярэчлівая натура ўвесь час імкнулася падарожнічаць, хаця ён няспынна паўтараў, што ненавідзіць рух і сумуе па Варшаве, дзе яго чакала каханая жонка Марыя Людавіка.

Картэж наш рухаўся з поўначы, дзе Яго Каралеўская Мосць аглядаў стан краіны і спрабаваў заключыць кааліцыю з яснавяльможнымі магнатамі. Там ужо з'явіліся маскоўскія сілы і пачалі прад'яўляць Рэчы Паспалітай свае прэтэнзіі. А калі ўзяць пад увагу шведаў, якія спусташалі край на Захадзе, то, здавалася, што ўсе цёмныя сілы змовіліся ператварыць польскую зямлю ў жахлівы тэатр ваенных дзеянняў. Для мяне гэта была першая выправа ў той дзікі край, пра што я пачаў шкадаваць, як толькі мы пакінулі прадмесці Варшавы, і каб не маё зацікаўленне філасофіяй і батанікай (а таксама – чаго ўжо хаваць – добры апанаж), я лепш бы заставаўся дома ды спакойна прысвячаў свой час даследаванням.

Ды нават у такіх цяжкіх умовах я аддаваўся навуцы. Ледзьве апынуўшыся ў гэтай краіне, я зацікавіўся пэўным феноменам, які насамрэч на свеце вядомы, але тут распаўсюджаны аж занадта, бо дастаткова

было прайсці на найбяднейшых вуліцах Варшавы, каб убачыць на галовах людзей *plica polonica* – дзіўнае ўтварэнне са скручаных валасоў у розных формах, то жмутоў, то валасянога клуба або вехаця, падобнага да бабрынага хваста. Тут лічылася, што гэты каўтун поўны добрай і злой сілы, так што яго ўладальнікі гатовыя былі хутчэй памерці, чым пазбавіцца ад яго. Прызвычаіўшыся рабіць накіды, я меў ужо шмат малюнкаў і апісанняў і намерваўся па вяртанні ў Францыю апублікаваць працу на гэтую тэму. Гэтая з'ява пад многімі назвамі вядомая па ўсёй Еўропе, і, можа, найрадзей яна сустракаецца ў Францыі, бо людзі там шмат увагі прысвячаюць свайму выгляду і няспынна ўкладаюць валасы ў фрызуры. У Нямеччыне *plica polonica* выступае пад назвай *mahrenlocke*, або *alpzopf* ці *drutenzopf*. Таксама я ведаю, што ў Даніі пра яго кажуць *marenlok* і называюць *elvish knot* ва Уэльсе ды Ангельшчыне. Калі я ехаў праз Ніжнюю Саксонію, то чуў, як такія валасы называлі *selkensteert*. У Шатландыі лічаць, што гэта старажытная фрызура колішніх еўрапейскіх паганцаў, распаўсюджаная ў друідскіх плямёнах. Таксама я чытаў, што першапачаткам *plica polonica* ў Еўропе лічыцца напад татараў у часы, калі Польшчай правіў Лешак Чорны. Яшчэ ёсць гіпотэза, быццам гэтая мода прывандравала з Індыі. Я нават сустракаў меркаванне, што першымі ўвялі звычай заплятаць валасы ў зваляныя пасмы габрэі. *Nazer*, назарэй, так казалі пра святога, які прысягаў ніколі не абразаць валасы да славы Божай. Падобная колькасць спрэчных тэорый і бяскрайняя снегавая бель прывялі да таго, што пасля разумовага атуплення мяне ўрэшце ахапіла творчая ўзнёсласць і я даследаваў *plica polonica* ў кожнай вёсцы, якую мы праязджалі.

У працах маіх мяне падтрымліваў малады Рычывольскі, вельмі здольны хлопец, які быў для мяне не толькі лёкаем і перакладчыкам, але дапамагаў праводзіць даследаванні, а таксама – не буду хаваць – быў маёй духоўнай апорай ў гэтым чужым краі.

Мы падарожнічалі конна. Сакавіцкае надвор'е нагадвала то зіму, то прадвесне, бруд на дарогах то замярзаў, то раставаў, ператвараючыся ў страшнае месіва, сапраўднае балота, і вазы з багажом на кожным кроку гразлі ў ім па самыя колы. Пранізлівы холад ператвараў нашыя постаці ў нешта падобнае да футраных цюкоў.

У гэтай балоцістай краіне, дзікай, парослай лесам, паселішчы звычайна месцяцца далёка адно ад аднаго, так што мы мусілі спыняцца на начлег пры першай магчымасці на абы-якіх занядбаных падворках; аднойчы так нападала снегу і наш ход запаволіўся, што мы нават начавалі ў карчме! Яго Вялікасць тады выступаў incognito, пад выглядам звычайнага шляхціча. На пастоях я выходжваў Яго Каралеўскую Мосць лекамі, бо вёз з сабой цэлую аптэку і мне здаралася пускаць кроў на спешна збітым ложку, а там, дзе атрымлівалася, я ладзіў каралеўскаму целу саляныя ванны.

З усіх каралеўскіх хваробаў найбольш шкодную падавалася мне тая прыдворная, якую Яго Вялікасць хутчэй за ўсё прывёз з Італіі і Францыі. Хоць відавочных прыкметаў яна не выказвала і яе лёгка было прыхаваць (прынамсі на пачатку), але наступствы бывалі вельмі небяспечнымі і падступнымі; бо было вядома, што яна магла перакінуцца ў галаву і розум памуціць. Таму, толькі прыбыўшы да двара Яго Вялікасці, я настойваў на меркурыяльнай тэрапіі, лекаванні "жывым срэбрам", што мусіць доўжыцца тры тыдні, але Яго Вялікасць ніколі не мог знайсці часу, каб ужываць

іртуць у спакойных абставінах, таму ў падарожжы такая тэрапія была малаэфектыўнай. З іншых каралеўскіх хваробаў мяне турбавала яшчэ схільнасць да падагры, хаця яе лёгка было пазбегнуць, бо пачыналася яна ад нястрымнасці ў ежы і пітве. З ёю дастаткова было змагацца постам, але ў падарожжы посціць не атрымлівалася. Такім чынам, я не шмат рабіў для Яго Каралеўскай Мосці.

Кароль накіроўваўся ў Львоў, а па дарозе сустракаўся з мясцовымі вяльможамі, просячы пра дапамогу і нагадваючы, што яны польскія падданыя, бо вернасць гэтай шляхты была сумнеўнаю, яна заўсёды шукала выгоды сабе, а не дабра для Рэчы Паспалітай. Прымалі нас добра, гасцінна, пачціва і з вялікім размахам, але часам я чуў, што некаторыя тут лічаць караля просьбітам. Дый сапраўды, што гэта за каралеўства, дзе караля абіраюць з дапамогай галасавання! Ці бачыў хто такое?

Вайна – феномен жахлівы і пякельны – нават калі бітвы не дасягаюць людскіх сялібаў, то яна ўсё адно прабіраецца паўсюль, пад кожную страху – голадам, хваробай, паўсюдным страхам. Сэрцы чалавечыя камянеюць, абыякавеюць. Змяняецца ўсё чалавечае мысленне – кожны дбае толькі пра сябе і клапоціцца, як выжыць самому. І многія пры гэтым робяцца жорсткімі і нячулымі. Колькі я ў той дарозе з Літвы да Львова нагледзеўся на зло людское, колькі гвалту, забойстваў, жорсткасці, небывалага варварства бачыў. Дашчэнту спаленыя вёскі, паўсюль панастаўленыя шыбеніцы, быццам цяслярскае майстэрства прыдатнае толькі для гэтага – будаваць прылады злачынстваў і смерці. Чалавечыя парэшткі не пахаваныя, разадраныя ваўкамі і лісамі. Тут маюць працу толькі агонь і меч. Хацелася б мне ўсё гэта забыць, бо і цяпер, калі я ўжо вярнуўся на радзіму і пішу гэтыя словы, у мяне перад вачыма ўсё паўстаюць гэтыя вобразы і я не магу іх пазбыцца.

Да нас даходзілі ўсё горшыя весткі, а лютаўская параза ваяводы Чарнецкага ў бітве са шведамі пад Галэмбем так адбілася на каралеўскім здароўі, што мы мусілі на два дні прыпыніцца, каб кароль мог спакойна прымаць воды вугорскія і піць дэкокт, каб вярнуць сабе нервовыя сілы. Выглядала так, быццам на каралеўскім целе адбівалася ўся хвароба Рэчы Паспалітай, быццам іх спалучала таямнічая роднасць. Пасля той прайгранай бітвы, нават яшчэ да таго, як дайшлі навіны, караля прыхапіла падагра з гарачкай і з такім страшным болем, што мы ледзьве здолелі справіцца.

Недзе за два дні дарогі да Луцка, мінаючы спалены пару гадоў таму татарамі Любяшоў і праязджаючы праз густыя вільготныя лясы, я зразумеў, што няма на зямлі больш жахлівай краіны і пачаў шкадаваць, што пагадзіўся на гэтае падарожжа. У мяне было глыбокае перакананне, што я не вярнуся дадому і што з-за гэтай усюдыіснай дрыгвы, з-за вільготнага лесу, нізкага неба, пакрытых тоненькім лёдам калюжынаў, якія нагадвалі раны нейкага распасцёртага на зямлі волата, усе мы, бяднейшыя ці багатаўбраныя, каралі ці жаўнеры, усе мы нішто. Мы бачылі знішчаныя агнём муры касцёла, дзе татарскія варвары замкнулі і спалілі жывымі жыхароў вёскі, лясы шыбеніц і чорныя папялішчы са спаленымі парэшткамі людзей і жывёлы. Толькі тады я напоўніцу зразумеў каралеўскую задуму дабрацца ў Львоў, каб у гэты страшны час, калі вонкавыя сілы разрываюць Рэч Паспалітую ў розныя бакі, аддаць гэты край пад апеку пашанотнай і праслаўлёнай Марыі, Хрыстовай Маці,

і такім чынам прасіць Госпада пра заступніцтва. Спачатку мне гэтае ўшанаванне Маці Божай падавалася дзіўным. Часцяком я меў уражанне, што яны тут шануюць нейкую паганскую багіню і – каб толькі мяне не палічылі блюзнерцам – сам Бог і сын Яго толькі носьбіты стужак у картэжы Марыі. Тут кожная каплічка прысвечаная Марыі, і я настолькі прызвычаіўся да яе больш ці менш выразных абразоў, што і сам пачаў нядобрымі вечарамі, калі мы, азяблыя і галодныя, спыняліся на начлег, прамаўляць ёй малітвы, спадзеючыся ў глыбіні сэрца свайго, што яна ёсць уладаркаю гэтага краю, тады як у нашым краі пануе Ісус Хрыстос. Нічога іншага не заставалася, як толькі аддаць сябе цалкам вышэйшай сіле.

У той дзень, калі з Каралём здарыўся прыступ падагры, мы спыніліся ва ўладаннях пана Гайдамовіча, луцкага падкаморага. Гэта быў драўляны маёнтак, пабудаваны на сухім пагорку пасярод балотаў, абкружаны халупамі дрывасекаў, нешматлікіх сялянаў і чэлядзі. Яго Вялікасць не вячэраў, адразу пайшоў прылегчы, але заснуць не мог, і я мусіў усыпіць яго сваімі мікстурамі.

Ранак быў такі пагодны, што ад самага золку некалькі вояў з каралеўскае світы, каб скараціць час чакання перад далейшай дарогаю, накіраваліся ў гушчар, нібы па дзічыну, і зніклі з нашых вачэй. Мы спадзяваліся на далікатную казулю або на фазанаў, але нашыя паляўнічыя прывезлі здабычу аж такую нязвыклую, што мы ўсе знямелі, уключна з сонным каралём, які ўмомант ачомаўся.

Гэта былі двое дзяцей, маленькіх і худых, апранутых убога, ды нават горш, чым убога, у нейкае груба тканае палатно, падранае і перапэцканае брудам. Валасы іх былі сплеценыя ў жмуткі, якія мяне жыва зацікавілі, бо надта ж гэта быў дасканалы прыклад *plica polonica*. Дзеці былі звязаныя і прывязаныя да сёдлаў, як казулі, і я баяўся, ці не пашкодзілі іх такім чынам, ці не паламалі тоненькіх костачак. Воі тлумачылі, што дзеці кусаліся і брыкаліся.

Калі Яго Вялікасць скончыў снедаць, а потым яшчэ зрабіў ласку ўжыць зёлкі, што давала спадзеў на выпраўленне яго настрою, я выйшаў да тых дзяцей і, спачатку загадаўшы ўмыць ім твары, разгледзеў іх зблізку, пільнуючы, аднак, каб мяне не пакусалі. Калі ацэньваць па росце, то я сказаў бы, што ім было каля чатырох і шасці гадоў, але, паглядзеўшы на зубы, я дазнаўся, што яны старэйшыя, хоць выглядаюць дробнымі. Дзяўчынка была большаю і мацнейшаю, хлопец жа мізэрнейшы, хоць бадзёры і рухавы. Але найбольш мяне зацікавіла іх скура. У яе было дзіўнае, нябачанае мною раней адценне – ці то маладога гарошка, ці то італьянскіх алівак. Валасы ж, якія каўтунамі звісалі ім на твары, былі светлыя, але нібыта пакрытыя зялёным налётам, як замшэлае каменне. Малады Рычывольскі мне сказаў, што гэтыя Зялёныя Дзеці, як мы іх адразу празвалі, відавочна ахвяры вайны, якіх прырода выгадавала ў лесе, як гэта часам можна было пачуць, – напрыклад, гісторыя Ромула і Рэма. Поле дзеяння прыроды велізарнае, нашмат большае за сціплыя палеткі чалавека.

Аднойчы Кароль у мяне запытаўся – калі мы ехалі праз палі ад Магілёва, дзе на гарызонце яшчэ дыміліся спаленыя вёскі, якія хутка захопліваў лес, – што такое прырода. Я адказаў яму, паводле майго перакanання, што прырода – гэта ўсё тое, што нас атачае, выключаючы ўсё чалавечае, гэта

значыць, нас саміх і справы нашых рук. Кароль тады паміргаў, быццам хацеў пераканацца ў тым навочна, і што ўжо там убачыў, я не ведаю, але прамовіў:

– Гэта вялікае нішто.

Я думаю, што так бачаць свет вочы, выхаваныя пры дварах, прызвычаеныя глядзець на завілую дэсань венецыянскіх тканінаў і на фантазійнае вязьмо турэцкіх дываноў, на галаваломкі з кафлі і мазаікі. А калі гэтыя вочы ўгледзяцца ва ўсю складанасць прыроды, то пабачаць там толькі хаос і гэтае вялікае нішто.

*

У выніку кожнага пажару прырода забірае назад тое, што ў яе адабраў чалавек, і смела квапіцца на самыя чалавечыя істоты, спрабучы вярнуць іх у прыродны стан. Але, гледзячы на гэтых дзяцей, варта было засумнявацца ў тым, што існуе яшчэ нейкі прыродны рай, можа, хутчэй пекла – настолькі гэтыя дзеці былі дзікія і схуднелыя. Яго Вялікасць быў нечувана імі зацікаўлены і загадаў спакаваць і далучыць да багажу, каб паехалі яны з намі ў Львоў і там былі падрабязна даследаваныя, але ўрэшце адмовіўся ад гэтай сваёй думкі, бо абставіны раптам памяняліся. Выявілася, што вялікі палец на каралеўскай назе апух так жахліва, што ў Яго Вялікасці не атрымалася нацягнуць бот. А боль скруціў яго неверагодны – я бачыў, як кроплі поту набрыньвалі на каралеўскім твары. Мяне ажно дрыжыкі прабралі, калі я пачуў, як кароль гэтай вялікай дзяржавы пачынае жаласна скуголіць. Пра ад’езд не было і гаворкі. Я паклаў Яго Вялікасць каля печы і падрыхтаваў кампрэсы, а таксама загадаў выставіць з хаты любога непажаданага сведку таго, як пакутуе Яго Каралеўская Мосць. Калі выносілі гэтых няшчасных, злоўленых у лесе і павязаных, як авечкі, дзяцей, нейкім цудам дзяўчынка вырвалася з рук служак і кінулася да шматпакутных ног Караля. Яна пачала вадзіць па іх сваімі скаўтуненымі валасамі. Валадар, бязмерна ўражаны, жэстам загадаў, каб ёй дазволілі працягваць. Яго Вялікасць быў здзіўлены і знявераны, але праз хвіліну пацвердзіў, што боль зрабіўся меншы, і загадаў, каб дзяцей добра накармілі і апранулі ўрэшце як людзей, што і было зроблена. Але ж, калі мы пакавалі багаж і калі я працягнуў руку да хлопца, каб так, нявінна, пагладзіць яго па галаве, як гэта робяць дзецям у кожнай краіне, то быў укушаны ў запясце так моцна, што нават кроў пайшла. Таму я, баючыся якога шаленства, адышоў прамыць ранку. І там, ля вады, на слізкім і гразкім беразе сталася так, што я фатальна паслізнуўся і, падаючы, ударыўся ўсім целам аб драўляны масток, ажно складзенае побач бярвенне ў момант рухнула на мяне, і я адчуў у назе страшны боль, які прымусіў мяне завыць зверам. Я паспеў яшчэ падумаць, што ўсё вельмі дрэнна. А потым самлеў.

Ачуняў я ад таго, што мяне паляпваў па твары малады Рычывольскі. Над сабой убачыў столь пакоя ў маёнтку і заклапочаныя твары, між імі і твар Яго Вялікасці – усе яны былі дзіўна выцягнутыя, нярэзкія. Я за адну хвілю зразумеў, што ў мяне гарачка і што я быў непрытомны вельмі доўга.

– Напрамілы Бог, Дэвісан, што ты з сабой зрабіў? – заклапочана сказаў Яго Вялікасць, нахіляючыся нада мной. Накручаныя кудзеры яго дарожнага парыка дакрануліся да маіх грудзей, і падалося, што мне баліць

нават ад такога далікатнага дотыку. Галава была поўная болю, але нават у такі момант ад маёй увагі не схавалася, што твар Яго каралеўскай Мосці распагодзіўся, кроплі поту на ім высахлі і што кароль стаіць перада мной у ботах.

– Мы павінны выпраўляцца ў дарогу, Дэвісан, – сказаў ён мне засмучана.

– Без мяне? – з жахам застагнаў я, увесь калоцячыся ад болю і страху, што мяне пакінуць тут.

– Я адразу вышлю табе найлепшага лекара.

Я завыў, больш ад роспачы, чым ад фізічных пакутаў.

Са слязьмі я развітаўся з Яго Вялікасцю, і картэж рушыў далей. Без мяне! Са мной пакінулі маладога Рычывольскага (чым суцішылі прынамсі частку майго болю) і аддалі нас пад апеку падкаморага Гайдамовіча. І, відаць, дзеля нашай забавы ў маёнтку пакінулі Зялёных Дзяцей – можа, каб быў занятак, пакуль да мяне не прыедзе паратунак.

Выявілася, што мая нага зламаная ў двух месцах і да таго ж – вельмі складаным чынам. У адным месцы косткі прабілі скуру, і неабходная была вялікае ўмельства, каб іх скласці. Сам сабой я не мог заняцца, бо адразу ж млеў, хаця і чуў пра тых, хто сам сабе рабіў нават ампутацыю. Яшчэ да таго, як ад’ехаць, Кароль выправіў пасланца па найлепшага лекара ў Львоў, але я дапускаў, што мусіла прайсці мінімум два тыдні, пакуль ён сюды трапіць. Тымчасам, нагу трэба было як найхутчэй скласці, бо калі б у гэтым вільготным клімаце ў ране пачалася гангрэна, то я ніколі больш не ўбачыў бы французскі двор, на які так сварыўся, але які цяпер, у крытычную хвіліну, падаваўся мне цэнтрам сапраўднага свету, страчаным раем і найчароўнейшым з маіх сноў. І я не ўбачыў бы больш узгоркаў Шатландыі...

Колькі дзён я сам складаў сабе лекі ад болю, тыя самыя, якія даваў каралю ад падагры. З Львова ўрэшце прыбыў абяцаны пасланец, але без лекара, бо той быў забіты па дарозе бандай татараў, якіх на гэтых землях паляндравала вялікае мноства. Ён толькі запэўніў нас, што хутка прыедзе іншы медык. Таксама расказаў нам пра зарок, які кароль, шчасліва дабраўшыся да Львова, урачыста даў у львоўскай кафедры, аддаючы Рэч Паспалітую Маці Божай пад апёку ад шведаў, маскалёў, Хмяльніцкага і ўсіх, хто накінуўся на Польшчу, як ваўкі на кульгавую казулю. Я разумеў, што ў Яго Вялікасці безліч клопатаў, і тым больш мне было прыемна, што з пасланцом прыбыла дыхтоўная акавіта, некалькі бутэлек рэйнскага, футравая коўдра і французскае мыла – апошнім я быў усцешаны найбольш.

Я думаю, што свет збудаваны ў выглядзе колаў, якія пачынаюцца ад канкрэтнага месца. І што гэтае адзінае месца, называнае сярэдзінай свету, з часам змяняецца – ім ужо былі Рым і Ерусалім, а цяпер, бясспрэчна, гэта Францыя і Парыж. І можна, як цыркулем, маляваць колы ад яго. Прынцып просты – чым бліжэй да сярэдзіны, тым больш усё выглядае сапраўдным і адчувальным, чым далей, тым больш свет быццам бы распадаецца, як сатлелае ад вільгаці палатно. І яшчэ тая сярэдзіна свету як бы трохі больш прыўзнятая, так што ідэі, моды, вынаходніцтвы, – усё з яго скочваецца і сцякае ва ўсе бакі. Спачатку яно ўсмоктваецца блізкімі коламі, і самых дальніх месцаў дасягае толькі малая частка. Я ўсвядоміў гэта, лежачы ў маёнтку падкаморага Гайдамовіча, недзе сярод балота і дакладна ў апошнім з кругоў, далёка ад цэнтру, ад свету, самотны, як

выгнаннік Авідый. І ў гарачцы мроілася мне, што, як Дантэ сваю *Divina Commedia*, я таксама мог бы напісаць вялікі твор пра колы Еўропы, і кожны з іх змагаўся б са сваім грахом і сваёй карай быў бы караны. Гэта была сапраўды вялікая камедыя прыхаваных гульняў, разбітых саюзаў, камедыя, ролі ў якой змяняюцца ў ходзе спектаклю і да канца не ясна, *qui pro quo*. Аповед пра манію велічы адных, пра абыякавасць і фанабэрыю другіх, пра адвагу і самаахвярнасць трэціх, хоць, можа, іх і больш, чым здаецца. Герояў, якія дзейнічаюць на гэтай сцэне, называнай Еўропай, яднала б зусім не рэлігія, як хацелі некаторыя, – бо рэлігія хутчэй раздзяляе, гэта цяжка не прызнаць, калі звярнуць увагу на колькасць трупаў, што толькі павялічвалася з-за рэлігіі, як, напрыклад, у войнах, якія вяліся ў цяперашні час. У гэтай камедыі іх злучала штосьці іншае – бо фінал яе мусіў быць шчаслівы і ўдалы – вера ў цвярозы розум і сэнс у гэтай вялікай боскай справе. Бог даў нам пачуцці і розум, каб з яго дапамогай свет даследаваць і веды свае памнажаць. Еўропа там, дзе дзейнічае розум.

Такія думкі віравалі ў маёй галаве ў найсвятлейшыя хвіліны. Наступныя дні я правёў у гарачцы, а калі львоўскі лекар так і не з'явіўся, мае гаспадары з дазволу маладога Рычывольскага, які ўзяў на сябе адказнасць за маю апеку, паслалі на балоты па нейкую кабету. Яна з'явілася са сваім нямым памочнікам і, уліўшы ў мяне бутэльку акавіты, нагу мне выправіла і склала ў ёй паламаныя косткі. Усё гэта мне потым усхвалявана расказаў мой малады таварыш, бо я сам нічога гэтага не памятаў.

Калі я ачуняў, сонца стаяла ўжо высока. Хутка надышоў Вялікдзень. У Гайдамовічах з'явіўся ксёндз, каб у каплічцы пры маёнтку справіць святочную імшу, і пры гэтай аказіі ахрысціў Зялёных Дзяцей, пра што захоплена расказаў мне мой сябра, дадаўшы, як у маёнтку ўжо пляткарылі, што на мне іх сурокі, яны да няшчасця і давялі. У такую лухту я не верыў і забараніў яе паўтараць.

Аднойчы вечарам Рычывольскі прывёў да мяне тую дзяўчынку, яна была ўжо чыстая, прыстойна апранутая і абсалютна спакойная. І загадаў ёй, з майго дазволу, тымі сваімі скаўтуненымі патламі нацерці маю хворую нагу, як раней яна рабіла Каралю. Я шыпеў ад болю, бо мне балела нават ад гэтага дотыку валасоў да скуры, але гераічна трымаўся, пакуль боль паволі не зменшыўся і апухласць нібы апала. Яна так націрала мае ногі яшчэ тры разы.

Праз некалькі дзён, калі зрабілася па-вясноваму цёпла, я паспрабаваў падняцца. Мыліцы, якія мне тут змайстравалі, былі вельмі зручнымі, таму я дайшоў да ганка і там, ссумаваўшыся па святле і паветры, правёў папоўдне. Я разглядаў мітусню падзаняпалай гаспадаркі падкаморага. Маёнтак быў насамрэч багаты і вялікі, але стайні і стадолы, падавалася, паходзілі з яшчэ далейшага кола цывілізацыі. Я з сумам усвядоміў, што захрас тут на доўгі час і павінен знайсці сабе нейкую мэту і занятак, каб перажыць гэтае выгнанне, каб не ўпасці ў меланхолію ў тым вільготным, багнавым краі і мець спадзяванне, што добры Бог дазволіць мне вярнуцца калі-небудзь у Францыю.

Рычывольскі прыводзіў да мяне тых дзікіх дзяцей, якіх Гайдамовічы прыгарнулі, не ведаючы, што з імі рабіць у гэтай глухмені і ў часе вайны, а, можа, спадзеючыся, што, Каралеўская Вялікасць згадае пра іх.

Дзяцей замыкалі на ключ на першым паверсе лямуса, дзе захоўвалася мноства непатрэбных і патрэбных рэчаў. А паколькі яго сцены былі збітыя з дошак, дзеці праз шчыліны цікавалі за намі. Патрэбы свае яны спраўлялі на кукішках пад домам, прагна елі рукамі, але мяса знаць не хацелі і выплёўвалі. Не ведалі ані лыжак, ані міскі з вадой. Напужаныя, падалі на калені і спрабавалі кусацца, а скораныя, замыкаліся ў сабе і на доўгі час нерухомелі. Між сабой разумеліся хрыплымі гукамі, а як толькі прабівалася сонца, скідалі з сябе адзенне і падстаўлялі целы пад яго прамяні.

Малады Рычывольскі палічыў, што для мяне гэтыя дзеці будуць суцяшэннем і заняткам, бо я, як вучоны, магу іх даследаваць і апісваць, і гэта дапаможа не думаць увесь час пра зламаную нагу.

І ён меў рацыю. Відавочна, маленькія дзівакі адчувалі нешта накшталт скрухі, гледзячы на маю забінтаваную пасля ўкусу руку і на нагу, нерухома замацаваную ў лубках. Дзяўчынка з часам пачала мне давяраць і аднойчы дазволіла сябе пільна агледзець. Мы сядзелі на сонцы каля разагрэтых драўляных сценаў лямуса. Прырода ажыла; знікаў паўсюдны пах вільгаці. Я далікатна павярнуў твар дзяўчынкі да святла і ўзяў у рукі некалькі пасмачак яе валасоў – яны падаваліся цёплымі, ваўнянымі; панюхаўшы, я адчуў, што яны пахнуць мохам; выглядала, быццам на іх прарос нейкі лішайнік. Яе скура, калі разглядаць зблізу, таксама была нібыта ўсыпаная нейкімі маленькімі цёмна-зялёнымі кропачкамі, якія я спачатку палічыў за бруд. Тое вельмі здзівіла нас з Рычывольскім – мы прызналі, што ў гэтым ёсць нешта расліннае. Мы падазравалі, што яна таму распранаецца на сонцы, бо, як кожная расліна патрабуе сонечнага святла, так і яна жывіцца праз скуру, і таму ёй дастаткова толькі крошак хлеба. Зрэшты, яе ўжо назвалі Сяродка – імя, якое мне цяжка вымавіць, але прыгожае ў гучанні. Яно азначала мякіш хлеба, а таксама таго, хто выядае сярэдзінку ў лусце, пакінуўшы няз'едзенай скарынку.

Усё больш зацікаўлены Зялёнымі Дзецьмі Рычывольскі сказаў мне, што чуў, як дзяўчынка спявае. Што праўда, як вынікала з яго водгуку, гэта нагадвала хутчэй вуркатанне; але гэта значыла, што іх горлы функцыянуюць нармальна, а адсутнасць мовы – праблема іншага паходжання. Таксама я пераканаўся, што будовай цела яны нічым не адрозніваюцца ад звычайных дзяцей.

– А можа, гэта нейкія польскія эльфы? – пажартаваў я аднойчы. Малады Рычывольскі аж жахнуўся, што я лічу яго дзікуном; маўляў, ён у такія рэчы не верыць.

У насельнікаў дому былі розныя меркаванні, што рабіць з *plica polonica*, які называюць тут каўтуном. А гэты ж яшчэ і зялёны! Паўсюдна лічылася, што гэта праява нейкай унутранай хваробы, а каўтун выцягвае яе вонкі. І калі яго зрэзаць, хвароба вяртаецца ў цела і забівае яго гаспадара. Іншыя ж, той жа падкаморы Гайдамовіч, – які лічыўся чалавекам свецкім, – сцвярджалі, што яго варта зрэзаць, бо гэта прытулак для вошай.

Ён нават загадаў прынесці нажніцы для стрыжкі авечак і абрэзаць дзецям іх зяленаваныя патлы. Напужаны хлопчык схаваўся за сястрой (я дапускаю, што гэта была ягоная сястра), а дзяўчынка выявілася смелай, нават рызыкоўнаю, яна зрабіла крок наперад, запытальна ўперыла ў падкаморага вочы і не адвярнулася, пакуль ён не сумеўся. Адначасова з ейнага горла даносілася амаль звярынае бурчэнне, з-пад паўраскрытых

вуснаў шчэрыліся зубы. Была ў яе поглядзе нейкая іншасць, быццам яна не ведала нашых парадкаў і глядзела на нас так, як глядзяць звяры, – трохі наскрозь. І была там нечаканая дарослая ўпэўненасць у сваіх сілах, на момант я ўбачыў у ёй не дзіця, а скурчаную старую бабу. У нас ва ўсіх прабеглі па скуры мурашкі, і падкаморы загадаў адступіцца ад стрыжкі.

На жаль, праз нейкі час пасля іх хрышчэння ў драўляным касцёльчыку, падобным да катуха, здарылася так, што хлопчык ноччу захварэў і, на вялікі жах, нечакана памёр, што ўся абслуга палічыла знакам яго д'ябальскасці – каго ж, як не чорта, магла забіць свянцоная вада! А што не адразу? – Дык зло змагалася за сваё... *Summa summarum* прызналі, што ў справу Зялёных Дзяцей умяшаліся вышэйшыя сілы.

Менавіта ў той дзень балоты вакол маёнтка выбухнулі дзіўнымі гукамі: ці то птаства, ці то жабы – рыхтык жалобны аркестр. Маленькае дзіцячае цельца памылі, апранулі і паклалі на мары. Вакол паставілі грамнічныя свечкі. Мне як лекару дазволілі пры такой аказіі даследаваць цела яшчэ раз, і маё сэрца сціснулася на хвіліну пры выглядзе гэткага скарбу. Толькі ўбачыўшы яго голага, я разгледзеў у ім дзіця, а не нейкае дзіва, і падумаў, што гэтае дзіця, як і кожнае жывое стварэнне, мусіць мець маці і бацьку, а дзе яны цяпер? Ці сумуюць? Ці непакояцца?

Хутка апанаваўшы гэты няварты медыка стан афекту, я пасля падрабязнага вывучэння дазнаўся, што дзіця відавочна прастыла ад занадта ранняга купання ў халоднай вадзе, праз што і прыйшла па яго смерць. Таксама адзначыў, што ў ім няма нічога дзіўнага, акрамя гэтага колеру скуры, які я прыпісаў доўгаму знаходжанню ў лесе сярод прыродных стыхій. Скура, відаць, прыпадобнілася да навакольнага асяроддзя, як крылы некаторых птушак робяцца падобнымі да кары дрэваў, а конікі – да травы, бо прырода поўная такіх адпаведнасцяў. І так была створаная, каб на кожную хворасць існаваў натуральны лек. Так пісаў майстра, з якога я бяру прыклад, вялікі Парацэльс, і цяпер я тое ж самае паўтараў маладому Рычывольскаму.

Але ў першую ж пасля смерці ноч цела знікла. Аказалася, што жанчыны, якія сядзелі над целам, ачмураныя дымам з кадзіла, адышлі і апоўначы палеглі спаць, а калі падняліся на світанку, дзіця знікла. Нас пабудзілі, ва ўсім маёнтку пазапальвалі святло, жах і адчуванне пагрозы ахапілі ўсіх. Абслуга адразу разнесла вестку, што маленькі зялёны чорт з дапамогай нейкай магічнай сілы толькі рабіў выгляд мёртвага, а калі нікога не было каля мараў, ажыў і вярнуўся да сваіх у лес. А яшчэ некаторыя казалі, што ён можа адпомсціць за няволю, таму пачалі замыкаць усе дзверы – запанаваў вялікі неспакой, як быццам нам пагражаў напад татараў. Мы замкнулі на чатыры засаўкі Сяродку, дзіўна абыякавую, брудную, у падранай вопратцы, што кідала на яе пэўныя падазрэнні. З маладым Рычывольскім мы старанна вывучылі ўсе сляды: у самім пакоі на падлозе было некалькі пісягоў, быццам бы цягнулі цела, а вонкі паніка ўзяла сваё і нічога дазнацца было немагчыма – усё затапталі. Пахаванне адмянілі, мары прыбралі, грамнічныя свечкі схавалі ў куфар, дзе яны мусілі чакаць наступнай аказіі. Абы яна не надышла хутка! Некалькі дзён мы жылі ў маёнтку, як у аблозе, але гэтым разам намі авалодаў не страх праз туркаў ці маскалёў, а нейкі дзіўны перапуд, лісцяна-зялёны, ад яго пахла балотам і лішайнікам. Ліпкі, невымоўны перапуд, які каламуціў нам думкі

і накіроўваў іх да папарацяў, да бяздоннай багны. Жамяра, здавалася, цікавала за намі, а таямнічыя гукі з лесу мы ўспрымалі як заклікі і лямант. І ўсе, і абслуга і гаспадары, сабраліся ў галоўным пакоі, называным тут “святліцай”, без апетыту з’ядалі сціплую вячэру і пілі акавіту, але не для радасці, а ад страху і смутку.

Вясна раптам выкараскалася з навакольных лясоў і разлілася па балотах так, што хутка яны зажаўцелі ад кветак на тоўстых сцяблінах, вадзяных лілеяў неверагодных формаў ды колераў і ад іншых вадзяных раслін з вялікім лісцем, назваў якіх я не ведаў, што ўвагнала мяне ў сорам, бо перадусім я батанік. Малады Рычывольскі рабіў, што мог, каб забяспечыць мяне забавамі, але што ж ён мог? У нас не было тут кніг, а невялікі запас паперы і атраманту дазваляў мне толькі замалёўваць расліны. Таму ўсё часцей мой погляд прыцягвала гэтая дзяўчынка Сяродка, якая цяпер, застаўшыся без брата, пачала цягнуцца да нас. Яна асабліва прывязалася да маладога Рычывольскага, хадзіла за ім, і я нават пачаў падазраваць, што недааценіў яе ўзрост. Таму спрабаваў выглядзець нейкія прыкметы ранняй жаноцкасці, але цела ў яе было дзіцячае, худое, без аніякіх акругласцяў. Хоць Гайдамовічы далі ёй прыстойную апранаху і боцікі, але яна, як толькі выходзіла з дому, асцярожна здымала з сябе ўсё і старанна складала пад сцяной. Хутка мы пачалі вучыць Сяродку размаўляць і чытаць. Я маляваў ёй звяркоў і паказваў, спадзеючыся, што яна падасць голас. Яна ўважліва глядзела на тое, што мы робім, але ў мяне было ўражанне, што яе погляд слізгае па паверхні аркуша, не кранаючы малюнка. Калі яна брала ў рукі вугельчык, то магла накрэсліць ім на паперы колца, але ёй хутка надакучвала.

Тут я павінен некалькі словаў сказаць пра маладога Рычывольскага, якога звалі Фелікс, і імя гэтае яго добра характарызавала, бо гэта быў чалавек шчаслівы ў любых абставінах, заўсёды з добрым настроем, поўны добрых жаданняў, нягледзячы на тое, што з ім здарылася. А здарылася з ім тое, што ўсю яго сям’ю маскалі пад корань высеклі, бацьку жывот распароўшы, а сясцёр і маці жахліва згвалціўшы. Як ён здолеў пасля ўсяго гэтага застацца са здаровым глуздам, не разумею, бо ён ніколі і слязінкі не праліў і ніякай меланхоліі не паддаваўся. Ён ужо шмат чаму ад мяне навучыўся, і не прайшлі дарма намаганні Яго Вялікасці прыстроіць яго пры добрым – калі можна так пра сябе казаць – настаўніку. Гэты чалавек, невысокай лёгкай паставы, спрытны, светлы і блакітнавокі, меў бы шансы на вялікую кар’еру, калі б не здарылася тая падзея, якую я зараз апішу. А тым часам гэты малады Рычывольскі, яшчэ больш, чым я – ацяжэлы ад польскай кухні і не здольны хадзіць далей, чым на падворак, – цікавіўся феноменам *plica polonica*, які тут, у Гайдамовічах, зліўся ў адно з Сяродкай.

Летам, у ліпеньскую спёку, мы даведаліся з лістоў, што Варшава была адбіта ў шведаў, і я ўжо марыў, што ўсё вернецца да колішняй завядзёнкі, а я настолькі акрыяю, што буду здольны далучыцца да Яго Каралеўскай Мосці і заняцца яго падаграй. Пакуль што аб падарваным здароўі Яго Вялікасці клапаціўся іншы лекар, што выклікала ў мяне непакой, бо мой метад лекавання “жывым срэбрам” быў яшчэ мала вядомы. Лекарскае мастацтва і практыка ў Польшчы – недакладная, дактары нічога не ведаюць

пра тое, што было вынайдзена ў анатоміі і хіміі ў нядаўнія часы, яны карыстаюцца нейкімі старымі спосабамі, набліжанымі да народнай мудрасці, а не да вынікаў цярплівых даследаванняў. Але я быў бы несумленны, каб прыхаваў сваё перакананне, што нават пры найлепшым двары Людовіка мала хто з медыкаў не ёсць *de facto* шарлатанам, які спасылаецца на высмактаныя з пальца адкрыцці і даследаванні.

На жаль, мая нага зрасталася дрэнна і я ўсё яшчэ не мог на яе ступаць. Да мяне прыходзіла тая "бабка" або "шаптуха", як яе тут называлі, і націрала мае азызлыя мышцы нейкай смярдзючай карычневай вадкасцю. На пачатку жніўня да нас дайшла сумная навіна, што шведы зноў захапілі Варшаву і неміласэрна яе рабуюць. Я думаў пра сваю фартуну, бо я магу тут, на гэтых балотах, вяртацца да здароўя і, можа быць, Бог вызначыў гэты час, каб я заставаўся ў бяспецы? Схаваў мяне ад гвалту, вайны і чалавечага шаленства?

Праз пару дзён па святым Хрыстафоры, дзень якога на балотах адзначаецца ўрачыста – што зразумела, бо гэты святы перанёс малога Ісуса праз ваду на сухі бераг – мы першы раз пачулі голас Сяродкі. Спачатку яна прамовіла да маладога Рычывольскага, а калі той здзівіўся, чаму яна да гэтага часу не размаўляла, адказала, што яе ніхто ні пра што не пытаў, што насамрэч было праўдай, бо мы адразу вырашылі, што гаварыць яна не можа. Я вельмі шкадаваў, што слаба ведаю польскую, бо адразу б распытаў яе, але і Рычывольскі не вельмі добра яе разумеў, бо казала яна нейкай тутэйшай русінскай гаворкай... Вымаўляла паасобныя словы і ўпервала ў нас погляд, быццам даследавала іх моц або патрабавала ад нас пацверджання. У яе быў голас, які ёй не пасаваў – нізкі, амаль мужчынскі; гэта быў зусім не голас маленькай дзяўчынкі. Калі яна паказвала пальцам і прамаўляла "дрэва", "неба", "вада" – то мне рабілася непамысна, бо гэта гучала, быццам словы, што азначалі гэтыя простыя *elementa*, даляталі аднекуль з тагасвецця.

Лета было ў самым разгары. Балоты высахлі, але ніхто з гэтага асабліва не цешыўся, бо яны зрабіліся праезнымі для ўсіх, дзеля чаго Гайдамовічы асуджаныя былі на бесперапынныя напады раззадораных няспыннай вайной галетнікаў і злыдняў. Аднойчы напалі маскалі; Гайдамовіч мусіў з імі дамаўляцца і плаціць выкуп. Іншым разам мы адбілі атаку банды вайсковых марадзёраў, цяжка было зразумець, хто за каго і на якім баку. Малады Рычывольскі схапіўся за зброю і застрэліў некалькіх, што палічылі за вялікае геройства.

Я ў кожным прышлым выглядаў пасланца з Варшавы, жадаючы, каб Яго Вялікасць забраў мяне да сябе, але нічога не адбывалася, бо працягвалася вайна і Кароль мужна кіраваўся за войскам, напэўна, забыўшы пра свайго іншаземнага лекара. Я марыў, што і без паклікання рушу ў дарогу, нягледзячы на тое, што сам не магу на каня сесці, а на гэтай бездаражы ніводная калымага не не зможа мяне правезці. Занураны ў гэтыя сумныя думкі, я глядзеў са сваёй лавачкі, як вакол Сяродкі збіраліся ўсе маладзенькія служкі з маёнтка, сялянскія дзеці, а часам і паніч з панначкамі Гайдамовічаў – і ўсе слухалі яе балбатню.

– Што яны там абмяркоўваюць? Пра што гавораць? – пытаўся я ў Рычывольскага. Той спачатку падслухоўваў, а тады ўжо відавочна падсядаў да гэтай дзіўнай групы. І потым ўсё мне расказваў, калі перад сном сваімі

далікатнымі рукамі ўціраў мне ў шнары шаптухіну смярдзючую мазь, якая вельмі мне памагала.

– Яна ім кажа, што там ў лесе, далёка за балотамі, ёсць краіна, дзе месяц свеціць роўным ззяннем разам з сонцам, цямнейшым за нашае. – Яго пальцы далікатна гладзілі маю бедную скуру, каб потым трохі папрыцiскаць маё сцягно, каб разагнаць у ім кроў. – У краіне гэтай людзі жывуць на дрэвах і спяць у дуплах. На працягу месяцовага дня яны залазяць на самыя вершаліны дрэваў і там выстаўляюць голыя целы пад месяц, ад чаго іх скура робіцца зялёнаю. Дзякуючы гэтаму святлу, ім не трэба шмат есці і дастаткова лясных ягад, грыбоў і арэхаў. І паколькі ім там не трэба зямлю апрацоўваць і хаты будаваць, любую працу яны выконваюць толькі для прыемнасці. Там няма ніякіх уладароў і гаспадароў, няма ані сялян, ані князёў. Калі ім трэба штосьці зрабіць, то збіраюцца на адным дрэве і раяцца, а потым робяць тое, пра што дамовіліся. Як хто ад іх сыдзе, то яго пакідаюць у спакоі і не звяртаюць увагі – і так вернецца. Калі хто каго пакахае, то застаецца з ім на нейкі час, а калі пачуццё пройдзе – то сыходзіць да кагосьці іншага. Ад гэтага бяруцца дзеці, а калі такое народзіцца, то бацькамі яму ёсць усе і ўсе ахвотна такім дзіцём апекуюцца. Часам, калі яны забіраюцца на самае высокае дрэва, то ў далечыні бачаць наш свет, дымы спаленых вёсак, і чуюць носам смурод спаленых целаў. Тады яны хутка хаваюцца ў лісці і не жадаюць паскудзіць сабе вачэй гэтымі відамі і псаваць носы такімі пахамі. Зыркасць нашага свету выклікае ў іх агіду і адмаўленне. Яны ўяўляюць яго пэўным міражом, бо яшчэ ніколі ніякія татары або маскалі да іх не дабіраліся. Яны думаюць, што мы нерэальныя, што мы – гэта кепскі сон.

Аднойчы Рычывольскі спытаў Сяродку, ці ёсць там Бог.

– А што такое Бог? – адказала яна пытаннем.

Усім гэта падалося дзіўным, але, здаецца, і прываблівым, быццам бы жыццё без усведамлення існавання Бога было б прасцейшым і ўжо не трэба было задаваць сабе пакутлівае пытанне – як гэта Бог дазваляе такія вялікія пакуты сваіх стварэнняў, калі ён добры, міласэрны і ўсемагутны?

Аднойчы я загадаў спытаць, што гэты зялёны народ робіць узімку. І ў той самы вечар Рычывольскі прынёс мне адказ і, размінаючы маё беднае сцягно, распавёў, што яны ўвогуле зімы не заўважаюць, бо, як толькі надыходзяць першыя халады, яны збіраюцца ў самым вялікім дупле самага вялікага дрэва і там, прытуліўшыся адно да аднаго, як мышы, засынаюць і спяць. Яны паволі абрастаюць цёплым мохам, які бароніць іх ад холаду, а ўваход ў дупло зарастае вялікімі грыбамі, так што звонку іх не бачна. А сны іх маюць такую ўласцівасць, што яны агульныя, гэта значыць, што калі хтосьці бачыць сон, то іншы быццам "бачыць" тое ж у сваёй галаве. Такім чынам яны ніколі не нудзяцца. На працягу зімы яны вельмі худнеюць, таму, калі ўзыходзіць першы цёплы вясновы месяц, усе залазяць на вершаліны дрэваў і там цэлымі днямі выстаўляюць пад ягоны свет бледныя целы, пакуль не зазелянеюць здаровым колерам. Таксама ў іх ёсць свой спосаб паразумення са звярамі, а паколькі яны не ядуць мяса і не палююць, звяры сябруюць з імі і дапамагаюць ім. Здаецца, звяры нават апавядаюць ім свае звярыныя гісторыі, ад чаго яны самі робяцца больш мудрымі і лепш разумеюць прыроду.

Усё гэта падалося мне народнымі казачкамі, я нават задумаўся, а ці не

прыдумляе ўсе гэтыя рэчы сам Рычывольскі, таму аднойчы з дапамогай служкі сам падкраўся, каб іх паслухаць, і мушу прызнацца, што дзяўчынка казала цалкам свабодна і смела, а ўсе яе моўчкі слухалі. Аднойчы я папрасіў спытаць яе пра смерць. Потым Рычывольскі пераказаў мне так:

– Яны лічаць сябе пладамі. Чалавек – гэта плод, кажуць яны, і яго з'ядаюць звяры. Таму сваіх памерлых яны прывязваюць высока да галінаў і чакаюць, пакуль іх не з'ядуць птушкі і лясныя жывёліны.

У сярэдзіне жніўня, калі балоты высахлі, а дарогі зацвярдзелі, у Гайдамовічах з'явіўся нарэшце так доўга мною чаканы пасланец ад караля. Ён прыбыў са зручнай карэтай, некалькімі воямі, рознымі лістамі і дарункамі для мяне: там была новая адзежа і добрыя напоі. Мяне так узрушыла каралеўская шчодрадайнасць, што я расплакаўся. І радасць мая была вялікаю, бо праз некалькі дзён мы мусілі вяртацца ў свет. Кульгаючы, я раз-пораз падскокваў і расцалоўваў Рычывольскага, бо мне ўжо хапіла гэтага схаванага ў лясах маёнтка, гэтай лістоты, мух, павукоў, чарвякоў, жаб, жукоў усялякіх, пахаў мулу і вільгаці, гэтага густога дурманлівага водару зяляніны. Мяне ўсё гэта ўжо гідзіла. Працу пра *plica polonica* я напісаў і меркаваў, што гэтым моцна падарваў у яго веру. Таксама я апісаў некалькі тутэйшых раслін. Што тут мне яшчэ рабіць?

Але малады Рычывольскі не быў, так як я, задаволены набліжэннем дня ад'езду. Ен паводзіўся неспакойна, недзе знікаў, а вечарамі толькі паведамляў мне, што ідзе пад ліпу размаўляць, кажучы пры гэтым, што займаецца сваімі ўласнымі даследаваннямі. Я мусіў штосьці падазраваць, але быў настолькі задураны ад'ездам, што нічога не чакаў.

Поўня прыпала на канец жніўня, а я заўсёды дрэнна сплю падчас поўні. Месяц уздымаўся над лясамі і балотамі такі вялікі, што мог выклікаць жах. Гэта была адна з апошніх начэй перад выездам – хоць цэлы дзень я пакаваў свае гербарыі і адчуваў стому, цяпер, не ў стане заснуць, я варочаўся з боку на бок. І мне здавалася, што недзе ў доме чуваць нейкія шэпты, тупат дробных ног і асцярожнае грукатанне дзвярных завесаў. Я думаў, што гэта нейкія амарокі, але ранкам выявілася, што ўсе дзеці і моладзь бясследна зніклі з маёнтка, а таксама дзеці падкаморага, чатыры дзяўчынкі і хлопец – разам іх было трыццаць чатыры, увесь маладняк гэтага паселішча; засталіся толькі немаўляты ля мамчыных грудзей. Таксама знік мой прыўкрасны малады Рычывольскі, якога я ўжо проста бачыў побач са мной пры французскім двары.

Гэта быў судны дзень у Гайдамовічах, жаночы лямант узносіўся да нябёсаў, мужчыны, думаючы, што гэта справункі татараў, якія, як вядома, бяруць дзяцей у ясыр, вастрылі косы, сярпы і мячы, каб апоўдні рушыць згуртаваным атрадам на пошукі зніклых. Нічога не знайшлі. Пад вечар парабкі знайшлі ў лесе, зусім недалёка ад маёнтка, струпянелае дзіцячае цела, змешчанае высока на дрэве, пасля чаго падняўся страшны крык, бо ўсе па саване пазналі, што гэта быў той Зялёны Хлопец, які памёр вясной. Цяпер ад яго засталося нямнога, бо птушкі зрабілі сваё.

З паселішча знікла ўсё свежае і маладое – і знікла будучыня. Лес стаў мурам вакол Гайдамовічаў, быццам быў войскам наймагутнейшага на ўсёй зямлі каралеўства і быццам менавіта цяпер яго герольды абвяшчалі адступленне. Куды? У апошняе, бясконцай велічыні, кола свету, па-за засень лістоты, па-за плямы святла, у вечны цень.

Я чакаў вяртання маладога Рычывольскага яшчэ тры дні і ўрэшце пакінуў яму ліст: “Калі ты вернешся, дзе б я ні быў, прыедзь да мяне”. Пасля тых трох дзён усе ў Гайдамовічах зразумелі, што дзяцей ужо не знайсці, што яны пайшлі ў месяцовы свет. Я плакаў, калі каралеўская карэта рушыла, але не ад болю ў зламанайназе, а ад нейкай глыбокай ўзрушанасці. Я пакідаў гэтае апошняе кола свету, яго падмерзлыя вільготныя межы, яго нідзе не запісаны боль, яго няпэўныя размытыя далягляды, за якімі ўжо толькі Вялікае Нішто. І зноў я накіроўваўся ў цэнтр, туды, дзе ўсё адразу набывае сэнс ды складаецца ў злучанае цэлае. І цяпер я старанна запісваю тое, што ўбачыў на гэтых межах, нічога не дадаючы, нічога не памяншаючы; і разлічваю, што Чытач дапаможа мне зразумець, што там тады здарылася, бо перыферыі свету назаўсёды надзяляюць нас таямнічай немаччу.



Валянцін Акудовіч



...у пакліканні Беларуссю

заўсёды ёсць нешта містычнае...

# Беларускі калегіюм

### *З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"*

*Працяг. Пачатак у №№95-99, 101-102.*

Было лета 1997 года. Канец ліпеня. Мы з Ігарам Бабковым плылі па зарослай рачулцы. Наперадзе сярод густых чаратоў згубіліся яшчэ дзве байдаркі. Цішыня і трохі млява. Раптам Ігар ачнуўся.

– Валянцін, вы будзеце выкладаць у Беларускім калегіюме!

Я спачатку нічога не зразумеў, а потым, блазнавата рагатнуў.

Устаноўчы сход Калегіюма адбыўся яшчэ вясной. Там і было вырашана, што заняткі пачнуцца ў кастрычніку. Кіраўніком быў прызначаны Алесь Анціпенка, а Ігар ачоліў адно з аддзяленняў.

Паколькі на той час мы ўжо добра прысябраваліся, то я ведаў, як рыхтуецца гэтая не абы якая падзея. Але і думаць не думаў, каб неяк да яе прылучыцца – хіба адно вартаўніком? І ўжо ні ў якім разе не выкладчыкам.

Рэч у тым, што я панічна баяўся катэдры, бо трохі працаваў выкладчыкам у Беларускім інстытуце турызму і больш не хацеў нічога такога. Ноч перад кожнай лекцыяй амаль не спаў, паколькі хваляваўся неверагодна. І на халеру мне зноў гэткае шчасце?

Трохі супакоіўшыся, патлумачыў свой рогат.

Ігар выслухаў і, з паразуменнем паставіўшыся да маіх фобіяў, сказаў:

– Мы з Анціпенкам ужо вырашылі. Вы будзеце выкладаць на маім аддзяленні філасофія/літаратура. І вам не абавязкова будзе чытаць лекцыі. Прыдумаем нейкую іншую форму.

Апошняе мяне трохі супакоіла, і мы пачалі абмяркоўваць, у якім фармаце я мог бы прыдацца агульнай справе. Нейкі час нічога вартага не прыдумлялася, пакуль я не прыгадаў творчы семінар літаратурнага інстытута.

З гэтага ўсё і пачалося...

Як на сёння, дык з той вандроўкі прамінуў 21 год. Ужо некалькі гадоў няма ў Беларускім калегіюме Алеся Анціпенкі. Значна раней пакінуў нас Ігар Бабкоў. А я, патрапіўшы сюды з прымусу гэтых хлопцаў, цягну сваю ношку па сёння, як быццам так яно і мусіла быць. А, можа, яно і сапраўды так мусіла быць?

А далей, у жанры транзіталогіі, слова Ірыне Дубянецкай:

“У 2013 годзе філосаф Алесь Анціпенка прапанаваў мне ўзначаліць створаны ў 1997 годзе Беларускі калегіюм, якім ён ад тога часу кіраваў. Я мудра падзяліла дырэктарства на дваіх: узяла на сябе функцыю акадэмічнага дырэктара, а ролю адміністрацыйнага дырэктара пагадзіўся выконваць колішні выпускнік калегіюма Андрэй Казакевіч, дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера», ініцыятар і арганізатар ужо славутага ковенскага міжнароднага кангрэса даследчыкаў Беларусі, які штогод збірае да шасці соцень беларусазнаўцаў з усяго свету і на якім я збіраю сваіх перакладчыкаў Бібліі – таксама з усяго свету. І мне вельмі падабаецца, што адбываецца ў сучасным беларускім інтэлектуальным жыцці, дзе ўжо колькі гадоў актыўна фарміруецца незалежная супольнасць мысляроў, свядома паяднаных глыбіннымі сувязямі з мінулым і скіраваных на стварэнне новых інтэлектуальных сусветаў, кіраваных вольным мысленнем».

Са свайго боку я хацеў бы пашырыць аповед пра Андрэя Казакевіча. Ён насамрэч вучыўся ў калегіюме (аддзяленне філасофіі і літаратуры). Мне і па сёння памятаецца, як мы з ім у *маім склепе* працавалі над яго першымі рукапісамі. Ужо тады моцны мысліўны апарат хлопца быў відавочны, як відавочнай была і нязграбнасць літаратурнага пісьма. Гэты недахоп яшчэ доўга будзе заўважны ў яго друкаваных тэкстах, якія мяне заўсёды ўражвалі глыбінёй і адметнасцю мыслення ды інтэлектуальнай эўрыстыкай.

Хаця, на жаль, пісаў ён не шмат. Можа і таму, што мацней за думку і слова яго вярэдзіў уласны талент дойліда – талент стваральніка разгорнутых дыскурсаў?

Яшчэ маладым чалавекам Андрэй пачаў выдаваць па сутнасці першы ў краіне прафесійны палітычны часопіс “Палітычная сфера”, які праіснаваў шмат гадоў. Наколькі магу меркаваць, менавіта часопіс падштурнуў Андрэя да стварэння Інстытута палітычных даследаванняў “Палітычная сфера”. Умоўны лад тут не выпадковы, бо недзе ў гэтыя гады нашыя шляхі разышліся – у розныя сферы творчай дзейнасці. Таму адно здалёк мог цешыцца, што Андрэй абараніў за мяжой званне доктара паліталогіі. Дарэчы, я ўпэўнены, што гэты чын яму быў патрэбны не дзеля славалюбства, а каб мець больш трывалы грунт пад нагамі, бо ён рушыў да свайго пакуль самага грандыёзнага праекта. А менавіта, Андрэй Казакевіч стаў арганізацыйным старшынёй Міжнароднага камітэта даследчыкаў Беларусі.

Кожнага, хто ў першы раз трапляў у Коўна (Літва) на чарговы з’езд даследчыкаў, ахоплівала дзіўнае, не параўнальнае ні з чым пачуццё: божачкі, як шмат у Беларусі разумнікаў! І ўсе размаўляюць па-беларуску. Ад гэтага было неверагодна радасна.

Я не ведаю, як складзецца лёс Андрэя Казакевіча далей, але ўжо зробленае ім дазваляе мне без хоць якога сумневу залічваць яго ў шэраг найбольш слынных дойлідаў нашай бурапеннай эпохі.

* * *

Пасля некалькіх гадоў улады Лукашэнкі кожнаму стала зразумелым, што нашыя спадзевы на нацыянальную Беларусь і еўрапейскі шлях апынуліся пад канкрэтнай пагрозай. Досыць хутка ідэя вяртання Беларусі ў *Савецкі Саюз* была элімінаваная на ўсе сферы жыцця і, што тады дзівіла наймацней, асноўная маса насельніцтва падтрымала гэтую ідэю.

Аднак за часы "перабудовы" ды незалежнасці грамадзянская супольнасць краіны таксама ажыла; раўнуючы з ранейшай парой – да неверагоднай моцы. Яна і арганізавала ў сярэдзіне дзевяностых магутны супраціў паноўнай уладзе. Хаця нават у моманты найбольшага пад'ёму выразна адчувалася – *нашыя* не пераможуць. Тады сярод інтэлектуалаў і запанавала думка, што нам надзвычай істотна захаваць маладую нацыянальную эліту да лепшай пары.

Найперш дзеля гэтага і ствараўся Беларускі калегіюм. Ідэалагемна ён арыентаваўся на Калеж дэ Франс, дзе калісьці ў выгнанні Адам Міцкевіч казаў шмат добрых словаў пра беларускую мову. А палітычным арыенцірам быў польскі "Лятучы ўніверсітэт", калі Варшава знаходзілася пад фашыстоўскай акупацыяй. Інакш кажучы, мы былі гатовыя сысці ў падполле і скарыстацца метадамі выкладання, якія тады напрацавалі палякі.

Дарэчы, мы абгаворвалі і досвед "Зялёных школаў" беларускай партызанкі, пра што цудоўна пісаў Янка Брыль. Нашыя легендарныя "Філасофскія вандроўкі" (гаворка пра іх яшчэ наперадзе) на практыцы прамацвалі і такую форму навучання, хоць я студэнтам пра гэта не казаў.

На шчасце, нічога з таго не спатрэбілася. Нас не зрэпрэсавалі і, відаць, найперш таму, што мы мелі на мэце адно падрыхтоўку маладых беларускіх інтэлектуалаў, якія пры змене сітуацыі маглі б актыўна далучацца да мацавання дыскурса сучаснага беларускага мыслення. І мы зусім не мелі на мэце падрыхтоўку маладых людзей дзеля вулічнага супраціву.

Тут кожны варашаў сам ды стыхійна – ісці на Плошчу ці не ісці. (Гэта аднолькава тычылася як студэнтаў, так і выкладчыкаў.) Хаця, натуральна, нашыя сімпатыі былі з тымі, хто туды ішоў. Усе гэта разумелі, і таму падчас акцый вулічнага супраціву студэнты вышуквалі нас, каб павітацца і адарыць вясёлай усмешкай.

* * *

Беларускі калегіюм меў тры аддзяленні: літаратура/філасофія, найноўшая гісторыя і журналістыка. На пачатку імі кіравалі Ігар Бабкоў, Алег Дзярновіч і Вольга Караткевіч. Кожнае аддзяленне атрымала адзін базавы занятак на тыдзень з двумя парамі лекцый. У дадатак былі розныя факультатывы. Сярод іх найбольш папулярнымі аказаліся штотыднёвыя публічныя лекцыі. Досыць вялікая зала купалаўскай бібліятэкі амаль заўсёды была паўнюткай, і часам звыш...

А далей я паспрабую ўнікнуць, наколькі гэта будзе магчыма, пытанняў уласна навучальнага працэсу. (Я ж не метадычку пішу.) Толькі наперад яшчэ заўважу, што, каб лішне не вытыркацца на вочы ўладам, аддзяленні неўпрыкмет разасобіліся міжсобку і кожнае жыло сваім уласным жыццём. "Пахаваліся як мыш пад венік", – часам з'едліва пакепліваў я.

Таму хоць гэты раздзел называецца "Беларускі калегіюм", але па сутнасці тут будзе расповед пра аддзяленне філасофія/літаратура, кіраўніцтва якім праз некалькі год працы мне ў спадчыну пакінуў Ігар Бабкоў.

Для беларускай прасторы нашае аддзяленне – унікальны праект у розных сэнсах. Перадусім гэта злучэнне літаратуры з філасофіяй у гамагенны дыскурс, як агульную прастору для інтэлектуальных рэфлексій і эстэтычных артэфактаў. Па-другое, спакваля аддзяленне ператварылася ў г. зв. *творчае*. Інакш кажучы,

да нас пераважна сталі прыходзіць па навуку стварэння тэкстаў тыя, хто пачаў пісаць вершы, прозу, філасофскія эсэ і да т. п.

Калі апліканты на сумоўі мне тлумачылі, што завіталі да нас, каб навучыцца філасофіі і літаратуры, дык я зазвычай казаў: пэўна, вы будзеце моцна здзіўленыя, бо, па сутнасці, мы тут нічому не вучым, акрамя як нязмушанаму мысленню і вольнай творчасці. А паколькі такім рэчам паводле чужых тэкстаў не навучыш, то мы запрашаем выкладаць выключна тых, хто сваім жыццёвым чынам і творчым плёнам засведчыў, што і з першым, і з другім знаёмы не з чужых кніжак, а з персанальнага досведу.

Мяркую, што ніводная, нават самая буйная інстытуцыя краіны не мела такога феерычнага складу таленавітых і яркіх выкладчыкаў. Пры ўсёй маёй прыкрасці да пералікаў, тут мушу саступіць сам сабе і хаця б трохі назваць тых, хто ў розныя гады ці наскрозь праз два дзесяцігоддзі трымаў вольны і творчы дух аддзялення. Яшчэ толькі заўважу, што тут у адным агуле будуць і тыя, хто ладзіў толькі асобныя майстар-класы, і тыя, хто чытаў курсы лекцый ці арганізоўваў семінары ды калоквіюмы...

Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў, Уладзімір Арлоў, Ірына Дубянецкая, Ігар Бабкоў, Міхал Анемпадыстаў, Алесь Анціпенка, Уладзімір Мацкевіч, Аляксандр Грыцанаў, Адам Глобус, Максім Жбанкоў, Андрэй Хадановіч, Сяржук Санько, Сяргей Харэўскі, Сяргей Дубавец, Пятро Васючэнка...

Бадай яшчэ далучу сюды і згадку пра адмысловую праграму, якую прэзентавалі майстар-класы галоўных рэдактараў незалежных выданняў «Архэ», «Нашай нівы», «Дзеяслова», «Партызана», «Тэкстаў», «Палітычнай сферы» (Валер Булгакаў, Андрэй Дынько, Барыс Пятровіч, Артур Клінаў, Зміцер Вішнёў, Андрэй Казакевіч).

* * *

Калі быў у добрым гуморы, дык на тых жа сумоўях казаў, што Беларускі калегіюм перадусім эгаістычны праект. Проста нам моцна закарцела, каб нас сталася болей, як мага болей. Таму асноўная задача *прафесуры* – гэта інтэнсіўнае перастварэнне студэнтаў у нашых калегаў, каб супольна пашыраць і вялічыць інтэлектуальна-эстэтычны дыскурс Беларусі.

Разам з тым, усе мае гуллівыя азначэнні зусім не адмаўлялі і навучанне ў традыцыйным сэнсе. У нас заўсёды былі унікальныя выкладчыкі з бліскучымі акадэмічнымі курсамі. (У прыклад згадаю хаця б Ірыну Дубянецкую, доктара філасофіі і доктара сакральных навук.)

Але я тут трохі болей запынюся на тым, чаго не было нідзе, акрамя як у нас. А менавіта на спецкурсе "Чытанне/пісанне тэксту". Гэта былі калектыўныя рэфлексіі паводле тэкстаў, якія прэзентавалі вялікія філасофскія ды мастацкія стылі апошніх эпох. І не столькі каб пазнаёміцца з імі, колькі каб праз іх аналітыку самім вучыцца мысліць і ствараць. Груба кажучы, Ніцшэ, Разанаў ці Фуко былі для нас нечым накшталт трэнажораў, на якіх мы трэніравалі цяглiцы ўласнага мыслення.

Першыя словы, якімі я распачынаў нашыя калектыўныя *забавы*, былі такімі:

– Калі вы пагаджаецеся з тым, што я кажу, то вы не мысліце. Сваёй згодай вы адно мацуеце маю думку. Мне гэта прыемна, толькі мне гэта не патрэбна. Я ўвесь час буду чакаць вашай нязгоды. І з аўтарам тэкста, які мы расчытваем, і з маімі інтэрпрэтацыямі ды рэфлексіямі з той жа ці якой іншай нагоды. Зразумела, – казаў я далей, – сама з сябе нязгода яшчэ не ёсць мысленнем. Зусім яшчэ не ёсць ім. Аднак, пачаўшы рух у накірунку адмаўлення, магчыма, аднойчы вы ад радасці спалохана прамовіце: "Эўрыка!" Прасцей кажучы, каб зрабіць крок наперад, трэба адштурхнуць ад сябе зямлю. Тое ж і ў мысленні. І ніяк інакш...

Другая заўсёдная максіма гучала так:

– Мысленне – гэта перадусім інтэлектуальная мужнасць. Менавіта мужнасць, а не энцыклапедычная веда, дасканалая метадалагічная падрыхтоўка, абазнанасць у тэме і да т. п. Усяго гэтага можа быць даволі, каб стаць кандыдатам ці доктарам філасофскіх навук. Толькі не філосафам. Рэч у тым, што раз-пораз мысліць бывае страшна. Вельмі страшна. І каб не спалохацца ўласнага страху, не ўхіліцца ад яго патрэбная не абы якая інтэлектуальная мужнасць. А без яе ўсё астатняе марна.

Трэцяя максіма ўжо і не зусім максіма, а хутчэй параграф з інтэлектуальных паводзінаў:

– Са сваімі багамі (Богам) у аўдыторыю не заходзіць. Пакідайце іх разам з верхняй вопраткай ля дзвярэй аўдыторыі. Інакш можа атрымацца, што падчас якой жарснай інтэлектуальнай палемікі вашага бога тут стануць *ганяць,* што той футбольны мячык па полі.

А пасля паўзы ўдакладняў:

– Між іншым, гэтаксама будзе слушна, як нашаму студэнту надаюць у каршэнь, калі ён у Саборы замест таго, каб паўтараць словы малітвы, стане гучна цытаваць антыхрыста Ніцшэ. Прамінулі тыя часы, калі Бог усюды і заўсёды быў як Бог. Цяпер нешта такое далёка не ўсюды і не заўсёды. Але ў фундаментальных месцах Яго сакралізацыі, відаць, будзе разумна паводзіць сябе так, быццам нічога не змянілася. Хаця б дзеля ўдзячнасці Яму за тое, што Ён тысячагоддзямі трымаў у цэласнасці ўвесь наш сусвет, пакуль не выгадаваўся ўжо зусім іншы чалавек, які цяпер можа абыходзіцца і без Ягонай падтрымкі.

* * *

Пэўна ж, самай адметнай падзеяй для кожнага студэнта аддзялення было публічнае абмеркаванне адмыслова напісаных дзеля гэтага эсэ. Я прыдумаў табліцу ацэнак (паводле пяцібальнай сістэмы), і пасля прачытання эсэ кожны з слухачоў павінен быў агучыць свае адзнакі асобна за мову, стыль, кампазіцыю, мысленне ды эсэістычнасць.

Вясёлая была забава і карысная, асабліва для тых, хто насамрэч марыў ствараць тэксты, якія потым звярнуць на яго ўвагу ўсёй чытацкай грамады.

Толькі далей не зусім пра гэта...

Поркаючыся ў абы як скіданых архівах, зусім выпадкова сустрэў запіс пра адзін з такіх заняткаў, пазначаны 2006 годам. І закарцела пералюстраваць яго сюды...

“Сёння на семінары мы аналізуем эсэ Марыны Дварэцкай і Вольгі Шашок. Марына абрала сабе тэмай Мінск ды напісала пра свой мегаполіс весела і здзекліва. Але за іроніяй няцяжка расчытаць тугу па ідэальным горадзе, які можна было б шчыра любіць і якім можна было б не тоячыся ганарыцца.

Эсэ Вольгі – прастора напятай самоты. Усё яно – сцішаны адчай нацыянальна абранага чалавека, які балюча і трывожна адчувае сваю вылучанасць з чужароднай бальшыні. Дзяўчына ўжо наперад прадбачыць увесь цяжар беларускага шляху і як бы рыхтуе сябе да гераічнай самоты, якая будзе доўжыцца праз усё жыццё.

Я слухаю развагі маладых людзей, а сам думаю трохі пра іншае. У свой час мне заманіла скласці кнігу з аповедаў тых, хто свядома прыйшоў у беларушчыну і застаўся тут назаўжды. Але гэтыя расповеды мусілі кранаць толькі адзін момант. А менавіта, як чалавек стаў на беларускі шлях, што яго сюды падштурхнула ці паклікала? З таго, што я ведаў, у кожным выпадку гэта была зусім іншая гісторыя, не падобная на іншыя.

Сабраныя ў мноства, – думалася мне, – яны, магчыма, маглі б распавесці нешта істотнае і пра нас саміх, і пра нашу краіну.

Тую даўнюю хэнць я і дагэтуль не спраўдзіў. Аднак кожны раз, калі ўглядаюся ў тых, хто паступае вучыцца ў Беларускі калегіюм, здумляюся: чаму яны

абралі Беларусь як справу свайго жыцця? Альбо інакш: чаму менавіта іх абрала Беларусь, каб выявіць уласную самасць?

І ніколі не знаходжу на сваё здумленне пэўнага адказу. У пакліканні Беларуссю заўсёды ёсць нешта містычнае".

* * *

Ніхто не змушаў студэнтаў пісаць эсэ пра "занядбаную бацькаўшчыну". У выбары тэмы ўвогуле ніякага задання не было. Я толькі не стамляўся нагадваць, што ў аснове эсэ мусібыць самая балючая і самая актуальная для іх вярэда. Як выявілася праз іх эсэістыку, тады, у першае дзесяцігоддзе існавання калегіюма, лічы, для ўсіх студэнтаў такой вярэдай і была сама Беларусь з яе трагічным лёсам.

Цікава, што пазней Беларусь як такая ўжо амаль перастане хваляваць моладзь, хаця сітуацыя ў краіне асабліва не зменіцца. Нешта зменіцца ў саміх маладых людзях. Цяпер іх захапілі розныя лакальныя праблематыкі ці ўласныя экзістэнцыйныя мітрэнгі.

З той пазнейшай пары ніяк не забывалася эсэ Юлі Цімафеевай "Як я не пайшла ў Тыбэт". Дакладней, не столькі само эсэ, колькі рэакцыя аўтаркі на свой тэкст. Адчытаўшы, Юля разрыдалася. Гучна, з адчаем, напоўніцу.

Нешта з гэтай дзяўчыны мусіць атрымацца, – падумалася тады.

Прамінулі гады, і насамрэч атрымалася. У значнай меры з яе ініцыятывы будзе створаны электронны часопіс перакладной літаратуры "ПрайдзіСвет", які па добраму здзівіць многіх. Гэта было высокапрафесійнае перакладніцкае выданне, якога Беларусь яшчэ не мела. А праз колькі год Юля моцна ўразіла мяне яшчэ раз. Яна пачала друкаваць вершы. Моцныя, глыбокія, калі заўгодна, анталагічныя. Да таго ж прафесійна засвоіла фотамастацтва.

Я запытаўся ў Юлі, ці не засталося ў яе тое даўняе эсэ? Засталося...

## Як я не пайшла ў Тыбэт

*Аднойчы я не пайшла ў Тыбэт. Пайсьці туды мы вырашылі разам з мужам перад самым вясельлем. У тую сьветлую марозную сакавіцкую раніцу, калі ён прыехаў, каб днём пабрацца шлюбам. Гэта нам бачылася выйсьцем з той побытавай шэрасьці, якая чакала наперадзе, калі кожны дзень будзе падобны адзін да аднаго: праца, вячэра, тэлевізар, ложак. І каб пазьбегнуць гэтай аднастайнасьці, што пануе ў жыцьцях большасьці людзей, мы вырашылі выправіцца ў "краіну Ўсходу". Тыбэт для нас, як і для многіх эўрапейцаў, бачыўся той краінай сьвятасьці, якую не засьмеціў навукова-тэхнічны прагрэс і глябалізацыя. Прынамсі, калі туды і валілі статкі неўтаймаваных турыстаў, то выспы некранутай мудрасьці і спакою яшчэ засталіся. У гэтым мы былі ўпэўненыя.*

*Дабірацца да Тыбэту мы вырашылі на "перакладных" і пешшу. На тыя грошы, якія нам мусілі падараваць на вясельле, мы зьбіраліся купляць правіянт, цёплую вопратку ды квіткі на цягнікі. Калі грошы скончацца, трэба было б ісьці пехатой і шукаць працу ў нешматлікіх паселішчах на нашым шляху. А калі прыйдзем у Тыбэт, пагадзіліся расстацца. Мой муж пайшоў бы ў мужчынскі манастыр, а я да аднаго ўяўнага барадатага незнаёмца, што чакаў мяне.*

*Але мы ня зьбеглі, ня скралі грошы, ня трэсьліся ў грузавых цягніках, не абмарожвалі твары, не паміралі ад цынгі і не ўставалі раніцай пад гукі манастырскага звона.*

*Мы прачнуліся мужам і жонкай і нікуды не пайшлі. Ланцугі працы-вячэры-ложку (тэлевізара ўдалося пазьбегнуць) сталі абкручвацца вакол шыі і ўсё больш*

*прызямляць, усё ўладней дыктаваць свае заўжды слушныя народна-мудрыя парады. Інстынкт самазахаваньня перамог! Ура! Мы схілілі галовы, божыя авечкі.*

*Але ж сам чалавек, чалавек як Чалавек – гэта не пакорлівасьць і не паслухмянасьць. Чалавек ад самага пачатку – гэта бунт. Успомніце Адама і Еву. Што было б зь імі, гэтымі жывёлінамі, калі б яны не аслухаліся, калі б яны хадзілі па тым нудным Эдэме, глядзелі на сьвет сваімі каровінымі вачыма і ўсьміхаліся самазадаволена?!*

*Чалавек – гэта пратэст, чалавек – гэта пошук, чалавек – гэта туга.*

*"Мудры чалавек не жыве дома, ён вандруе, вандроўкі для яго – сапраўдная асалода. Ён нібы цудоўны лебедзь, што пакінуў сваё возера ў пошуках новага прытулку", – вучыць будызм.*

*А мы не пайшлі ў Тыбэт. А мы заселі ў сваім возеры, што сталася балотам. Мы паслухаліся здаровага глузду, мы схавалі глыбей тугу і заляпілі ёй рот, каб не верашчала.*

*Так робяць многія.*

*Ва ўтульнасьць чалавечай зграі, у цеплыню чужога смуроду мы кінулі долу свой Тыбэт, мы кінулі ім пад ногі свой шлях. І шляхі тых многіх (бо кожны некалі меў свой адмысловы), і нашы таксама, раскрыжавалі зямлю пад нагамі. І на тым вытаптаным месцы стварылі горад.*

*Мы не пайшлі ў Тыбэт. Мы аддалі яго тым, хто ўмее з Тыбэту рабіць ёмкія канапы, смачныя вячэры, прыгожыя апранахі і яшчэ шмат якіх карысных рэчаў. Мы аддалі свой Тыбэт у рукі прафэсіяналаў. Яны майстры сваёй справы. Ім давяраюць людзі... свой Тыбэт.*

*Тут усё пераблытана. Ніхто ўжо ня знойдзе ўласнай дарогі, бо і шукаць ня будзе, бо зусім забыўся, што яна некалі была. І каб нейкі бедачына, якому яшчэ часам сьвярбяць ногі няспраўджанымі шляхамі, ня ўцёк, яны, і мы, ўчапіліся адзін у аднаго сяброўскімі абдымкамі, суседзкімі позіркамі, шлюбнымі пацалункамі. І пільна сочым адзін за адным і самі за сабой, каб ня зьбеглі.*

*Але ёсьць у мяне адна радасьць. Я не аддала усё, я прыхавала некалькі каменьчыкаў для сябе. І ведаеце што? Камяні растуць. І, можа быць, калі-небудзь стануцца тым Тыбэтам, зь якога зроблены кампутар, на якім я ўсё гэта пішу.*

* * *

У 2001 годзе студэнты нашага аддзялення выдалі першы нумар філасофска-літаратурнага часопіса "Паміж". Я быў неверагодна шчаслівы. Яшчэ год пяць-шэсць таму мы шалелі ад узрушэння, калі пры тыднёвіку "Культура" пачалі раз на месяц выходзіць восем палос літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО". А тут купка студэнтаў аднаго аддзялення невялікай інстытуцыі выдрукоўвае ўжо ўласны філасофскі часопіс!

Цікаўнасць СМІ да новага выдання была нечакана актыўнай. Але не толькі таму, што яно было філасофскім... А найперш таму, што часопіс стварылі адныя дзяўчаты. (Сярод дзевяці *адказных і безадказных рэдактараў* пазначаны толькі адзін *іншаполавец* – Андрэй Казакевіч.)

Але, як гэта звычайна бывае з новым выданнем, у яго стваральнікаў ніяк не атрымлівалася дамовіцца наконт назвы новага часопіса. Тэлефануюць, што ім трэба са мной параіцца.

Я тады працаваў у склепе турысцкага рыштунку кашталянам (як назваў маю "каморніцкую" пасаду Алесь Разанаў).

Канец траўня, спякота на вуліцы, а ў мяне прахалода. Без спеху цырую чарговы намёт. З вясёлым смехам пад скляпенні спускаецца ладная гурма дзяўчат. З усіх тых кароценькіх спаднічак і сукенак, што на іх апранутыя, у 17 ст. якой-небудзь фрэйлен матэрыі не хапіла б нават на сподняе.

– Паміж, – кажуць.

Я сарамліва апускаю вочы долу і вінавата пытаюся:

– А вы падумалі, што хлопцы будуць казаць?

Яны рагочуць:

– Дык гэта ж цудоўна! Выдатная рэклама.

Зрэшты, эратычны падтэкст хоць і быў заўважаны, аднак не займеў асаблівай пагалоскі. Тым болей, што неўзабаве зададждыла. А філасофскі кантэкст у назвы быў багаты. Пра што і казалася ў рэдактарскай прадмове: "...тое, чаго мы прагнем, немагчыма знайсці па-за межамі сябе. Але каб убачыць гэта, трэба заняць мейсца на мяжы Паміж дабром і ліхам, сном і чуйнаваньнем, Паміж учора і заўтра, чорным і белым, каб расчыніць дзьверы ўнутр сябе, каб злучыць усе супрацьлегласьці адно ў той кропцы, якая мае бясконцую колькасць назваў, аднолькава не дасканалых. Што мы і робім".

Гартаю нумар, перачытваю тэксты. Апаноўвае захапленне, яшчэ мацнейшае, чым тады, у 2001 годзе. Скуль гэты фейерверк нечаканых думак, параўнанняў, вобразаў у яшчэ недыпламаваных дзяўчатак? І якая інтэлектуальная мужнасць, рашучасць, апантанасць! Адчуваю, што гатовы перадрукаваць у свае хронікі амаль увесь нумар, бо даўно не чытаў нічога лепшага...

Пазней і спакваля інтэлектуальныя тэксты хораша навучыліся пісаць многія, але пакуль вучыліся пісаць суладна новым канонам, пагублялі адвагу і жарсць.

І мяне, як і ў выпадку з маніфестамі бумбамлітаўцаў, ахоплівае глыбокі сум. Няўжо, думаю, усё самае адважнае і эўрыстычнае ствараецца ў эпохі тэктанічных пертрусаў, а як зямля пад нагамі перастае хадзіць хадуном, дык і пішуць роўненька, і мысляць, запыняючыся перад кожным светлафорам.

Натуральна, я не магу перадрукоўваць усю тую асалоду ад першага нумара. Але і запыніцца толькі на пафаснай рыторыцы мне не даспадобы. Таму пераніцую сюды колькі фрагментаў з вялікай гаворкі, якую мы зладзілі для таго першага "Паміж" у тым жа склепе з Таццянай Слінкай, Таццянай Чыжовай і Ліляй Ільюшынай.

Да месца будзе заўважыць, што гэтае сумоўе адбывалася праз нейкі год пасля таго, як пабачыла свет мая кніжка "Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека". Таму яна міжволі і паклалася ў под гаворкі.

***Таццяна Слінка**: У філасофскай супольнасці, ды і не толькі там, Вы вядомыя як той, каго **няма**. Аднак падаецца, што Ваша дэкларацыя ўласнай адсутнасці была ўспрынятая ўсяго як эпатажнасць і выклік, але абсалютова не асэнсаваная як філасофская тэза. Можа, паспрабуйце ўдакладніць, што Вы мелі наўвеце пад гэтым "мяне няма".*

– Наўрад ці хто, акрамя вернікаў, спадзяецца, што я-чалавеку можна падшукаць анталагічнае алібі, але мала хто ставіў пад сумнеў наяўнасць экзыстэнцыйнага алібі ў я-чалавека. Тым болей падобны сумнеў немагчымы быў для класічнага экзістэнцыялізму, які абсалютызаваў "Я" і цалкам трымаўся гэтай абсалютызацыі. У маім выпадку ўсё выглядае радыкальна інакш. Я схільны лічыць, што "Я" – гэта толькі граматычная катэгорыя, якую мяне вымушае ўжываць мова (прыкладам таму і дадзены сказ); "Я" патрэбнае не мне, а мове, бо мова ўсёй сваёю структурай угрунтаваная ў гэтае катэгарыяльнае "Я".

Дый наогул, калі класічны экзістэнцыялізм лічыў, што чалавек напампаваны экзістэнцыяй, як футбольны мячык паветрам, дык я мяркую, што ўнутры чалавека – "экзыстэнцыйны вакуум" (формула Вітара Франкла дзеля апісання стану зьняволеных у канцлагеры).

Я – гэта толькі пэўнае месца, на прасторы якога атабарваюцца і гуртуюцца самыя розныя феномены бытнага і быцця: фізічныя, біялагічныя, сацыяльныя, рэлігійныя, нацыянальныя і г.д. Я – гэта адно тое, што ёсць мною, а насамрэч – мяне, як "**Я**", няма...

Дарэчы, я ўвогуле зачараваны феноменам Няма, прынамсі ён мяне хвалюе і трывожыць у значна большай меры, чым феномен Ёсць.

***Таццяна Чыжова**: А вам не падаецца, што вось гэтае ваша памкненне да Нішто, да Няма – гэта ўсяго толькі жаданне вярнуцца і замкнуць кола? Інакш кажучы, вярнуцца туды, дзе нас раней не было і дзе потым зноў не будзе?*

– Цікава!.. Не, я зусім не спяшаюся вяртацца туды, дзе мяне не было і дзе мяне зноў не будзе (дарэчы, гэта, бадай, і не адно тое самае месца, а два кардынальна розных). Але бясспрэчна, што і мая зачараванасць Вялікім Няма, і маё разуменне самога сябе як “персанальнага няма” абумоўленыя сітуацыяй адсутнасці (і папярэдняй, і той, што яшчэ чакае наперадзе) як мяне самога, гэтак і ўсяго, што з’яўляецца быць.

***Т.С.:** Неяк на прэзэнтацыі кнігі Алеся Разанава Вы сказалі, што трэба ісьці далей за немагчымае...*

– Гэта скажонае цытаваньне Ангелюса Сілезіюса: “Ідзі туды, куды не можаш”... Дык вось, калі ставіць сабе за мэту прарыў татальнай аблогі Ёсць, каб тым самым на ўскрайку вíдалі “пабачыць” хай сабе нават не самое Няма, а, верагодна, усяго толькі ягоны *цень*, безумоўна, трэба спрабаваць ісьці далей не толькі за магчымае, але і за немагчымае... Ісці без спадзеву на хоць які вынік, ісці, перакрочваючы праклён Парменіда, які ў свой час безапеляцыйна сцвердзіў, што ёсць толькі ёсць, а ніякага няма – няма, і ніколі ніхто словам ня зможа давесці, што няма – ёсць.

***Т.С.:** Большасць з нас, апынуўшыся на руінах, пачала адчайна хапацца за тое, што засталося: адныя ўзяліся распрацоўваць праекты рэстаўрацыі руінаў, другія схаваліся ад руінаў у свет зданяў... І таму позіркі тых, хто яшчэ/ужо наважваецца ўсьведамляць сябе на папялішчы сэнсаў, непазбежна скіроўваюцца да постаці сп. Валянціна, які ня толькі не адмаўляе таго, што нічога няма, але і сцвярджае: “Так, мы жывем на руінах, аднак гэта – добра”. Сп. Акудовіч, а ці ёсьць у нас хаця б руіны?*

– На жаль, яшчэ засталіся не толькі руіны, але і безліч самых розных хімерычных збудаванняў. Таму бурыць нам і бурыць, калі мы хочам убачыць на яснае вока і саміх сябе, і той рэальны свет, у якім адбываем сваю калейку бытнага. А што да “няма”, якое многіх палохае, дык тут я дазволю сабе самацытату: “Можа, самім лёсам нам наканавана адбыцца праз “няма”, якое мы выношваем усярэдзіне саміх сябе ўжо цэлае тысячагодзьдзе? Колькі за гэты час вусцішнае “нішто” праглынула імпэрыяў, народаў, культураў, якія ганарліва раскашавалі сярод сваіх здабыткаў і перамогаў? Ад іх ужо даўно і знаку не засталося. А мы, зьбіральнікі стратаў і паразаў, затуленыя сваёй адсутнасьцю, перакрочваем у трэцяе тысячагодзьдзе, магчыма, якраз дзеля таго, каб нашае Вялікае Няма як самы надзейны шлях праз час і быццё”.

***Ліля Ільюшына:** Давайце вернемся на пачатак гаворкі: чалавека няма, яго дагэтуль не стварылі. Дык ці магчыма наогул стварэнне чалавека, ці можа філасофія альбо нешта яшчэ стварыць чалавека?*

– Чалавек – гэта еўрапейскі міф пра чалавека, які складваўся цягам тысячагоддзяў. Вельмі значную ролю ў міфалагізацыі чалавека, як самадастатковага суб’екта, адыграла юда-хрысціянства, дагматызаваўшы персанальную лучнасць асобы з яе трансцэндэнтным суверэнам. А вось для ментальнасці Усходу чалавек зусім не з’яўляецца такой значнай цацай (там чалавек – толькі адзін з сюжэтаў кармічнай трансфармацыі). Магчыма, якраз дзякуючы гэтаму ментальнаму досведу Усходу, я без лішняга драматызму стаўлюся да сытуацыі, калі людзі будуць, а чалавека ня будзе.

Хаця нам і цяжка ўявіць свет без чалавека, сябе без чалавека, бо мы выраслі ў цывілізацыі, дзе галоўнай каштоўнасцю лічыўся чалавек і ўсе ісціны, ідэалы і

сэнсы трымаліся на міфе пра чалавека. Ды што паробіш, цывілізацыя чалавека скончылася. Адной з прычынаў таму – выбух камунікацыяў, які знііштожыў прастору. А без прасторы, нацыянальнай у тым ліку, чалавек немагчымы, бо ён нішто іншае, як сума статычна зафіксаваных знакаў, атрыбутаў, падзеяў...

З гэтага мой адказ на Вашае пытанне, Ліля, мусіць быць адмоўным. Але не ўсё так проста. Я вось цяпер падумаў, што можа мая заангажаванасць Няма якраз і абумоўленая ўтапічнай марай "знайсці чалавека". Раней я яго шукаў у Ёсць, але там знайшоў толькі ягоную адсутнасць. Атрымліваецца, што адзінае месца, дзе чалавек можа быць, калі яго няма ў Ёсць, гэта – Няма. Можа я прамінуў адно палову шляху, які пралягаў праз Ёсць, а калі здолею прайсці і другую, дык там, за брамаю ў Няма, і знайду тое, што шукаю?

***Т.Ч.:*** *Сітуацыя спрыяе наступнаму пытанню: што Вы возьмеце з сабою, калі пойдзеце туды? Ці наадварот, каб правацца ў Няма, трэба скінуць з сябе апошняе?*

– Калі б я быў нудыстам, дык пайшоў бы галяком. Але паколькі я выхаваны ў цнатлівых традыцыях заходнебеларускага мястэчка, дык мне давядзецца ісьці туды апранутым. За гэтым жартаўлівым адказам утоеная надзвычай сур'ёзная праблема. Бо сапраўды, перш чым рушыць у той бок, трэба паскідаць з сябе апранахі сімулякраў, што чалавецтва напрацоўвала тысячагодзьдзямі.

***Т.С.:*** *Магчыма, нігілізм – не проста адмаўленьне, магчыма, гэта і ёсць спроба ўсё з сябе скінуць?*

– Аднак не проста скінуць, а скінуць, каб лягчэй было рушыць далей. Рэч у тым, што нігілізм традыцыйна разглядаўся ў ракурсе мэты (ці сам – як мэта, ці – з якой мэтай). У той час, як нігілізм – гэта сродак (спосаб, магчымасць), якім мы карыстаемся, каб расчысціць праходы праз завалы сімулякраў. Але зразумеўшы нігілізм толькі як эфектную прыладу ў справе карчавання пабітых шашалем часу ўнівэрсалісцкіх сімулякраў, мы нічога не зразумеем у нігілізме, як у адчайным памкненні волі да мыслення перасягнуць мяжу сваіх магчымасцяў. Паўсюднае панаванне ў XX стагоддзі нігілізму – гэта пакуль яшчэ нікім не ўсвядомленае вялікае рушэнне мэтафізічнага мыслення ў апошнім спадзеве прарваць аблогу Ёсць, каб паспрабаваць нарэшце наўпрост судакрануцца з вусцішу Няма.

(Гаворка моцна скарочаная.)

Хаця сёння падумалася: з чаго гэта тады я наперад быў пэўны, што нас там чакае менавіта вусціш, а не штосьці зусім іншае?

* * *

Цяпер, калі натую свае хронікі, падрыхтаваны 11 нумар "Паміж".

У лепшыя часы кожны курс на заканчэнне выдрукоўваў свой нумар. Нефармальна ён лічыўся як бы калектыўным курсавым дыпломам. Натуральна, усе нумары былі абсалютна рознымі. Толькі тут я не маю магчымасці аналізаваць іх ды ацэньваць, бо галоўнае, што яны былі. І рабіліся амаль без майго ўдзелу (так я прыдумаў), акрамя кансультатыўнага і трэцейскага. Што праўда, некалькі разоў перакладаў тэксты з рускай мовы на родную. Прыкладам, невялікую постмадэрновую аповесць Андрэя Адамовіча.

Але вернемся да таго фенаменальнага курса, які і вымудрыў гэтую справу з часопісам. Звычайна я не схільны вылучаць нейкі адзін набор студэнтаў перад другімі, аднак гэта ўсё такі быў асобны выпадак. Бо дзяўчаты (Т. Слінка, Т. Чыжова, А. Сідаровіч, Г. Пазюк, Т. Вабішэвіч, Л. Ільюшына, Э. Кулеш) акрамя часопіса запачаткавалі і разгарнулі яшчэ адзін канцэптуальны праект, які шмат год упрыгожваў гісторыю калегіюма, перадусім – нашага аддзялення...

Зрэдзьчас з нейкай выпадковай нагоды я мімаходзь згадваў на занятках свае вандроўкі: не толькі ў гарах, але і па Беларусі. І аднойчы адна з дзяўчат спаха-

пілася: маўляў, давайце мы з вамі таксама зладзім вандроўку. Хаця б на ўікэнд. Шмат хто ўмомант падтрымаў запыт, аднак я не адразу пагадзіўся. Пакуль не прыдумаў, чым нашыя вандроўкі будуць адрозніваца ад звычайных моладзевых выцечак на прыроду з намётамі.

– Гэта будуць "Філасофскія вандроўкі", – сказаў я, калі прыдумаў. – Мы будзем не проста спяваць песні пад гітару і скакаць ля вогнішча. Мы будзем думаць пра *вечнае*. Пад зоркамі.

Што наконт "зорак" – дык гэта была метафара. Дрэнна выспаныя, мы выпаўзалі з намётаў недзе а дзявятай гадзіне ранку і, толькі пасёрбаўшы кавы, збіраліся з дыванкамі ды спальнікамі ў зручным дзеля дыскусіяў месцы.

Але, расклаўшы свае целы ў купальніках і плаўках на беражку ля вады, мы не адразу падступаліся да справы. Спачатку я агучваў тэму нашага калоквіюма (тады мы гэтым тэрмінам не карысталіся), тлумачыў з чаго яна ўзнікла і прасіў усіх узножыцца, каб разбрысціся паасобку і недзе 20 хвілінаў сам-насам медытаваць над праблемай.

Потым мы збіраліся зноў і не меней як гадзіны тры рэфлексавалі, спрачаліся ды палемізавалі...

Слухаючы самыя розныя выказванні ды развагі, дзе словаў "метафізіка", "трансцэндэнтнае", "універсальнае", "амбівалентанасць", "лакальнае" і да таго падобных было болей, чым простых чалавечых словаў, я аднойчы ўявіў сабе, што нехта мясцовы апынуўся за кустамі і цяпер услухоўваецца...

Што ён думаў сабе, вачыма разглядаючы ўвогуле звычайны для гэтых мясцінаў хаўрус, а вушамі чуючы нешта такое, што не ўпісвалася для яго ў аніякі вербальны канон, акрамя хіба ў канон псіхлякарні...

Між іншым, дзеля першай рэфлексіі я выбраў усім вядомыя словы Канта пра *зорнае неба і маральны закон*. Нягледзячы на іхнюю замыленасць ад бясконцых згадак, апошняя таямніца гэтых словаў, пэўна, назаўжды застанецца рамантычнай таямніцай...

* * *

Доўгія зборы ў першую "Філасофскую вандроўку" ледзьве не скончыліся фіяска. У рэшце рэшт змаглі пайсці толькі восем ці дзевяць дзяўчат і ніводнага хлопца.

– Дык што мы будзем рабіць? – запытаўся, не на жарт устурбаваны.

– Нам вас і аднаго хопіць, – развесяліліся.

Акрамя брутальнасці самой сітуацыі (наперадзе барадаты ды лысы Дыянісій, а за ім ладная гурма німфаў), трэба было камусьці ставіць намёты, цягаць і сячы для вогнішча дровы, ды і ўвогуле ці мала дзеля чаго ў вандроўцы могуць спатрэбіцца мужчынскія цяглівы ды спрыт. Да таго ж такая гурма маладых і звабных дзяўчатак ужо сама сабой з'яўляецца не абы якой праблемай у не вельмі адслоненых ад цывілізацыі месцах (што потым некалькі разоў крытычна выявіцца).

На маё шчасце, недзе ў перадапошні дзень дзяўчаты спакусілі некалькіх хлопцаў з калегіюма, і мы рушылі на лясное возера Бяздонка (кіламетраў сем ад станцыі "Электрасіла"), узняўшы над сабой бел-чырвона-белы сцяг.

Яшчэ раней я сказаў аматарам ды аматаркам філасофскіх вандровак, што паколькі яны ўжо дарослыя, то хай самі і вырашаюць: ці будзем нешта браць з алкагольных напояў ці не будзем?

Аматары і аматаркі суладна пагадзіліся, што браць будзем, і нават прапанавалі набыць адзін вялікі рытуальны кубак, каб змешваць у ім трохі гарэлкі з сочывам і пускаць яго па колу ля вогнішча. А там хто колькі хоча, столькі хай і адсёрбвае. Ці толькі мочыць вусны і перадае далей.

Ідэя выявілася настолькі ўдалай, што трымалася амаль усе доўгія гады філасофскіх вандровак. Было ў руху рытуальнага кубка па коле нешта сакральнае, што лучыла нас і міжсобку, і з мудрасцю старых грэкаў (хаця тыя і разбаўлялі не гарэлку, а віно).

А яшчэ ў нас былі Ганна Пазюк і Таня Чыжова з гітарай. Ах, як яны цудоўна спявалі! І што не менш істотна, яны спявалі тыя песні, якія мы ўсе прагнулі бясконца слухаць. Шалкевіч, Вольскі, Камоцкая, Мельнікаў, Вайцюшкевіч, Бартосік...

Звычайна разыходзіліся па намётах амаль пад ранак і таму пачыналі мысліўныя практыкаванні не зусім бадзёрымі, хаця, наколькі памятаю, гэта ані не замінала інтэлектуальным прарывам і эўрыстычным вынаходніцтвам...

Першая вандроўка аказалася настолькі ўдалай, што далей у нас праблемаў з жадаючымі не было. Больш таго, пакрысе да нас пачалі далучацца *дарослыя*. Бывалі з намі Вольга Калацкая, Андрэй Хадановіч, Зміцер Серабракоў, Юрась Барысевіч, Ігар Бабкоў, Сяржук Мінскевіч, Віктар Жыбуль, Вера Бурлак, Аксана Спрынчан, Ігар Логвінаў...

Хто б спыніў мяне... Бо часам нас і каля трох дзясяткаў збіралася.

Прыдумаўшы “Філасофскія вандроўкі”, мы планавалі выбірацца з Мінска раз на месяц, пачынаючы з канца красавіка і да пачатку кастрычніка. Першы сезон заданне амаль вытрымалі, але з гадамі гэтая рэгулярнасць усё больш заўважна парушалася. Хаця колькі там разоў на год яшчэ доўгі час хадзілі. Бывала, што каманда выбіралася і без мяне, паколькі мне мус было прысутнічаць у іншых месцах.

Так склалася і тады, калі я не змог разам з усімі адкрываць на Бяздонцы чарговы сезон “Філасофскіх вандровак”, бо выступаў у Варшаве на нейкай канферэнцыі. Студэнт другога курса Андрусь Белавокі таксама не змог паехаць разам з усімі, але ён так любіў нашу забаву, што дабіраўся на Бяздонку ноччу...

Не дабраўся. Загінуў пад коламі машыны.

Потым я напішу пра яго эсэ...

## Смерць – геніяльны суаўтар

Далёка за горадам па начной дарозе ішоў малады чалавек. Пэўна, ён аб нечым думаў, але напэўна не аб тым, што сучасныя дарогі створаныя зусім не дзеля начнога шпацыру. Кіроўца “Мерсэдэса” таксама пра гэта не думаў, бо заўсёды ведаў, што па дарогах не ходзяць, тым болей – ноччу. Таму яны і перастрэліся на паваротцы. І маладога чалавека не стала.

Звалі яго Андрусь Белавокі. Ён пісаў вершы, прозу, эсэ...

Калі хлопца пахавалі, яго сябры (сяброўкі) з усяго гэтага выштукавалі кніжыцу “Лесвіца ў нябёсы з адной прыступкі” (назва верша Андруся). Фармальна кніжыца не асабліва рознілася ад падобных выданняў іншых пачаткоўцаў, якія збіраюць пад адну вокладку ўсё, што паспелі накрэмзаць за сваё кароткае літаратурнае жыццё. Але бадай кожны ўдумлівы чытач, прагарнуўшы трохі старонак, пачынаў здагадвацца, што тут сапраўды, як кажуць, “нешта ёсць”. І так думаць ён будзе зусім не таму, што да напісанага дадаўся геніяльны суаўтар – смерць. Хоць апошняе, звычайна, змушае нас надаваць тэкстам сэнсы ды вартасці, якія былі б зусім невідочнымі ў іншым выпадку.

Справа, бадай, у тым, што Андрусь насамрэч быў – як найменей трохі – геніяльным. Гэтае досыць рызыкоўнае азначэнне цяжка давесці простай канстатацыяй, але чытача не аднойчы скалане ад слова, радка, думкі, вобраза, якіх ён ніколі не сустрэне ў проста таленавітага літаратара. Прынамсі, са мной падобнае здаралася раз-пораз, працытую хаця б эпітафію на помнік, якую Андрусь падрыхтаваў сам сабе, калі яму не было яшчэ і дваццаці гадоў: “Мяне заўсёды мучыла пытанне: у чым сэнс смерці? Цяпер я ведаю, а вы – не”.

Дарэчы, мяркую, Андрусь быў пэўны, што ў кожным разе яго кніга некалі з'явіцца. Звернем увагу на адзін з апошніх запісаў у дзённіку.

“Мы жывем аднойчы. У любы момант можа здарыцца што заўгодна: трамвай... Я жыву толькі для тых, хто вакол мяне: бацькі, сябры. А яшчэ для таго, каб напісаць КНІГУ. У ёй павінна быць пра ўсё: пра свет і пра Сусвет, пра Беларусь, пра каханне. ПРА ЎСЁ. Калі я не змагу гэтага зрабіць ці не паспею, я абавязваю таго, хто чытае гэтыя радкі, паспрыяць стварэнню такой кнігі ці напісаць яе самому: шмат хто з маіх знаёмых можа.

Прывітанне з таго свету”.

Цяпер, калі ўсё гэта здарылася – і смерць, і кніга, я думаю, што, можа, інакш яно і быць не магло. Можа толькі так, праз смерць, ён і мог спраўдзіць уласную Кнігу як самую вялікую мару свайго жыцця.

* * *

Акрамя Бяздонкі, мы выпраўляліся на Нёман (у розныя месцы), Вяллю, Іслач, Радашковіцкае вадасховішча, Вязынку... Між іншым, там у лесе побач з водаканалам на адной з яшчэ нядаўніх вандровак мы абмяркоўвалі маю чарговую прыдумку: “Што (хто) будзе, калі чалавека ўжо не будзе?”

– Мы ўжо навучыліся жыць без Бога, – казаў я. – Цяпер нам трэба будзе навучыцца жыць і без чалавека. Бог і чалавек – гэта спадарджэнне метафізічнай цывілізацыі, якая доўжылася тысячагоддзямі. Але на нашых вачах яна саступіла месца тэхналагічнай цывілізацыі. Цяпер спрэс пачынае дамінаваць не дух, а лічба. Аблічбаваны дазвання чалавек будзе нечым зусім іншым ад уласна чалавека. Ён нават паміраць не будзе, а толькі абнуляцца.

Гаворка была надзвычай плённай. А суплёт прапанаваных варыянтаў будучыні без Бога і чалавека цешыў сваёй эўрыстычнасцю. Шкада, што ўсё тое нагаворанае маладыя валацугі не запісалі на свае лічбавыя кайданкі...

Натуральна, шмат (і шмат) чаго яшчэ просіцца быць згаданым, бо кожная вандроўка – гэта заўсёды прыгоды. Аднак паводле *рэгламенту* маіх хронік я ўжо мушу спакваля згортваць свой аповед не толькі пра “Філасософскія вандроўкі”, а і пра сам калегіюм.

Разам з тым мяне ніхто б не зразумеў, каб я хаця б і ў жанры статыстыкі не нагадаў пра агульны плён нашай працы.

Напачатку гаворкі пра калегіюм я казаў пра фантастычны корпус выкладчыкаў аддзялення філасофія/літаратура, але ж і студэнты былі не зломкі. Яны стварылі (паасобку ці калегіюмскімі хаўрусамі) пяць часопісаў (“Паміж”, “Праўнік”, “Палітычная сфера”, “Макулатура”, “ПрайдзіСвет”), чатыры з якіх (акрамя “Праўніка”) існуюць і сёння...

Выдалі каля паўсотні кніг паэзіі, прозы, эсэістыкі...

Ні адзін нацыянальны конкурс, улучна з “Гедройцам”, за гэтыя гады не абмінуў іх увагай... Я ўжо не кажу пра актыўны ўдзел нашых студэнтаў у самых розных інавацыйных праектах краіны (Глеб Лабадзенка далёка не адзіны таму прыклад). Што да персанальна таленавітых паэтаў, празаікаў, мысліўцаў, якія пачыналі свой творчы шлях з калегіюма, то і распачынаць не буду, хаця вельмі карціць лічыць іх ды пералічваць. (Прабачце, мае дарагія.)

На астачу наўмысна пакінуў згадку пра яшчэ адзін надзвычай важны праект, які быў запачаткаваны і шырока разгорнуты ў фармаце нашага аддзялення. Я маю на ўвазе “Перакладніцкую майстроўню” Андрэя Хадановіча. Менавіта тут, пад яго настаўніцтвам, пачала фармавацца новая школа беларускага перакладу.

* * *

Адной з самых таленавітых перакладчыц гэтай школы выявілася Марыйка Мартысевіч. Толькі я вылучыў яе сюды з іншай нагоды. Марыйка напісала цудоўную паэмку пра нашыя "палявыя даследзіны" метафізікі, і я ніяк не мог знябыць яе ў архіве.

Дарэчы, яна ніколі не была з намі ў "Філасофскіх вандроўках", але я не ўяўляю, каб хто яшчэ настолькі дакладна і паэтычна пераказаў усё паэзію і ўсю мысліўнасць нашых сябрынаў ля вандроўных вогнішчаў. Між іншым, і побытавую рэальнасць таксама.

Мне трохі няўтульна ад гіпертрафаванай апалагетыкі кіраўніка хаўруса, якую не зніжае нават гуллівы посмех аўтаркі, ды што тут паробіш – не адмаўляцца ж з гэтага ад такога бліскучага тапаграфічна-іранічнага тэксту.

## НОЧ НАД БЯЗДОНКАЙ

Добра ў роднай старонцы: лясы і азёры!
Пахне, пахне чаборам – куды ні пакроч.
Але вось паказаліся поўня і зоры –
на Бяздонку спусьцілася ціхая ноч.

Ды не спаў тлумны табар, што ў часе вандроўкі
заблукаў і да раньня тут лягерам стаў:
хто сьпяваў, хто ў намёце нацягваў вяроўкі,
хто ля вогнішча сеў, сузіраючы стаў.

Добра бавілі вечар: гарбата, дэбаты –
аж да ночы цягнулася іх гамана.
Раптам сьціхлі ўсе. Ўзьняўся юнак і заўзята
ён прамову пачаў: "Словы – гэта мана.

Гэта звада й ваба ў любыя часіны,
але конаўку мушу ў гэты ўліць вадаём.
Мушу слова сказаць пра таго, каму вінны
гіпертэкст "Беларусь" існаваньнем, быцьцём...

Наш настаўнік, сэнсэй, рэбэ, гуру і цьютар
нас сабраў у каледж, ешыбот, мэдрэсэ,
расказаў, як прымусіць да думкі кампутар,
хто такі Бадрыяр, што такое эсэ,

навучыў ужываць простых словаў, якія
пачынаюцца з пост-, а ў канцы маюць -ізм...
Ў самым сэрцы сваім захаваў на вякі я
Позірк з-пад акуляраў задумлівых прызм.

І цяпер, што б ні вёрз я з трыбунаў Эўропы
І якімі б ня сьмеціў ідэямі друк,
Памятацьму заўжды запаветныя тропы
І фігуры ягоных мысьленчых навук.

Далікатна адсутны ў Сьвіслачы й Менску,
спляжыць ён Бабілён і разбурыць Парыж,
падсьвядомасць сваю прычасаўшы па-венску,
праграміць ён. Імя яго будзе паміж

іншых слаўных іменаў. І кожнай паненцы
і хлапцу ад Камарына да самаго
Астраўца будзе знана яно. Кожны энцы-
кляпедычны даведнік пачнецца зь яго...

Хай жа форма ліецца і думка вядзецца,
не сьсякае хай веды сакральнай рака,
хай жа дбаюць пра нас яго розум і сэрца:
будзе ён – значыць будзе стаяць і БК!

Як адна зарыдалі натхнёна паэткі,
рускамоўны празаік ня пратаў сьлязы,
а філёзаф працягваў: “Хай нашы палеткі
агарнулі мэнтальнай зімы маразы,

Хай эліты ў аблудзе прыслужваюць Будзе,
не патрэбны хай масам нябыт і дарма,
дыскурс будзе трываць, як нагадваць нам будзе
сьціплы геній яго, што нічога няма!”

Сьціплы геній ня чуў. Адышоў па патрэбе
у азёрны аер пастаяць, папаліць...
Ён стаяў і глядзеў, як у чэрвеньскім небе,
небасхіл працінаючы, зьнічка ляціць

То ня зорка Венера ўзышла на зямлёю,
не Канкорд прызямліўся на родных палях, –
гэта Гайдэгер сам сьветазарнай стралою
у Нішто цьвёрда крэсьліў адвечны ім шлях.

*2004–2005 г.*

*Шаноўнаму*
*спадару Валянціну,*
*на дзень заканчэньня БК –*
*з падзякай за тое,*
*што ён ЁСЬЦЬ!*

Марыйка. 25 траўня 2005 г.

Дарэчы, хаця з “Марыйчынага” курса адно некалькі чалавек было ў “Філасофскіх вандроўках”, але паводле колькасці таленавітых літаратараў курс выявіўся ці не самым багатым: Марыя Мартысевіч, Андрэй Адамовіч, Мікола Кандратаў, Аксана Спрынчан, Віка Трэнас, Зміцер Плян... Да таго ж яны вырабілі не адзін, а два нумары часопіса “Паміж” (перадусім дзякуючы імпэту і высілкам Аксаны Спрынчан)...

*P.S.* Гады тры таму калегіюм аказаўся ў сур’ёзным рэсурсным крызісе. Ранейшыя нашыя дабрадзеі ці самі збяднелі ці аддалі перавагу іншым грамадскім праектам.

З гэтага ў нас паўстала праблема, як хоць чым кампенсаваць працу выкладчыкаў? Натуральна, мы шукалі выйсце, але пакуль было трывожна... І маркотна на душы.

У гэтыя дні мне нечакана патэлефанавала Таццяна Чыжова і прапанавала: “Мы з Лідай Міхеевай хацелі б з вамі сустрэцца...”

Сустрэліся. Яны працягнулі надрукаваны ліст і ў дадатак капэрту.

Ліст перадрукоўваю без зменаў.

“Шаноўны сп. Акудовіч!

Даведаўшыся пра недахоп фінансавання аддзялення філасофіі і літаратуры Беларускага калегіюма, мы не можам заставацца ў баку ад гэтай сітуацыі. Таму мы звяртаемся да Вас з просьбай прыняць наш сціслы ўнёсак, які, як мы вельмі спадзяемся, можа дапамагчы працягнуць працу аддзялення пад Вашым кіраўніцтвам хаця б на бліжэйшы час.

Нягледзячы на тое, што гэтыя сродкі не пакрыюць паўнавартасную працу з запрошанымі лектарамі і г. д., мы ў першую чаргу хацелі б падтрымаць аддзяленне і яго асноўны курс па сучаснай філасофіі і літаратуры.

Будзем вельмі ўдзячныя за магчымасць зрабіць гэты ўнёсак і спадзяемся, што ў бліжэйшы час сітуацыя з фінансаваннем выправіцца!

*Былыя навучэнцы Беларускага калегіюма,*
*суполка інтэлектуальных беларускіх блогераў,*
*Беларуская філасофская прастора,*
*часопіс “Прасвет”.*

Зразумела, нічога такога я і думаць не думаў і чакаць не чакаў. Таму банальна перапалохаўся: што рабіць? Да таго ж яны ўсе і самі ў нішчымніцы. Замахаў рукамі – не, не, не...

Не дапамагло.

З капэртай у руках адвярнуўся, бо ад хвалявання вочы ўзмакрэлі.

І наастачу... Адвучыўшы адзін з першых набораў, кіраўніцтва калегіюма зладзіла нам развітальную вечарыну, якую мы на замежны манер называлі “party” (груба кажучы, невялікі п’янтос выкладчыкаў з студэнтамі). Дзея адбывалася ў бібліятэцы “Юнацтва” і таму не магла задоўжыцца. Натуральна, душы выкладчыкаў, узнёсла развярэжаныя адукацыйным поспехам, патрабавалі працягу. Балазе, побач была пустая кватэра аднаго з кіраўнікоў калегіюма. Туды мы і скіравалі прафесарскім крокам. Між іншым, я ў руках трымаў ружу – першую ў жыцці кветку, падораную мне студэнтамі (студэнткамі).

Ад веку вядома, што вельмі добра доўга не бывае. Перад нашым сыходам з кватэры насунулася такая навальніца, што носу з хаты не высунуць. А пакуль чакалі літасці нябёсаў, перастаў хадзіць транспарт – і мае калегі вырашылі заначаваць у сябра. А я пайшоў, не даслухаўшы ўгавораў застацца. Узяў ружу і пайшоў...

Ад метро “Пушкінская” да маёй кватэры ва Уруччы было як найменей гадзіны чатыры пешага ходу. Толькі для мяне гэта не было праблемай. У тую пару я яшчэ любіў вяртацца дахаты пешшу праз начны Мінск хоць з якой далечыні. І ні разу не паддаўся на ўгаворы мілажальных кіроўцаў падвезці бліжэй да майго раёна. А міліцыянтам, калі запынялі і пыталіся, адказваў, што я не проста іду, а іду, каб мне ямчэй думалася пра вечнае. Бо я філосаф...

Недзе на сярэдзіне шляху згадалася, што і на вечарыне, і ў кватэры ружа заставалася без кроплі пітва. І пакуль тое яшчэ будзе, калі я вярнуся дадому?

Я затурбаўся, агледзеў побач з трасай навальнічную калюжыну і паклаў туды ружу. А сам прысеў на партфель ды запаліў цыгарэту. Зразумела, адной цыгарэтай не абышлося, бо ружа гэта ж не птушка, спехам сёрбаць ваду не можа.

Калі ўжо надумаў падымацца, з ночы выскачыў нейкі шалёны тралейбус, рэзка затармазіў насупраць, і здаровы малады мужчына за рулём запытаўся:

– Табе куды? (быццам гэта была таксоўка).

– Ва Уручча.

– Сядай, – махнуў рукой.

Агаломшаны нечаканай прапановай, я падхапіў ружу і ўскочыў у тралейбус.

Кіроўца зацята маўчаў. Я таксама не мог знайсці аніводнага слоўка, каб хоць нешта прамовіць. Так мы і ехалі, моўчкі ўзіраючыся ў ноч, якая, відавочна, збірала чарговую навальнічную залеву. Толькі ўжо ў мікрараёне ён запытаўся, дзе маё жытло, і затрымаў вочы на ружы.

Мой дом быў каля самай дарогі, і тралейбус запыніўся роўна насупраць пад'езда. Я засунуў руку ў кішэню і выцягнуў усё, што там заставалася. Кіроўца не ўзіраючыся ўзяў грошы і выйшаў, каб рассупоніць свайго металёвага каня. Затым нейкім чынам перагнаў тралейбус на супрацьлеглы бок, зноў далучыў рогі да дратоў і з'ехаў у навальніцу... А я стаяў пад залевай, пакуль не вымак як цюцік, спрабуючы зразумець: што гэта было?

Добра разумею, мая рамантычная навэлка тут не зусім да месца. Але калі ў свой апошні час буду прыгадваць наш калегіюм, то перадусім згадаю тую калюжыну, ружу і шалёны тралейбус, што з нейкай незразумелай прыхамаці вёз мяне праз навальнічную ноч дадому.

*(Працяг будзе.)*



Франц Сіўко



...лепшы сродак супраць гора –

праца...

# Тры вярсты

*Адлегласць паміж могілкамі пры царкве Міколы Цудатворца ў Качаках, дзе знаходзіцца сямейны некропаль Талстых, і магілаю Льва Талстога ў Яснай Паляне складае прыкладна тры вярсты. Пры жыцці пісьменніка яе пераадольвалі пехатой. Альбо конна: верхам на жарабцы, як сам гаспадар Яснай Паляны на сваім любімым Дэліры, ці ў брычцы або на падводзе, ці – узімку – на санях. Альбо – ужо бліжэй па часе да мяжы 19-20 стагоддзяў – на ровары[1].*

*Цяпер за шэсць расейскіх рублёў і прыкладна за гэтулькі ж хвілін можна дамчаць да некропаля ў Качаках ад прыпынку на вяршыні Кабацкае гары, на схіле якой месціцца заснаваная ў 1928 годзе школа імя Льва Талстога са скульптураю Леніна перад уваходам, аўтобусам або маршруткай.*

---

[1] Л. Талстой навучыўся ездзіць на ровары ў 1895 г., у 67-гадовым узросце.

*

Апошні прыстанак Талстых на невялікім лапіку ўнутранай часткі качакоўскага могільніка, адгароджанага ад астатняга пагоста невысокай каменнай сцяной, някідкі. Акурат, напэўна, такі, што і наравістаму яснапалянскаму ворагу ўсялякага шыку і раскошы нясціпласцю аздаблення вачэй не муляў бы. Гранічна проста, небагата, нават, можа, і залішне, як на погляд сучаснага абывацеля, схільнага часам ва ўшанаванні дарагіх нябожчыкаў да нежартоўнага размаху, аскетычна.

Гэтаксама проста і на могілках у жаночым кляштары ў Шамардзіне, дзе пахаваная сястра Талстога, схіманахіня Марыя: драўляны крыж з надпісам, несамавіты курганок, купка кветак. У Льва Мікалаевіча, згодна з яго запаветам, як вядома, і гэтага няма.

Цікава, што і ў Качаках, і ў Шамардзіне, і ў Опцінай Пустыні, дзе знайшлі вечны супачын цётка і свякроў сястры пісьменніка, спадарыні Аляксандра і Лізавета, нават на самае нявіннае пытанне датычна персоны Талстога праваслаўныя кансэкраваныя асобы, абражаныя, відаць, яго амаль паўтарастагадовае даўніны крытыкай хрысціянства, адгукаюцца з заўважнаю, праніцанаю абертонамі з’едлівай іроніі (маўляў, як жа, ведаем: гэны, што – авохці! – на перапісванне Евангелля замахваўся) неахвотай. Затое на рэпліку, што ты належыш да іншае канфесіі, адрэагуюць ахвотна і тут жа пытаннем, ці не з’яўляецца твая вандроўка сюды, у сэрца праваслаўнае веры, праяваю жадання стрэсці з сябе д’ябальскае ды пераарыентавацца на боскае, не менш ахвотна агарошаць.

Магчыма, цягам дня інačай, але з раніцы ў Качаках наведнікі спакою спачылых тут продкаў, сваякоў-сучаснікаў ды нашчадкаў Льва Талстога і яго жонкі не парушаюць. Што і не дзіўна: людзей вабіць, прыцягвае як магнітам найперш Ясная Паляна. Там – галоўная сцэна даўніх падзей. Там, у атачэнні старадаўніх дэкарацый, не-не ды і прамільгне перад вачыма вандроўніка, выявіцца паглядам, жэстам, паставаю на фотцы ў музейнай экспазіцыі каторы з галоўных яе персанажаў. Балазе сядзіба захавалася няблага, пісьмовых жа сведчанняў сваіх няпростых, асабліва напрыканцы жыцця, узаемаадносінаў сужэнцы Талстыя пакінулі, да радасці аматараў “смажанага”, што, сведчаннямі тымі пераняўшыся, без лішніх ваганняў прынялі іх на веру, больш як дастаткова.

Што родніць зрокава талстоўскую дзялянку кладоў у Качаках з сядзібаю ў Яснай Паляне, дык гэта тое, што і там, і тут знаходзіш пацвярджэнне высновы літаратуразнаўцы і біёграфа пісьменніка В. Шклоўскага пра перабольшванне сучасным чалавекам *узроўню* (у аўтара літаральна – *значнасці*, ды гэта наўрад дакладна. – *Ф.С.*) побытавай культуры колішняга панства-дваранства. Але гэта тады, напэўна, калі гэткаю высноваю ўсё-ткі прасякнешся асабіста, пабачыўшы ўсё на ўласныя вочы, а не абмяжуешся ўражаннем пра сядзібу і яе ваколіцы з пафаснага сюжэта на якім-небудзь тэлеканале прамацыйна-культурніцкага накірунку.

(Вось, скажам, і табе, аўтар допісу, сыне сялянскі, сюды, дзе гаспадар амаль заўсёды на здымках хоць і ў быццам бы самаруч скляпаных ботах, а ўсё-такі – граф, якім ветрам занесла? – будзе не даваць спакою пытанне. Аж пакуль экскурсавод, дзякуй яму, быццам знарок для тваіх вушэй пад канец расповеду не прамовіць: “Увосень і цяпер, здараецца, надта гразка бывае ў Яснай Паляне, дык тады найбольш увішныя з мясцовых жыхароў пры ўваходзе на тэрыторыю сядзібы гумовікамі гандлююць”.

Ага, дык вось чаму, аказваецца, Леў Мікалаевіч амаль заўсёды ў ботах на здымках! І ўжо зусім неяк інакш пачынаеш пачувацца ў тых не так ужо і шыкоўных, сапраўды, як на пачатку экскурсіі падалося, графскіх пакоях. І ўся перасцярога, што,

маўляў, як ні круці, а праўдзівы панок ён, Талстой Леў Мікалаевіч, а боты дзеля блізіру толькі носіць, – кату пад хвост. А тут яшчэ бальзамам на душу – прыпамін з чытанага пра тое, як маладая графава абранніца Соня спаць яго на прасцінах ды на чыстай падушцы на пачатку сумеснага сямейнага жыцця прывучала.)

*

Дзеці Талстога, адмалку прызвычаеныя да паблажліва-грэблівага стаўлення старэйшых сямейнікаў да творчасці кожнага, хто не Леў Талстой, з часам перанеслі гэткае стаўленне і на знакамітага бацьку. Дочкі як дочкі, а сыны, як сведчаць дзённікі і ліставанне самога пісьменніка, – дакладна. У выніку, паводле слушнае заўвагі таго ж В. Шклоўскага, "дом жыў у некалькіх узроўнях (паверхах) неразумення". Не ў апошнюю чаргу і дзякуючы іх, дарослых пісьменніцкіх дзетак, ста638ранням.

Знаёмая гісторыя: малойцам былі патрэбныя грошы, а іх, апроч Сяргея Львовіча, старэйшага сына, не ўмеў ці не хацеў зарабляць ніхто. Ілля Львовіч цэлымі днямі паляваў або бавіў час на гулянках. Андрэй Львовіч, які разышоўся з жонкаю і знайшоў ёй замену ў асобе жонкі тульскага губернатара, маці шасцярых дзяцей, жыў на заробак чыноўніка і гуляў у карты, баляваў ды перажываў раманы. З галавою сям'і, на той час ужо больш як паспяховым пісьменнікам Львом Талстым, што забяспечваў сваім дарослым дзецям і іх нашчадкам годнае існаванне, мужчыны лічыцца пры гэтым не надта жадалі.

Усіх пераўзышоў у канфліктаванні са знакамітым бацькам Леў Львовіч, пасрэдны скульптар і гэткі ж літаратар. Непаслядоўны ды неўраўнаважаны і разам з тым амбітны чалавек, ён раўнаваў пісьменніка да літаратурнай славы, зайздросціў яму і ў дзённіках не таячыся пісаў пра тое, як яго ненавідзіць. У запале злосці крычаў, бы на хлапчука, абражаў злымі, несправядлівымі словамі. А пасля выбачаўся, прасіў у лістах маці, якая, паводле яе ж прызнання, найбольш з усіх дзяцей яго любіла, каб ад ягонага імя пацалавала Льву Мікалаевічу ў руку.

Мала таго, што сыны мучылі бацьку элементарным неразуменнем, яны яшчэ, згубіўшы з-за штодзённае блізкасці да яго ўяўленне пра маштаб асобы пісьменніка, гатовыя былі аб'явіць яго (і аб'яўлялі, часта ў адзін голас з маці), бесцырымонна выносячы сваё меркаванне на людзі, вар'ятам. Што тут жа выкарыстоўвалася афіцыйнымі выданнямі і асобамі дзеля яго дыскрэдытацыі і прыніжэння ў вачах чытачоў і шматлікіх прыхільнікаў.

Тыражуючы плётку пра Талстога як пра няшчаснага, нягеглага старога, "што знаходзіцца ў стане разумовага і маральнага распаду"[1], да абвінавачання пісьменніка ў супрацоўніцтве з французамі ў вайну 1812 года тагачасная расейская прэса, як у свой час наша да абвінавачання Пазняка ў супрацы з немцамі ў Другую сусветную, праўда, не дайшла. Але ўсё адно водгулле тых прадаўніх плётак пра вар'яцтва Талстога гуляе па таблоідах і сёння. І як яму не гуляць, калі вось узяў чалавек ды і пачаў ні з таго ні з сяго раздаваць бедным ежу, працаваць у полі і, самае галоўнае, – адмовіўся ад аўтарскіх правоў на плён свае творчае працы? Хіба ўсё гэта не падстава для сур'ёзных падазрэнняў?

І хіба дзіва пры такім раскладзе, што Леў Мікалаевіч уяўляўся сынам старэчаю, што дажывае век, якога можна пры нагодзе і воддаль пасунуць, і павучыць, як жыць ды сябе паводзіць. Ды і як да смерці рыхтавацца і як паміраць – таксама. Апошняе выразна бачна ў вядомым ліссе-звароце да пісьменніка сына Іллі пасля таго, як бацька назаўсёды сышоў з дому: "Табе *82 гады, і мама 67. Жыццё абаіх пражыта, але ж* <u>*трэба паміраць добра*</u> (падкрэслена мною. – *Ф.С.*)*"*.

---

[1] Цытата з публікацыі ў газеце "Московские ведомости" паводле кн. В. Шклоўскага "Лев Толстой" (выд. 1963 г.).

Было б, аднак, памылкаю бачыць ва ўчынках сыноў Талстога нейкі адмысловы намер нашкодзіць бацьку. Як і кожны з нас сёння, яны жылі так, як умелі, як дазваляў ім узровень іх мыслення, развіцця. Леў Мікалаевіч рос, развіваўся, дужэў духоўна. Сыны ж яго, наадварот, дасягнуўшы пэўнага ўзросту, сілаў для далейшага духоўнага дужання, як гэта часта бывае, не знаходзілі. Спраўна спажывалі здабытае іншымі і... пляшывелі, ніжэлі, ніцелі, усыхалі ці, наадварот, круглелі – шлях, якога не толькі нашчадкі Талстога, але і куды менш спешчаныя не заробленым уласнымі рукамі дабрабытам маладзёны розных часоў ды народаў не пазбеглі.

Бясконцыя нараканні на безграшоўе, скаргі на беднасць і немагчымасць неяк выкараскацца з яе, выканькванне ў маці хоць колькі соцень рублёў на пражыццё – пастаянны лейтматыў размоваў Талстых-сыноў. І ўчынкаў да такой ступені часам легкадумных, што нават графіня Соф'я Андрэеўна, якая яшчэ зусім нядаўна, забыўшыся на колішняе ўласнае горкае прызнанне, што, маўляў, яе і Льва Мікалаевіча дзеці "*яшчэ больш дэспатычныя і груба настырныя за іх бацьку*" (запіс у дзённіку ад 13 красавіка 1901 г.), гэтак горача іх абараняла, урэшце не вытрымала. Даведаўшыся пра чарговы буйны пройгрыш Льва Львовіча ў карты, удава 31 траўня 1914 года напісала ў дзённіку: *"Тысячу разоў меў рацыю Леў Мік., што абагаціў мужыкоў, а не сыноў. Усё адно пайшло б усё на карты і гулі. І гідка, і сумна, і шкада! А што яшчэ будзе пасля маёй смерці!"*

Як ведаў загадзя пісьменнік пра такі фінал выхавання нашчадкаў і, мяркуючы (хутчэй за ўсё, на жаль, – аблудна), што калі не спросціць зусім, то хаця б аблегчыць гэтым доступ згаданым жонкаю мужыкам, то бок простаму люду, да кнігі і асветы наогул, зрабіў усё, каб прадбачанне яе наконт незайздроснага лёсу ягонай творчай спадчыны не сталася яваю.

З дзённіка Льва Талстога

12 студзеня 1897 г.: *"...Сяропа, Іллюша... Бывае ў жыцці ў іншых хоць што-небудзь сур'ёзнае, людскае – ну, навука, служба, настаўніцтва, доктарства, малыя дзеці. Не кажу ўжо пра заробак або служэнне людзям, а тут нічога, апроч гуляў рознага кшталту і жрання..."*

2 лютага 1907 г.: "*Дзіўная і вартая жалю справа – ён* (сын Леў. – *Ф.С.*) *пакутуе ад зайздрасці да мяне, якая пераходзіць у нянавісць*".

20 красавіка 1909 г.: "*Ва ўсёй сям'і – мужчынскай асабліва – бязмежная самаўпэўненасць. А ў яго* (сына Сяргея. – *Ф.С.*), *здаецца, больш за ўсіх. З гэтага невыпраўная абмежаванасць".*

29 ліпеня 1910 г., "Дзённік для аднаго сябе": *"Андрэй проста адзін з тых, пра каго цяжка думаць, што ў іх душа Боская (але яна ёсць, памятай)".*

30 ліпеня 1910 г.: (...) "*З сынамі гэтак жа па-чужынску*".

2 жніўня 1910 г.: "*Вельмі цяжка. Льва Львовіча не выношу. А ён хоча пасяліцца тут* (у Яснай Паляне. – *Ф.С.*). *Вось выпрабаванне".*

Канфлікт, спароджаны намерам Талстога адмовіцца ад правоў на прыбытак ад продажу твораў і збораў твораў і нязгодаю з ім жонкі ды сыноў няўрымслівага гаспадара яснапалянскае сядзібы, быццам бы выключна ўнутрысямейны, з поглядамі галавы сям'і на ўзаемадачыненні мастака слова з уладаю наўпрост не звязаны.

Сапраўды. Путы матэрыяльнае залежнасці ад міласці высокіх асобаў рук-ног Льву Мікалаевічу, у адрозненне ад, напрыклад, Гогаля, і ў маладыя гады асабліва не сціскалі. Цяпер, на схіле дзён, калі гэтак далёка, на ўвесь свет, сягнулі ягоныя слава ды папулярнасць, – тым больш. Адпаведна, і пытанні кшталту "а што будзе з дзецьмі, калі..." глуздоў не вярэдзілі. Затое яшчэ як вярэдзіла неадпаведнасць варункаў існавання сям'і маральным патрабаванням творцы да яго.

З дзённіка і ліставанняў Льва Талстога

1 красавіка 1909 г.: “*І раскоша пакутлівая, саромная, атручвае ўсё, і цяжкія сыны сваёю чужасцю і агульнаю для ўсёй сям’і выключнай самаўпэўненасцю, – тое ж у дачок*”.

“*Сядзім на дварэ, абедаем дзесяццю стравамі, марозіва, лёкаі, срэбра, і прыходзяць жабракі, і людзі добрыя працягваць есці марозіва спакойна. Дзівосы!*”

“*У нас абед агромністы з шампанскім... Пасы 5-рублёвыя на ўсіх дзецях. Абедаюць, а ўжо вазок едзе на пікнік паміж мужыцкіх падвод са змучаным працаю народам*”.

15 траўня 1909 г.: “*Танечка занемагла – і на ногі ўсіх дактароў, і грошы шпурляюць, а ў вёсцы паміраюць ад беднасці*”.

Нават у хвіліны страты самага блізкага чалавека знаходзіць Талстой падставу выказаць непрыманне звыклага, надыктаванага паходжаннем ладу жыцця. Напрыклад, 27 лістапада 1906 г., у дзень пахавання дачкі Машы, ён запісвае: “*Лепшы сродак супраць гора – праца. А ў іх няма неабходнасці працаваць, ёсць толькі гулі. ...і застаецца міжволі фальшывая, сентыментальная балбатня. Толькі што атрымаў фальшывыя спачувальныя лісты і тэлеграмы і сустрэў дурнічку Кыню, яна ведала Машу. Я кажу: чула пра наша гора?*

*– Чула, – і тут жа: – Капеечку дай.*

*Як гэта нашмат лепш і лягчэй*”.

Вядома, што апроч зачатых ім у шлюбе з Соф’яй Берс шаснаццаці дзяцей (такую лічбу падае ў дзённіку 28 жніўня 1910 г. сама графіня) у Талстога быў яшчэ адзін сын, пазашлюбны.

Цімафей служыў у Яснай Паляне фурманам, і сыны пісьменніка ставіліся да яго па-сваяцку. Дзіўна, але сам Леў Мікалаевіч, як вынікае з яго рэакцыі на паведамленне пра Цімафея аднаго з законных сыноў, пра яго прысутнасць побач ці то насамрэч, ці то *быццам бы* не ведаў. Хутчэй за ўсё – першае, бо, узгадваючы пра яго ў дзённіку (запіс ад 13 чэрвеня 1909 г.), пераблытаў імя мужчыны з імем мужа яго маці: “*Узгадаў Аксеню*[1]. *Кажуць, Ярміл мой сын*”.

Такая недасведчанасць – неблагі козыр для аматараў тлумачыць сямейны канфлікт Талстых выключна чэрствасцю ды бяздушнасцю гаспадара Яснае Паляны ў стаўленні да нашчадкаў.

У якасці доказу сухасці пісьменніка ва ўзаемаадносінах і з законнымі дзецьмі нярэдка прыводзяць факты яго паводзінаў падчас іх хваробы і пахавання. Маўляў, нават за пакутамі самай блізкай яму духоўна дачкі Машы назіраў са смакам, фіксаваў кожную дэталь яе згасання. Ды і падчас праводзінаў на клады паводзіў сябе не так, як след было б добраму бацьку, надта ж неяк похапліва. Развітаўшыся з нябожчыцай пры слупах на ўездзе ў сядзібу, пакрочыў “прэшпектам” дахаты і пры гэтым “ні разу не азірнуўся”[2]. А пахаваўшы любімага сына Ванечку, з якім звязваў надзею на працяг хоць адным з сыноў, як падрасце, собскае справы, яшчэ і Богу падзякаваў. У вачах чалавека, выхаванага, як большасць з нас, на абавязковасці быць, як усе, такія паводзіны інакш як праявай жорсткасці выглядаць, вядома, не могуць.

---

[1] Аксеня Базыкіна, сялянка, дашлюбная каханка Л. Талстога.

[2] Так – паводле згадкі сына Іллі. У лісце да Т. Кузмінскай ад 3 снежня 1906 г. С. Талстая апісвае гэты момант інакш: «Я праводзіла Машу да каменных слупоў, сіл у мяне мала, Лёвачка (Леў Талстой. – *Ф.С.*) да канца вёскі, і мы вярнуліся дахаты».



*Франц Сіўко ля магілы Льва Талстога ў Яснай Паляне.*

З дзённіка Льва Талстога

26 лютага 1895 г.: *"Пахавалі Ванечку. Жахлівая, не, не жахлівая, а вялікая душэўная падзея. Дзякую табе, айцец. Дзякую табе"*.

На вытокі такіх бацькавых паводзінаў праліваюць святло радкі з успамінаў Іллі Львовіча: *"У характары бацькі, – можа, таму, што ён гадаваўся без маці, а можа, паводле прыроды, – мелася адметная і на першы погляд дзіўная асаблівасць – гэта тое, што яму абсалютна была неўласцівая праява пачуцця пяшчоты"*.

Цікава, што, пішучы гэта, Ілля Львовіч разам з тым не забываецца адзначыць і заўсёдную бацькаву сардэчнасць пры сустрэчы з сынамі пасля кароткага ці доўгага расстання.

Час ад часу пацвярджаюць такое назіранне і дзённікавыя запісы самога Талстога. Але асабліва кранальнымі выглядаюць яго словы пра сустрэчу з сынам Сяргеем (які, дарэчы, адзіны з сыноў здолеў узняцца да зразумення і адабрэння паводзінаў бацькі падчас яго сыходу з дому) на станцыі ў Астапаве, прамоўленыя ім у размове з дачкою Аляксандрай: *"Як ён нас знайшоў! Я яму вельмі рады, ён мне прыемны. Ён мне ў руку пацалаваў!"* І, сказаўшы гэта, Талстой заплакаў.

Такую ж чуллівасць Талстога выяўляе і яго запіс у дзённіку ад 7 жніўня 1910 г.: *"Караленка мне кажа: "А які добры чалавек Аляксандра Львоўна". А ў мяне слёзы ў горле ад замілавання, і не магу гаварыць..."*

І тым не менш...

З дзённіка Льва Талстога

25 красавіка 1906 г.: *"Саснілася, што выганяю сына; сын – зборнае ўвасабленне Іллі, Андрэя, Сярожы. Ён не сыходзіць. (...) Раптам гэты зборны сын пачынае мяне сваім азадкам выцясняць з зэдля, на якім я сяджу. Я доўга цярплю, затым ускокваю і замахваюся на сына зэдлем. Ён уцякае"*.

Гэта – у сне. Дзе, зразумела, любы вузел развязваецца значна прасцей і лягчэй, як у рэальным жыцці. Бо, апроч сыноў, ёсць яшчэ і вечная іх заступніца, запарука захавання іх інтарэсаў – маці. Жанчына, што, стаўшы спадарожніцай і памочніцай генія, так у сэнсе штодзённага ўзрастання душы стаць упоравень з ім, як і сыны, не змагла. Пра якую ён яшчэ пасля першае сумеснае ночы 24 верасня 1862 г. напісаў: *"Ноч, цяжкі сон. Не яна"*. А праз амаль паўвека, 20 жніўня 1910 г., стомлены штодзённымі сямейнымі непамыснотамі і непаразуменнямі, у "Дзённіку для аднаго сябе" занатаваў наступнае: *"Сёння думаў, успамінаючы сваю жаніцьбу, што гэта было нешта ракавое. Я ніколі нават не быў закаханы..."*

Праўда апошняе ці не – толькі Богу ды самому аўтару рэплікі вядома. Праніклівы В. Шклоўскі неаднойчы папярэджвае чытача дзённікавых запісаў Талстога (як, дарэчы, і яго жонкі), што давяраць ім абсалютна наўрад ці варта.



*Сыны Льва і Соф'і ТАЛСТЫХ.*

Зрэшты, як і зусім не давяраць або давяраць толькі камусьці аднаму з персанажаў драмы – таксама.

Дбайная гаспадыня дзвюх – яснапалянскай і маскоўскай – сядзібаў і надзейная памочніца пісьменніка ў літаратурных справах, якой скупы на пахвалу Талстой нават пярсцёнак з рубінам (той самы, што знаходзіцца цяпер у музеі Льва Талстога ў Маскве на Прачысценцы), падарыў у знак падзякі за дапамогу падчас працы над "Ганнай Карэнінай", Соф'я Андрэеўна рэўнасцю сваёй і жаданнем паставіць талент мужа на службу сям'і часта рабіла сумеснае існаванне невыносным. Віжаванне, прыдзіркі, шантаж, істэрыкі, інспірацыя самагубства, іншыя праявы душэўнай неўраўнаважанасці – усё гэта сямейнаму жыццю трываласці не дадавала.

З "Дзённіка для аднаго сябе"

11 верасня: "*К вечару пачаліся сцэны бегання ў сад, слёзы, крыкі. Нават да таго, што, калі я выйшаў за ёю ў сад, яна закрычала: гэта звер, забойца, не магу бачыць яго, і пабегла наймаць падводу і зараз жа ад'язджаць*".

З дзённіка Соф'і Талстой

"*Загубіш ты ўсіх нас сваімі задзірыстымі артыкуламі, дзе тут любоў і несупраціў? І не маеш ты права, калі 9 дзяцей*[1]*, губіць і мяне і іх*".

Быццам адказваючы на такія папрокі ды абгрунтоўваючы сваё рашэнне давесці задуманае з адмоваю ад права ўласнасці на прыбытак ад продажу выдадзеных твораў да канца, пісьменнік у тым жа "Дзённіку для аднаго сябе" 29 ліпеня 1910 г. піша: *"Нельга ж пазбавіць мільёны людзей, магчыма, патрэбнага для іх душы. (...) Нават калі маецца толькі самая малая верагоднасць, что напісанае мною патрэбна душам людзей, нельга пазбавіць іх гэтай духоўнай ежы дзеля таго, каб Андрэй мог піць і распуснічаць і Леў пэцкаць і..."*

Намер свой датычна адмовы ад прыбытку ад друкавання твораў Талстой, як вядома, ажыццявіў. Вынікам чаго стала скарачэнне даходаў жонкі і дзяцей амаль

[1] На момант запісу ў сям'і было 6 сыноў і 3 дачкі.

напалову. Такое для звыклае да бязбеднага існавання сям'і катастрафічнае, што Соф'я Андрэеўна піша пасля смерці пісьменніка на імя імператара запыт гэткага зместу: *"Скананне майго мужа, графа Льва Мікалаевіча Талстога, і яго завяшчанне абяздолілі шматлікую яго сям'ю з сямі дзяцей і дваццаці пяці ўнукаў настолькі, што некаторыя з дзяцей маіх не ў стане не толькі выхоўваць, але і проста пракарміць сваіх дзяцей"*. Яна просіць, дзеля паляпшэння становішча сям'і, аб набыцці Яснай Паляны ў дзяржаўную ўласнасць.

Гэтым разам, аднак, вернападданніцтва графіні, якая ўмела знаходзіць падыход да саноўных асобаў і пры жыцці Талстога заўсёды больш-менш паспяхова выконвала ролю залагоджвальніцы яго непаразуменняў з уладамі, аказалася недастаткова. Не жадаючы ўзбагачаць дзяцей свайго зацятага ворага, Рада міністраў адхіліла просьбу Соф'і Андрэеўны наконт сядзібы, але, праўда, самой ёй прызначыла пенсію. Так праз незгаворлівага бацьку дарослыя дзеці Талстога пацярпелі, недаатрымаўшы амаль палову з таго, што маглі б атрымаць, калі б быў ён хаця б крыху больш, хаця б, напрыклад, гэтак, як многія з нас, сённяшніх беларускіх літаратараў, памяркоўным.

Тут, напэўна, дарэчы будзе паразважаць, хаця б і мімаходзь, пра кошт памяркоўнасці. Звычайна як вартыя спачування і жалю разглядаюцца матэрыяльныя страты з-за яе адсутнасці тады, калі ўяўляюць яны штосьці больш-менш унушальнае. Маўляў, вось тут ёсць што чалавеку страчваць, то чаму б яму і не падумаць, быць у стасунках з уладаю памяркоўным ці не. А грамадству, адпаведна, на тэму, ці варта такую памяркоўнасць асуджаць ці, можа, наадварот, ухваляць ды спачувальна-паблажліва, з рэверансамі на адрас даробку асобы, пра якую ідзе размова, нават калі і відавочна ён, той даробак, спрэчны, а то і наогул мізэрны, пагаманіць. Асабліва, калі і ўнукі вунь ужо чалавека з усіх бакоў асаджаюць і не толькі выхаваць іх, а і пракарміць, як у тым лісце Соф'і Андрэеўны даводзіцца, – цяжар непасільны.

*

Сярод велізарнай колькасці пытанняў, якімі займаўся ўсё жыццё Талстой, не апошняе месца займала пытанне функцыянавання механізму "*быць як усе*". У гэтым сэнсе паказальны яго дзённікавы запіс ад 10 студзеня 1909 г.: *"І высветлілася, што для яго* (сына Андрэя. – *Ф.С.*) *няма ніякага іншага кіраўніцтва ў жыцці, апроч таго, што робяць усе. Высветлілася, што ў гэтым – усё; што, за нязначнымі выключэннямі, усе жывуць так, не могуць не жыць так, таму што не маюць нічога іншага, чым можна было б кіравацца*".

І там жа – акурат тое, што і нас сённяшніх датычыць: "(...) *Інтэлігенты – гэта тыя, што гэтак жа, "як усе", інтэлігенты"*.

Непрыманне ўніфікацыі паводзінаў і ладу жыцця было ўласцівае Талстому з маладых гадоў. І тым больш не жадаў ён (і не мог) заставацца *як усе* напрыканцы свайго зямнога шляху. Яму як асобе, для якой, пры яе непераадольным (нават, можа, дакладней – паталагічным) імкненні да маральнага самаўдасканалення, нічога на свеце ў стасунках з людзьмі не было важнейшым за захаванне межаў праўды і справядлівасці (вось жа здараецца і такое), не заставалася іншага выйсця, як ад іх аддаліцца. Не проста ўцячы ў іншы свет, а, як зазначае В. Шклоўскі, "пераадолеўшы шкадаванне да блізкіх, адрэзаць сябе ад старога". Пазбавіцца, адстароніцца, адкінуць, адпрэчыць неўласцівае, нялюбае, абрыдлае – рашуча, незваротна, аднойчы і назаўсёды.

Дзеля гэтага, напэўна, і здзейсніў ён тое, чым трызніў усё жыццё і што

выказаў амаль што ў бяспамяцтве на смяротным ложы ў Астапаве: *“Я пайду куды-небудзь, каб ніхто не замінаў. Пакіньце мяне ў спакоі”*. Што агульнапрынятаму разуменню “паміраць трэба добра”, *як усе*, то бок на цёплым ложку і пагадзіўшыся з меркаваннем, быццам дбанне пра дабрабыт нашчадкаў – адзінае і найвышэйшае, што вартае ўхвалы, а таму да скачэння веку можа і павінна заставацца сродкам і прыладаю ўздзеяння на ўчынкі і волю чалавека, канечне, не адпавядала. Так аўтар “Вайны і міру” ўзбагаціў “думку сямейную” досведам яшчэ адной сям’і – уласнай.

*

Усяго каля трох вёрстаў паміж магілаю Талстога ў Яснай Паляне і магіламі яго блізкіх і родных у Качаках. Быццам побач з усімі Леў Мікалаевіч і разам з тым – асобна, сам па сабе. Для жывога чалавека, асабліва ў век, калі раз за разам сноўдаюць сюды-туды па дарогах імклівыя аўто, тры вярсты – адлегласць смешная. Для нябожчыка, наадварот, – непераадольная прорва. Жорсткая лінія падзелу, што, нават праніцаная дарэшты карэннем роднасці-сваяцтва, на вякі вечныя застаецца сведчаннем адасобленасці. І разам з тым, як бы яна ні пярэчыла нашай прыродзе ды як бы ні калола асцём жорсткасці, – на шчасце, і ўвасабленнем надзеі таксама.



Міхал Талочка



...па маёй роднай вёсцы сноўдаюцца чужыя людзі...

# Калі поўня становіцца княжычам

## Пах роднага жытла

Я адчыняю брамку, пасля адмыкаю дзверы ў хату, прынюхваюся да адмысловага паху вясковага жытла, дзе ніхто не жыве... Радуюся. Бо я дома.

У хаце адразу раскладваю прычындалы і харч: што ў старую лядоўню ці ў камору, што ў шафу, а нешта і на печку. Пераапранаюся ў старое, некалі сюды прывезенае з Мінску, іду ў гумно па дровы, якія неўзабаве ўжо гараць у печы.

Агонь за іх чапляецца не адразу. Я тым часам рассцілаю ложак, залажу пад коўдру і пачынаю ўглядацца, як агеньчык перарастае ў полымя.

Да мяне прыходзіць шчасце.

Прыгадваю, як мама, з якою мы часта вечарамі размаўлялі тут, каля печы, казала, пусціўшы слязу:

– І татусь твой любіў вось так, каля печы, прылегчы альбо прысесці... Углядаецца ў агонь і ўглядаецца...

Няма ўжо і мамы.

І той роднай Дубровіцы больш няма. Увогуле той сапраўднай вёскі больш няма. Не толькі ў мяне.

Але я хачу напісаць пра яе, я павінен гэта зрабіць. Ведаю – пра вясковую рэчаіснасць мала хто чытае, а пішуць толькі па прафесійным абавязку. А здаецца, яшчэ нядаўна, у 20 стагоддзі, вёска падавалася захавальніцай спрадвечных традыцый і мовы, працаўніцай, на якой свет трымаецца. Час, скажаце, не зменіш і не перакруціш. Я й не збіраюся. Але распавесці пра родную Дубровіцу мушу.

Стаіць галоўнае пытанне: як скласці нататкі, каб яны ўжо зусім не былі сумнымі і залішне сентыментальнымі? Памылкова лічыцца, што літаратару прасцей пісаць пра тое, што добра ведаеш. Наадварот. За багатую журналісцкую практыку ўпэўніваўся не раз: новы чалавек, новая справа ці месца вымушаюць быць больш пільным; новае – дысцыплінуе, бо ты не павінен выпусціць істотных дэталяў, каб твой аповед быў змястоўным. А іх, тых дэталяў, часта не стае. Пра добрага знаёмага ці родную мясціну ты ведаеш шмат і баішся загрувашчваць тэкст, а тады часцяком на першы план выходзіць другаснае, а істотнае, цікавейшае застаецца пры табе. Адным словам, інтымная гэта рэч – адносіны з радзімай...

* * *

Як добра нічога не рабіць, ляжаць на старым ложку ў бацькоўскай вясковай хаце і слухаць, як ці то ў агародчыку, ці то ў садзе па-заліхвацку свішчуць птушкі. На другім баку вёскі, праз Варкі (так у нас называюць лагчыну), гучыць бензапіла і там жа падае зрэдку голас певень.

Герман Гесэ ў "Стэпавым ваўку" пісаў пра такія ж адчуванні: "Цудоўная рэч – задавальненне, бесхваробнасць, гэтыя добрыя дні, калі ні боль, ні радасць не асмельваюцца ўскрыкнуць, калі яны гавораць шэпчучы і ходзяць на дыбачках".

Я трэці дзень дома. Пасля смерці мамы пэўны час баяўся ў хату заходзіць. Цяпер – не. І спіцца добра, і працуецца. Мо таму, што хата не толькі родная, але і, так бы мовіць, намоленая. Мама малілася на дзень некалькі разоў: за сваю сям'ю, за нас і нашых дзяцей, пасля – за родных, затым – за суседзяў. Думаю, дзякуючы яе малітвам, я з розных непрыемных сітуацыяў выходзіў "чыстым з вады".

Я люблю сваю дубровіцкую хату. Мне тут лепей, чым у мінскай кватэры, дзе ўжо пражыў амаль трыццаць гадоў. Гляджу на агонь, на сэрцы лагода і лёгкае трымценне, ледзь не дрыжыкі – прадчуванне працы. Гэта самае прыемнае ў творчым працэсе. Не раз было, што і нічога не напішаш, але ж тыя эмоцыі прыгадаеш заўсёды.

## Казёл у агародзе

Роздум перапыняюць крыкі. Падымаюся, цікую ў вакно. Ага, так і ёсць – Фэлё Яўхімоў раве на сваю кабету: "Пачвара! Нягодніца! Дзе швэндаешся?! Цябе Балбатун шукае". І не ведае бедны Фэлік, што той у запоі.

Ну, значыцца, і пачнём з яго. Не, не з Фэлі, якога даўно ведаю. Ён з суседняй Рэцемлі, звычайны абібок, які нават за дармаедства некалі сядзеў. Яму недзе за шэсцьдзесят, у нашу Дубровіцу перабраўся з дзесяць гадоў таму, сышоўся з бабаю, жыве за тое, што падкалыміць. Найчасцей – у Балбатуна.

Я гляджу на агонь, і прыходзіць у галаву бязглузды ўспамін. Не колішні, нядаўні. Ну, зусім недарэчны выпадак. Але, было не было, з яго і пачну.

Прыгадаўся мне казёл. Некалькі гадоў таму, накасіўшыся каля хаты, падрамантаваўшы паветку, прылёг я адпачыць. І добра такі задрамаў. Прачнуўся, выйшаў на ганак і аслупянеў: у агародчыку стаяла барадатая казліна і паядала, не, ужо даскубвала, кусты маліны! Я кінуўся да жывёлы, ды дзе там яе дагоніш. Тады папёр да гаспадара. Ведаў – Балбатуноў казёл. Ледзь не плакаў: не так маліны шкода было



*Дубровіцкая моладзь, 20-я гады XX ст.*

(хаця яна, восеньская, "польская", давала вельмі добры ўраджай, на якім швагер Бронак разбагацеў)... Колькі мамінай працы – яна і высаджвала тыя кусты, і даглядала іх. Балбатун адказаў: "Стралять трэба было"...

Ды, адкінуўшы эмоцыі, хаця той казёл і цяпер перада мною стаіць, пару слоў пра Балбатуна. У нашай мясцовасці ён недзе каля 15 гадоў. Нібыта тутэйшы, з-пад Свіцязі, але жыў у Казахстане. Сядзеў. Як неяк мне прызнаўся – у "чырвоным" лагеры быў брыгадзірам. Трое дзяцей, ужо дарослых. У Дубровіцы завёў кароў, здае малако дзяржаве. Трымаў свіней, цялят, авечак. Свіннямі ўжо не займаецца, як і агароднінай.

І вось што характэрна – прыбытак мае ад кароў, адмыслова штораніцы прыязджае з Наваградка малакавоз. Авечак нібыта прадаў...

Але – пра авечак. Дзядзька Стась Абрыцкі (яму пад восемдзесят, але яшчэ дужы мужчына і нават каня трымае) неяк сказаў:

– Каб мой дзядзька ўбачыў такі здзек над жывёлай, дык гнаў бы гэтага фермера з вёскі пугаю.

Што праўда, дык праўда – недагледжаная скаціна. І не толькі авечкі. Цялят паставіў каля маёй хаты ў колішняй Каляндзінінай сядзібе. Часта не кормленыя – равуць немым голасам. А як цяплынь, дык адтуль да мяне смурод нясе.

Заўвагі ж мае – не ад злосці. І папівае ён час ад часу. Хацеў абысці гэты тэмат, ды, мусіць, атрымаецца няшчыра. Калісьці, у часы майго дзяцінства і юнацтва, у Дубровіцы было толькі некалькі п'яніц. Мой тата, які развозіў па навакольных вёсках газавыя балоны і падрабляў электрыкам, дазваляў сабе некалькі чарак: на травах ці на свіной жоўці. Яму ж прапаноўвалі штодня ледзь не ў кожнай хаце. Ну, здаралася, ён наравіў гаспадару ці гаспадыні (я тое бачыў, бо з шостага класа на вакацыях падмяняў яго зменшчыка Аганоўскага), але толькі сімвалічна. Другія мужчыны дубровіцкія выпівалі болей, але без сённяшняга бяздумства.

А вось мы, дубровіцкая моладзь, давалі "коксу"! Са школьных гадоў. І цяпер не адстаём, хоць каму і пад шэсцьдзесят, а некаму і болей. Чаму? Думаю, нагода ў шляхецкай фанабарэі, гэткім куражы. Пачэсным лічылася некага пабіць (асабліва старэйшага), удала пачапляцца да дзяўчат, выпіць на школьным вечары і вясковым вяселлі. Таму й не палюблівалі нас у суседніх вёсках.

Неяк сустрэў Балбатуна. Сумнага. Я ўжо ведаў, што напярэдадні Валодзя, мякка кажучы, нахуліганіў...

– Всё буду раскидать! Распродам хозяйство!

– Чаго?

– Жонку дети в Минск забрали. Прожили столько лет. Я их воспитал. Выучил, и никакой благодарности.

Ды нічога – жонка вярнулася, Валодзя павесялеў, усё наладзілася.

* * *

Па маёй роднай вёсцы сноўдаюцца чужыя людзі. Яны не бадзяюцца, не, яны тут паводзяць сябе па-гаспадарску і рухаюцца з нейкай мэтай; найчасцей – падзарабіць і выпіць. Пасля яны крычаць, як дома. Мацюкаюцца. Няўжо я тут чужы?

Гэта ўжо не мая вёска, гэта не мая родная вёска. Я пужаюся думкі: калі і я тут выпіваю, дык ці не раблюся чужым для сваёй роднай хаты. Бо, здаецца, яшчэ нядаўна, пры бацьках, такога і ўявіць нельга было. Мо таму так часта мне сніцца сон, у якім мама, з дакорам на мяне паглядаючы, нічога не гаворыць.

## “Варшава” пад Навагрудкам

Не толькі прароку цяжка ў сваёй Айчыне. Апавядальніку – таксама.

Адна справа: прыехаць у чужое месца, сустрэцца з новымі людзьмі, агледзець краявіды і з’ехаць, напісаўшы ўсё са шчырым замілаваннем і справядлівай крытыкай. Другая – вярнуцца дамоў і пачуць:

– Што ты ў газетцы зноў надрукаваў?! Табе ж нічога нельга гаварыць!

Я чуў такое ад маці і таты. Хаця напісаў праўду пра норавы аднавяскоўцаў. Ды праўда гэта была наша, дубровіцкая. Не для чужых. Мая вёска ўвогуле некалі была адасобленая. Збіраючыся сюды з Наваградка, казалі таксоўшчыку:

– Да Варшавы!

Разумелі і ахвотна давозілі. Ведалі – пасажыр расплоціцца шчодра. Наступствы шляхецтва. Няхай сабе і засцянковага. Дубровіцу і называюць Варшаваю, бо некалі жыло шмат “палякаў”. Каталік – значыць паляк. Цяпер жа ўсё не так.

Раней шлюбы з праваслаўнымі ў нас не шанаваліся. Даходзіла да трагедый. “Я – мужычка, ты – католік. Не руш мяне за падолік”. Памятаеце “Паўлінку” – каталіка і шляхціца ў Янкі Купалы? Толькі ў нас наадварот. “Мужычкі”, выйшаўшы за дубровіцкага хлопца, рабіліся, як правіла, апантанымі каталічкамі. Выснова – ганарова, выходзіць, лічылася.

Назва “Дубровіца” – зразумелая. Калісь тут было шмат дуброў. Ды і цяпер вёску акаляюць густыя лясы. Раней большасць тутэйшых жыла на хутарах. Найбуйнейшы – Бойданаўшчына, этымалогія, напэўна, ад выразу “Бой за Айчыну”. Дзядуля распавядаў, што некалі тут ішлі вялікія баі паўстанцаў з расейскімі акупантамі, пасля чаго з’явіліся два курганы, якія за польскім часам забаранялася чапаць. Пасля 1939 года іх зруйнавалі. Зрэшты, і мой род тут з’явіўся пасля паўстання 1863 года. Жылі шляхцічы каля Гародні заможна, але пасля паразы вызваленчага руху братоў майго продка саслалі ў Сібір, адкуль яму ўдалося збегчы. Затаіўся недзе каля Вільні, а пасля (пэўна, нейкія грошы былі) купіў на Бойданаўшчыне курную хату.

Цяпер вёска іншая, бо і людзі іншыя. Больш за дваццаць гадоў назад у “Звяздзе” я дазволіў сабе далікатна супрацьстаяць ідэалізацыі вёскі і вяскоўцаў.

“У вёсцы жыць вельмі цяжка. І гэта галоўнае. А ўжо потым чыстае (пасля Чарнобыля не зусім) паветра і цыбуліна з агародчыка. Корпацца на лецішччы і пастаянна жыць у вёсцы тое, што ехаць у аўтобусе пасажырам і за рулём” .

“Часта даводзіцца чуць, што трагедыя беларускага народа ў адыходзе ад спрадвечнага вясковага жыцця. У руйнаванні мудрай вясковай філасофіі.

Лухта. Дубровіцкіх людзей лічаць дружнымі. І небеспадстаўна. Але я то ведаю, як некаторыя цікуюць, калі вечарком воз сена ці саломы вязеш. А мо ўкраў?! Могуць і стукануць. І так паўсюдна. Чаму? Ад зайздрасці. Вясковаму чалавеку ўсё даецца цяжка, вось і зайздросціць чужой удачы”.

* * *

Як дзіця радуюся дажджу: то адчыняю вакно, то выбягаю на ганак, то з веранды ўглядаюся ў ягоны рух. Навокал зяляніна, уверсе не сказаць каб цёмнае неба, і ён, дождж, працінае прастору . Нібы дрот.

Дождж шуміць, і шум той заварожвае, гіпнатызуе, ахінае...

Я стаяў пад страхою з вінаграднай лазы і лавіў у далоні струменьчыкі дажджу, што сцякалі-віравалі з лісточкаў. Потым абмыў гэтай вадою твар. Дождж ціхенька церушыў, а на сваім твары я адчуваў дурнаватую ўсмешку. Я быў шчаслівы.

## Лісіны рот і хвост ваўчыны

Самае людное месца ў Дубровіцы каля колішняй пачатковай школы, дзе пасля была лаўка (так называлі і называюць шмат дзе ў Беларусі магазін, краму) – сюды тры разы на тыдзень прыходзіць ужо аўталаўка.

Памятаю, якія дыскусіі тут ладзіліся. І калі жанчынкі ўхвалялі існуючы лад (і спакойна, і пенсіі своечасова выплочваюць), то мужчыны падзяляліся ў поглядах. І даволі рэзка.

– Вунь прыслугачэ як прыдумалі – бацька, бацька. Як Махно... А ў мяне адзін бацька быў, вечны яму покуй, – казаў паляўнічы Гэнё Цыбульскі.

– Ты вот не ляпай абы чаго, – умешваўся весялун і мясцовы выпівоха Вацюк Чвыркаў. – Лукашэнко робіць усё правільно. І добра, што строгі – парадак патрэбны. А ў начальніка мусіць быць хвост лісіны, а рот ваўчыны.

Увогуле ён мне заўсёды падабаўся. Як і такі ж выпівоха – ягоны брат і мой сусед дзядзька Казюк. Ну такі дасціпны чалавек быў! Ён усім дубровіцкім мянушкі даваў. Нават сынам: адзін – Батон, другі – Торба, трэці – Пэшка. Жонку аднаго з вяскоўцаў празваў Чорны воран. Мая ўсміхалася: "Цікава, якую ж мянушку мне даў". Напэўна даў. Я, напрыклад, з яго лёгкай рукі – Луль. (Мальцом падыходзіў да адзінага вясковага кіроўцы Цыбульскага і прасіў: "Дзядзько Гэнё, дайце мне луль ад машыны". Літару "Р" не выгаворваў).

Са старых вяскоўцаў мала ўжо хто застаўся. Сярод іх мой стрыечны дзядзька Стась – адзін жывы з татавых чатырох братоў. Да яго і цёткі Марысі стараюся завітаць заўжды, прыязджаючы дамоў. Памятаю, як татусь, набыўшы з ім у пачатку 1990-х ладную кабылку, казаў:

– Бальшавікі каня забралі, дык хоць на старасці ўцеха.

Абрабляў на ёй зямлю, вазіў сена і салому, а нядзелькамі з мамаю і суседкамі ехалі за кіламетраў пяць у мястэчка Уселюб да касцёла.

Захварэў, трапіў у лякарню, давялося кабылу прадаць. Мы разумелі – сумуе. Хоць бацька трымаўся зухам, неяк прызнаўся:

– Сніцца часто, нібыто еду на возе, а побач жарабятко бяжыць...

Цяпер з колішняй галоўнай цяглавай сілы ў вёсцы засталіся толькі два конікі...

## Вясковы герой

Познім вечарам мы ўселіся на лаўцы каля маёй хаты: паставілі на зэдлік пляшку, паклалі закуску. Цёпла, спеў птахаў і жаб у наваколлі; накормленыя балбатуновы цяляты маўчаць. І камароў няма. Чаркуем, гутарым.

– Нешта конікаў не чуваць. Ох і люблю іх стракатанне.

– Усяму, дружа, свой час, – кажа Браніслаў. – Глянь на поўню: яна паціху рухаецца ўправа і хутка стане ксенжыцам.

– Княжычам, хаця ў нас так не кажуць; месяц ды месяц.

– Ну я ж і кажу – ксенжыцам.

Я ўсміхаюся: ягоны радавы хутар Храновішчы ад нас напрасткі кіламетраў за пяць, а і тут розніца ў нейкіх словах. Хаця ў гэтым выпадку зразумела – паланізм.

Бронка Лысага я ведаю з малалецтва – ён жанаты з траюраднай сястрою Ядзі. Хаця й да гэтага прыходзіў да нас на танцы. Працаваў на заводзе газавай апаратуры, для душы завёў пчол на хутары. А вось калі далі пэўную волю прадпрымальніцтву, яго энергія знайшла выхад. Якраз і на пенсію выйшаў. Дарэчы, пра энергію. Цётка Юзя, ягоная цешча, казала мне: "Гультай – дрэнна, але і так кідацца ў работу – не дай Бог".

Цётка Юзя Сянкевіч – з роду Талочкаў. І польскі час зачапіла, і ў Германію падчас вайны вывезлі. Там дзяўчо прызвычаілася паліць цыгаркі. Нас – дзятву – дужа здзіўляла: кабета ды курыць. Потым я пачуў яе аповяд пра тое, як цыгаркі дапамагалі забіць пачуццё голаду...

Цяпер ёй за 90, жыве ў дачкі, ва Уселюбе. А доўгі час, пакуль сілы мела, была разам з зяцем – той, усур'ёз заняўшыся пчоламі, перабраўся сюды з горада. Калі нядаўна я прыгадаў яе словы, той усміхнуўся:

– Мусіць, разлавалася з-за аднаго выпадку. Я а чацвёртай раніцы ўстаў і пайшоў дошкі габляваць для вулляў. А дзверы замкнуў...

Не, братка, напэўна, нагода іншая. Характар у цябе такі. Сусед Колька Макараў прыгадваў:

– Мы зімою ў дзесяць вечара ў клубе гуляем, а Лысы дровы сячэ.

Пачынаў Браніслаў спакваля – з пчол. Заняўшыся пчалярствам грунтоўна, не толькі пераймаў досвед у старых пчаляроў, але і чытаў адмысловую літаратуру, часопісы. Тады іх было мала, як і пчаляроў. Гэта цяпер і жук, і жаба займаюцца мёдам. Паціху пачаў прадукцыю збываць. Адным словам, сёння ён мае больш сто калодак: і ў Дубровіцы, і на хутары.

Мае пан Браніслаў двух сыноў: Віктара і Генадзя. Удаліся яны ў бацьку (ну, вядома ж, і ў маці Ядзвігу, былую настаўніцу, якая на гаспадарцы таксама робіць) – такія ж працавітыя і энергічныя. Больш за дзесяць гадоў таму ці не цётцы Марысі Чвыркавай прывезлі некалькі кустоў рэмантантных малінаў з Польшчы (з таго часу яе і сталі называць "польская"). Прадукт прыйшоўся дубровіцкім даспадобы – ягады буйныя, не чарвівыя. Амаль у кожным агародзе пасадзілі іх. І ў нас была. Так, я любіў увосень зранку ўстаць і ў надворку проста з куста есці... Каб не Балбатуноў казёл. (Ну, не магу я на тое забыцца! Барані Божа вас ад такіх казлоў.) А вось Лысы параю кустоў не абмежаваўся. Паціху каля хаты вырасла цэлая плантацыя. Уявіце: акуратныя кусцікі маліны, ахіленыя чырвонымі ягадамі, гудзяць пчолы і побач яблыні... Дарэчы, і для пчолак маліны пайшлі на карысць. Прыгажосць прыгажосцю, але галоўнае іншае – добры бізнес з ягад атрымаўся. Купілі хлопцы машыну з маразілкаю, і паехалі ягады не толькі па Беларусі, але і ў Маскву.

Прыязджаючы дадому, я люблю наведацца на ўчасткі Лысага. Ён узяў у арэнду некалькі гектараў зямлі. Большую частку пусціў, зразумела, пад маліны. Усюды акуратна, як і на сядзібе, абгароджанай ладным штыкетнікам. Не тое што ў Балбатуна – падворак зусім не абгароджаны. Лысыя сеюць збожжавыя, моркву і садзяць бульбу. Браніслаў кажа: "Можна спрабаваць шмат што рабіць, але выбіраць трэба тое, ад чаго толк будзе".

Хлопцы ўзялі ў арэнду сажалку. Яна ўжо зарастала, і карасёў вадзілася мала. Прывялі ў парадак, паставілі альтанку. Бачыў не раз – як яны кармілі запушчаную ў вадаём рыбу. Штовечар варылі збажыну і адпраўлялі на корм. Прыбытку, я разумею, ад возера мала, але затое яно выжыла: сёння тут не толькі карасі і карпы, але і таўсталобікі.

Грунтоўна заняліся Лысыя развядзеннем авечак – болей за сто галоў маюць. Вось і ў сёлетні травеньскі прыезд заўважыў: бараны – у стойле, а авечкі з ягнятамі – у полі, на стойбішчы. Давялося мне паглядзець, як пакупнік з Мінска сам рэзаў і

абіраў бараноў: шкуры асобна, вантробы – у яму. Падумалася: а некалі так цанілася воўна – і мне, памятаю, першы кажушок шылі ў суседняй вёсцы. Цяпер, як і з таго лісінага меху, няма ніякага гешэфту.

Неяк я запытаў:

– Бронак, ты ж маеш капейку. З’ездзіў бы куды ў Егіпет...

– Навошта? Мне не цікава. Калі што – і па тэлевізары пагляджу.

Ох, ведаю, што і на тэлевізар часу не мае, вечарамі толькі навіны глядзіць. Нават у грыбы рэдка вырываецца. Хаця грыбнік знатны. Ведае месцы і час збору, гады з два таму знайшоў недалёка ад хутара месца, дзе за раз сабраў 220 баравікоў.

...Травеньскі вечар няспешна працягваецца. Поўня пасміхаецца нам.

– Мусіць, хутка першыя грыбы пойдуць.

– Выспеўкі.

– Не зразумеў.

– Ну, выспеўкамі называюць першых баравічкоў – калі толькі зерне пачне прабівацца са сцябліны, трэба злавіць момант. Бо баравічкі выскокваюць на дзень-другі, і ўсё – чакай два месяцы.

Я люблю яго слухаць. Ён ведае прыроду, жыве ёю і ў ёй. З такіх абазнаных людзей мяне заўсёды ўражваюць веды сябра і калегі Аляксандра Піскунова. Даўно збіраюся іх пазнаёміць, прывезці Уладзіміравіча ў Дубровіцу. Бо дачакацца, што Бронак паедзе ў Мінск не прыходзіцца. Не мае часу.

## Спыненыя запісы

Я ведаю дакладны час, калі спыніў гэтыя нататкі – 8 траўня 2009 года. У нейкі момант падумалася, што калі рабіць запісы далей, дык будзеш заглыбляцца ў тэму да бясконцасці, пісаць і пісаць да смерці. Ды й дзеля чаго?..

За гэтыя гады шмат хто са згаданых вяскоўцаў памёр. Вёска ж нібыты не змянілася. Хаця я не быў там амаль два гады, скаваны хваробамі. У Бронка пра надвор’е, грыбы, ураджай яблыкаў, груш, маліны... Вось і гэтыя радкі левай рукою набіраю, пасля чатырох аперацый за год правая так і не дзейнічае...

А нядаўна напаткала бяда і Браніслава. Нечаканая. Ягоны родны хутар, дзе стаяць вуллі, месціцца на ўскрайку леса. І вось падчас догляду пчол яго ўкусілі два кляшчы. Ужо ў навагрудскай лякарні высветлілася – адзін з іх энцэфалітны. Лячыўся ў Гародні, вярнуўся ў Навагрудак. Апошні раз мы размаўлялі, калі яго зноў забрала “хуткая”. Я таксама ледзьве падымаўся з ложка. Пытаюся:

– А ў вёсцы быў?

– Раз вазілі.

– Ну дык там жа хлопцы, усё дагледжана.

– У хлопцаў хлопцава... Вот каб я сам...

Паводле навуковых даследаванняў, поўня і княжыч – адно нябеснае свяціла. Проста Месяц праходзіць розныя перыяды (адкуль і разбіўка года на 12 месяцаў), і па рознаму паварочваецца да нас. Не будзем кідацца ў астранамічныя шчыгулы, не станем кранаць Божую нябесную таямніцу, бо ўсё роўна мы не спынімся любавацца начным бідовішчам: зорамі, поўняй і княжычам. Здаровыя і хворыя, старыя ды маладыя.

І пэўна знойдзецца той, хто пра вёску напіша светлую ды вясёлую гісторыю.



кнігапіс

Леанід Галубовіч



...чалавек стварае мастацкі твор,
а той ужо ставіць яго перад фактам формы...

# «Пракрустава ложа санета»

***Георгій Ліхтаровіч. Санеты. – Мінск: выдавец Зміцер Колас, 2018. – 100 с.***

Раздумваючы пра тое, як сучасны творца піша і выдае зборнік санетаў – адмысловай класічнай формы лірычнага верша – адразу ўзгадваю Дантэ, Петрарку, Шэкспіра, Міцкевіча, нашых Купалу, Багдановіча, Дубоўку... І тады ўнутранае трапятанне і адказнасць за паэтычны канон трошкі астуджваюць душу і прыструньваюць духоўнае парыванне. Аднак ёсць людзі, якія на гэта рашаюцца. Спасылаючыся на ўсім вядомы выраз – *так дыктавалася Звыш*. Што ж, здараюцца і такія высокія мастацкія прарывы і азарэнні.

Як бы там ні было, а вядомы фотамайстар і паэт Георгій Ліхтаровіч выдаў ёмкую кніжачку, якую так і назваў – “Санеты”. Іх там 72. Але, трэба сказаць, выданне прадуманае, у ім не заўважаецца стыхійнай спантаннасці і кідкай разбалансаванасці. Аснова зместу ды ідэйнай аўтарскай лініі грунтуюцца на зямных

порах года і астранамічных праявах Сусвету. Па ўсім, была задача стварыць паэтычную і па магчымасці мастацкую ўяву цыклічнасці жыцця ўвогуле (метафізічнага і духоўнага), сувымяраючы яго з астралагічным і каляндарным часам. Паказаць Прыроду боскага стварэння і прыроду самога чалавека, а таксама адлюстраваць эвалюцыйнасць свету, грамадства і чалавека (беларускага ў прыватнасці)... Як напісаў у кароткай прадмове вядомы перакладчык і грамадскі дзеяч Л. Баршчэўскі: *“Аўтар выкарыстоўвае класічную (і не зусім) форму і старадаўнюю традыцыю казаць ад імя калектыўнага “я”, каб данесці чытачу асаблівасці свайго “фатаграфічнага” і рэфлексійнага светабачання”.*




А што тычыцца ўзгаданых тут канону і формы, то аўтар не выбіваецца з класічнай будовы санета, запачаткаванага ажно ў XIII стагоддзі. Прасцей кажучы, Ліхтаровіч прытрымліваецца формулы, якую ў нас першым выпісаў Максім Багдановіч, а менавіта: *“у першых васьмі радках развіваецца тэма санета, а ў астатніх – заключэнне да яе; ставіцца пытанне і даецца адказ; малюецца абразок і даецца паясненне да яго”.* Ёсць у зборніку і рэдкія выключэнні з працытаванага правіла, але ў асноўным паэт стараецца іх не парушаць. У яго санетах сустракаюцца розныя сістэмы рыфмаваных скрыжаванняў: *abba abba bab aba* і *abab abab baab ab* ды інш.), але заўсёды захоўваецца чатырнаццацізначны лік радкоў. У дзве рыфмы спалучаюцца *катрэны* (два першыя чатырохрадкоўі) і ў тры рыфмы – два заключныя трохрадкоўі (*тэрцэты*). Аднак жа не ў самой форме палягае мастацкая моц санета як лірычнага верша, а ў яго высокамастацкай напоўненасці, гэта значыць, у паэзіі. Аднак калі ўжо зайшла такая акадэмічная гаворка, то варта было б нагадаць, што ў апошні час у нашай нацыянальнай паэзіі санеты пісалі і пішуць: В. Гадулька, І. Катляроў, С. Шах, З. Марозаў... (і, між іншым, у 1982 годзе А. Звонак ужо выдаваў аднайменны з рэцэнзаваным тут зборнік “Санеты”, мабыць, аўтар і рэдактар не надалі гэтаму факту належнай увагі). Больш за тое, у сучаснай гісторыі беларускай літаратуры ёсць не толькі санетныя цыклы, але і вянкі санетаў (Н. Гілевіч, А. Звонак, Я. Сіпакоў, В. Гадулька) і нават вянкі вянкоў санетаў (С. Шах, З. Марозаў). Дарэчы Соф’і Шах аўтар гэтага зборніка прысвяціў “Санетны санет”, які, на мой густ, усё ж трэба было б аднесці хутчэй да парадыйнага, чым да лірычнага.

Ды жах начуе ў снах другіх паэтаў:
Плятуць вянок вянкі вянкоў санетаў –
І новы нараджаецца фармат.
Калі яна гірляндай гэтай шахне,
Свет паэтычны ашалела ахне,
Бо гэта будзе ўжо не шах, а мат!

(У звязку з гэтым можна згадаць, што сатырычныя санеты ёсць і ў паэтычным набытку А. Звонака.) Праўда, не ўсе роўна і станоўча ставяцца да такой, назавём гэта, вершаванай практыкі. Я сам калісьці, крытычна “легалізуючы” ў “ЛіМе” чарговыя санетныя выданні І. Катлярова і С. Шах, узгадаў, як некалі, у адрозненне ад мяне, гэтай паэтычнай *светлагорскай* з’явай захапляўся на Радзе СП нябожчык С. Грахоўскі, калі даведаўся, што Змітрок Марозаў напісаў вянок вянкоў санетаў! Маўляў, самы першы ў Беларусі, а мо і ў Еўропе!

Што тычыцца Г. Ліхтаровіча, то ён асцярожна і пашанотна ставіцца як агулам да паэтычнай творчасці, так і да ўласнага вершавання. Ён далікатна і шчыра ўводзіць чытача ў сваю ўнутраную творчую лабараторыю і асабістае “жыццёбыццё”. Пачынаючы ад азоў – першага вершаванага парывання:

Тады я і спалохаўся паперы,
Ды нехта расчыніў у бездань дзверы –
І загучаў адтуль нячутны спеў.
Нібыта вечнасць ветрыкам падзьмула,
І чулая душа захаланула,
Адчула: назаўжды, брат, захварэў.

Але адна справа захапіцца рыфмаваннем і складаннем вершаў і зусім іншая, як пры гэтым застацца натуральным чалавекам з усімі сваім пачуццямі, думкамі і перажываннямі, як прапусціць надзённае жыццё праз сябе, каб яно выявілася па-мастацку святочным і вартым упамінання пра яго?! Альбо:

Як прамяні дзяцінства не згубіць;
Святла душы дзівосную ўласцівасць...
.......................................................
Зірнуць на свет дзіцячымі вачыма!

Мы ж разумеем, што нярэдка форматворчасць можа запатрабаваць ад паэта арыфметычнага мыслення і геаметрычных уяўленняў. І не выключана, што ў такім выпадку форма стане кіраваць зместам. Але ж менавіта змест павінен выяўляцца у адпаведнай яму форме. Бо чалавек стварае мастацкі твор, а той ужо ставіць яго перад фактам формы, у якой ён можа найлепш захоўвацца альбо інтрыгаваць і цешыць чытацкае вока ці пашыраць яго асацыятыўнае ўяўленне. У горшым варыянце паэт сам даводзіць створанае да абранай ім формы. А калі чалавек адразу ж задаецца мэтай напісаць менавіта санет, то найчасцей у выніку аказваецца перад фактам пасрэднага верша... Ці не ад такіх унутраных творчых медытацый з’яўляюцца ў Г. Ліхтаровіча радкі:

Мастак, павер сваім пачуццям!
У першароднай цішыні
Дазволь крыштальны звон пачуць нам –
У твор душу сваю ўдыхні!

(Мімаходзь не забудзем адзначыць арыгінальную рыфму: *“пачуццям / пачуць нам”.*) Агулам, у пераважнай большасці санетаў аўтару ўдаецца спраўдзіць падобныя жаданні. Яго трапятлівая душа, яе цяпло і пачуццёвая датклівасць да гэтага свету і людзей скрозь заўважныя ў яго творах. І што важна, у адрозненне ад класічных (кананічна-акадэмічных) і фармальна-роздумных санетаў, якія час ад часу з’яўляюцца ў перыядычным друку, у Ліхтаровіча яны больш жывыя, разняволеныя, судакранальныя з часам і аголеным нервам, і парадаксальнай думкай... Як піша ў “Бязмежным санеце” аўтар:

Бо для пачуццяў логіка – турма...
..................................................
Душа павінна выбіраць сама
Маланкі сілу ці бяссілле грому...

Усе змешчаныя ў зборніку паэты канкрэтызуюцца ў сваіх назвах: “Студзеньскі санет”, “Радаводны санет”, “Летуценны санет” і г.д. Гэта неяк парадкуе і натуральна ўладкоўвае ход аўтарскай ідэі, ад яе зачацця да завяршэння. Цікава, што прафесійнае (фатаграфічнае) у зборніку, апроч саміх лірыка-пейзажных здымкаў, якімі аздоблена выданне, не надта адчуваецца, аўтар змог адстараніцца ад уласна-бытавых уплываў жыцця, хоць не прамінуў яго сутнасных праяваў. У такіх выпадках і нараджаюцца (здараюцца) мастацкія адкрыцці:

І ўзнікае, нібыта з нябыту,
На шыпшыне ахвярная кроў.

І мы адчуваем, што зямное жыццё не памірае разам з чалавечым, яно – у колазвароце вечнасці... Як і чыста лірычныя мройлівыя наплывы ў "Цёплым санеце":

Шапталіся пяшчотна нашы рукі,
Нібы ліяны ў месячным святле.

Уражвае і метафарычная вобразнасць асобных санетаў. Хіба не заварожваюць чытацкае ўспрыманне такія радкі: *"Пазвоньваюць пад кроплямі на плоце,/ Нібы званы, навюткія збаны", "Аблокі сушаць лёгкія спадніцы,/ Адмытыя ажно да белізны", "І звону кос не чутна на пакосах:/ Мурожны вожык надта маладым"...* Альбо такія – алітарацыйныя – гукавыя перазовы:

Сусвету смуткам сноў, слязінак росных,
Світальна спавядаюцца сады.

Шчымлівая чуллівасць флажалета
Сярод зімы вяртае сэрца ў лета.

Світання залатыя валасы
Старэнькі плот расчэсвае старанна.

Калі шчыра, для мяне было нечаканым адкрыццём моўнае багацце паэта. Адметна і заслугоўвае ўдзячнасці выкарыстанне аўтарам тых пракаветна-беларускіх словаў, якія сёння ўсё радзей з'яўляюцца як у вусных размовах, так і ў літаратурных творах і тэкстах. Ну вось, выкладу спіс найбольш кідкіх для чытацкага вока і слыху: *спічасты, змора, лагода, раскашуе, мярэжы, кунежыць, рахуба, мігі (*жэсты, знакі*), хеўра, мадзеюць, трысцё, ушчэнт, гурма, цянёты, акаём, адхланне, аборка, ніцеюць, мурог, лескі (*драбіны*), стажарыць, жарства, жывіца, гута, няўцям, неруш, наскі, глечык, збуцвелы, напінаць, крушня, лог, асвер, прынука, амшэлы, кутасы, зіхмяны, аблямаваны, шаты, патоля, слота, прочкі, ніцы, нішчымніца, хлуд, недалужны...*

Як напісаў у "Калядным санеце" Г. Ліхтаровіч:

Калі радок і ладны, і дакладны,
А слова не са слоўніка – з жыцця,
Пачуцці з лабірынта небыцця
Яно вядзе, як нітка Арыядны,
У Боскі свет пакутна-неаглядны...

Ёсць у кніжцы адна пяэчлівая для аўтара і, пэўна, для шмат якіх чытачоў тэма – веравызнанне. Захапляючыся (часта ў звязку з прафесійным фатаграфічным заняткам) храмавымі хрысціянскімі помнікамі (старадаўнімі, новымі, дагледжанымі і запушчанымі), аўтар раптам не раўнуючы як на *чытацкай споведзі* прызнаецца, што *"маліцца ў цэркву зроду не хадзіў"*. А, між іншым, у зборніку Г. Ліхтаровіча даволі шмат згадак пра Бога і разваг рэлігійнага кшталту, хоць і можа падацца, што ён не надае гэтаму асаблівай значнасці, калі як бы мімаходзь заяўляе: *"І тым пазначыў сціплую капліцу, /А, можа, і асобную званіцу, /Не кажучы пра цэркаўку, касцёл..."*, а да ўсяго задаецца неадназначным пытаннем: *"На жаль, не ўсе перажылі бязбожжа... / Цікава ўсё ж: а Бог... ці перажыў?"* Праўда, у наступным санеце ён тлумачыць уласную пазіцыю: *"Я верую, ды толькі ў гэты дзень"*.

Аднак жа пры гэтым не прамінае апанаваць знанаму філосафу В. Акудовічу ў "Задыякальным санеце", завуалявана згадваючы яго помныя "дыялогі з Богам":

А я не разумею аніяк,
Ці можна весці з Богам дыялогі?
Куды ж ты цэліш, мой Стралец-дзівак?!

Карацей, Г. Ліхтаровіч – хрысціянін з прыхаваным недаверам і пэўнымі сумненнямі – як да гэтага свету, так і да таго...

Быццам потайкам Бог курыў
І пацвельваў сабе з галёркі:
"Што ж ты новага тут адкрыў?.."

І – безапеляцыйна адказвае, хоць і даўно вядомым, але неабвержнасцвярджальным пастулатам:

– *Смак Айчыны салодка-горкі!*

Непадробная любоў да Беларусі, яе людзей і гістарычнай памяці праяўляецца ў многіх санетах Г. Ліхтаровіча. І ўсё гэта, як піша аўтар, перафразуючы класіка нашай паэзіі:

Ад спрадвечных прыроды дароў
Нам у спадчыну тут засталося...

Вельмі натуральна ўпісваюцца ў кантэкст усяго зборніка запамінальныя малюнкі прыроды, будзённыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі, заўважныя хібы ў сучасным грамадскім ладзе нашага жыцця...

Але трапляюць санеты як наўпроставыя водгукі на канкрэтную падзею, і яны носяць грамадска-публіцыстычны характар ("Полацкі...", "Васільковы...", "Налібоцкі...", "Сумны...", "Марскі...", "Музейны...", "Парыжскі...", "Змітроўскі...", "Маскоўскі...", "Самастойны..."). Нездарма аўтар, усведамляючы мажлівасць падобнага ў сваіх творах, самапрыніжана заяўляе:

Спрабую ўладкаваць усё ў санет –
Даруй мне апантанасць пачаткоўца.

І ўсё ж, даруючы, хацелася б паказаць на рэдкія, але, як на маё разуменне, недарэчныя аўтарскія хібы і недагляды, з тым разлікам і спадзевам, што ў далейшым яны будуць пазбегнуты, і не толькі Ліхтаровічам. (*"Бо* згодна *часу і календару...", "Ва ўлонне* трохі стомленай *зямлі...", "Туляем па аблоках, як* па глебе*...", "Сысці ўсёй* хеўраю *да Ніла –/ У пошуках сваёй зямлі", "Сяброўства – гэта* не кавалак сала*!", "У лесе поўня, быццам* лыч дзіка*", "...хоць* удзячнасцю аддзячыць*", "Мо зямля і лепшага* дастойна*?", "Брондзяць думкі,* як статак кароў*...*")

Гэта – як бы на палях і, спадзяюся, без крыўды.

Бо, як і кожны годны мастак слова, усведамляючы сваю не дарэшты спраўджаную задуму і пэўную недасканаласць у сваіх творах у параўнанні з класічнымі ўзорамі, але пры гэтым маючы адпрыродную самакрытычнасць у стаўленні да ўласнай творчасці, Георгій Ліхтаровіч усё ж стварыў ***магчымае*** і мае права на чытацкую ўхвалу і нашу пільную ўвагу да яго мастацкага плёну. Ну, а што да вечнай недасяжнасці творцы ў яго памкненнях да паэтычнага *апагею*, то на гэта без засмучэння скажам ягонымі ж радкамі:

І ў пракруства ложа санета
Не ўмяшчаецца веліч вякоў.

# Маё шчаслівае жыццё

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***




**Павел Абрамовіч. Мой спосаб чытання: эсэ, нарысы, артыкулы, інтэрв'ю. інск: Кнігазбор, 2019. — (Бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”; выпуск 28). — 160 с.**

*Няўрымслівы даследчык, неўтаймаваны чытач, уедлівы крытык, эрудыт, энцыклапедыст, літаратуразнаўца і галоўнае... ён не столькі бядуе па тым, чаго ў нас няма, колькі ўмее знаходзіць нямногае сапраўднае, што ў нас яшчэ ёсць, і дзяліцца радасцю ад сваіх знаходак з іншымі.* Гэтак характарызуе аўтара новай кнігі, што выйшла ў “дзеяслоўскай” кніжнай серыі, Андрэй Федарэнка. Кніга літаратурна-мастацкай крытыкі вядомага журналіста і блогера Паўла Абрамовіча складаецца з тэкстаў, якія был створаныя ў розныя гады як для “Дзеяслова”, гэтак і для іншых беларускіх мас-медыя. *Выдай кніжку, каб аднойчы твае эсэ і артыкулы, твой спосаб мысьленьня і чытаньня сталіся аб'ектам крытыкі* – такія ўласныя словы вынес спадар Павел на вокладку сваёй кнігі. Што ж, шчыра яму гэтага і жадаем!




**Роўз Лагеркранц. Маё шчаслівае жыццё. / Мастак Эва Эрыксан; пераклад са шведскай Надзі Кандрусевіч. – Мінск: ІП Кандрусевіч Надзея, 2019. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”. Падсерыя “Каляровы ровар”; выпуск 30). – 144 с.**

Серыя “Каляровы ровар” папоўнілася новай кніжкай.

Маленькая дзяўчынка Дзюнэ ведае, што яе жыццё – самае шчаслівае, бо яна мае добрую сям'ю, сапраўдную сяброўку і шмат цудоўных успамінаў. Праўда, жыццё не заўжды бывае добрым нават да маленькіх дзяцей. Але мудрая Дзюнэ ведае, як знайсці ў сабе сілы і пераадолець усе цяжкасці.

Добрая кніжка пра сапраўдную каштоўнасць простых рэчаў.




**Людміла Сінькова. Беларуская “звышлітаратура”: літаратуразнаўчыя і літаратурна-крытычныя артыкулы. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; выпуск 120). — 224 с.**

Кніга доктаркі філалагічных навук, прафесаркі Людмілы Сінько-

вай прысвечана літаратурнаму працэсу познесавецкіх і паслясавецкіх часоў у Беларусі. Разглядаюцца праблемы суадносін масавай і элітарнай літаратуры, фактаў з мастацкім вымыслам у прозе, метадалогіі сучасных літаратуразнаўчых даследаванняў, сучаснай літаратуры на беларуска-польскім памежжы. Аналізуюцца творы В. Быкава, А. Адамовіча, С. Алексіевіч, а таксама іншых пісьменнікаў і даледчыкаў прыгожага пісьменства. Кніга, безумоўна, будзе цікавая як навукоўцам ды выкладчыкам, гэтак і ўсім, хто цікавіцца развіццём беларускай літаратуры ў XX–XXI стст.




**Ёнас Трынкунас. Шлях старалітоўскай рэлігіі. Пераклад Алеся Мікуса. – Смаленск: Інбелкульт, 2019. – 208 с.**

Гэта маштабная, напісаная з "паганскага" гледжання гісторыя Літвы, ад найдаўнейшых летапісных часоў і да нашых дзён. Вядзецца гаворка ў кнізе таксама і пра землі, якія знаходзяцца на тэрыторыі сучаснай Беларусі і на ўсход ад яе. Ёнас Трынкунас – запачаткавальнік этна-культурнага руху ў Літве ў 1960-я, заснавальнік і шматгадовы лідар Літоўскай супольнасці балцкай веры "Рамува". Літоўска-беларускае памежжа аўтар ведаў не з чужога голасу – у 1960-70-х гадах ён у складзе гурткоў краязнаўцаў багата аб'ездзіў гэтыя мясціны, быў і пад Жабінкай, і ля Ліды, і ў ваколіцах Опсы. "Шлях старалітоўскай рэлігіі" – другая па ліку кніга, што выйшла ў кніжнай серыі "Бібліятэка "Свайксты".




**Андрэй Хадановіч. Школа травы. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; выпуск 27). — 84 с.**

"Дзеяслоўская" бібліятэчка папоўнілася адметным выданнем. Новая кніга Андрэя Хадановіча мае даволі жорсткую структуру: 5 раздзелаў па 12 тэкстаў у кожным (раздзелы пачынаюцца з перакладаў такіх аўтараў, як В. Мандэльштам, Г. Гайнэ, У. Маякоўскі, М. Німёлер і А. Міцкевіч). Што да зместу, то, як прызнаецца сам паэт, *спачатку ідуць вершы пра каханьне. (Герою і гераіням ад 3-х да 6-ці гадоў.) Потым – пару экзатычных падарожжаў і спробы апісаць гэтыя цуды... Далей "усё гэтае" пра паэта і паэзію (не-гуманітарыі могуць прапусьціць). Пасьля, як той казаў, песьні любові й нянавісьці. Упершыню – трохі злосьці й сатыры, бо рэальна дастала, але затым – нешта зусім ужо сэнтымэнтальнае. Першы раз у жыцьці – ня толькі пра Каляды, але і пра Вялікдзень, бо "Хрыстос прызямліўся ў Берасьці". Але й пра Каляды ёсьць – як заўсёды, напрыканцы, там, дзе хэпі-энд.* Як адзначаецца ў анатацыі, "аўтар вандруе ў прасторы і блукае ў часе, сумоўнічае з класікай і ліставецца са Святым Мікалаем, эксперыментуе ў інтымнай і фліртуе з грамадзянскай лірыкай, архівуе ўспаміны і калекцыянуе пахі травы".

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (98-103) за 2019 год

# Нашыя аўтары

**Ажэшка Эліза** — польская пісьменніца беларускага паходжання. Аўтарка раманаў «Пампалінскія», «Сям'я Брохвічаў», «Над Нёманам», «Арганаўты», аповесцяў «Апошняе каханне», «Нізіны», «Марта», «Дзюрдзі», «Хам» і інш. Нарадзілася ў 1841 годзе ў маёнтку Мількаўшчына на Гарадзеншчыне. Памерла ў 1910 годзе ў Гародні.

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Блажэнны (Айзенштадт) Веніямін** – паэт. Літаратурнай дзейнасцю пачаў займацца з 1940 года. Першая публікацыя з'явілася толькі ў 1982 годзе, а першая кніга выйшла ў 1990-м. Аўтар кніг «Возвращение к душе», «Слух сердца», «Сораспятье», «Скитальцы духа» і інш. Нарадзіўся ў 1921 годзе ў г.п. Копысь на Аршаншчыне. Памёр у 1999 годзе.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісцікакарунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці». Перакладаў творы С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хемінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Бычкоўскі Алесь** – празаік. Аўтар кніг «Горад за 101-м кіламетрам», «У пошуку шчасця», «Анамалія», «Дабрадзеі і гармідар квантавай літаратуры» і інш. Нарадзіўся ў 1975 годзе ў горадзе Беразіно на Міншчыне, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Камоцкі Алесь** – паэт, бард. Аўтар кніг «Спроба ісці па расе», «Глыбіня дажджу», «48» і інш., кружэлак «Першы сшытак», «Я табе...», «Дым», «Дом», «Дах» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Кудасава Наста** – паэтка. Аўтарка кніг «Лісце маіх рук», «Рыбы», «Маё невымаўля». Лаўрэатка прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра «Кніга году–2016». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове, дзе і жыве.

**Ліпскі Уладзімір** – празаік, публіцыст. Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей, сярод якіх «Рыгоркавы прыгоды», «Марынчына казка», «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска», «Антонік-понік», «Я тут жыву: дзецям пра Беларусь» і інш., зборнікаў прозы «Раны», «Дзень нараджэння» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Я. Маўра (1993), імя В. Віткі (1997), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001) і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Шоўкавічы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Русецкая Наталля** – паэтка, перакладчыца. Перакладае паэзію і драматургію з польскай мовы. Аўтарка кніг паэзіі «Два бяссонні» і «Каштаны ў кішэнях», манаграфіі «Сямейная муза», прысвечанай паэтычнай творчасці Ф.У. Радзівіл. Нарадзілася ў 1974 годзе ў горадзе Новы Урэнь (Расія). Жыве ў Любліне.

**Сільнова Людка** – паэтка, крытык. Аўтарка кніг паэзіі «Ластаўка ляціць...», «Рысасловы», «Зеленавокія вої і іх прыгажуні», «Зачараваная краіна», кнігі візуальнай прозы «Агністыя дзьмухаўцы», кнігі крытыкі «Крышталёвы сад». Нарадзілася ў 1957 годзе ў Маладэчне. Жыве ў Мінску.

**Сіўко Франц** – празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Апошняе падарожжа ў краіну ліваў», «Удог», «Асіметрыя», «Дзень бубна»,

«Выспы», «Плебейскія гульні», «Штрых-коды», «Раз – шкілет, і два – шкілет» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Вята на Мёршчыне. Жыве ў Віцебску.

**Стахвюк Віктар** – празаік. Аўтар кніг «Багровы цень», «Siva zozula», «Пакуль не змеркне дзень». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Трасцянка на Беласточчыне. Жыве ў Беластоку.

**Сцепанюк Андрэй** – паэт, творы друкаваліся ў газеце «Ніва», часопісе «Дзеяслоў», альманахах «Белавежа» і «Тэрмапілы». Аўтар кнігі «Распісаны квадрат». Дырэктар ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску Падляшскім, дзе і жыве.

**Такарчук Вольга** – польская пісьменніца, эсэістка, паэтка. Аўтарка некалькіх раманаў (на беларускую мову перакладаліся «Правек ды іншыя часы» і «Вядзі свой плуг праз косткі мёртвых»), зборнікаў апавяданняў. Лаўрэатка Міжнароднага Букера і Нобелеўскай прэміі па літаратуры (2018). Нарадзілася ў 1962 годзе ў Сулехаве (Польшча). Жыве ва Уроцлаве.

**Талочка Міхал** – празаік, паэт, публіцыст. У часе вучобы на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта браў удзел у згуртаванні моладзі «Майстроўня». Адзін са стваральнікаў літаратурнага таварыства «Тутэйшыя». Аўтар шматлікіх нарысаў, эсэ, артыкулаў, інтэрв'ю. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Дубровіца на Наваградчыне. Жыве ў Мінску.

**Тарэеў Юры** – мастак. Працуе ў галіне дызайну і каліграфіі. Удзельнік шматлікіх міжнародных выстаў і конкурсаў плаката (біенале ў Брно, Варшаве, Таяме, Монсе, Лахце, Жэшуве, Маскве і інш.). Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Федарэнка Андрэй** — празаік, драматург. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша», «Сузіральнік» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Івана Мележа (1995), «Залаты Апостраф» (2017). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Шода Марына** – перакладчыца. Перакладае з польскай і ўкраінскай. Пераклала паасобныя творы Я. Івашкевіча, С. Мрожака, К.І. Галчынскага, П. Гюле, Е. Пільха, В. Такарчук, Ю. Андруховіча, Ч. Мілаша, Я. Корчака, Н. Гузеевай, М. Андрасюка. Лаўрэатка прэміі часопіса «ПрайдзіСвет» (2015) у намінацыі «Проза». Нарадзілася ў 1973 годзе ў Пружанах на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Юрчык Марына** – паэтка, скончыла ГрГУ імя Янкі Купалы па спецыяльнасці «Псіхалогія». Двойчы ўдзельнічала ў паэтычным конкурсе «Рухавік». Навучэнка Школы маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Нарадзілася ў 1992 годзе ў Слоніме. Жыве і ў Бярозаўцы на Лідчыне.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Міраслава Адамчыка, Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Віктара Стралкоўскага, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.